# БЕЛАРУСКІ КАЛЯНДАР

## НА 1969 ГОД

XIII
ГОД ВЫДАННЯ

БЕЛАСТОК

Выдавецтва
ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА
ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА
ў Польшчы

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

Галоўны рэдактар
АЛЯКСЕЙ КАЗЁЛ

Члены калегіі
ЛЮБА РАМАНЮК

ВІНЦУК СКЛУБОЎСКІ

УЛАДЗІМІР ЮЗВЮК

Тэхнічны рэдактар
АЛЯКСЕЙ КАЗЁЛ

Праект вокладкі
УЛАДЗІМІР КАРПЕНЮК

Карэктар
ВАЛЯНЦІНА ЖЭШКА

Калянарыум падрыхтаваў
**АЛЕКСЕЙ КАЗЁЛ**

Малюнкі
**СЦЯПАН РЫБІ**

Wydawca: Zarząd Główny Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego w Polsce z siedzibą w Białymstoku. Nakład 7 500+250 egz. Ark. druk. 22,25 razem z wkładką „Kalendarium" Ark. wyd. 24. Papier kl. V druk. 61x86 70 g. Format A-5. Oddano do składania 10 września. Podpisano do druku 24 grudnia. Druk ukończono w grudniu 1968 r.

Drukowano w Białostockich Zakładach Graficznych. Zam. 3720 G-1.




# Шчаслівага
# НОВАГА ГОДА
# жадае Чытачам

**РЭДАКЦЫЯ КАЛЕНДАРА**



Дуб-помнік прыроды. Вёска Падбеле, Бельскага павета.

## ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!

*Беларускі каляндар на 1969 год мае спецыфічны характар. Ён прысвечаны XXV-годдзю існавання Народнай Улады, яе асягненняў у галіне развіцця сацыялістычнай прамысловасці, сельскай гаспадаркі, асветы і культуры і дзейнасці нацыянальных меншасцяў пражываючых на Беласточчыне.*

*Аддаем у Вашы рукі каляндар, Дарагія Чытачы, да якога далучаем каляндарную частку ў форме сценнага календара, які будзе Вам штодзённым інфарматарам у Вашым жыцці і працы.*

*Сценная форма каляндарыўма будзе Вас, Дарагія Чытачы, інфармаваць аб народных прыкметах пагоды, аб патрэбе выконвання ва ўспомненых тэрмінах палявых работ і г.д.*

*Думаем, што зацікавяцца яго зместам не толькі грамадскія дзеячы нашага таварыства, але будзе ён таксама выклікаць зацікаўленне сярод настаўнікаў у выхаванні маладога пакалення на ахвярных будаўнікоў Нашай Айчыны — Польскай Народнай Рэспублікі.*

*У дапамогу настаўнікам у іх працы змяшчаем у календары гутаркі па гісторыі Беларусі.*

*Рэдакцыйная калегія лічыць, што тэматыка Беларускага календара на 1969 год зацікавіць шырокія колы чытачоў не толькі ў беларускім асяроддзі.*

*РЭДКАЛЕГІЯ*

# ГІСТАРЫЧНЫ КАЛЯНДАР

## СТУДЗЕНЬ

1. I. 1919 г. — Утварэнне Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі.
1. I. 1944 г. — Утварэнне Краёвай Рады Нарадовай.
2. I. 1934 г. — Сутычка бастуючых лясных рабочых з санацыйнай паліцыяй у Шудзялаве, Сакольскага павета.
3. I. 1946 г. — Пастанова Краёвай Рады Нарадовай аб нацыяналізацыі прамысловасці ў Польшчы.
5. I. 1942 г. — Утварэнне Польскай рабочай партыі (ППР).
11. I. 1898 г. — Памерла беларуская паэтэса Канстанцыя Буйла.
12. I. 1945 г. — Пачатак генеральнай афензівы на польскіх землях супроць гітлераўскіх войск.
15. I. 1926 г. — Выхад 1-га нумара часопіса „МАЛАНКА".
17. I. 1945 г. — Савецкая Армія і Польскае Войска вызвалілі Варшаву.
18. I. 1885 г. — Першая забастоўка рабочых у Беластоку.
21. I. 1838 г. — Нарадзіўся Кастусь Каліноўскі.
21. I. 1924 г. — Памёр Уладзімір Ільіч Ленін.
22. I. 1905 г. — Пачатак першай рэвалюцыі ў царскай Расіі.
27. I. 1756 г. — Нарадзіўся кампазітар В. Моцарт.
29. I. 1860 г. — Нарадзіўся А. П. Чэхаў.
30. I. 1921 г. — Нарадзіўся беларускі пісьменнік Іван Шамякін.

## ЛЮТЫ

1. II. 1746 г. — Беласток атрымаў гарадскія правы.
1. II. 1945 г. — У Варшаву перанесены цэнтральныя ўлады краіны.
1. II. 1950 г. — Утварэнне ў Беластоку Вышэйшай Інжынер. Школы.
2. II. 1943 г. — Перамога пад Сталінградам.
3. II. 1905 г. — Забастоўка школьнай моладзі ў Ломжы супроць царскага заняволення.
4. II. 1947 г. — Першае пасяджэнне Сейма Польскай Народнай Рэспублікі.
5. II. 1943 г. — Паўстанне ў беластоцкім гета.
6. II. 1905 г. — Нарадзіўся Уладыслаў Гамулка.
6. II. 1914 г. — Нарадзіўся беларускі паэт Аркадзь Куляшоў.
10. II. 1935 г. — Пачаў выходзіць друкам у Вільні беларускі часопіс „Калоссе".
12. II. 1809 г. — Нарадзіўся Чарльз Дарвін.
14. II. 1946 г. — Праведзены першы перапіс насельніцтва, паводле якога Польшча налічвала 23 930 тысяч чалавек.
19. II. 1473 г. — Нарадзіўся вялікі польскі астраном Мікалай Капернік.
22. II. 1810 г. — Нарадзіўся Фрыдрык Шапэн (памёр 17. X. 1849 г.).
22. II. 1896 г. — Нарадзіўся беларускі драматург Кандрат Крапіва.
23. II. 1918 г. — Утварэнне Чырвонай Арміі.
26. II. 1956 г. — У Беластоку адбыўся 1-шы З'езд Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы.
26. II. 1966 г. — Адбыўся V-ты З'езд Беларускага грамадска-культурнага таварыства.

## САКАВІК

1. III. 1947 г. — Выйшаў 1-шы нумар газеты «Жыце Беластоцке».
2. III. 1872 г. — Сувалкі атрымалі гарадскія правы.
2. III. 1919 г. — Адбыўся 1-шы Кангрэс Камінтэрну.
4. III. 1956 г. — Выйшаў у Беластоку 1-шы нумар беларускага тыднёвіка «Ніва» — орган ГП БГКТ.
8. III. — Міжнародны дзень жанчын.
9. III. 1812 г. — Нарадзіўся украінскі паэт Тарас Шаўчэнка (памёр 10. III. 1861 г.).
10. III. 1894 г. — Адбыўся 1-шы З'езд СДКПіЛ.
10—17. III. 1954 г. — Адбыўся 2-гі З'езд ПАРП.
10—19. III. 1959 г. — Адбыўся 3-ці З'езд ПАРП.
13. III. 1933 г. — Пачатак 13-цітыднёвай забастоўкі тэкстыльшчыкаў Беластока.
15. III. 1848 г. — Пачатак Венгерскай рэвалюцыі.
17. III. 1569 г. — Друкары Мсціславец і Фёдараў выдаюць першую на Падляшшы кніжку «Евангелле».
17. III. 1922 г. — Утварэнне Саюза Камуністычнай моладзі ў Польшчы.
18. III. 1871 г. — Узнікненне Парыжскай Камуны.
18. III. 1921 г. — Прыняццё Рыжскага дагавору.
20. III. 1938 г. — Перамогай закончылася забастоўка лясных рабочых у Гайнаўцы.
22. III. 1864 г. — Па загаду царскіх улад у Вільні павешаны Кастусь Каліноўскі.
28. III. 1868 г. — Нарадзіўся Максім Горкі.
28. III. 1947 г. — Загінуў ад куляў УПА генерал Кароль Сваршчэўскі.
30. III. 1958 г. — Адбыўся 2-гі З'езд БГКТ.
31. III. 1924 г. — Бунт «Курпяў» супроць буржуазнага прыгнёту вядомы ў гісторыі Беластоцкага ваяводства пад назвай «Марш на Кольно».

## КРАСАВІК

1. IV. 1809 г. — Нарадзіўся Мікалай Гогаль.
3. IV. 1849 г. — Памёр Юльюш Славацкі.
7. IV. 1926 г. — Утварэнне ў Мінску Беларускага таварыства культурнай сувязі з заграніцай.
9. IV. 1863 г. — Сутычка паўстанцаў з царскімі войскамі пад Малым Плоцкам, Кальненскага павета.
9. IV. 1952 г. — Пачала працу Польская акадэмія навук у Варшаве.
12. IV. 1961 г. — Першы ў свеце касмічны палёт Юрыя Гагарына.
13. IV. 1887 г. — Забастоўка рабочых у Кнышыне, Манецкага павета.
14. IV. 1930 г. — Памёр Уладзімір Маякоўскі.
21. IV. 1840 г. — Нарадзіўся беларускі пісьменнік Францішак Багушэвіч, (памёр 28. IV. 1900 г.).

21. IV. 1945 г. — У Маскве падпісаны польска-савецкі дагавор аб дружбе і ўзаемадапамозе пасля вайны.
22. IV. 1870 г. — Нарадзіўся Уладзімір Ільіч Ленін.
25. IV. 1945 г. — Утварэнне ААН (ОНЗ).
30. IV. 1947 г. — Выпрадукаваны першы ў Польшчы трактар «Урсус».

## МАЙ

1. V. 1899 г. — Устанаўленне Міжнароднага Свята Працы.
1. V. 1905 г. — Адбылася першая маніфестацыя ў Беластоку.
2. V. 1945 г. — Капітуляцыя Берліна.
4. V. 1846 г. — Нарадзіўся Генрык Сянкевіч (памёр 16. XI. 1916 г.).
5. V. 1818 г. — Нарадзіўся Карл Маркс (памёр 14. III. 1883 г.).
7. V. 1840 г. — Нарадзіўся вялікі рускі кампазітар П. Чайкоўскі.
8. V. 1945 г. — Капітуляцыя гітлераўскай Германіі.
9. V. 1932 г. — Пачатак забастоўкі тэкстыльшчыкаў Беластока.
9. V. 1945 г. — *Дзень перамогі над гітлераўскай Германіяй.*
10. V. 1926 г. — Засуджана 39 членаў КПЗБ у Сувалках на 214 гадоў турмы.
11. V. 1883 г. — Нарадзіўся беларускі пісьменнік Янка Маўр.
12. V. 1842 г. — Нарадзілася Эліза Ажэшка.
14. V. 1943 г. — На тэрыторыі СССР утворана І-я дывізія імя Тадэуша Касцюшкі.
23. V. 1842 г. — Нарадзілася Марыя Канапніцкая (памерла 8. X. 1910 г.).
26. V. 1799 г. — Нарадзіўся Аляксандр Сяргеевіч Пушкін.
28. V. 1916 г. — Памёр украінскі пісьменнік Іван Франко.
29. V. 1960 г. — Адбыўся III-ці З'езд БГКТ.

## ЧЭРВЕНЬ

1. VI. — Міжнародны дзень дзіцяці.
1—3. VI. 1946 г. — Адбыўся І-шы кангрэс ТППР.
15. VI. 1863 г. — Памёр Зыгмунт Серакоўскі — правадыр студзеньскага паўстання.
16. VI. 1963 г. — Адбыўся IV-ты З'езд БГКТ.
18. VI. 1936 г. — Памёр Максім Горкі.
22. VI. 1941 г. — Напад гітлераўскіх войск на СССР.
24. VI. 1838 г. — Нарадзіўся Ян Матэйка (памёр 1. XI. 1893 г.).
24. VI. 1900 г. — Нарадзіўся беларускі празаік Кузьма Чорны.
24. VI. 1925 г. — Утварэнне «Грамады» (БСРГ).
25. VI. 1882 г. — Нарадзіўся вялікі беларускі паэт Янка Купала (памёр 28. VI. 1942 г.).
25. VI. 1905 г. — Нарадзіўся беларускі паэт Пятрусь Броўка.
30. VI. 1946 г. — Правядзенне ў Польшчы народнага рэферэндума.

## ЛІПЕНЬ

2. VII. 1968 г. — Памёр Герой Савецкага Саюза Кастусь Ракасоўскі — Маршал Савецкага Саюза і Маршал Польскай Народнай Рэспублікі (нар. у 1896 г.).
3. VII. 1876 г. — Нарадзілася беларуская паэтэса Аліза Пашкевіч «Цётка» (памерла 11. II. 1916 г.).
3. VII. 1944 г. — Вызваленне Мінска з-пад гітлераўскай акупацыі.
6. VII. 1851 г. — Нарадзіўся Янка Лучына.
6. VII. 1905 г. — Нарадзіўся беларускі пісьменнік Пятро Глебка.



11. VII. 1901 г. — Нарадзіўся ў Белавежы Аляксандр Вашкевіч, які 4. V. 1945 г. загінуў падчас вайны ў Берліне ў чыне генерала Людовага Войска Польскага.
15. VII. 1410 г. — Бітва пад Грунвальдам.
17. VII. 1944 г. — Вызваленне Гайнаўкі з-пад гітлераўскай акупацыі.
19. VII. 1893 г. — Нарадзіўся Уладзімір Маякоўскі.
21. VII. 1944 г. — Стварэнне ПКВН.
22. VII. 1944 г. — Абнародаванне Маніфеста ПКВН.
22. VII. 1952 г. — Сейм ПНР ухваліў Канстытуцыю ПНР.
27. VII. 1841 г. — Загінуў на дуэлі Міхаіл Лермантаў.
27. VII. 1944 г. — Вызваленне Беластока.
30. VII. 1920 г. — Утварэнне ў Беластоку Рэвалюцыйнага Камітэта на чале з Ю. Мархлеўскім, Ф. Дзяржынскім, Ф. Конам і Э. Прухнякам.
31. VII. 1893 г. — Утварэнне СДКП і Л.
31. VII. 1944 г. — Пачатак дзейнасці ўпаўнамочаных ПКВН у Беластоку.
31. VII. 1944 г. — Выйшаў загад упаўнамочаных ПКВН аб утварэнні органаў народнай міліцыі ў Беластоку.

## ЖНІВЕНЬ

1. VIII. 1914 г. — Пачатак І-шай сусветнай вайны.
5. VIII. 1895 г. — *Памёр Фрыдрык Энгельс.*
6. VIII. 1961 г. — Кругласутачны палёт касманаўта Г. Цітова ў Космас.
9. VIII. 1917 г. — Нарадзіўся Янка Брыль.
13. VIII. 1944 г. — Утварэнне ў Беластоку Ваяводскага Камітэта ППР у ліку 44 асоб.
15. VIII. 1944 г. — Адбылося ў Любліне першае пасяджэнне КРН.
16. VIII. 1945 г. — У Маскве падпісаны дагавор аб устанаўленні польска-савецкай граніцы.
22. VIII. 1944 г. — Пачатак дзейнасці Беластоцкага тэатра імя Аляксандра Вянгеркі.
27. VIII. 1856 г. — Нарадзіўся украінскі пісьменнік Іван Франко.
28. VIII. 1828 г. — *Нарадзіўся рускі пісьменнік Леў Талстой* (памёр 20. IX. 1910 г.).
28. VIII. 1944 г. — Стварэнне Ваяводскай рады нарадовай у Беластоку.
29. VIII. 1944 г. — Стварэнне Павятовай рады нарадовай у Бельску Падляскім.
31. VIII. 1944 г. — Стварэнне Мейскай рады нарадовай у Беластоку.

## ВЕРАСЕНЬ

1. IX. 1919 г. — Адкрыццё ў Драгічыне Гімназіі імя Ю. І. Крашэўскага.
1. IX. 1939 г. — Нападзенне гітлераўскай Германіі на Польшчу.
1. IX. 1944 г. — Стварэнне Павятовай рады нарадовай у Беластоку Беластоцкага павета.
1. IX. 1951 г. — Выйшаў першы нумар «Газета Беластоцка» — орган КВ ПАРП.
1. IX. 1739 г. — Нарадзіўся ў Цеханоўцу вучоны вялікай славы Кжыштоф Клюк.
2. IX. 1945 г. — Стварэнне Дэмакратычнай Рэспублікі В'етнама.
2. IX. 1945 г. — Капітуляцыя Японіі. Канец II-гой сусветнай вайны.

6. IX. 1944 г. — Дэкрэт ПКВН аб сельскагаспадарчай рэформе зямлі.
14. IX. 1906 г. — Выхад беларускай газеты «Наша Доля».
17. IX. 1912 г. — Нарадзіўся беларускі паэт Максім Танк.
22. IX. 1940 г. — Памёр паэт мазурскага люду Міхал Кайка.
28. IX. 1864 г. — Заснаванне I-га Інтэрнацыянала.
29. IX. 1823 г. — Нарадзіўся Людвік Кандратовіч (Уладыслаў Сыракомля) памёр 15. IX. 1862 г.
IX. 1944 г. — Стварэнне Павятовай рады нарадовай у Саколцы.
IX. 1944 г. — Стварэнне Павятовай рады нарадовай у Высокім Мазавецку.

## КАСТРЫЧНІК

1. X. 1949 г. — Праклямаванне Кітайскай Народнай Рэспублікі.
4. X. 1569 г. — Памёр Мікалай Рэй — першы пісьменнік, які пісаў на польскай мове.
4. X. 1957 г. — СССР выпусціў I-га спадарожніка зямлі.
7. X. 1949 г. — Стварэнне Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі.
12. X. 1492 г. — Кжыштоф Калюмб адкрыў новую зямлю, якую пазней назвалі Амерыкай.
12. X. 1943 г. — Бітва пад Леніно — Дзень Людовага Войска Польскага.
15. X. 1814 г. — Нарадзіўся Міхаіл Юр'евіч Лермантаў.
15. X. 1817 г. — Памёр Тадэуш Касцюшка (нарадзіўся ў 1746 г.).
X. 1923 г. — Заснаванне КПЗБ.

## ЛІСТАПАД

2. XI. 1909 г. — Нарадзіўся беларускі пісьменнік Максім Лужанін.
3. XI. 1882 г. — Нарадзіўся беларускі пісьменнік Якуб Колас (памёр 13. VIII. 1956 г.).
7. XI. 1917 г. — Пачатак Вялікай Кастрычніцкай Сацыялістычнай рэвалюцыі ў Расіі.
9. XI. 1818 г. — Нарадзіўся Іван Тургенеў.
10. XI. 1906 г. — Выхад газеты «Наша Доля».
11. XI. 1918 г. — Заканчэнне I-шай сусветнай вайны. Польшча атрымала незалежнасць.
13. XI. 1836 г. — Нарадзіўся Яраслаў Дамброўскі.
16. XI. 1941 г. — Пачатак бітвы пад Масквой, якая закончылася перамогай Чырвонай Арміі над гітлераўцамі.
18. XI. 1933 г. — Пачатак забастоўкі лясных рабочых Беластоцкага і Сакольскага паветаў, якая закончылася 12 .II. 1934 г.
19. XI. 1942 г. — Пачатак Сталінградскай бітвы.
20. XI. 1925 г. — Памёр польскі пісьменнік Стэфан Жэромскі (нарадзіўся ў 1864 г.).
22. XI. 1944 г. — Памёр Кузьма Чорны.
22. XI. 1963 г. — Замардаванне прэзідэнта ЗША Ёгана Кэнеда (нарадзіўся 1917 г.).
26. XI. 1855 г. — Памёр Адам Міцкевіч (нарадзіўся ў 1798 г.).
26. XI. 1698 г. — Нарадзіўся ў Філіпове, Сувальскага павета, дзеяч арыянскі Андрэй Вішаваты.
27. XI. 1903 г. — Нарадзіўся беларускі пісьменнік Піліп Пестрак.
28. XI. 1820 г. — Нарадзіўся Фрыдрык Энгельс.
28. XI. 1942 г. — Загінуў Марцэлі Навотка I-шы сакратар ЦК ППР (нарадзіўся ў 1893 г.).
29. XI. 1960 г. — Выйшаў першы навуковы зборнік БГКТ.
29. XI. 1944 г. — Вызваленне Албаніі з-пад гітлераўскай акупацыі.
29. XI. 1945 г. — Утварэнне Сацыялістычнай Федэрацыйнай Рэспублікі Югаславіі.
30. XI. 1899 г. — Нарадзіўся Міхась Лынькоў.

## СНЕЖАНЬ

1. XII. 1415 г. — Нарадзіўся польскі гісторык Ян Длугаш (памёр у 1480 г.).
1. XII. 1567 г. — Наданне Васількову гарадскіх правоў.
2. XII. 1888 г. — Нарадзіўся Эдвард Прухняк дзеяч камуністычнага руху (памёр у 1937 г.).
3. XII. 1944 г. — Адбылася ў Беластоку першая ваяводская канферэнцыя ППР.
5. XII. 1926 г. — Разгром санацыйнай паліцыяй павятовага З'езду «Грамады» ў Старым Беразове, Гайнаўскага павета.
9. XII. 1891 г. — Нарадзіўся Максім Багдановіч (памёр 25. V. 1917 г.).
9. XII. 1937 г. — Памёр польскі пісьменнік Андрэй Струг (нарадзіўся ў 1871 г.).
10. XII. 1821 г. — Нарадзіўся рускі пісьменнік Міхаіл Некрасаў.
13. XII. 1797 г. — Нарадзіўся Генрык Гейнэ.
13. XII. 1945 г. — Заканчэнне пасяджэння I-га З'езда ППР (адбываўся ад 6. XII. — 13. XII.).
15. XII. 1859 г. — Нарадзіўся ў Беластоку Людвік Заменгоф (памёр 14. IV. 1894 г.).
15. XII. 1948 г. — Заснаванне Польскай аб'яднанай рабочай партыі.
16. XII. 1770 г. — Нарадзіўся Людвік Бетховен.
16. XII. 1918 г. — Утварэнне Камуністычнай рабочай партыі Польшчы (РКРП).
17. XII. 1884 г. — Памёр Дунін - Марцінкевіч.
17. XII. 1954 г. — Памерла польская пісарка Зофія Налкоўская (нар. у 1885 г.).
18. XII. 1902 г. — Нарадзіўся Міхась Машара.
19. XII. 1954 г. — Памёр Людвік Сольскі — слаўны актар польскага тэатру, нарадзіўся ў 1855 г.).
27. XII. 1953 г. — Памёр польскі паэт Юльян Тувім (нар. у 1894 г.).
30. XII. 1922 г. — Стварэнне Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік.
30. XII. 1947 г. — Стварэнне Сацыялістычнай Рэспублікі Румыніі.
31. XII. 1944 г. — Стварэнне Часовага Урада Польскай Рэспублікі.





*Помнік 1000-годдзя Польшчы ў Бельску.*



*Беласток. Будынак, у якім знаходзіцца Музей рэвалюцыйнага руху.*





## V З'ЕЗД ПОЛЬСКАЙ АБ'ЯДНАНАЙ РАБОЧАЙ ПАРТЫІ

### 11. — 16. XI. 1968 г.

V з'езд Польскай аб'яднанай рабочай партыі — гэта новы, чарговы мілёвы крок у гісторыі польскага рэвалюцыйнага рабочага руху. Польская аб'яднаная рабочая партыя вырасла з таго руху, якім кіравалі, пачынаючы з 80-тых гадоў мінулага стагоддзя, «Вялікі Пралетарыят», Сацыял - дэмакратыя Каралеўства Польскага і Літвы, Польская сацыялістычная партыя — левае крыло, Камуністычная партыя Польшчы і Польская рабочая партыя. Наша партыя, як новае звяно гэтага руху, стала наследнікам слаўных рэвалюцыйных традыцый сваіх папярэднікаў.

V з'езд нашай партыі супаў з 50-ай гадавінай заваявання незалежнасці Польшчы і з 50-ай гадавінай стварэння Камуністычнай партыі Польшчы (у яе першапачатковай назве Камуністычнай рабочай партыі Польшчы).

Нараджэнне незалежнасці польскай дзяржавы, нягледзячы на тое, што ўладу ўзяла ў свае рукі буржуазія, трэба лічыць дадатняй з'явай у гісторыі польскага народа. Толькі ва ўмовах незалежнасці Польшчы і ўз'яднання яе зямель у адзін арганізм магла быць створана Камуністычная партыя Польшчы, якая, нягледзячы на тое, што была вымушана зыйсці ў падполле, адыграла непамерна вялікую ролю ў падрыхтоўцы будучай перамогі ў складаным працэсе барацьбы рэвалюцыйнага рабочага руху за новы, сацыялістычны грамадскі лад у нашай краіне.

Хоць у перыяд свайго існавання КПП не дадзена было здзейсніць сваёй мэты і праграмных прадпасылак, гісторыя цалкам прызнала рацыю польскім камуністам, палітычная думка якіх аказалася дабратворнай для нашага народа ў най-

## ПАЛІТБЮРО І САКРАТАРЫЯТ ЦК ПОЛЬСКАЙ АБ'ЯДНАНАЙ РАБОЧАЙ ПАРТЫІ


**Уладзіслаў Гамулка** — член Палітбюро І сакратар ЦК


**Юзэф Цыранкевіч** — член Палітбюро


**Эдвард Герэк** — член Палітбюро


**Балеслаў Яшчук** — член Палітбюро сакратар ЦК


**Стэфан Ендрыхоўскі** — член Палітбюро


**Зэнан Клішка** — член Палітбюро сакратар ЦК


**Станіслаў Кацёлэк** — член Палітбюро


**Уладзіслаў Кручэк** — член Палітбюро


**Ігнацы Лёга-Савінскі** — член Палітбюро



## ПАЛІТБЮРО І САКРАТАРЫЯТ ЦК ПОЛЬСКАЙ АБ'ЯДНАНАЙ РАБОЧАЙ ПАРТЫІ


**Мар'ян Спыхальскі** — член Палітбюро


**Рышард Стшэлецкі** — член Палітбюро сакратар ЦК


**Юзэф Тэйхма** — член Палітбюро сакратар ЦК


**Пётр Ярашэвіч** — намеснік члена Палітбюро


**Мечыслаў Мочар** — намеснік члена Палітбюро, сакратар ЦК


**Ян Шыдляк** — намеснік члена Палітбюро, сакратар ЦК


**Мечыслаў Ягельскі** — намеснік члена Палітбюро


**Стэфан Альшоўскі** сакратар ЦК


**Артур Старэвіч** сакратар ЦК

больш цяжкі перыяд выпрабаванняў, якім з'явілася II сусветная вайна і гітлераўская акупацыя. Тады камуністы сталі ў першыя шарэнгі барацьбы за нацыянальнае і грамадскае вызваленне, ахвярай крыві, глыбокім патрыятызмам і слушнасцю палітычнай праграмы даказалі аб праве рабочага класа і яго партыі на вырашэнне будучыні нашага народа.

Атэстатам сталасці польскага рабочага руху, які ўпершыню ў сваёй гісторыі ўзяў у свае рукі дзяржаўную ўладу, было аб'яднанне ППР і ППС. З гэтымі днямі супадае 20-ая гадавіна гэтай вялікай падзеі, якая самкнула існаваўшы амаль ад пачатку нашага рабочага руху раскол і стварыла адзіную марксісцка-ленінскую партыю — Польскую аб'яднаную рабочую партыю, паслядоўніцу слаўных традыцый, прадаўжальніцу рэвалюцыйных перамен, кіруючую сілу сацыялістычнага будаўніцтва.

Пад кіраўніцтвам нашай партыі былі вырашаны асноўныя праблемы нашага нацыянальнага быту: незалежнасць, бяспека нашых новых граніц, а таксама паспяховае гаспадарчае і грамадскае развіццё краіны. Наша партыя вырасла з глыбокіх патрыятычных і рэвалюцыйных імкненняў рабочага класа і польскага народа, найлепш выказвае яго волю, найдакладней прадстаўляе яго інтарэсы.

* * *

V з'езд Польскай аб'яднанай рабочай партыі быў вялікай падзеяй як у жыцці партыі, так і ўсяго народа. З'езд — гэта падсумоўка вялікай усенароднай шматмесячнай дыскусіі на тэму дасягненняў краіны і жыцця партыі за мінулыя чатыры гады. Абапіраючыся на з'ездаўскія тэзісы, была праведзена дыскусія, у выніку якой былі высунуты тысячы прапаноў. Яны датычылі палітычных, гаспадарчых, грамадскіх і культурных спраў.

У пасяджэннях з'езда ўдзельнічалі шматлікія дэлегацыі камуністычных і рабочых партый усіх краін Варшаўскага дагавору, а таксама ўсіх сацыялістычных краін, камуністычных і рабочых партый капіталістычных краін Заходняй Еўропы, Азіі, Афрыкі і абедзвюх Амерык.

У «Справаздачы Цэнтральнага Камітэта і заданнях партыі ў галіне ўмацоўвання сацыялізма і далейшага развіцця Польскай Народнай Рэчыпаспалітай» партыя прадставіла народу ацэнку дзейнасці за перыяд паміж чацвёртым і пятым з'ездамі.

У дыскусіі выступіла восемдзесят шэсць дэлегатаў, якія былі прадстаўнікамі ўсіх раёнаў краіны, усіх грамадскіх і прафесіянальных асяроддзяў. Былі абмеркаваны прынцыпіяльныя ідэйныя, палітычныя, грамадска-гаспадарчыя і культурныя праблемы краіны. У выніку шырокай партыйнай дыскусіі была прынята пастанова, накрэсліваючая напрамкі дзеяння ў галіне грамадска-гаспадарчага развіцця краіны, сацыялістычнай дэмакратыі, асветы і культуры. Пастанова выясняе пазіцыю ПАРП у адносінах да сучасных праблем рабочага руху, а таксама палітычнага становішча ў свеце.

З'езд прыняў пастанову аб зменах у статуце партыі, выбраў Цэнтральны Камітэт у складзе 91 члена, 91 намесніка членаў ЦК і 29 членаў Цэнтральнай рэвізійнай камісіі.

На сваім першым пасяджэнні Цэнтральны Камітэт выбраў 12 членаў Палітбюро ЦК і іх чатырох намеснікаў, быў выбраны Сакратарыят ЦК з 9 членаў і Цэнтральная камісія партыйнага кантролю з 36 чалавек.

З 45-ці дэлегатаў беластоцкай партыйнай арганізацыі ў склад ЦК ПАРП увайшлі тав. Аркадзь Лашэвіч і тав. Браніслаў Цюла, у склад намеснікаў членаў ЦК — тав. Тадэуш Плаўскі, у склад Цэнтральнай рэвізійнай камісіі — тав. Луцыя Дэмянюк, у Цэнтральную камісію партыйнага кантролю — тав. Мікалай Кірылюк.



*Дуброва Беластоцкая — жыллёвыя дамы па вуліцы 1000-годдзя.*



Беласток, вул. Ліповая.



Дуброва Беластоцкая. Камунальнае будаўніцтва.



Др АЛЯКСАНДР БАРШЧЭЎСКІ

# XXV ГОД ПОЛЬСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ

*«Узнімайцеся на барацьбу за свабоду Польшчы, за вяртанне да Маці Радзімы старажытнага польскага Памор'я і Апольскай Сілезіі, за Усходнюю Прусію, за шырокі доступ да Мора, за польскія гранічныя слупы над Одрай. Узнімайцеся на барацьбу за Польшчу, якой ніколі ўжо не будзе пагражаць германскае нашэсце, за Польшчу, якой будзе запэўнены трывалы мір і магчымасць творчай працы, росквіт краіны».*

(Урывак з Маніфеста ПКВН)

Дваццаць пяць гадоў таму назад на вызваленай Савецкай Арміяй і Польскім Войскам Любліншчыне паўстаў 22 ліпеня 1944 года ў горадзе Хэлм народны ўрад — Польскі Камітэт Нацыянальнага Вызвалення (ПКВН). Яго ўзнікненне было папярэджана і падрыхтавана дзейнасцю Польскай рабочай партыі, Краёвай Рады Нарадовай і іншых радыкальных арганізацый, якія ў агні барацьбы з гітлераўскімі захопнікамі прыйшлі да непахіснага вываду, што вызваленая і адбудаваная новая Польшча можа быць сапраўды моцным і незалежным арганізмам. Толькі ў тым выпадку, калі ўладу ў ёй возьмуць прадстаўнікі працоўных класаў, толькі тады, калі знешняя палітыка будзе абапірацца на дружбе і супрацоўніцтве з Савецкім Саюзам і іншымі суседнімі народамі. Якраз гэтыя справы знайшлі падкрэсленне ў славутым Маніфесце ПКВН, які быў разгорнутай праграмай барацьбы з нямецкімі захопнікамі, праграмай змагання за новую форму ўнутранай сацыяльнай структуры — вольнай ад эксплуатацыі і няспраўядлівасці. Маніфест ПКВН быў праграмай барацьбы. Паўстаў ён тады, калі яшчэ вялікая частка польскай зямлі знаходзілася пад пятой акупанта, калі сотні тысяч людзей мучыліся ў канцэнтрацыйных лагерах і турмах, калі гітлераўскія драпежнікі штодзённа расстрэльвалі, палілі, вешалі людзей у розных кутках краіны.



*Перамога над нямецкім фашызмам. Берлін 8 мая 1945 года.*

Кліч «да зброі» быў у такіх умовах найбольш неабходным і актуальным заклікам, бо толькі яго рэалізацыя магла прыблізіць гадзіну поўнага вызвалення. Маніфест быў дакументам, скіраваным не толькі супраць галоўнага ворага — гітлерызму. Прадбачваў ён і акрэсліваў будучыню новай Народнай Польшчы. Адклікаўся да рабочых і сялян, прызываў іх да актыўнасці. Першы раз у многавяковай гісторыі Польшчы трактаваў працоўныя масы, як гаспадароў свае краіны, у якім гаварылася, што просты чалавек з'яўляецца тварцом гісторыі.

ПКВН быў урадам народным, і таму ўсе яго пастановы мелі на мэце інтарэсы шырокіх слаёў насельніцтва.

За першым Маніфестам ПКВН, а пасля яго прадаўжальнік Урад Нацыянальнага Адзінства выдаюць цэлы рад дэкрэтаў. З гэтых вялікіх гістарычных пастаноў трэба прыгадаць наступныя:

*Дэкрэт ПКВН ад 24 жніўня 1944 года аб роспуску ўсіх падпольных і вайсковых арганізацый, якія дзейнічалі на вызваленай тэрыторыі.*

*Дэкрэт ПКВН ад 6. IX. 1944 г. аб правядзенні зямельнай рэформы.*

*Дэкрэт Урада Нацыянальнага Адзінства ад 2. VIII. 1945 года аб амністыі.*



Пастанова Краёвай Рады Нарадовай ад 3.I.1946 года аб нацыяналізацыі прамысловасці і іншых галін гаспадаркі.

Усе гэтыя вялікія вырашэнні імкнуліся змяніць карэнным чынам аблічча Польшчы. І з м я н і л і.

Наступныя гады — гэта гады паслядоўнай рэалізацыі праграмы сацыяльнай і культурнай рэвалюцыі. Разгром рэакцыйных банд, правядзенне зямельнай рэформы, адбудова вырванай з рук фабрыкантаў прамысловасці, аб'яднанне маладзёжных арганізацый, паўстанне Польскай аб'яднанай рабочай партыі — галоўнага кіраўніка народа.



*Цэментоўня «Варшава» на Жэрані.*

І творчая напружаная праца мільёнаў людзей: загаспадараванне заходніх зямель і рэалізацыя трохгадовага і шасцігадовага плану, грандыёзныя вынікі наступных пяцігодак, новыя школы і верфі, каласальная Новая Гута... і ўсё хутчэйшая пагоня за найбольш перадавымі ў гаспадарцы краінамі свету.

І так безупынна, без перадышкі. На працягу цэлых дваццаці пяці гадоў. І маем вынік: зусім іншы, адменны край. Як жа непадобны да адсталай даваеннай Польшчы — краіны ўбоства, крызісаў, несправядлівасці, гвалту. Край без памешчыцтва і буржуазіі, край без уціску няпольскіх нацыянальнасцей, край без галодных дзяцей і беззямельных сялян.



*Гажоўскі камбінат штучнага валакна «Стілён».*

Узнік новы пейзаж краіны. Пейзаж, у якім фабрыкі і заводы падышлі да ўраджайных палёў, пейзаж, пакрыты дратамі электрычных магістраляў. У гэтым пейзажы без цяжкасцей рабочы знаходзіць станок, селянін — трактар, вучань — школу, паэт — ружу.



*Гдынскі порт.*



Вялікае слова — сацыялізм — адвечная мара тысяч перадавых людзей у мінулым становіцца на нашых вачах здзейсненай формай. Працэс гэтага вялікага станаўлення не адбываецца самадзейна, вымагае ён актыўнага ўдзелу ўсёй грамадскасці, усяго народу. Не прабягае ён без цяжкасцей, тармажэння і хістання. Не прабягае ён без атакаў з боку знешніх ворагаў, якія хацелі б бачыць нашу краіну ўбогай, абяззброенай і самотнай. Гэтай самай мэце служаць у істоце ўнутраныя рэвізіяністы, скептыкі і нігілісты, якія сваёй абсурднай крытыкай або абыякавасцю дзейнічаюць на карысць застою і мярцвячыны. Адсюль выцякае патрэба яшчэ большага згуртавання і адзінства ўсіх людзей добрай волі, для якіх Народная Польшча сталася праўдзівай Айчынай — Маткай.



*Медыцынская акадэмія ў Беластоку.*

Мінулае 25-годдзе наглядна давяло, што шлях, які быў вызначаны ПКВН у 1944 годзе і па якім павяла народ ПАРП, быў адзіным правільным шляхам, бо ён вёў краіну ў напрамку дабрабыту, міру, братэрства і свабоды, у напрамку сацыялізма, стаўшага творчасцю вялікага вызваленага паэта, якому імя — Народ.

## ІНДЭКС ДАТ ВЫЗВАЛЕННЯ НЕКАТОРЫХ МЯСЦОВАСЦЕЙ БЕЛАСТОЦКАГА ВАЯВОДСТВА САВЕЦКАЙ АРМЯЙ У 1944—1945 Г.

| Мясцовасці | Павет | Дата вызвалення | Якім Фронтам |
|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 |
| Алецка | Алецка | 23.01.1945 г. | 3 Белар. фронт |
| Асовец | Монькі | 14.08.1944 г. | 2 ,, ,, |
| Аўгустаў | Аўгустаў | 24.10.1944 г. | 2 і 3 Белар. фронт |
| Бані Мазурскія | Голдап | 23.01.1945 г. | 3 ,, ,, |
| Барглоў Касц. | Аўгустаў | 23.01.1945 г. | 2 ,, ,, |
| Бэлда | Граева | 23.01.1945 г. | 2 ,, ,, |
| Беласток | г. Беласток | 27.07.1944 г. | 2 ,, ,, |
| Бельск Падляш. | Бельск Падл. | 30.07.1944 г. | 1 ,, ,, |
| Боцькі | Бельск Падл. | 22.07.1944 г. | 1 ,, ,, |
| Васількаў | Беласток | 27.07.1944 г. | 2 ,, ,, |
| Ванева | Лапы | 10.08.1944 г. | 2 ,, ,, |
| Візна | Ломжа | 23.01.1945 г. | 2 ,, ,, |
| Віжайны | Сувалкі | 23.10.1944 г. | 3 ,, ,, |
| Вайнасы | Алецка | 23.01.1945 г. | 3 ,, ,, |
| Высока-Мазав. | Выс. Маз. | 13.08.1944 г. | 2 ,, ,, |
| Гібы | Сэйны | 30.07.1944 г. | 3 ,, ,, |
| Гелчын | Монькі | 13.08.1944 г. | 2 ,, ,, |
| Гелчын | Ломжа | 7-12.09.44 г. | 2 ,, ,, |
| Голубі Вэнж. | Алецка | 23.01.1945 г. | 3 ,, ,, |
| Голдап[1]) | Голдап | 23.10.1944 г.<br>23.01.1945 г. | 3 ,, ,, |
| Ганёндз | Монькі | 13.08.1944 г. | 2 ,, ,, |
| Граева | Граева | 23.01.1945 г. | 2 ,, ,, |
| Гайнаўка | Гайнаўка | 17.07.1944 г. | 1 ,, ,, |
| Дуброва Беласт. | Дуброва Беласт. | 29.07.1944 г. | 2 ,, ,, |
| Даўнары | Монькі | 13.08.1944 г. | 2 ,, ,, |
| Даўгабор | Замбраў | 22.08.1944 г. | 2 ,, ,, |
| Драгашэва | Ломжа | 13.09.1944 г. | 2 ,, ,, |
| Драгічын | Сямяцічы | 1.08.1944 г. | 1 ,, ,, |
| Жыткейны | Голдап | 23.10.1944 г. | 3 ,, ,, |
| Заблудаў | Беласток | 25.07.1944 г. | 2 ,, ,, |
| Замбраў | Замбраў | 22.08.1944 г. | 2 ,, ,, |
| Калетнік | Сувалкі | 4.08.1944 г. | 3 ,, ,, |
| Камёнка Стар. | Аўгустаў | 23.01.1945 г | 2 ,, ,, |
| Кляшчэлі | Гайнаўка | 20.07.1944 г. | 1 ,, ,, |
| Клейнікі | Гайнаўка | 23.07.1944 г. | 1 ,, ,, |
| Клімашэўніца | Граева | 23.01.1945 г. | 2 ,, ,, |
| Кнышын | Ломжа | 7.08.1944 г. | 2 ,, ,, |
| Кольна | Кольна | 24.01.1945 г. | 2 ,, ,, |



| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| Калакі Касц. | Замбраў | 19.08.1944 г. | 2 Белар. фронт |
| Канажыцы | Ломжа | 7.-12.09.44 г. | 2 ,, ,, |
| Карыцін | Саколка | 31.07.1944 г. | 2 ,, ,, |
| Кавалі Алецкія | Алецка | 22.01.1945 г. | 3 ,, ,, |
| Кавалеўшчына | Лапы | 10.08.1944 г. | 2 ,, ,, |
| Краснаполь | Сэйны | 4.08.1944 г. | 3 ,, ,, |
| Крупін | Алецка | 23.01.1945 г. | 3 ,, ,, |
| Крынкі | Саколка | 22.07.1944 г. | 2 ,, ,, |
| Кулешы | Выс. Мазав. | 13.08.1944 г. | 2 ,, ,, |
| Кузніца | Саколка | 22.07.1944 г. | 2 ,, ,, |
| Ліпск | Дуброва Бел. | 25.07.1944 г. | 2 ,, ,, |
| Лісы | Голдап | 23.01.1945 г. | 3 ,, ,, |
| Лапы | Лапы | 7.08.1944 г. | 2 ,, ,, |
| Ломжа | Ломжа | 13.09.1944 г. | 2 ,, ,, |
| Ломжыца | Ломжа | 13.09.1944 г. | 2 ,, ,, |
| Мястковa | Ломжа | 12.09.1944 г. | 2 ,, ,, |
| Міхалова | Беласток | 22.07.1944 г. | 2 ,, ,, |
| Меруніпікі | Алецка | 22.01.1945 г. | 3 ,, ,, |
| Монькі | Монькі | 12.08.1944 г. | 2 ,, ,, |
| Нарва | Гайнаўка | 22.07.1944 г. | 1 ,, ,, |
| Нэтта | Аўгустаў | 23.01.1945 г. | 2 ,, ,, |
| Навогруд | Ломжа | 14.09.1944 г. | 2 ,, ,, |
| Новы Двор | Дуброва Бел. | 25.07.1944 г. | 2 ,, ,, |
| Нова Весь | Сувалкі | 4.08.1944 г. | 3 ,, ,, |
| Подгуж | Ломжа | 7.-12.09.44 г. | 2 ,, ,, |
| Просткі | Граева | 25.01.1945 г. | 2 ,, ,, |
| Пшэросль | Сувалкі | 23.10.1944 г. | 3 ,, ,, |
| Пшытулы | Ломжа | 23.01.1945 г. | 2 ,, ,, |
| Радзілаў | Граева | 23.01.1945 г. | 2 ,, ,, |
| Райгруд | Граева | 23.01.1945 г. | 2 ,, ,, |
| Рагенніцы Вялік. | Ломжа | 23.01.1945 г. | 2 ,, ,, |
| Руткі Новыя | Аўгустаў | 23.01.1945 г. | 2 ,, ,, |
| Руткі Старыя | Аўгустаў | 23.01.1945 г. | 2 ,, ,, |
| Рыбакі | Ломжа | 13.09.1944 г. | 2 ,, ,, |
| Рыбалы | Бельск Падл. | 30.07.1944 г. | 1 ,, ,, |
| Сэйны | Сэйны | 31.07.1944 г. | 3 ,, ,, |
| Сямяцічы | Сямяцічы | 22.07.1944 г. | 1 ,, ,, |
| Сабалева | Сувалкі | 24.10.1944 г. | 3 ,, ,, |
| Саколы | Лапы | 12.08.1944 г. | 2 ,, ,, |
| Саколка | Саколка | 24.07.1944 г. | 2 ,, ,, |
| Салістоўка | Аўгустаў | 23.01.1945 г. | 2 ,, ,, |
| Старасельцы | Беласток | 27.07.1944 г. | 2 ,, ,, |
| Стшэльцавізна | Сэйны | 24.10.1944 г. | 3 ,, ,, |
| Сухаволя | Дуброва Бел. | 31.07.1944 г. | 2 ,, ,, |
| Супрасль | Беласток | 25.07.1944 г. | 2 ,, ,, |
| Сураж | Лапы | 3.-7.08.1944 г. | 2 ,, ,, |
| Сувалкі | Сувалкі | 23.10.1944 г. | 3 ,, ,, |
| Снядова | Ломжа | 24-27.08.44 г. | 1 ,, ,, |
| Такары | Сямяцічы | 28.07.1944 г. | 1 ,, ,, |
| Трасцянка | Гайнаўка | 23.07.1944 г. | 1 ,, ,, |
| Тыкацін | Беласток | 11.08.1944 г. | 2 ,, ,, |
| Уснік | Ломжа | 5.09 1944 г | 2 ,, ,, |
| Філіпаў | Сувалкі | 23.10.1944 г. | 3 ,, ,, |
| Цехановец | Сямяцічы | 2.08.1944 г. | 1 ,, ,, |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
| --- | --- | --- | --- |
| Чорна Весь | Беласток | 29.07.1944 г. | 2 Белар. фронт |
| Чарэмха | Гайнаўка | 20.07.1944 г. | 1 ,, ,, |
| Чыжэў | Выс. Мазав. | 19.08.1944 г. | 2 ,, ,, |
| Шчучын | Граева | 23.01.1945 г. | 2 ,, ,, |
| Штабін | Аўгустаў | 31.07.1944 г. | 2 ,, ,, |
| Шыманы | Граева | 23.01.1945 г. | 2 ,, ,, |
| Шыплішкі | Сувалкі | 4.08.1944 г. | 3 ,, ,, |
| Элк | Элк | 24.01.1945 г. | 3 ,, ,, |
| Юзэфаў | Сувалкі | 24.10.1944 г. | 3 ,, ,, |
| Яблонскія | Голдап | 22.01.1945 г. | 3 ,, ,, |
| Янаў | Саколка | 29.07.1944 г. | 2 ,, ,, |
| Ялоўка | Беласток | 18.07.1944 г. | 1 ,, ,, |
| Ядвабнэ | Ломжа | 23.01.1945 г. | 2 ,, ,, |

[1]) Голдап быў адбіты немцамі і вызвалены зноў 23. I. 1945 г.

Апрацавана на падставе індэкса дат вызвалення некаторых мясцовасцей Беласточчыны ў 1944—1945 гадах Савецкай Арміяй Аддзела гісторыі Народнага Войска Польскага Гістарычнага інстытута. Варшава 1961 г. Дадатак да № 2/1961 г. „Wojskowego Przeglądu Historycznego" аўтар — капітан дыпл. Баляслаў Долят.



*У XVII-ю гадавіну вызвалення Гайнаўкі ад гітлераўскай акупацыі. Ганаровая варта Падляшскай часці ВОВ у Беластоку над магілай Аляксея Флярэнкі.*



Др ГЕНРЫК МАЕЦКІ

# УСТАНАЎЛЕННЕ НАРОДНАЙ УЛАДЫ НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ

Пераможнае наступленне савецкіх войск у 1944 г. прынесла вызваленне ўсходнім землям Польшчы. На вызваленай тэрыторыі стварыліся добрыя ўмовы для актывізацыі палітычнага жыцця. Утварэнне **Польскага Камітэта Нацыянальнага Вызвалення** 21 ліпеня 1944 г. азначала, што палітычная ўлада перайшла ў рукі народу, і была пераломным момантам у жыцці нашай краіны.

Сярод польскіх зямель, вызваленых Савецкай Арміяй у 1944 г., знаходзілася пераважная частка Беластоцкага ваяводства. Пад нямецкай акупацыяй засталіся аднак Граеўскі і сучасны Кольненскі паветы, а таксама невялікія часткі тэрыторыі Ломжынскага, Аўгустоўскага і Сувальскага паветаў. Вызваленне большай часткі Беластоцкага ваяводства стварыла ўмовы да адбудовы польскай дзяржаўнасці на гэтай тэрыторыі.

Умовы, у якіх пачынала свой старт народная ўлада на **Беласточчыне,** былі надзвычай цяжкія. Працягваліся яшчэ ваенныя дзеянні, якія не давалі магчымасці арганізаваць палітычнае і гаспадарчае жыццё ў прыфрантавым пасе, а ахоплівае ён яшчэ значную частку Ломжынскага, Сувальскага і Аўгустоўскага паветаў. Беластоцкае ваяводства ў выніку ваенных дзеянняў і грабежнай палітыкі акупанта панесла велізарныя страты. Была цалкам знішчана тэкстыльная прамысловасць, традыцыйная для Беластока і яго ваколіц. Некаторыя гарады, як, напрыклад, Нозаград і Дуброва, былі абсалютна знішчаны. Вялікія страты панесла і сельская гаспадарка.

Не менш цяжкай была палітычная сітуацыя. У адрозненні ад іншых ваяводстваў вызваленых у 1944 г., на Беласточчыне ў перыяд акупацыі не дзейнічалі ані канспірацыйныя рады нарадовыя, ані дэмакратычныя партыі, ані грамадскія арганізацыі. Існавалі затое канспірацыйныя звенні адміністрацыйнай улады эміграцыйнага ўрада ў Лондане, прадстаўленыя Акруговай дэлегатурай і вызначанымі ёю старастамі, бургамістрамі, а нават часамі солтысамі. Іх папіралі палітычныя арганізацыі, а таксама вайскова-палітычныя (галоўным чынам АК), звязаныя з эміграцыйным урадам.



*Помнік героям Савецкай Арміі ў Бельску.*

Ініцыятарамі ўстанаўлення народнай улады на **Беласточчыне** была група прадстаўнікоў ПКВН на чале з Леанардам Барковічам і Ежым Штахельскім. Яны наладзілі сувязь з прабываючымі на Беласточчыне былымі дзеячамі КПП і КПЗБ, і пры іх удзеле пачалася праца над арганізацыяй адміністрацыйнага апарату, тэрытарыяльнага самажонду, палітычных партый і грамадскіх арганізацый.

Узнікненне ваяводскай арганізацыі **Польскай рабочай партыі** і арганізатарскіх груп **Польскай сацыялістычнай партыі і Страніцтва людовага,** а таксама грамадскіх арганізацый дало магчымасць арганізаваць **Ваяводскую раду нарадовую.** Узнікла яна 28 жніўня 1944 г. Спачатку былі 23 члены, з якіх 10 належала да ППР. Старшынёй Рады быў выбраны др Ежы Штахельскі. У той жа час быў створаны Беластоцкі ваяводскі ўрад, на чале якога быў таксама Ежы Штахельскі.

Арганізатарамі рад нарадовых і самажонду ў вобласці былі ўпаўнаважаныя ПКВН. Адным з іх быў Антон Рошко дзеяч Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі (КПЗБ) сучасны кіраўнік Аддзела Унутраных Спраў Прэзідыума Ваяводскай рады нарадовай у Беластоку. З часам яны сталі павятовымі старастамі. Большасць з іх належала таксама да ППР (Міхал Джэвецкі і Раман Вазняк у Бельску-Падляшскім, Вацлаў Станьчыкоўскі ў Аўгустове, Станіслаў Лапат у Сувалках). Працэс стварэння адміністрацыйных органаў і мясцовага самажонду не адбываўся механічным спосабам. Ён быў папярэджаны шырокай прапагандысцкай акцыяй, у час якой мясцовае насельніцтва знаёмілася з праграмай ПКВН.

Студзеньскае наступленне савецкіх войск у 1945 г. дало магчымасць устанавіць народную ўладу на тэрыторыі, якая да гэтага часу была акупіравана ці знаходзілася ў прыфрантавой зоне. У красавіку быў закончаны працэс стварэння органаў адміністрацыі і мясцовага самажонду. Дзейнічала ў той час 9 павятовых рад нарадовых (разам з МРН выдзеленага Беластока), 26 гарадскіх і 107 гмінных рад нарадовых. Гмінныя рады нарадовыя былі выбіраныя. У склад жа павятовых рад нарадовых уваходзілі прадстаўнікі дзейнічаючых на дадай тэрыторыі палітычных партый, грамадскіх арганізацый, а таксама гарадскіх і гмінных рад нарадовых. Рады нарадовыя выконвалі ролю органаў, якія давалі рэкамендацыю адміністрацыйным органам і выступалі як фактар грамадскага кантролю. Выканаўчая ж улада знаходзілася ў руках адміністрацыі, прадстаўнікамі якой у павеце былі павятовыя старасты, а ў ваяводстве — Ваяводскі ўрад.

У той жа час праводзілася праца над стварэннем грамадзянскай міліцыі і апарату публічнай бяспекі. Кіраўнічыя функцыі ў гэтых установах занялі пераважна члены ППР.

Да красавіка 1945 г. пабудова народнай улады была ў асноўным закончана. Адбылося гэта дзякуючы велізарным намаганням мясцовага грамадскага актыву, сярод якога вядучую ролю адыгралі члены ППР.

Побач са стварэннем органаў улады праходзіла праца над правядзеннем сельскагаспадарчай рэформы. Правядзенне сельскагаспадарчай рэформы мела грамаднае палітычнае значэнне. Яно стварала магчымасці для стварэння рабоча-сялянскага саюза — базы існавання народнай улады ў Польшчы. Маніфест ПКВН абвясціў сельскагаспадарчую рэформу, галоўныя ж прынцыпы і ўказанні пры падзеле памешчыцкай зямлі акрэсліў дэкрэт ПКВН з 6 верасня 1944 г.

Падрыхтоўчая праца над рэалізацыяй дэкрэту ПКВН пачалася на Беласточчыне ўжо ў верасні 1944 г. Быў папулярызаваны дэкрэт ПКВН. Былі створаны рабочыя брыгады, якія складаліся з членаў ППР і СЛ і дзейнічалі ў паветах. Пры іх дапамозе ва ўсіх гмінах былі створаны камісіі сельскагаспадарчай рэформы.

Асноўная праца пры падзеле памешчыцкіх маёнткаў пачалася ў другой палове кастрычніка 1944 г., пасля таго, як ПКВН выдаў інструкцыю аб паскораным выкананні сельскагаспадарчай рэформы. Былі вызначаны ўпаўнаважаныя сельскагаспадарчай рэформы, якія неслі перш за ўсё адказнасць за тэрміновае і адпаведнае правядзенне рэформы. Ім былі падпарадкаваны зямельныя ўстановы. Ваяводскім ўпаўнаважаным па справах сельскагаспадарчай рэформы быў член ППС Баляслаў Сокал, яго намеснікамі — член ППР Сцяпан Вянгераў (якога пазней замяніў П. Барташэвіч), а таксама член СЛ

Юзэф А л я й н і ц к і, (якога замяніў пазней Баляслаў П а д а д в о р н ы). Павятовымі ўпаўнаважанымі былі: у Беластоку — Павел Б а р т а с е в і ч (пазней Вацлаў Ш т а х е л ь с к і), у Бельску-Падляшскім Васіль В а с і л ю к, у Саколцы — Уладыслаў Н а ў р о ц к і, у Сувалках — Антон К а п р о ў с к і, у Высокім-Мазавецкім — Тадэвуш М і х а л я к, у іншых паветах былі назначаны толькі ў 1945 г. Былі назначаны таксама гмінныя ўпаўнамочаныя (з асяроддзя актыву ППР, ППС і СЛ). Яны прынялі кіраўніцтва рабочых брыгад і неадкладна прыступілі да працы.

У працэсе рэалізацыі сельскагаспадарчай рэформы было шмат цяжкасцей. Але галоўнай цяжкасцю была пэўная пасіўнасць часткі сялян у адносінах да рэформы. Была яна вынікам варожай прапаганды рэакцыйнага падзямелля. Яно заклікала насельніцтва ваяводства байкатаваць сельскагаспадарчую рэформу да часу прыбыцця на радзіму эміграцыйнага ўрада. Але дзякуючы ўзмоцненай працы грамадскага актыву гэтае супраціўленне было пераможана.

Да канца лістапада 1944 г. быў закончаны падзел памешчыцкай зямлі ў паветах Беластоцкім, Бельскім, Сакольскім і Высока-Мазавецкім (у іх тагачасных адміністрацыйных граніцах). У іншых паветах, якія яшчэ знаходзіліся пад гітлераўскай ці ў прыфрантовай зоне, падзел памешчыцкай зямлі быў закончаны ў канцы сакавіка 1945 г. У выніку падзелу памешчыцкай зямлі і зямлі, якая засталася па рэпатрыянтах, сяляне Беласточчыны атрымалі амаль 55 тысяч гектараў зямлі. А гэта складала каля 6% сельскагаспадарчых угоддзяў ваяводства. Узнікла каля 4,4 тысяч новых сельскіх гаспадарак, паверхняй у 24,5 тысяч гектараў.

Каля 10,5 тысяч гаспадарак павялічыла сваю маёмасць на 26,5 тысяч гектараў. У суме сельскагаспадарчая рэформа дала зямлю амаль 8% сялян ваяводства.

Сельскагаспадарчая рэформа была пачаткам перабудовы грамадскіх адносін на вёсцы.

Заканчэнне працэсу пабудовы народнай улады, а таксама рэалізацыі сельскагаспадарчай рэформы — было першым этапам барацьбы за народную ўладу. Другім этапам была барацьба за ўмацаванне народнай улады. Гэтая барацьба працягвалася аж да выбараў у Сейм Ўстаўадаўчы ў студзені 1947 г. і каштавала многіх ахвяр.

Аднак гэтыя намаганні не змарнаваліся. Плёны іх — гэта сучасныя дасягненні Беластоцкага ваяводства ў розных галінах жыцця: грамадскай, гаспадарчай, асвеце і культуры.

**Мгр Інж. УЛАДЗІМІР МІХАЛЮК**

**намеснік старшыні Прэзідыума**
**Ваяводскай рады нарадовай у Беластоку**

# XXV-годдзе сельскай гаспадаркі Беласточчыны

Пішучы аб сельскай гаспадарцы Беласточчыны з нагоды 25-годдзя **Польскай Народнай Рэспублікі,** нельга не вярнуцца думкамі назад, да папярэдняга перыяду, яшчэ перад адраджэннем нашай Айчыны. Мы робім гэта з думкай паказаць узровень, з якога мы стартавалі ў сельскай гаспадарцы. Толькі на гэтым фоне можна адпаведна паказаць і зразумець перамены, якія адбыліся ў гэтай галіне народнай гаспадаркі Беласточчыны.

Трэба сказаць, што наогул сельская гаспадарка нашага ваяводства ў міжваенны перыяд была на даволі нізкім узроўні. Гэта вынікала як з умоў капіталістычнага ладу, так і з мясцовых умоў арганізацыі сельскагаспадарчай прадукцыі.

Да агульных умоў капіталістычнага ладу залічваем такія, як слаба развіты ўнутраны рынак, нізкія і зменныя цэны сельскагаспадарчых плёнаў, пастаянна высокія цэны на прамысловыя артыкулы. Усё гэта ў суме не заахвочвала селяніна да развіцця гаспадаркі.

Цяжкасці гэтыя ва ўмовах Беластоцкага ваяводства павялічваліся ў сувязі з адносна вострым кліматам, карацейшым, чым у іншых раёнах краіны вегетацыйным перыядам, і вялікімі абшарамі сельскагаспадарчых угоддзяў, вымагаючых меліярацыі. Да гэтага трэба дадаць яшчэ слабую якасць глебы і паўсюдную шахаўніцу глебы. Пасля апошняй глебазнаўчай класіфікацыі высветлілася, што глебы I класа мы зусім не маем, глеб II класа ўсяго ёсць 15 га, затое ў V і VI класе ёсць аж 42,5% агульнай паверхні ворнай зямлі. Нягледзячы на досыць інтэнсіўную камасацыю, якая пачалася ў канцы міжваеннага перыяду, яшчэ да пачатку другой сусветнай вайны не ўдалося ўладам ліквідаваць шахаўніцу, а асабліва ў Бельскім, Беластоцкім і Сакольскім паветах (у тагачасных межах). У гэтым апошнім у 1939 г. не былі яшчэ камасаваны 54 тысячы гектараў зямлі.

Апісаныя ўмовы, пры недастатковых намаганнях у напрамку павышэння сельскагаспадарчай культуры, мелі рашаючае значэнне ў прымітыўнай, экстэнсіўнай гаспадарцы. Найлепш сведчаць аб гэтым эт-

рыманыя эфекты ў раслінпай прадукцыі і прадукцыі хатняй жывёлы. На 100 га сельскагаспадарчых угоддзяў у 1938 годзе наша ваяводства мела 33 штукі быдла, 42 штукі свіней і 13 штук авечак.

Пры такой нізкай колькасці жывога інвентара, пры недахопах і дарагавізне штучных угнаенняў не магло быць дастатковага ўгнаення ворнай зямлі слабой якасці. Адсюль і плёны былі нізкія. У сярэднім у пяцігоддзі 1934—1938 яны былі такія: жыта — 9,5 ц/га, пшаніцы — 9,0 ц/га, ячменю — 9,1 ц/га, аўса — 8,7 ц/га і бульбы — 114 ц/га.

Гэты і так нізкі ўзровень нашай сельскай гаспадаркі яшчэ больш знізіўся ў час II сусветнай вайны. Побач з разбуранымі будынкамі і знішчаным гаспадарчым абсталяваннем, найбольшыя страты панесла наша жывёлагадоўля (51% коней, 75% быдла, 76% свіней, 65% авечак). Акрамя таго, у выніку ваенных дзеянняў, у 1944 годзе не было засеяна 1/3 ворнай зямлі.

У такіх умовах пачынала сваё развіццё сельская гаспадарка Беласточчыны ў Народнай Польшчы. Напярэдадні чвэрцьвяковага юбілею ПНР паспрабуем глянуць, як яна развівалася і якіх дасягнула вынікаў.

Гісторыю развіцця нашай сельскай гаспадаркі можна падзяліць на наступныя перыяды:

— ліквідацыя ваенных знішчэнняў і правядзенне сельскагаспадарчай рэформы (1944—1964);

— перыяд трохгадовага плана (1947—1949);

— перыяд шасцігадовага плана (1950—1955);

— перыяд ад 1956 г., г. зн. перыяд новай сельскагаспадарчай палітыкі.



*Вясною. Баранаванне.*





*Рэгуляцыя ракі Руднік у Беластоцкім павеце.*



*Меліярацыя на Беласточчыне.*

У выніку сельскагаспадарчай рэформы, праведзенай у 1944—1946 гадах, на былых землях ваяводства была цалкам ліквідавана памешчыцкая гаспадарка. Былі падзелены 393 фальваркі, агульная плошча якіх складала 102680 га. З гэтай плошчы 37450 га лясоў было перададзена дзяржаўнай лясной гаспадарцы, 10890 га было пакінута на развіццё цэнтраў сельскагаспадарчай асветы і культуры, а 54340 га было перададзена індывідуальным сялянскім гаспадаркам. Сельскагаспадарчая рэформа дала зямлю 12860 сялянскім сем'ям. Дадатковай праблемай у гэты перыяд было засяленне 3-х паўночных паветаў ваяводства (Элцкага, Алецкага і Галдапскага). Гэтыя паветы ўвайшлі ў склад ваяводства ў стане абсалютнага знішчэння. Засяленне і загаспадараванне гэтых паветаў натыкалася на вялікія цяжкасці — недахоп інвентару, брак сродкаў прадукцыі. Таму ў асноўным была заселена тэрыторыя, якая прымыкала да даўнейшых земель ваяводства. На астатняй тэрыторыі *пачалі арганізоўваць* ПГР-ы (*дзяржаўная* сельская гаспадарка). Па аб'ектыўных прычынах яны не маглі быць адпаведна абсталяваны, а акрамя таго, не хапала рабочых рук. Адсюль вынікі прадукцыі ў той перыяд не маглі быць найлепшыя. Але вялікія і станоўчыя былі гаспадарчыя пераўтварэнні, як непасрэдны вынік сельскагаспадарчай рэформы.

Перыяд трохгадовага плана быў ужо больш спрыяючым для развіцця сельскай гаспадаркі. Ён характарызуецца, між іншым, адносна хуткім, хаця яшчэ стыхійным працэсам адбудовы сельскагаспадарчай прадукцыі ў індывідуальных сялянскіх гаспадарках. Гэтаму спрыяла даволі інтэнсіўная ліквідацыя папараў. Апрача таго, упершыню ў гэты перыяд дзяржава магла сабе дазволіць на пэўную дапамогу для сельскай гаспадаркі ў выглядзе так званай акцыі **«Прамысловасць для вёскі».** Дзякуючы гэтаму ў перыяд трохгадовага плана быў дасягнуты ўзровень сельскагаспадарчай прадукцыі апошніх перадваенных год, а па некаторых паказчыках гэты ўзровень быў перавышаны.

У 1950—1955 гадах узнікла *яшчэ* 69 ПГР-аў. У *той* жа час наставіліся на арганізацыю прадукцыйных спулдзельняў. Аднак дзяржава не была да гэтага падрыхтавана ані тэхнічна, ані эканамічна. Індывідуальная гаспадарка, хаця і была большасцю, апынулася неяк у цені гэтых праблем. Не хапала дакладнай праграмы яе развіцця. Спробы спалучыць кірунак прадукцыі індывідуальнай гаспадаркі з патрэбамі планавай гаспадаркі пры дапамозе кантрактацыі не заўсёды давалі пажаданыя вынікі. Гэтыя адмоўныя для сельскай гаспадаркі з'явы абмяркоўваліся на XII Пленуме ЦК ПАРП у снежні 1953 г., а пастанова II З'езда партыі з сакавіка 1954 г. устабілізавала ствараючы лепшыя магчымасці ў павелічэнні сродкаў прадукцыі для сельскай гаспадаркі.

Пасля 1956 г. выразна можна заўважыць ажыўленне ў сельскай гаспадарцы Беласточчыны, якое ахапіла ў аднолькавай ступені ўсе сектары сельскай гаспадаркі. Дзяржаўныя сельскія гаспадаркі (ПГР-ы), перайшоўшы на ўласны разлік, больш дбаюць аб выніках прадукцыі.





*Дрэнаванне палёў.*



*Асенняе ворыва.*

Было гэта вынікам новай сельскагаспадарчай палітыкі, выпрацаванай, зацверджанай і рэалізаванай супольна ПАРП і ЗСЛ. Падставовымі элементамі гэтай палітыкі было спалучэнне грамадскіх інтарэсаў з інтэрэсамі селяніна, а таксама значная дапамога дзяржавы сельскай гаспадарцы, што стала магчымым толькі дзякуючы таму, што ў папярэднія гады ў нашай краіне адпаведна развівалася прамысловасць, якая магла ўжо сплачваць свае даўгі перад сельскай гаспадаркай.



*На выпасе.*

Рэалізацыя гэтай палітыкі мае асаблівае значэнне ва ўмовах нашага ваяводства. Без дапамогі дзяржавы мы не маглі б хутка адрабіць залегласці і змяніць цяжкія ўмовы, у якіх мы арганізуем сельскагаспадарчую прадукцыю. Дапамога гэта выражаецца ў грамадных інвестыцыях для меліярацыі, электрыфікацыі, будаўніцтва, развіцця паслуговай базы для насельніцтва, інтэнсіўна развіваючагася школьніцтва і сельскагаспадарчай асветы.

Хочацца звярнуць увагу чытачоў на значэнне меліярацыі. Калі ў іншых раёнах краіны яна спрыяла паляпшэнню сельскагаспадарчых угоддзяў то ў нашым ваяводстве дзякуючы меліярацыі мы карэнным вобразам пераўтвараем сельскую гаспадарку. Справа ў тым, што мы выдзіраем ад прыроды непрыдатныя для сельскай гаспадаркі балоты і пераўтвараем іх у добраякасныя сельскагаспадарчыя ўгоддзі, ствараючы тым самым натуральную базу для развіцця жывёлагадоўлі. Жывёлагадоўля, апрача прадукцыі мяса і малака, дае нам гной, прымяненне якога на глебах слабой якасці дазваляе атрымліваць вышэй-





*Жніво. Вёска Бялявічы, Беластоцкага павета.*



*Калектыўная праца сельскагаспадарчага гуртка вёскі Бялявічы, Беластоцкага павета.*

шыя плёны ў раслінная прадукцыі. Разумеючы гэта, мы правялі меліярацыю на 140 тысячах гектараў зялёных угоддзяў (сенажацяў і выганаў). У гэтым напрамку мы будзем працаваць і далей. У бягучым годзе пачынаем меліярацыю вялікага комплексу балот у даліне Нарвы, што значна паправіць умовы гаспадарання ў паветах: Замброўскім, Манецкім, Беластоцкім, Лапскім, Бельскім, Гайнаўскім і пасрэдна ў Сакольскім. Кошт гэтай інвестыцыі — 1,2 млрд злотых. Мы пачалі ўжо падрыхтоўку да штурму на балоты над Бебжай.

Істотнай пазіцыяй у сельскагаспадарчых інвестыцыях з'яўляецца электрыфікацыя. Калі да вайны ў нас было ўсяго 18 электрыфікаваных вёсак, дык цяпер (на канец 1967 г.) у ваяводстве электрыфікавана 73,3% вёсак.

Варта прыпомніць, што электрыфікацыя вёсак — гэта не толькі асвятленне, магчымасць карыстацца тэлебачаннем, але гэта таксама магчымасць прымянення электрычнай энергіі ў прадукцыйных працэсах і аблягчэнне цяжкой працы селяніна.

Вялікія інвестыцыі прызначаны на будаўніцтва ў ПГР-ах, ПОМ-ах, сельскагаспадарчых гуртках. Каб не нудзіць чытача масай лічбаў, абмяжуюся толькі да сцвярджэння, што сумы, прызначаныя для сельскай гаспадаркі, складаюць 30% ваяводскага бюджэта. Столькі наша сельская гаспадарка яшчэ не атрымлівала. А гэта ж яшчэ не поўнасцю адлюстроўвае дапамогу дзяржавы сельскай гаспадарцы. Усё растуць пастаўкі на вёску сродкаў прадукцыі, такіх, як штучныя ўгнаенні, хімічныя сродкі аховы раслін, машын і сельскагаспадарчага абсталявання, будаўнічых матэрыялаў, сеўны матэрыял і матэрыял для жывёлагадоўлі. Для пацвярджэння дастаткова прывесці факт, што ў 1967/68 гаспадарчым годзе мы прымянілі 58,6 кг штучных угнаенняў на гектар ворнай зямлі, калі ў 1960 г. — толькі 15,4 кг.

Велізарная дапамога дзяржавы нашай сельскай гаспадарцы, узбагачаная стараннямі саміх сялян і ўстаноў, абслугоўваючых сельскую гаспадарку, вядзе да хуткага яе развіцця і ўсё лепшых вынікаў прадукцыі. У 1967 годзе ў нас было ўжо 45,8 штук быдла на 100 га ворнай зямлі, 76,4 штук свіней, 20,8 штук авечак. Наша ваяводства ў гэтым годзе закупіла 116,4 тысяч тон жывёлы, 302,7 млн літраў малака. За апошнія 3 гады (1965—1967) мы атрымалі сярэднія плёны 4-ох збожжавых культур 16,0 ц/га і бульбы 170 ц/га.

У нашым ваяводстве вырошчваюцца культуры, якіх раней тут зусім не было: цукровыя буракі, свірэпа, іншыя прамысловыя расліны і шэраг насенных раслін, асабліва траў.

Ураджаі гэтых новых раслін бываюць у нас на сярэднім узроўні ўраджаяў у краіне.

Бясспрэчна, гэтыя вынікі імпануюць, а асабліва, калі параўнаць іх з узроўнем і ўмовамі, у якіх мы пачыналі развіццё сельскай гаспадаркі Беласточчыны ў новай Польшчы.

Аднак яны яшчэ не сведчаць, што мы дасягнулі ўсяго, чаго можа дасягнуць у нашых умовах сельская гаспадарка. Мы і далей збіраем на 3 ц збожжа з гектара менш, чым у сярэднім у краіне. У нас менш хатняй жывёлы і ніжэйшая прадукцыйнасць малака ад кожнай ка-





*Уборка льну ў вёсцы Крывая, Бельскі павет.*



*Старасельскі камбінат вытворчасці кармавых канцэнтратаў.*



*Злеўня малака ў вёсцы Страшава, Беластоцкага павета.*

ровы. Таму на IX пленуме ЦК ПАРП у верасні 1967 г. была звернута ўвага на неабходнасць хутчэйшага выкарыстання існуючых рэзерваў з карысцю як для агульнанароднай гаспадаркі, так і для нашых сялян.

Рэалізуючы ўказанні IX пленума, мы зрабілі дакладную ацэнку стану нашай сельскай гаспадаркі, акрэслілі аб'ём і месца існуючых рэзерваў. На праведзенай 12 сакавіка 1968 г. сесіі Ваяводскай рады нарадовай мы зацвердзілі далейшыя напрамкі працы, каб паскорыць развіццё нашай сельскай гаспадаркі. Гэтыя напрамкі — гэта перш за ўсё паслядоўнае комплекснае вырашэнне асноўных праблем: угнаення, аховы раслін, справы насення, кантрактацыі збожжа. Мы і далей будзем інтэнсіўна павышаць узровень сельскагаспадарчай культуры. Тэарэтычная падрыхтоўка сялян будзе папоўнена практычнымі паказамі. Ужо ў 1968 годзе мы на кошт дзяржавы зрабілі больш 500 пасбішчаў для ўзору, у кожнай вёсцы 1—2 палетак правільнай агратэхнікі і ўгнаення збожжа.

Прывядзенне ў жыццё пастаноў IX пленума ЦК ПАРП аблягчаюць апошнія дзяржаўныя пастановы. Мы маем тут на думцы рэарганізацыю сельскагаспадарчай службы, у выніку чаго яна перайшла з некалькіх арганізацый і ўстаноў у адзін дыспетчарскі цэнтр — у рады нарадовыя, і пастановы Сейма ў студзені 1968 г., якія даюць магчымасць ліквідаваць хутка шахаўніцу і весці больш рацыянальнае гаспадараванне зямлёй.



**Дац. др Андрэй Барвінюк**

# Змены ў размяшчэнні прамысловасці Беласточчыны ў 1946–1960 і 1961–1965 г.г.

Гады 1946—1960 з'яўляюцца важным фрагментам гісторыі гаспадаркі Беластоцкага рэгіёна. Перыяд гэты ахоплівае рэалізацыю 3-гадовага гаспадарчага плана — плана адбудовы знішчанай у час вайны гаспадаркі, 6-гадовага плана, які акрэсліваецца назвай «плана пабудовы асноў сацыялізма» і першага 5-гадовага плана. У такім шматгадовым маштабе можна зрабіць аналіз змен, якія адбыліся ў размяшчэнні прамысловасці на тэрыторыі Беласточчыны.

Першая праблема звязана з фактам прынцыпіяльнага значэння — з вялікім узростам колькасці рабочых, занятых у прамысловасці. У 1946 годзе ў беластоцкай прамысловасці было занята 8089 рабочых. У канцы першай 5-годкі, г. зн. у 1960 годзе лік гэты ўзрос да 42417 ра-



*У Гайнаўскім прадпрыемстве лясной прамысловасці.*

бочых. Адсюль відаць, што прамысловы патэнцыял Беласточчыны ў апісваемы перыяд павялічыўся больш, чым у пяць разоў.

Не будзе памылкі, калі абапіраючыся на ўспамянутых зменах, мы зробім вывады аб значных зменах вытворчага патэнцыялу прамысловасці.

Ніжэй прыведзеныя даныя даюць вобраз становішча ў кожным павеце Беластоцкага ваяводства ў 1946—1960 г.г.

РАЗВІЦЦЁ ПРАМЫСЛОВАСЦІ Ў 1946, 1949, 1956 і 1960 гадах

| Паветы | Лік рабочых у працэнтах | | | |
|---|---|---|---|---|
| | 1946 | 1949 | 1956 | 1960 |
| **Рэгіён** | **100,0** | **100,0** | **100,0** | **100,0** |
| Аўгустоўскі | 0,8 | 2,4 | 3,4 | 4,6 |
| г. Беласток | 40,7 | 40,1 | 40,6 | 40,9 |
| Беластоцкі | 8,1 | 14,6 | 9,5 | 9,6 |
| Бельскі | 4,4 | 3,5 | 2,7 | 2,5 |
| Дуброўскі | — | 0,2 | 0,1 | 0,2 |
| Элцкі | 7,3 | 13,0 | 6,1 | 6,1 |
| Галдапскі | 0,0 | 0,5 | 0,7 | 0,9 |
| Граеўскі | 1,9 | 2,9 | 3,0 | 1,8 |
| Гайнаўскі | 15,2 | 7,4 | 6,6 | 5,6 |
| Кальненскі | 0,1 | 0,4 | 0,4 | 0,5 |
| Лапскі | 0,5 | 1,0 | 6,0 | 4,7 |
| Ламжынскі | 3,3 | 2,3 | 2,6 | 2,9 |
| Манецкі | 0,4 | 0,9 | 0,8 | 1,0 |
| Алецкі | 1,1 | 0,7 | 1,8 | 1,3 |
| Сейненскі | — | 0,1 | 0,1 | 0,2 |
| Сямяціцкі | 1,8 | 3,1 | 3,3 | 3,1 |
| Сакольскі | 2,6 | 1,1 | 1,5 | 1,5 |
| Сувальскі | 3,3 | 4,4 | 3,3 | 3,7 |
| Выс. Мазавецкі | 0,2 | 0,9 | 0,8 | 0,7 |
| Замброўскі | 0,3 | 0,5 | 6,7 | 8,1 |

Прыведзеныя даныя можна таксама з нейкімі агаворкамі разглядаць як паказчыкі прамысловага патэнцыялу паветаў.

З табліцы вынікае, што ў 1960 годзе ў параўнанні з 1946 г. на агульны лік 19 паветаў і г. Беласток у трынаццаці выступаў значны ўзрост прамысловага патэнцыялу. У астатніх наступаў яго спадак. З'ява гэтая была заўважана ў Бельскім, Элцкім, Граеўскім, Гайнаўскім, Лапскім, Ломжынскім і Сакольскім паветах.

Параўноўваючы структуру 1960 г. з данымі 1949 г., мы заўважаем, што павелічэнне прамысловага патэнцыялу наступіла ў 10 паветах, а ў 8 трэба адзначыць яго змяншэнне. З'ява гэтая выступіла ў Беластоцкім, Бельскім, Элцкім, Граеўскім, Гайнаўскім, Высока-Мазавецкім, Сувальскім, а таксама ў Лапскім паветах (апошняе сцверджанне абапіраецца на агульных інфармацыях аб развіцці прадпрыемстваў рамонту чыгуначнага транспарту ў Лапах).





*Выраб мазайкавага паркету ў Гайнаўскім прадпрыемстве драўнянай прамысловасці.*

У двух паветах не было ў гэтым напрамку ніякіх змен. Урэшце параўноўваючы 1960 г. з 1956 годам, можна сцвердзіць, што ў 11 паветах наступіла значнае павелічэнне прамысловага патэнцыялу, у 7 — яго змяншэнне, а ў 2 паветах не было ніякіх змен. Да групы паветаў, удзел якіх зменшыўся ў ліку прамысловых рабочых, трэба аднесці Бельскі, Граеўскі, Гайнаўскі, Лапскі, Алецкі, Сямяціцкі і Высока-Мазавецкі. Астатнія — Элцкі і Сакольскі не змянілі свайго «статуса».

Падкрэсліць трэба, што толькі невялікая група паветаў выказала на працягу ўсяго перыяду 1946—1960 г.г. сістэматычны ўзрост прамысловага патэнцыялу. Адносіцца гэта да паветаў Аўгустоўскага, г. Беластока, Галдапскага і Замброўскага. Характарыстычнай з'явай з'яўляецца канцэнтрацыя прамысловасці ў Беластоку. Гэтая выразная тэндэнцыя да групавання прамысловасці ў горадзе, які з'яўляецца сталіцай рэгіёна, з'яўляецца істотным элементам працэсу яго індустрыялізацыі на працягу ўсяго пасляваеннага перыяду. Не папярэджваючы іншых фактаў, можна меркаваць, што і далей Беласток будзе атракцыйным месцам з пункту гледжання эканамічнай эфектыўнасці лакалізацыі прамысловых інвестыцый.

Зразуменне гэтага факта з'яўляецца істотным у планаванні інвестыцый рэгіёна. Важнае яно з пункту гледжання неабходнасці рацыяналізацыі структуры тэрытарыяльнай прамысловасці і прамысловай актывізацыі значна большай, чым дагэтуль тэрыторыі.

*

* *

Узрост прамысловага патэнцыялу паасобных паветаў спрыяў абсалютнаму прыросту колькасці рабочых. Спрыяў ён таксама, у даным выпадку, сталаму змяншэнню колькасці рабочых у іншай групе паветаў. Не цяжка высвятліць гэтую сітуацыю. Яе прычыны ляжаць у тэрытарыяльнай розніцы тэмпа павелічэння колькасці прамысловых рабочых. З'яву гэтую ілюструе ніжэй прыведзеная табліца:

**ДЫНАМІКА ЎЗРОСТУ ЛІКУ РАБОЧЫХ У ПРАМЫСЛОВАСЦІ Ў 1946 — 1960 Г.Г.**

| Паветы | 1946<br>1949 | 1946<br>1956 | 1946<br>1960 | 1949<br>1956 | 1949<br>1960 | 1956<br>1960 |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1946=100 | | | 1949=100 | | 1956=100 |
| **Рэгіён** | **203,3** | **423,0** | **543,7** | **268,1** | **267,5** | **128.5** |
| Аўгустоўскі | 614,2 | 1855,5 | 3246,0 | 302,1 | 528,4 | 175,8 |
| г. Беласток | 199,9 | 421,6 | 546,5 | 210,9 | 273,3 | 129,6 |
| Беластоцкі | 365,8 | 493,0 | 643,6 | 135,3 | 177,1 | 130,5 |
| Бельскі | 161,2 | 264,0 | 313,6 | 163,8 | 194,6 | 118,8 |
| Дуброўскі | — | — | — | 136,0 | 252,0 | 185,3 |
| Элцкі | 362,6 | 353,9 | 452,7 | 97,6 | 124,9 | 127,9 |
| Галдапскі | 4400,0 | 11800,0 | 2030,0 | 268,2 | 473,8 | 172,5 |
| Граеўскі | 305,8 | 661,9 | 496,1 | 237,5 | 162,2 | 75,0 |
| Гайнаўскі | 98,8 | 192,8 | 200,4 | 186,0 | 202,9 | 109,0 |
| Кальненскі | 620,0 | 1390,0 | 2120,0 | 224,2 | 343,5 | 152,5 |
| Лапскі | — | 298,1 | 303,5 | — | — | 102,3 |
| Ламжынскі | 142,0 | 333,4 | 468,7 | 234,8 | 330,1 | 140,6 |
| Манецкі | 454,8 | 932,2 | 1458,0 | 205,0 | 320,6 | 156,4 |
| Алецкі | 144,2 | 667,4 | 686,0 | 466,7 | 479,7 | 102,8 |
| Сейненскі | — | — | — | 318,1 | 981,8 | 308,6 |
| Сямяціцкі | 351,7 | 763,9 | 916,3 | 217,2 | 260,5 | 119,9 |
| Сакольскі | 88,6 | 253,3 | 311,4 | 286,0 | 257,0 | 122,9 |
| Сувальскі | 271,2 | 421,5 | 616,3 | 155,4 | 227,2 | 154,4 |
| Высока-Мазавецкі | 745,0 | 1465,0 | 1640,0 | 196,6 | 220,1 | 111,9 |
| Замброўскі | 378,3 | 10026,0 | 15517,0 | 2650,5 | 4217,2 | 154,8 |

Тэрытарыяльныя розніцы тэмпаў прамысловага развіцця дазволяць сцвердзіць, што яны адваротна прапарцыянальныя да пачатковага ўзроўню колькасці рабочых. Характэрны пры гэтым не толькі розніцы тэрытарыяльныя ў тэмпах узросту ліку рабочых у прамысловасці, але таксама розніцы ў паасобныя перыяды рэалізацыі шматгадовых планаў.



*

Перыяд 3-гадовага плана ў маштабе рэгіёна прынёс падвойны ўзрост колькасці прамысловых рабочых. Значна большыя змены выступілі ў гадах 1949—1956. Але ўжо ў перыяд рэалізацыі 5-гадовага плана колькасць рабочых павялічылася на адну пятую. Адсюль вынікае сцверджанне, што найхутчэй праходзіў прырост колькасці рабочых у 1946—1949 гадах. У наступны перыяд, які ахопліваў «шасцігодку», хоць утрымліваліся высокія сярэднія тэмпы прыросту, то былі яны ў цэлым меншыя, чым у папярэдні перыяд. Былі яны адначасова выразна вышэйшыя, чым у 1956—1960 гадах.

У гэтым месцы трэба высветліць прычыны, якія аказалі на гэта ўздзеянне ў 1946—1949 гадах. Сілай гэтай была аб'ектыўная неабходнасць ратавання прадукцыйнай маёмасці, якая ацалела пасля вайны. Прамысловыя інвестыцыі гэтага перыяду, хоць невялікія, стваралі магчымасці да падвоення колькасці рабочых. Выступала таксама выразна імкненне не толькі да адбудовы маёмасці, але таксама да яе павелічэння. Былі рэалізаваны невялікія новыя прамысловыя інвестыцыі. Цяжка аднак акрэсліць значэнне гэтых інвестыцый у агульным развіцці. Інвестыцыі канцэнтраваны былі, галоўным чынам, у Беластоку, паветах Беластоцкім, Элцкім, Гайнаўскім і Сувальскім.

*

На заканчэнне нашых разважанняў трэба адказаць яшчэ на адно пытанне, у якой ступені была адбудавана прамысловасць у перыяд 3-гадовага плана. Пунктам выйсця прымем год 1938. У гэтым годзе ў прамысловасці працавала прыблізна каля 24000 рабочых на тэрыторыі сучаснага Беластоцкага ваяводства. У 1949 г. колькасць рабочых дасягнула толькі 68,5% даваеннай колькасці.

Абапіраючыся на гэтыя дадзеныя, а таксама эмпірычныя дадзеныя аб дынаміцы павелічэння колькасці рабочых у прамысловасці, можна сцвердзіць, што тэрытарыяльная структура прамысловасці рэгіёну ў 1960 г. з'яўляецца ў асноўным прадуктам інвестыцый рэалізаваных у асноўным у гады 6-гадовага і 5-гадовага планаў. У гэты перыяд колькасць рабочых павялічылася больш, чым у 2,5 раза ў параўнанні з 1949 г. Трэба падкрэсліць, што тэрытарыяльная структура прамысловасці Беластоцкага ваяводства ў 1960 г. з'яўляецца ў асноўным вынікам інвестыцый шасцігодкі.

*

У 1961—1965 г.г. заходзяць далейшыя карысныя змены ў развіцці прамысловасці Беласточчыны. Перыяд гэты ахоплівае рэалізацыю другога пяцігадовага плана. За гэты перыяд лік рабочых павялічыўся з 44 175 у 1961 г. да 55 898 у 1965 г. Вышэй прыведзены лік рабочых сведчыць аб узросце прамысловага патэнцыялу на 32% у 1965 г. у параўнанні да 1960 г.

З'яву гэтую ілюструе ніжэй прыведзеная табліца:

ЛІК РАБОЧЫХ У ПРАМЫСЛОВАСЦІ БЕЛАСТОЧЧЫНЫ
У 1961—1965 ГАДАХ [1])
(У 1000 асоб. — Дынаміка ўзросту 1961 г. = 100)

| Паветы | 1961 | 1965 | 1961=100 | Паветы | 1961 | 1965 | 1961=100 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **Рэгіён** | **44,2** | **55,9** | **126,5** | **Рэгіён** | **44,2** | **55,9** | **126,5** |
| Аўгустоўскі | 1,5 | 2,2 | 146,7 | Лапскі | 2,2 | 2,5 | 113,6 |
| г. Беласток | 18,5 | 25,1 | 136,2 | Ламжынскі | 1,3 | 1,8 | 138,5 |
| Беластоцкі | 4,2 | 5,3 | 126,2 | Манецкі | 0,5 | 0,5 | 100,0 |
| Бельскі | 0,9 | 0,3 | 144,4 | Алецкі | 0,6 | 0,7 | 116,7 |
| Дуброўскі | 0,1 | 0,3 | 300,0 | Сейненскі | 0,1 | 0,1 | 100,0 |
| Элцкі | 2,5 | 3,2 | 128,0 | Сямяціцкі | 1,1 | 1,3 | 118,2 |
| Галдапскі | 0,4 | 0,4 | 100,0 | Сувальскі | 1,7 | 1,9 | 111,8 |
| Граеўскі | 1,0 | 1,2 | 120,0 | Высока-Мазавецкі | 0,4 | 0,7 | 175,0 |
| Кальненскі | 0,2 | 0,4 | 200,0 | Замброўскі | 3,5 | 4,5 | 128,5 |

[1]) Статыстычны гадавік Беластоцкага ваяводства 1966 г. ВУС, Беласток 1966 г. Уласны падлік.

Развіццё прамысловасці найхутчэй ішло ў Дуброўскім, Кальненскім і Высока-Мазавецкім паветах. А ў трох паветах (Галдапскім, Манецкім і Сейненскім) лік рабочых у прамысловасці ў 1965 годзе ўтрымаўся на ўзроўні 1961 г. У дзевяці паветах Беласточчыны развіццё прамысловасці, калі меркаваць толькі па ліку рабочых, ішло хутчэй, чым у сярэднім ва ўсім рэгіёне. Няцяжка зразумець, што гэтыя розныя тэмпы развіцця прамысловасці былі перш за ўсё вынікам выканання інвестыцыйнай праграмы Беластоцкага рэгіёну ў 1961—1965 гадах.

Агульна беручы, гэтым зменам у развіцці прамысловасці спадарожнічалі змены ва ўзроўні індустрыялізацыі паасобных паветаў і ў структуры вытворчасці розных галін прамысловасці. Наступілі выразныя сімптомы інтэнсіфікацыі прамысловых вытворчых працэсаў. Найлепшым прыкладам гэтага быў сістэматычны ўзрост прадукцыйнасці працы ў сферы прамысловай вытворчасці.

У святле прыведзеных заўваг, а таксама паказчыкаў дынамікі павелічэння колькасці рабочых можна лягчэй зразумець, чаму наступілі змены ва ўдзеле паасобных паветаў розных прамысловых узроўняў у агульнай колькасці прамысловых рабочых Беласточчыны.



**Інж. ЛЕОН ПЭРЭК**

**Старшыня Павятовай рады нарадовай у Бельску**

# ДАСЯГНЕННІ БЕЛЬСКАГА ПАВЕТА ЗА ПЕРЫЯД НАРОДНАЙ УЛАДЫ

Больш 1/3 часткі цяперашніх жыхароў не памятае першых дзён пасляваеннага аднаўлення і жыцця ў вызваленых гарадах і вёсках Бельскага павета. Зрэшты, не могуць памятаць, бо 15% цяперашніх жыхароў нарадзілася ўжо пасля вайны, а некалькі тысяч іншых вучыліся стаўляць першыя крокі ўжо ў вызваленай Айчыне. Войскі Савецкай Арміі II Беларускага фронту 30 ліпеня 1944 года вызвалілі Бельск-Падляшскі з-пад нямецкай акупацыі. Пасля цяжкага пяцігадовага перыяду няволі грамадства стала вольным. Каля 3000 (прыблізныя дадзеныя) бяльчан загінула ад рукі гітлераўскіх акупантаў. Памяць аб іх і сёння ў сэрцах і розуме бельскага грамадства з'яўляецца сімвалам барацьбы і мучэнняў, сімвалам адданасці, якую праявілі дзеля таго, каб маладое пакаленне магло жыць, вучыцца і працаваць у вольнай Польшчы. Іменна таму такой клапатлівасцю і апекай агортвае сёння моладзь, а таксама старэйшыя, месцы пакаранняў і мучэнняў, таму штогод на гэтых месцах аддаем гонар тым, якія аддалі сваё жыццё за нашу рэчаіснасць.

Цяжкімі былі пачаткі стварэння гэтай рэчаіснасці. У першыя дні пасля вызвалення галоўнае месца занялі справы, звязаныя з арганізацыяй адміністрацыйнага апарату і матэрыяльнага забеспячэння насельніцтва. Пільнай справай у павеце было правядзенне сельскагаспадарчай рэформы. У той жа час разам з аддаленнем фронту, пасля студзеньскага наступлення ў 1945 годзе, пачынаецца атака лагеру рэакцыі. Банды НСЗ і ВІН пачалі тэрарыстычную дзейнасць, забіваючы членаў ППР, і актывістаў, служачых дзяржаўнага апарату і часткова таксама насельніцтва. Грабілі спулдзельні і крамы, разбівалі і псавалі абсталяванне ў дзяржаўных установах.

Дадатковымі цяжкасцямі былі справы аднаўлення ваенных разбурэнняў. На тэрміновую фінансава-матэрыяльную дапамогу дзяржавы нельга было разлічваць, бо краіна была спустошана некалькігадовай акупацыяй гітлераўскіх войск.

Становішча патрабавала неадкладных дзеянняў па ўвядзенню нармальнага жыцця і працы. Цяжкасці былі ва ўсіх галінах гаспадаркі. У час ваенных дзеянняў або барацьбы з бандамі ў павеце было разбурана больш 4000 сялянскіх гаспадарак, шмат дамоў, знішчана многа дарог і аб'ектаў. Такім чынам, пачаткі ўстанаўлення народнай улады ў Бельску-Падляшскім, як і ў іншых раёнах краіны, былі нялёгкімі.

Аднак, дзякуючы адданасці большай часткі грамадскасці павета, можна было перамагчы цяжкасці, узнімаючы з руін гарады і вёскі. Ужо ў канцы 1944 года рушыў мясцовы радыёвузел, а ў верасні таго ж года пачалі працаваць першыя школы.

Дзяржава дала сялянам пасяўное збожжа, дзякуючы гэтаму веснавая сяўба 1945 года была праведзена паспяхова. Насельніцтва пачало працаваць грамадскім чынам: рамантавалі масты, дарогі, школьныя будынкі, забяспечваючы часта школы мэбляй уласнага вырабу.

Гарады і вёскі Бельскага павета з дня ў дзень змянялі сваё аблічча. Уся краіна стала пляцоўкай інтэнсіўнай будовы, узнімаючы з руін гарады і вёскі, фабрыкі, бальніцы, школы і святліцы, дарогі і жылыя дамы. Кожны супольна пабудаваны аб'ект быў стымулам яшчэ больш інтэнсіўнай працы. У Бельску-Падляшскім за параўнаўча кароткі час пасля вайны быў пабудаваны ільнозавод, птушкакамбінат, акруговая малочная спулдзельня, а таксама шэраг меншых адзінак для абслугоўвання насельніцтва. Былі аддадзены ў карыстанне першыя новыя школы.

У Орлі быў пабудаваны завод кафлі і будаўнічых матэрыялаў. Арганізаваны былі будаўнічыя прадпрыемствы і ліцейны завод у Бельску-Падляшскім. Асаблівыя намаганні былі накіраваны на павышэнне ўзроўню навучання. У выніку гэтага была створана 101 пачатковая школа. Галоўнай задачай у галіне павышэння інтэлектуальнага ўзроўню грамадства ўлады лічылі ліквідацыю непісьменнасці. Былі арганізаваны сотні вячэрніх курсаў для дарослых, на якіх займаліся тысячы слухачоў. Асаблівы націск быў зроблены на развіццё сельскай гаспадаркі, з паступовым увядзеннем механізацыі, угнаенняў, новых, лепшых метадаў гаспадарання.

Мінула 25 гадоў ад моманту выдання Маніфеста ПКВН, які адкрыў новы перыяд у гісторыі нашага народа. За гэтыя гады ў Польшчы наступілі велізарныя перамены. Разам з бегам часу нарасталі тэмпы працы. Сёння, калі задумваемся над цэласцю дасягненняў Бельскага павета за перыяд мінулага 25-годдзя, несумненна пераконваемся, што гэта магчыма было толькі ва ўмовах сацыялістычнага ладу.

Мы дабіліся велізарнага прагрэсу ў галіне сельскай гаспадаркі. У міжваенны перыяд сярэдні ўраджай збожжавых культур у павеце быў у межах 8—9 ц. з гектара. Сёння збіраем каля 15 ц/га, прычым далейшы рост выкарыстоўвання ўгнаенняў, сяўбы кваліфікаваным зернем, ахова раслін і іншыя мерапрыемствы даюць нам права сцвяр-





*Эканамічны тэхнікум імя Л. Варынскага ў Бельску.*



*Падставовая школа ў вёсцы Нурэц, Бельскага павета.*

джаць, што ў бліжэйшыя гады ўраджай чатырох збожжавых культур узрасце да 17—18 ц/га.

Дабіваемся добрых ураджаяў бульбы — 180—200 ц, цукровых буракоў — каля 300 ц/га. Добрых паказчыкаў дабіваюцца ПГР-ы і прадукцыйныя спулдзельні.

Вёска наша робіцца ўсё больш заможнай, сяляне ўсё больш разбудоўваюць свае гаспадаркі. З году ў год даем усё большую колькасць сродкаў вытворчасці, палепшаных, прыстасаваных да патрэб нашай сельскай гаспадаркі. Мінеральныя ўгнаенні, сродкі аховы раслін, трактары і машыны да іх, закупленыя за грошы з фонду развіцця сельскай гаспадаркі, конныя машыны і прылады, насенне збожжа і іншых раслін усё ў большых колькасцях даходзяць на вёску. На працягу апошніх 10 гадоў бельскія вёскі атрымалі банкавы крэдыт на суму 120 млн. зл. Значныя сумы былі выдадзены на меліярацыю, электрыфіказаны 174 вёскі, паляпшаецца забеспячэнне будаўнічымі матэрыяламі, племянной жывёлай на расплод, развіваецца штучнае асемяненне буйнай рагатай жывёлы. Наступае пастаяннае арганізацыйнае і гаспадарчае развіццё сельскагаспадарчых гурткоў. У 1968 годзе сельскагаспадарчыя гурткі ахапілі сваёй дзейнасцю 178 вёсак, аб'ядноўваючы 4500 членаў, адначасова працуе 145 гурткоў вясковых гаспадынь. На працягу 12 гадоў сельскагаспадарчыя гурткі выкарысталі



*Павятовы шпіталь імя Р. І. Чарвякоўскага ў Бельску.*



PIERWSI ABSOLWENCI
LICEUM MEDYCZNEGO PIELĘGNIARSTWA
w Bielsku Podlaskim
1967 1968
Kl. Va
Kl. Vb

з фонду развіцця сельскай гаспадаркі суму 53 млн. зл., за што было куплена, між іншым, 280 трактарных камплектаў і 180 малацільных агрэгатаў. На меліярацыю і загаспадараванне зялёных угоддзяў да канца 1968 г. будзе выдадзена сума 190 млн. зл., урэгулявана 266 км рэк, праведзена меліярацыя 15.000 га зялёных угоддзяў і 2700 га ворнай зямлі, а таксама загаспадаравана 13.500 га зялёных угоддзяў, шмат пабудавана і прадугледжана далейшая будова агранамовак, філіялаў ПОМ-аў і сушарняў на сена і бульбу, злеўняў малака, крамаў і г.д. Бельскія вёскі за прададзеныя дзяржаве плады сельскай гаспадаркі атрымліваюць штогод мільённыя сумы. Напрыклад, у 1967 годзе дзяржаўныя і спулдзельчыя ўстановы выплацілі сялянам 383 млн. зл., значны працэнт чаго сяляне прызначаюць на будаўніцтва. Аб гэтым сведчыць той факт, што ў 1960—1967 гадах было выдадзена 8400 дазволаў на будаўніцтва на вёсцы. Вялікія сумы грошай штогод прызначае на сваё будаўніцтва вясковы гандаль, разбудоўваючы базы забеспячэння і скупу сельскагаспадарчых пладоў.

Вось толькі некалькі прыкладаў, якія сведчаць аб развіцці і прагрэсе бельскіх вёсак. Такіх фактаў можна прывесці шмат. Можна прыводзіць лікі і паказчыкі, можна прыводзіць параўнанні і аналізаваць лічбы, але хопіць вярнуцца думкамі назад на 25—30 гадоў і параўнаць вобраз сучаснай вёскі з вёскай міжваеннага перыяду ці перыяду адразу ж пасля вайны, і вывады насоўваюцца самі. Сельская гаспадарка ў мінулы перыяд зрабіла небывалы ў гісторыі крок наперад і ў перспектыве бліжэйшых гадоў узровень яе будзе сістэматычна ўзрастаць.

Абмяркоўваючы перамены, якія наступілі ў бельскай сельскай гаспадарцы, нельга абысці такой праблемы, як перамены ў псіхіцы селяніна — вытворцы. Сёння бельскі селянін — гэта ў рашаючай большасці адукаваны, перадавы і разумны гаспадар, які прымяняе новую сістэму вытворчасці на сваёй гаспадарцы. Селянін, які чытае спецыялістычную літаратуру, дыскутуе са спецыялістамі з сельскагаспадарчай службы, вядзе доследныя палеткі, з алоўкам у руках складае планы сваёй гаспадаркі.

Мы ўсе добра разумеем, што толькі перадавы селянін-вытворца прыме такі велізарны выбар сродкаў вытворчасці, прызначаны дзяржавай для селяніна, што толькі перадавы селянін возьме на сябе і выканае заданні, якія ставіць перад сельскай гаспадаркай партыя і народная ўлада.

Гаворачы аб дасягненнях сельскай гаспадаркі, нельга не ўспомніць аб дасягненнях у галіне асветы і развіцці культурнага жыцця. На 226 вёсак у павеце працуе сёння 107 пачатковых і 6 сярэдніх школ. Гэта поўнасцю забяспечвае патрэбы нашай моладзі. Трэба дадаць, што для выпускнікоў пачатковых школ арганізавана 7 школ сельскагаспадар-





*Бельск — вул. А. Міцкевіча.*



*Бельск — вул. 1 Мая — камунальнае будаўніцтва.*



*Супраць «стонкі».*

чай падрыхтоўкі. Штогод толькі ў бюджэце Павятовай рады народовай на асвету і культуру прызначаецца сума 30 млн. зл., не ўлічваючы капіталаў, прызначаных на будаўніцтва. Каля 13.000 юнакоў і дзяўчат школьнага ўзросту ахоплена абавязковым навучаннем, а 2000 вучыцца ў сярэдніх і прафесіянальных школах. Школьныя ўлады арганізуюць цэлы шэраг разнародных курсаў для дарослых. У сярэднім каля 35 пляцовак гэтага роду штогод працуе ў павеце. У шырокім маштабе разгарнуўся мастацкі аматарскі рух. Арганізавалася шэраг калектываў — у Боцьках, Піліках, Крывой, Бранску і інш., — якія неаднойчы займалі першыя месцы на ваяводскіх і нават цэнтральных аглядах.

Пабудаваны і яшчэ будуюцца 24 святліцы і клуба-кавярні. У суме працуюць 34 святліцы, клуба-кавярні і сялянскія клубы, якія сталі культурным цэнтрам у асобных асяроддзях горада і вёскі.

Вялікія перамены наступілі ў развіцці камунальнага абсталявання. Горад Бельск-Падляшскі атрымаў новыя масты і асфальтаваныя вуліцы. Водаправод расцягнуўся на 15 км і забяспечвае вадой больш 25% жыхароў. Пабудаваны 274 аднасямейныя дамы з крэдытнай дапамогай дзяржавы. З будаўніцтва рад народовых аддадзена ў карыстанне 763 пакоі, а таксама са спулдзельчага будаўніцтва — 576 пакояў.

Грамадства павета за перыяд 25 гадоў народнай улады ў рамах прэцы грамадскім чынам выканала працу на дарогах і вуліцах на суму амаль 150 млн. зл. Значныя сумы выпрацаваны пры пабудове мастоў, перапускаў, злеўняў малака, стражацкіх раміз і іншых аб'ектаў.





*Па дарозе да Бельска на ярмарку.*




*На прыстанку ПКС.*

Як у разгледжаных ужо галінах, так і ў галіне аховы здароўя наступілі сур'ёзныя перамены.

У сучасны момант можна сказаць, што ў асноўным служба здароўя ахоплівае лекарскай апекай усіх хворых. У Бельску-Падляшскім пабудавана адна з найбольшых бальніц у ваяводстве.

Бальніца адпаведна абсталявана і прадстаўляе сабой галоўны лячэбны аб'ект павета. Пашырана сетка пляцовак службы здароўя і аптэчных пунктаў, накіраваны на працу ў вёсцы адукаваны медыцынскі персанал.

Яшчэ доўга можна было б пералічваць дасягненні ў галіне гандлю і забеспячэння, спорту, транспарту ці пракладкі дарог. Можна прыводзіць выказванні жыхароў Бельскага павета, якія з задавальненнем і гонарам хваляцца нашымі супольнымі дасягненнямі. Кожны з іх бачыць у гэтых 25-гадовых дасягненнях свой уклад, сваю цаглінку, умураваную ў захапляюча растучы гмах нашай краіны.

З дня на дзень Бельск-Падляшскі робіцца прыгажэйшы, яго развіццё ідзе раўнамерна з развіццём ваяводства і ўсёй краіны. Аднак усё яшчэ шмат трэба зрабіць.

Галоўныя заданні вызначаны ў рамах пяцігадовага плана. Гэты план прадугледжвае будаўніцтва цэлага шэрагу аб'ектаў. У працэсе будовы знаходзяцца такія аб'екты, як будынак пошты з аўтаматычнай тэлефоннай цэнтраллю, база — склад насеннай цэнтралі, станцыя ачышчэння вады, павільён на металічна-драўнінныя тавары, спулдзельня рознага віду паслуг і г.д.

Яшчэ ў гэтым пяцігадовым плане будуць будавацца чыгуначная станцыя і аўтобусны вакзал, філіял беластоцкай фабрыкі машын і абсталявання, гарадская лазня, супрацьтуберкулёзны павільён, пачатковая школа ў Бельску-Падляшскім і Гадышэве. З жыллёвага будаўніцтва будзе аддана ў карыстанне 650 пакояў. Далейшым галоўным напрамкам развіцця павета будзе і далей сельская гаспадарка. Згодна з пастановай IX Пленума ЦК ПАРП, наша сельская гаспадарка атрымае павялічаныя фінансавыя сродкі на будаўніцтва. Узрастуць надзелы мінеральных угнаенняў, кваліфікаванага зерня, сродкаў аховы раслін і будаўнічых матэрыялаў. Будуць павялічаны крэдыты на індывідуальнае будаўніцтва.

Наступіць далейшае развіццё кантрактацыі і меліярацыі. Павялічыцца колькасць спецыялістычных парад з боку дзяржаўнай сельскагаспадарчай службы.

Выкананне планаваных заданняў будзе садзейнічаць далейшаму грамадскаму, гаспадарчаму і культурнаму развіццю Бельскага павета.



КАСТУСЬ ЛЯШЧЫНСКІ

Старшыня Гарадской рады нарадовай у Гайнаўцы

# ГАЙНАЎКА Ў XXV-ГОДДЗІ НАРОДНАЙ ПОЛЬШЧЫ

На ўскраіне старадаўняй Белавежскай пушчы раскінуўся горад Гайнаўка, які пульсуе творчай працай і сёння з'яўляецца важным цэнтрам драўніннай прамысловасці.

Пушча спрадвеку была сведкам вялікапанскіх паляванняў і сялянскай галечы. Палявалі тут на зуброў каралі і цары, магнаты і санацыйныя вяльможы. Прыгонныя сяляне жылі ў нэндзы, з'яўляючыся часта фонам шумных паляванняў, арганізаваных магнатамі.

У 1916 годзе пачаў узнікаць пасёлак Гайнаўка. Нямецкія капіталісты знайшлі тут крыніцу вялікіх даходаў. Узнік завод сухой дэстыляцыі драўніны, лесапілка і фабрыка скіпінару. Ваеннапалонныя былі таннай рабочай сілай.

У міжваенны перыяд тадышнія ўлады амаль зусім не прызначалі капіталу на сацыяльна-бытавыя і жыллёвыя пабудозы, а ўклады ў разбудову мясцовых лесапілак былі разлічаны на максімальныя даходы пры таннай сезоннай рабочай сіле мясцовага насельніцтва. Насельніцтва Гайнаўкі ў пераважаючай большасці складалася з людзей, якія ў міжваенны перыяд завандравалі сюды ў пошуках хлеба і працы. Гэты факт сфармаваў аблічча гайнаўскага пралетарыяту, які ў міжваенны перыяд сваёй бязлітаснай барацьбой з санацыйнай эксплуатацыяй атрымаў славу **«Чырвонай Гайнаўкі».**

Нямецкія акупанты асабліва заўзята душылі ў Гайнаўцы ўсялякія праявы супраціўлення. Гайнаўскі пралетарыят за свае перакананні заплаціў асабліва шчодрую даніну крыві, аб чым сведчаць магілы на мясцовых могілках і месцах масавага расстрэлу.

У 1944 годзе гітлераўцы, уцякаючы пад напорам войск генерала Батава, а таксама польскіх і савецкіх партызан, у бяссільнай лютасці знішчылі амаль у 100% існаваўшую ў Гайнаўцы прамысловасць. Машыны вывезлі, а будынкі спалілі.

У такім становішчы Гайнаўка і асабліва яе прамысловасць ад 1944 года нараджаліся паўторна.



*Старая Гайнаўка.*

## ГАЙНАЎКА СЁННЯ

Сёння Гайнаўка з'яўляецца павятовым 15-тысячным горадам, адным з асноўных прамысловых цэнтраў Беласточчыны. На тэрыторыі горада працуе 13 прамысловых прадпрыемстваў, якія даюць працу не толькі мясцоваму насельніцтву, але і сялянам з навакольных вёсак. Гайнаўская моладзь вучыцца сёння ў пяці падставовых школах, двух агульнаадукацыйных ліцэях, тэхнікуме драўнянай прамысловасці і прафесіянальнай школе. У пасляваенны перыяд былі пабудаваны агульнаадукацыйны ліцэй, падставовыя школы №2 і №3, а ў 1968 годзе аддадзены ў карыстанне новы будынак Тэхнікума драўнянай прамысловасці, а таксама будынак школы №1 з 18-цю класнымі пакоямі і вялікай гімнастычнай залай з 200 сядзячымі месцамі для гледачоў.

У два новапабудаваныя дзіцячыя сады ходзіць 300 дзяцей, хутка ўзрастае колькасць настаўнікаў, растуць іх кваліфікацыі, настаўнікі карыстаюцца пашанай і сімпатыяй ў грамадстве.

У горадзе ёсць кіно з навейшым абсталяваннем, дзве бібліятэкі — павятовая і гарадская, а таксама восем прыфабрычных бібліятэк з 21 тысячай тамоў.

Штуршком у развіцці культурнай дзейнасці была пабудова прыгожага дома культуры «Гурнік». Цяпер у доме культуры вельмі актыўна дзейнічае клуб Саюза сацыялістычнай моладзі. Тут адбываюцца канцэрты, даклады спалучаныя з праекцыяй кінафільмаў, лекцыі





*Гайнаўка. Жыллёвыя дамы па вуліцы Ул. Леніна.*



*Новая Гайнаўка. Камунальнае будаўніцтва па вуліцы Першага Мая.*

замежных моў, спатканні з пісьменнікамі, а таксама маладзёжныя вечарыны.

Дом культуры **«Ляснік»** па актыўнасці не ўступае **«Гурніку».** Апрача таго, актыўна працуе Дом Настаўніка, які з'яўляецца трэцім цэнтрам культуры ў горадзе. Усе дамы культуры добра забяспечаны музычнымі інструментамі, рознага роду гульнямі і маюць добрыя кваліфікаваныя інструктарскія кадры.

Культура стала надзённай патрэбай гайнаўчан. Пабудаваны стадыён плывальны басейн і хакейнае поле. Гэта стварыла магчымасць для развіцця спорту сярод моладзі.



*Новапабудаваны павільён гандлёвы ў Гайнаўцы.*

У жыхароў Гайнаўкі налічваецца цяпер 1629 лямпавых радыёпрыёмнікаў. 1020 радыёкропак і 1286 тэлевізараў.

У міжваенны перыяд Гайнаўка не мела нават асноўных камунальных паслуг. Працавіты 25-гадовы перыяд прынёс Гайнаўцы змены, аб якіх калісьці можна было толькі марыць. Горад перажыў свае другія нарадзіны.

На месцы драўляных, знішчаных грыбам хатак з пілавіння пачалі вырастаць мураваныя, шматпавярховыя жылыя дамы. Узніклі новыя вуліцы, нават цэлыя кварталы. Комплекс 15-ці такіх будынкаў складаецца ў Гайнаўцы, напрыклад, у квартал «Міленіум», дзе жыве 1600 чалавек. У іншым месцы будуецца квартал «Гаймаклес», далей відаць групы дамоў, якія збудавала Гайнаўскае прадпрыемства драўнінчай прамысловасці, раён чыгуначнікаў, раён жыллёвай спулдзельні.





*У Гайнаўскай бібліятэцы.*

Вялікая дапамога дзяржавы для індывідуальнага будаўніцтва ў выглядзе крэдыту, будаўнічых матэрыялаў, а таксама прадстаўленне адпаведных пляцаў для будаўніцтва спрыяла ўзнікненню цэлых кварталаў індывідуальнага аднасямейнага будаўніцтва, як, напрыклад, кварталы ў раёне Хімічнай, Пашкі, Юдзянкі або на вул. Вызвалення.

Сам лік пабудаваных кватэр яшчэ не дае поўнай карціны дасягненняў у гэтай галіне. Трэба звярнуць асаблівую ўвагу на тое, што сённяшняе будаўніцтва ў параўнанні з перадваенным характарызуецца высокай якасцю. Цяпер наглядаецца не толькі ўзрост памераў новага будаўніцтва, але таксама больш усебаковае тэхнічнае абсталяванне — каналізацыя, вадаправод, электрычнасць, а таксама не спатыканае раней упарадкаванне панадворкаў, закладка газонаў, тратуараў, вуліц і г.д..

Побач з новым жыллёвым і паслуговым будаўніцтвам шмат увагі прысвячаецца ўтрыманню ў добрым стане старых гарадскіх будынкаў. Сістэматычныя рамонты і дадатковае абсталяванне значна паляпшаюць жыллёвыя ўмовы той часткі гарадскога насельніцтва, якая яшчэ пражывае ў дамах старога будаўніцтва. Аб пашырэнні капітальных рамонтаў жылых дамоў сведчыць павелічэнне прызначаных на гэта сум. Ад 1960 года на капітальныя рамонты кватэр выдана 6 мільёнаў злотых. Дзякуючы гэтаму ўкладу, адрамантавана 56 жылых дамоў, а таксама створана 16 новых кватэр.

У перыяд народнай улады ў Гайнаўцы ўзнікла шмат аб'ектаў сацыяльна-бытавога і адміністрацыйнага характару. Пабудаваны сучасны

малочны завод, які можа перапрацаваць за суткі больш 30 тыс. літраў малака, разліўню піва і газаванай вады. РЗГС пабудаваў парк сельскагаспадарчых машын і заканчвае будову сеткі складаў. ПСС — рэстаран разам з канторай і крамамі, а таксама мясны завод коштам 4 мільёнаў злотых.

На патрэбы сельскай гаспадаркі пабудавана ветэрынарная лячэбніца, гандлёвыя страганы і «Эльдом» — сучасны павільён.

За грошы, прызначаныя на адміністрацыйнае будаўніцтва, пабудаваны прыгожы Дом партыі, будынак ПРН, ПЗГС, пошта, Дом настаўніка, надлясніцтва Старына, амбулаторыя для працаўнікоў ГЗПД, база ПЗДЛь.

Значна пашырылася сетка пляцовак службы здароўя. Пасля вайны існавала бальніца, дзе было 40 ложкаў і тры лекары, а таксама амбулаторыя, дзе працавалі два лекары. Цяпер у бальніцы ёсць аддзяленні дзіцячае, заразнае, унутраных хвароб, хірургічнае, гінекалагічнае, туберкулёзнае. Арганізавана хуткая дапамога з пяццю машынамі. Створана раённая амбулаторыя.

Існуюць прыфабрычныя амбулаторыі пры ГЗПД, ЗСДД, НЗПМЛь, ПКП, ПЗГС, ПСС і спулдзелні інвалідаў «Постэмп».

Аб ранзе горада сведчыць таксама факт беспасрэднага чыгуначнага спалучэння з Варшавай.

Моцна паправіўся стан гарадскіх вуліц і плошчаў. Даўжыня вуліц узрасла з 900 м да 21,6 км. Перакладзены прыгожыя сучасныя вуліцы Вызвалення, 1 мая, Спартовая, Мендзыгоры, М. Бучка, Варынскага, 20-годдзя ПНР, а на такіх вуліцах, як Пралетарская, Паддольная, Горная, Дварцовая, Ягайлы, Касідлы, пракладзены тратуары. Замест драўляных слупоў з традыцыйнымі лямпамі зроблены жалезабетонныя з лямпамі дзённага святла.



*Падставовая школа імя Аляксея Флярэнкі ў Гайнаўцы.*





*Малодшы лейтэнант АЛЯКСЕЙ ВАСІЛЬЕВІЧ ФЛЯРЭНКА — ГЕРОЙ САВЕЦКАГА САЮЗА — 25 ліпеня 1944 года загінуў у баю з нямецкімі фашыстамі падчас вызвалення вёскі Маленікі, Бельскага павета. Нарадзіўся 6 лютага 1922 года ў Пензе. Калі нямецкія фашысты напалі на яго айчыну ён вучыўся ў рамеснай школе. Патрэба абароны накіравала яго ў ваенную школу, а потым на фронт. Баявы яго шлях пачаўся на беларускіх землях і закончыўся на Беласточчыне. 1 верасня 1966 года Падставовай школе ў Гайнаўцы прысвоена яго імя.*

За перыяд народнай улады моцна разросся гандаль. Шляхам павелічэння сеткі пунктаў продажу ў выніку актыўнасці гандлю наступіла паляпшэнне ў забеспячэнні таварамі першай патрэбы. У 1955 годзе было 19 крам, а ўжо ў 1968 годзе ёсць 66 крам рознай спецыялізацыі. Развіццё гандлёвых пляцовак ішло побач з развіццём горада і патрэбамі яго жыхароў. Тавараабарот узрос з 32 млн. зл. у 1955 г. да 110 млн. зл. у 1967 г. Для насельніцтва працуюць 83 пункты паслуг і майстэрань. Такія ў статыстычным выражэнні дасягненні Гайнаўкі за пасляваенныя гады.

Ад 1960 года Гарадская рада народовая пачала сваю працу пад лозунгам **«Гайнаўка ў новым уборы»** і паслядоўна праводзіць гэты лозунг. Цяпер на парадку дня знаходзяцца наступныя справы; сучаснае асвятленне, закладка паркаў і сквераў, арганізаванне дзіцячых пляцовак, пракладка каналізацыі і водапровода разам з ачышчальняй сцёкаў.

У 1950 годзе Гайнаўка атрымала правы горада. Але толькі восем гадоў назад яна пачала хуткімі тэмпамі набываць выгляд сучаснага гарадскога цэнтра.

## СВАЙМУ ГОРАДУ

Хтосьці можа сказаць: на ўсё гэта патрэбны былі грошы. Гэта праўда. Але праўдай з'яўляецца і тое, што ўмелае гаспадаранне і да гэтага яшчэ грамадская ініцыятыва могуць даць вельмі вялікія эфекты. Імenна так ёсць у Гайнаўцы. Сваёй грамадскай працай жыхары Гайнаўкі дапамагаюць у выкананні шматлікіх пачынанняў.

За перыяд мінулых пяці гадоў у горадзе пракладзена грамадскім чынам 6,5 км вуліц і 7 тыс. кв. метраў тратуару. Закладзена ў горадзе 8 га новых прыгожых газонаў і клумб. Апрача таго, жыхары засадзілі 9.200 дрэў па вуліцах і ў садах. Агульная вартасць працы грамадскім чынам за перыяд 1960—68 гадоў склала больш 8 млн. зл.

У 1963 годзе наш горад высунуў лозунг адзначэння **ХХ-годдзя Народнай Польшчы,** а таксама **года Беластоцкай зямлі** працай грамадскім чынам для ўпрыгожвання беластоцкіх гарадоў. Штогод Гайнаўка, як ініцыятар лозунга стараецца ўтрымаць і ўтрымлівае вядучую ролю. Грамадская праца жыхароў горада да 1963 года канцэнтравалася галоўным чынам пры будове вясковых дарог. У новай сітуацыі Прэзідыум МРН і радныя звярнуліся да жыхароў з лозунгам **«Жыхары сваіму гораду».**

Гайнаўчане не толькі ўключаюцца ў калектыўную працу, але перш за ўсё лепш шануюць і дагледаюць тыя аб'екты, пры якіх працавалі грамадскім чынам. Вялікую ініцыятыву праявілі жыхары горада пры будове жылых дамоў і дзіцячага саду. Восемдзесят чалавек на працягу 10 дзён працавала грамадскім чынам. У выніку дапамогі грамадства тэрмінова было аддадзена ў карыстанне 160 кватэр і дзіцячы сад на 140 дзяцей.

Шмат працы ўкладзена было ў паляпшэнне эстэтычнага выгляду горада. Жыхары Гайнаўкі сваёй грамадскай працай пакінулі трывалы след у развіцці нашага працоўнага горада. У час гэтай працы фармавалася якасна новая грамадская свядомасць.

## ГАЙНАЎСКАЯ ПРАМЫСЛОВАСЦЬ

Перад Гайнаўкай стаяць вельмі вялікія перспектывы развіцця на аснове мясцовай прыроднай базы сыравіны, якой з'яўляецца Белавежская пушча. Багатыя запасы і вялікая разнароднасць спрыялі развіццю ў Гайнаўцы перапрацоўкі драўніны ў шматлікіх напрамках. Мэты і прынцыпы, якім павінна была служыць гайнаўская прамысловасць у перыяд улады капіталістаў, грунтоўна адрозніваюцца ад прынцыпаў, якімі карыстаемся сёння. Замест максімальнага даходу для адзінак плануецца максімальнае забеспячэнне растучых патрэб працоўных. З аднабаковых прадпрыемстваў пярвічнай перапрацоўкі пераўтварыліся яны ў шматнапрамкавыя прадпрыемствы, якія да-





*Гайнаўскае прадпрыемства лясной прамысловасці.*

юць гатовыя вырабы. Ужо цяпер выпрацоўваюцца ў ГЗПД замест выключна дошак такія вырабы як акляіна, мэбля, упакоўвальныя скрынкі, паркет і драўняная мазаіка. А ў гэтай пяцігодцы арганізуецца цэх стружкавых пліт і фабрыка мэблі. Пасля іх пабудовы ГЗПД будзе першым у Польшчы камбінатам комплекснай перапрацоўкі драўніны.

Прадпрыемства сухой дэстыляцыі драўніны, якое да вайны давала толькі прадукты сухой перагонкі, пашырыла свой асартымент, пераходзячы да паглыблення перапрацоўкі паўфабрыкатаў піролізу драўніны.

Гайнаўскае прадпрыемства лясных машын, якое было ў міжваенны перыяд рамонтным аддзяленнем транспарту лясных чыгунак, у Народнай Польшчы выдзелілася ў самастойнае прадпрыемства сродкаў транспарту і механічнага абсталявання для лясной і драўнінай прамысловасці.

Да 1955 года вышэй названае прадпрыемства гаспадарскім спосабам пры мінімальных капіталаўкладаннях, дзякуючы творчай ініцыятыве калектыву, пераадолелі цяжкасці перыяду залечвання ран, нанесеных вайной, і прывядзення ў рух фабрык, ствараючы магчымасць развіцця адпаведнага напрамку і прафесіі прамысловасці ў Гайнаўцы. У перыяд апошняй пяцігодкі ў Гайнаўцы капіталаўкладанні на тры галоўныя прадпрыемствы склалі суму 144 млн. зл.

Гайнаўская прамысловасць ад 1956 года развіваецца яшчэ інтэнсіўней, у выніку чаго прадпрыемствы пабудавалі новыя прадукцыйныя цэхі, узніклі новыя галіны прадукцыі, новыя асартыменты вырабаў, павялічылася колькасць рабочых месц. Цяпер гаўнаўскія фабрыкі прадукуюць прамысловых і спажывецкіх тавараў на суму больш 500 млн. зл. у год, а пасля пабудовы фабрыкі мэблі і стружкавых пліт прырост вытворчасці складзе 300 млн. зл., а колькасць рабочых месц павялічыцца на 1000, што забяспечыць патрэбы горада ў галіне працы для дарастаючай моладзі.

### ПЛАН ГОРАДА НА БЛІЖЭЙШЫЯ ГАДЫ

У Народнай Польшчы змяняецца выгляд старой Гайнаўкі. Гэты некалі брудны і запушчаны горад робіцца ўсё прыгажэйшым. Выраслі новыя прыгожыя дамы. Горад тоне ў зелені і кветках, чысты і гасцінны. У гэтай пяцігодцы на развіццё Гайнаўкі будзе выдадзена 220 млн. зл. Да 1970 года прыбудзе 480 новых кватэр, вялікая амбулаторыя і дзіцячыя яслі на 400 месц.

У 1969 годзе будзе аддана ў карыстанне шматмільённая пабудова — станцыя ачышчэння вады разам з водаправоднай і каналізацыйнай сеткай. Пачнуць працу ПОМ і хімічная пральня, сучаснае прадпрыемства ахоўнай працы, дзе будзе працаваць 250 асоб. Апрача таго, пабудуюцца дзве кавярні і смажальня рыбы. Гайнаўка — гэта ўжо не той горад. Гайнаўка — гэта вялізны прамысловы камбінат і вялікі пляц будовы, які хутка залюдняецца. У 1948 годзе было тут 9560 жыхароў. Цяпер ёсць ужо 15.000 насельніцтва, а ў 1975 г. будзе каля 20 тыс. Горад павінен да гэтага падрыхтавацца. Трэба пабудаваць 2100 пакояў, новыя пункты паслуг, школы і г.д.

Да 1975 года будуць тут пабудаваны два вялікія ўніверсальныя магазіны, гарадская бібліятэка, гатэль і гасцініца, цэлы шэраг пунктаў паслуг, гандлю, рамясла і гастраноміі, а таксама павільён шлюбаў, новы чыгуначны вакзал і аўтатранспартны парк ПКС, горад атрымае новую бальніцу і дом пенсіянераў, вялікую пякарню магутнасцю ў 9 тон на суткі, фабрыку перапрацоўкі ляснога руна, аўтаматычную тэлефонную цэнтраль, банк і дом рамясла.

Гайнаўка на працягу сваёй 50-гадовай гісторыі з глухой пушчанскай вёскі ў перыяд санацыйнай улады вырасла ў цэнтр пралетарыяту, а ў другую чвэрць стагоддзя за перыяд Народнай улады пераўтварылася ў рэгіянальны цэнтр культуры і важнае звяно прамысловасці краіны.

* * *

# НЕКАЛЬКІ СЛОЎ АБ ГАРАДКУ

*З бацькаўскай вёскі Мастаўляны*
*Мо нераз праз Гарадок*
*Ішоў з наборам палымяным*
*«Мужыцкай праўды» у Беласток...*
*«Кастусю Каліноўскаму».*
*Віктар Швед*

Гарадок з'яўляецца сёння вёскай, якая знаходзіцца ў 36 км ад Беластока, над рэчкай Супрасль у Беластоцкім павеце. Праўдападобна, што ўзнік ён у пераломны перыяд XI і XII стагоддзяў як абаронча гранічны гарадок племені дрыгавічоў. Пасля 1279 года траціць сваё абарончае значэнне і з'яўляецца толькі прыпынішчам на гандлёвым шляху. Крыжаваліся тут два шляхі: з Бельска ў Гродна і з Мінска праз Ваўкавыск у Сураж або Заблудава. Пасля 1466 года перастае быць «гаспадарскім местам» (горадам) і пераходзіць у рукі Х а д к е в і ч а ў.

На пераломе вякоў XV і XVI з'яўляецца галоўнай сядзібай і бытцам сталіцай іх земляў, якія ахоплівалі каля 800 квадратных кіламетраў. Сядзіба Х а д к е в і ч а ў знаходзілася на ўзгорку, дзе раней быў абарончы гарадок. Фундаваны тут Х а д к е в і ч а м і ў 1498 годзе манастыр базіліянаў ужо праз два гады перамясціўся ўглыб пушчы над сярэдняй Супраслю, даючы пачатак цяперашняму мястэчку Супрасль.

Дапускаецца, што гарадскія правы атрымаў Гарадок у палове XVI стагоддзя. Ні лакацыйны акт, ні гарадскія правы прызнаны Гарадку, не ведамы. Пасля 1795 года Гарадок належыць да Прусіі, а ад 1807 года — да Расіі. Каля 1840 года на правым беразе Супраслі ўзнікаюць першыя прадпрыемствы тэкстыльнай прамысловасці. Аднак, нягледзячы нават на збудаванне чыгуначнай лініі Беласток—Баранавічы ў 1887 годзе, Гарадок не стаў большым прамысловым цэнтрам, налічваў усяго каля трох тысяч жыхароў.

Паўстанне прамысловасці павялічыла лік рабочых, а гэта пабудзіла іх да рэвалюцыйнай дзейнасці. Падчас студзеньскага паўстання ў 1863 годзе ў сутычцы з царскімі войскамі ў ваколіцы Гарадка, каля Пілатоўшчыны, праявіў геройства Валеры В р у б л е ў с к і, настаўнік

лясніцкай школы ў Саколцы, пазнейшы генерал Парыжскай Камуны і адзін са стваральнікаў І-га Інтэрнацыянала.

Рабочыя Гарадка прымалі актыўны ўдзел у забастоўках і рэвалюцыйных выступленнях у 1895 годзе, 1905—1907 г.г. і 1918—1939г.г. Рэвалюцыйны рух назіраецца асабліва ў гадах 1918—1939. У 1918 годзе арганізуецца Савет рабочых і сялян, а ў 1920 годзе — Раённы рэвалюцыйны камітэт. У міжваенны перыяд Гарадок і яго ваколіцы сталі адным з важных цэнтраў камуністычнага і рабоча-сялянскага руху. Садзейнічалі гэтаму ідэі Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, а таксама цяжкае эканамічнае становішча рабочых




*Першамайская маніфестацыя ў Гарадку.*

і сялян. Дзейнічалі тут ад 1923 года Камуністычная партыя Заходняй Беларусі (КПЗБ), Камуністычны саюз моладзі Заходняй Беларусі (КСМЗБ), Беларуская сялянска-работніцкая Грамада і даволі моцны прафсаюз тэкстыльшчыкаў. Па гэтай прычыне называлі яго **«Чырвоны Гарадок».**

Калі гітлераўцы акупавалі Беласточчыну, а ў тым ліку і Гарадок пачалі праводзіць арышты сярод мясцовага насельніцтва. Першымі ахвярамі гітлераўскіх бандытаў былі камуністы Гарадка і яго ваколіц. Гэта былі Уладзімір Дзярманскі, Янка Дзярманскі, Янка Кананчук і яго сястра Галена Кананчук з Гарадка, Янка Дзянісюк з Залук, Янка Трахімчук і Васіль Тарасевіч са Случанкі, Юляк Дудзіч з Бялявічаў і Аркадзь Дарашкевіч з Меляшкоў. Арыштаваных збітых і змучаных, праз некалькі дзён гітлераўскія каты расстралялі. Гэта не супакоіла гітлераўскіх злачынцаў, яны праводзілі далей арышты, каб забяспечыць сваё панаванне, каб зняволіць насельніцтва і падпарадкаваць яго **«Вялікай Германіі».**

У адказ гітлераўскім акупантам камуністы Гарадка і навакольных вёсак арганізавалі партызанскі рух. У 1941 годзе арганізатарамі партызанскага руху ў ваколіцах Гарадка былі Сцяпан Кандрусік і Аляксандр Майсак з Гарадка, Ёзік Храноўскі і браты Ёзік, Міхал і Уладзімір Храноўскія з Дзернякова, Ёзік Бурса з Навасёлак, Янка Негерыш з Пілатоўшчыны, Уладзімір Карпюк са Страшава, Кастусь Кісляк з Меляшкоў і Хведар Парфенюк з Залук, які быў камандзірам партызанскага атрада.

Насельніцтва Гарадка і наваколля аказвала ім вялікую дапамогу не толькі ў галіне эканамічнай, яно інфармавала аб дзейнасці гітлераўцаў у ваколіцы. Акрамя таго дзейнічаў у ваколіцы атрад імя «Кастуся Каліноўскага», камандзірам якога быў Аляксей Карпюк са Страшава, а начальнікам штаба Змітар Карповіч з Грыбаўцоў, ведамы на Беласточчыне ў сучасны момант дзеяч прафсаюзаў. Камісарам гэтага атрада быў Кастусь Карповіч з Гарадка, які ў 1946 годзе загінуў ад куляў бандыцкіх НСЗ у павеце Ломжынскім.

У сакавіку 1943 года за сувязі з партызанамі гітлераўскімі акупан-



*Помнік-абеліск у Гарадку.*

тамі было арыштавана каля 60 асоб з Гарадка і яго наваколля. Большасць арыштаваных гітлераўцы расстралялі, а некалькі асоб адаслалі ў канцэнтрацыйны лагер у Штутгофе, з якога вярнулася некалькі асоб, гэта былі Іван Т р а х і м ч ы к і Аляксандр Л е б я д з і н с к і з Гарадка, Вінцук К а р п ю к са Страшава і іншыя.

За гады акупацыі гітлераўцы знішчылі і абрабавалі ў 100% прамысловасць Гарадка. Адразу пасля вызвалення насельніцтва актыўна падтрымлівала народную ўладу. Арганізаваліся ячэйкі ППР. Першымі іх членамі былі былыя КПЗБ-оўцы і больш свядомыя жыхары навакольных вёсак. З мэтай абароны Гарадка ад рэакцыйных банд быў створаны 50-асабовы атрад ОРМО. Партыйныя актывісты і моладзь — члены ЗМП ідуць у міліцыю, органы бяспекі, КБВ, займаюць пасады ў дзяржаўнай адміністрацыі. Там, дзе трэба было забяспечыць інтарэсы народнай улады, заўсёды знаходзіліся жыхары Гарадка.

У пасляваенны перыяд у Гарадку адбыліся вялікія змены. Гарадок развіваецца. У 1950 годзе пабудавалі трыкатажную фабрыку, у якой працуе зараз каля 400 асоб. 1957 год з'яўляецца пачаткам рэгуляцыі ракі Супрасль. Сяляне самі пачалі капаць меліярацыйныя равы, з мэтай загаспадарання забалочаных сенажацяў. У 1959 г. быў пабудаваны асяродак здароўя, працуе цяпер 3 лекараў і 2 дэнтыстаў. Новую школу пабудавалі ў 1960 годзе. Ад 1961 года дзейнічае водная суполка. У Гарадку зараз працуе кафлярня, млын, прадпрыемства газіраваных напіткаў. Пабудавана 3 жылыя дамы для амаль 50 сем'яў. Усё шырэй развіваецца індывідуальнае будаўніцтва. ГС пашырае гандлёвую базу. Пабудаваў новыя склады. Зараз пры грамадскай падтрымцы (звыш 60 тысяч зл.) будуецца прадпрыемства металічных вырабаў.



*Падставовая школа ў Гарадку.*



Асаблівай увагі заслугоўвае грамадская ініцыятыва пабудовы Дома культуры. Тут яна праявілася найярчэй. Гаворачы аб вялікім прыгожым Доме культуры, якога Гарадку можа пазайздросціць не адзін павятовы горад, нельга не ўспомніць аб чалавеку, які яго «выпесціў». Гэтым чалавекам з'яўляецца Іван Т р а х і м ч у к. Да вайны дзейнічаў ён у прафсаюзе тэкстыльшчыкаў. Падчас акупацыі супрацоўнічаў з савецкімі партызанамі. 16 сакавіка 1943 года быў арыштаваны немцамі і сасланы ў канцэнтрацыйны лагер у Штутгофе. Пасля вызвалення лагера ўступіў у Савецкую Армію, а ў снежні 1945 года быў дэмабілізаваны і вярнуўся ў родны Гарадок. Пачаў працаваць у гміннай спулдзельні «Самапомач хлопска». Адначасова быў выбраны сакратаром ячэйкі ППР. Потым перайшоў на працу ў радыёвузел, дзе працуе па сённяшні дзень.

Ініцыятыва пабудовы Дома культуры нарадзілася ў 1960 г. Гарадок хацеў мець у сябе месца для культурнага жыцця і адпачынку. Гарадоцкую ініцыятыву падтрымалі ваяводскія і павятовыя ўлады. Арганізаваўся грамадскі камітэт пабудовы ў складзе: Іван Т р а х і м ч у к — старшыня, Анатоль К а н д р у с і к — намеснік, Ніна Ц ы в а н ю к — сакратар, Язэп Ц ы в а н ю к — скарбнік і намеснік старшыні



*Пачатак будовы Дома культуры імя К. Каліноўскага ў Гарадку.*



*Дом культуры імя К. Каліноўскага ў Гарадку.*



*У бібліятэцы, якая знаходзіцца ў Доме культуры імя К. Каліноўскага ў Гарадку.*





*Новапабудаваны жыллёвы дом у Гарадку.*



*Гарадок. Зарэчанская вуліца: новыя дамы, тратуары і вулічнае святло.*

ППРН Яфрэм А л е к с і н. Гэты камітэт сабраў розных складчын 78.127 злотых.

У чэрвені 1962 года была перададзена дакументацыя, выканэчая бясплатна калектывам архітэктараў пад кіраўніцтвам інжынера М. Л у б н е ў с к а г а. У гэтым часе будаўнікі прыступаюць да працы. Іван Т р а х і м ч у к кіруе будовай, інжынер М. Л у б н е ў с к і надзарус. Вартасць грамадскай працы і грошай перавышае 500 тысяч злотых, а агульная вартасць дома — 3.140.000 злотых. Грамадскі камітэт пабудовы помніка **«К. Каліноўскаму»** пры Галоўным праўленні Беларускага грамадска-культурнага таварыства перадаў таксама 160.000 злотых.

6 чэрвеня 1965 года адбылося ўрачыстае адкрыццё Дома культуры ў Гарадку ў прысутнасці прадстаўнікоў цэнтральных, ваяводскіх, павятовых улад і грамадскасці. Дому прысвоена імя нацыянальнага беларускага героя — **Кастуся Каліноўскага.**

Дом прадстаўляе сабой камбінат культуры. Ёсць там глядзельная зала, у якой могуць выступаць вялікія мастацкія калектывы, сістэматычна прыязджае тэатр з Беластока, дэманструюцца фільмы. Кіно мае шырокі экран. Знаходзяцца тут клуб-кавярня, бібліятэка, чытальня, танцавальная і тэлевізійная залы. Пры доме культуры дзеці вучацца музыкі, дзейнічаюць мастацкія калектывы. Арганізуецца мемарыяльны музей Кастуся Каліноўскага.

Факты паданыя ў кароткім артыкуле не могуць адлюстраваць велічы грамадскай працы насельніцтва Гарадка. Гэта было грамадчае намаганне, коштам уласнага вольнага часу, коштам адпачынку. Не абышлося без цяжкасцей і клопатаў. Узнагародай за гэтую працу ёсць цэнтр культурнага жыцця Гарадка і трывалы помнік свайму земляку Кастусю Каліноўскаму (М.Л А.К.)

---

*Апрацавана на падставе архіўных дакументаў грамадскай бібліятэкі ў Гарадку, Беластоцкага павета. «Манаграфія мясцовасці Гарадка, Беластоцкага павета» — мгр Рышард КРАСЬКО.*

САКРАТ ЯНОВІЧ

# „Месту" Крынкі 400 год 1569—1969 г.г.

Першыя ўпамінанні аб Крынках, Сакольскага павета, адносяцца да першай паловы XV стагоддзя. У 1434 годзе кароль Польшчы Уладзіслаў Ягайла сустрэўся ў Крынках з вялікім князем літоўскім Зыгмантам Кейстутовічам. Гэта быў вялікі палітычны факт таго часу, які прынёс дагэтуль няведамай мясцовасці вядомасць. Падчас сустрэчы абодва манархі аднавілі палітычную і мілітарную ўнію паміж Польшчай і Вялікім Літоўскім Княствам. Быў гэта фінал сустрэчы. У першыя дні мела месца вельмі ўрачыстае аб'ўленне Кейстутовіча вялікім князем літоўскім, і гэтую радасную вестку павязлі з Крынак каралеўскія і княжаскія слугі на Літву і ў Польшчу.

Польскі гісторык др Е. В і ш н е ў с к і дапускае, што ў Крынках быў раней драўляны замак, у якім затрымліваліся купцы на вялікім шляху з Літвы ў Польшчу, ад Вільні цераз Гродна, Адэльск, Крынкі, Бельск да Брэста і далей, у напрамку Кракава. На захад ад Крынак, да рубяжоў Бельскай Зямлі і багнішчаў Нарвы ды Бобры, цягнуліся бязлюдныя пушчы — дзікая зялёная граніца паміж Мазоўшам і Літвою. У крыжацкіх апісаннях шляхоў ваенных паходаў на Русь у пачатку XIV стагоддзя — пасля вынішчэння яцвягаў у канцы XIII стагоддзя, каля 1282—3 гадоў — зазначаецца, што першыя паселішчы сустракаюцца ў далінах Нёмана і Свіслачы, бліжэй Горадні (Гродна). Глухая сцяна пушчаў падыходзіла ўпрытык аж да паплавоў Свіслачы, паблізу якіх размешчаны цяперашнія Крынкі.

У 1509 годзе кароль З ы г м а н т I дае герб «месту Крынки», а крынчане называюцца мяшчанамі. Магчыма, што населены пункт існаваў тут ужо некалькі стагоддзяў, а мо і больш. Аўтары працы «Miasta Polskie w Tysiącleciu», I том, на стар. 266 сцвярджаюць, што Крынкі ўжо ў XV ст. з'яўляліся значным паселішчам...

У Літоўскай Метрыцы — зборы дакументаў Вялікага Літоўскага Княства — існуе дакумент пад назваю «Потвержение Гринашку Шо-

л у х и н у купли его дворца Крынковского в Городыском повете» з прыблізнай датай 1518—23 г.г. Магчыма, цяперашні «двор» з'яўляецца нейкім прашчурам Грынашкавага ўладання? З гэтым дакументам цікава супаставіць яшчэ адзін дакумент з каралеўскім подпісам, складзены 23 ліпеня 1518 г. у Кракаве — «Застава Старосте Городенскому Пану Юрию М и к о л а е в и ч у Дворов Городенских Озер а Крынок в Тысечи копах грошей». З гэтага дакумента вынікае, што кароль узамен за тысячу копаў грошаў літоўскіх, якія якраз спатрэбіліся яму, заставіў гродзенскаму старасце Р а д з і в і л о в і ч у (Р а д з і в і л у) двор Крынкі «...совсими людьми тых Дворов Наших путными и даными и тяглыми и з конюхи и зстарци и злони и Осочники и з Соленики и со всими иными людьми тых Волостей Наших и з их всими Службами и з даньми грошовыми и Медовыми и бобровыми и куничными...». Трэба заўважыць, што гэты факт датычыць таксама нейкага двара «Озер», мабыць, у ваколіцы цяперашніх Малых і Вялікіх Азяранаў, адлеглых ў дзесяці кіламетрах ад Крынак, над рэчкаю Свіслач...

У 1540 годзе кароль пацвердзіў штотыднёвы торг у Крынках. Сведчыць гэта аб гаспадарчым развіцці не толькі самых Крынак але таксама — а мо і перад усім — аб засяленні і загаспадаранні Крынкаўскай пушчы. У гэты перыяд узнікла большасць цяперашніх вёсак Сакольскага павета. Каланізацыя ішла ад Гродна, тады званага, Горадня. *Тадышняя горадзенская каланізацыя пушчаў сягнула далёка* за Крынкі, дайшла да багнаў Бобры, Бярозавай, Чорнай і Нарвы, устанаўляючы такім чынам польска-беларускі этнічны рубеж.

Двор Крынкі ў 1533 годзе каралева Бона выкупіла ад заставу Юрыю Р а д з і в і л о в і ч у. У пазнейшыя гады энергічная каралева правяла на гэтых землях вельмі важную сельскагаспадарчую рэформу, так званую валочную меру, закончаную каля 1557 года. У выніку гэтай меры была ўведзена трохпольная сістэма апрацоўкі зямлі (камасацыю земляў у трох кавалках, трэці кавалак — ча «папар», аблог), а раскінутая па ваколіцах забудова была згуртавана ў форму вёсак з вуліцай, ды пашырана паншчыну і чыншы.

Пад 1560 год былі ўжо такія вёскі, як Кнышэвічы, Сукавічы, Гаркавічы, Верхлес і Азяраны, званыя асоцка-стралецкімі вёскамі, якіх галоўным абавязкам было пільнаванне Крынскай пушчы, а ў выпадку Азяранаў — дапамога ў княжаскіх ды каралеўскіх паляваннях. Малыя Азяраны, званыя тады Новікі, лічыліся паншчыннай вёскай, а таксама Рудакі і бліжэй невядомыя Начэвічы, недзе каля Плебанаўцаў, уласнасці плебана крынкаўскай каталіцкай парафіі, заснаванай у 1522 годзе. (царкву пабудавана ў 1505 г.).

Чыншавымі вёскамі былі тады — Нарэйкі, Скраблякі, Саннікі, Крушыняны і бліжэй невядомыя — Жамойдзь, Каладзёжная, Бярозавая, ды Вечаневічы, дзесьці каля Кудрычаў. Ужо існавалі тады таксама — Лужаны, Хамутова, цяпер Коматаўцы, Парэчча, Чуйміцы (Цюмічы), Трэйглы (Трайглі), Жылічы, Баброўнікі, Ласіна — хіба Ласіняны, Кундзічы, заселеныя баярамі Д з я ж к е в і ч а м і, Кудрычы, заселеныя баярамі К у д р ы ч а м і, Габяты — літоўскіх баяраў Г а б я т а ў, Шчасновічы, Піражкі, заселеныя крынкаўскімі агароднікамі, Грыбоўшчына — назва ад беларускага баяра Г р ы б о ў с к а г а, Уснар — ад літоўскіх баяраў У с н а р с к і х, цяпер С н а р с к і х, Паплавы (Юраўляны).

Самыя Крынкі ў *той час разрасліся* да значнага гарадскога цэнтра з вялікім абшара земляў. У «обрубе местских» (гарадскіх) іх зямель знаходзіліся такія вёскі, як — Лапічы, Калодна, цяпер Хлодныя Будкі, Лішчанскія (Лішчаная), Азяранскія (Азерскія), Малы Востраў (Астровак) і Вялікі Востраў, цяпер Паўночнае, Паўднёвае ды Новае Вострава, званае Новай Вёскай.

Можна з упэўненасцю сказаць, што мнагалюдна было ў торговыя дні ў тагачасных Крынках «залатога веку».

22 лістапада 1569 года ў каралеўскім паляўнічым замку ў Кнышыне, кароль польскі, вялікі князь літоўскі Зыгмант А ў г у с т даў Крынкам магдэбургскія гарадскія правы — і герб ЛЬВА. Дало гэта незалежнасць Крынкам ад паноў і магчымасць стварэння ўласнай, крынкаўскай улады на чале з бурмістрам. У выпадку несправядлівасцей крынкаўчане маглі адклікацца аж да самога караля. Ад гэтага часу яны лічыліся каралеўскімі мяшчанамі, людзьмі вольнымі, падпарадкаванымі толькі войту гэтага «места» і бурмістру сваіму спасярод сябе паводле звычаяў «меставых» (гарадскіх) Вялікага Літоўскага Княжаства выбранаму. А бурмістрам павінен быць чалавек, які добра ведае права нямецкае (магдэбургскае) і здавён-даўна жыве ў Крынках! Чаго яшчэ даведаліся крынкаўчане слухаючы каралеўскага прывілею, хіба публічна прачытанага на рынку пісарам, які несумненна карыстаўся старабеларускай мовай, абавязваючай у Вялікім Княстве Літоўскім? «..Мы, *Жыгмонт* А в г у с т, *Божию Милостию Король Польский, Великий Князь Литовский*»... дазваляем на чатыры кірмашы ў год, прыблізна, на Вялікдзень, на Ганну, на Багача і ў Міколу, а таксама на штотыднёвыя кірмашы (торгі) у суботы, якія маюць адбывацца згодна са звычаямі ў Княстве; а ўсім паасобку купцам, фурманам, крамарам, рамеснікам, мяшчанам, сялянам і ўсім іншым людзям адусюль дазваляецца прыходзіць, прыносіць тавары, прадаваць, купляць у торговыя дні... меркай да збожжа мае быць кадушка, у якой змяшчаецца чатыры корцы кракаўскай меры.

Лазні пры хатах забаронена стаўляць, павінна быць адна ўсім, збоку горада для бяспечнасці ад агню, таксама склады і бровары будаваць па-за «местам», а коміны ў хатах мяшчан маюць быць мураваныя, вуліцы дагледжаныя, брукаваныя, масты недзіравыя... Словам, справы актуальныя і па сённяшні дзень! У прывілеі ўпамінаецца аб збудаванні ратушы на рынку, а ля падножжа ратушы дазваляецца на карчму, на карысць агульную, і для складання ды продажу розных тавараў, *а чынш ад таго ўсяго ідзе на патрэбы Крынак*. Апрача таго, умацаваць грэблю пры млынах на рэчцы Крынцы і сваім коштам буда-

ваць дарогі ды гасцінцы вялікія вакол горада «на вечные часы».

Да «места» Крынкі не належалі: двор, ставы, саджалкі, некаторыя землі.

Войт, яго ўрад, меў функцыі паліцыйныя, праследваў крымінальных злачынцаў, браў чыншы, а бурмістр, яго ўрад, меў функцыі цывільныя, адміністрацыйныя: судзіць і караць згодна з магдэбургскім правам. Войт з'яўляўся прадстаўніком інтарэсаў дзяржавы, а бурмістр — інтарэсаў горада («места»).

Прывілей, за подпісам рукі каралеўскай, спісаў «...Саврин Война, писар Великого Княжества Литовского». Гэты ж Саўрын Вайна больш дзесяці год раней праводзіў на Крыншчыне валочную меру, супольна з прысланымі сюды каралевай Бонай «мярнічымі», як сказалі б мы цяпер.

Прыблізны лік насельніцтва ў Крынках дасягаў вельмі вялікага ў тыя часы ліку каля 2 тысяч асоб. З пазнейшых гістарычных крыніц вынікае, што ў 1679 годзе Крынкі складаліся са «Старого Места» (3 вуліцы), і «Нового Места» (2 рынкі і 10 вуліц), да горада належала 166 валок зямлі, было 144 мяшчанскія сем'і, у іх ліку 21 гандляроў і 35 рамеснікаў — між імі, 15 шаўцоў. Змяншэнне насельніцтва адбывалася ў рэзультаце ўкраінскіх войнаў і шведскага нашэсця, гарады былі разбураны, вёскі заняпалыя.

Дзеля зразумення характару людзей Крыншчыны неабходна ведаць, што масавае засяленне тых земляў адбывалася ў эпоху ўжо вельмі моцнага націску рымска-каталіцкай палітыкі, у выніку якой не дайшло тады да збудавання сеткі цэркваў — як сталася гэта на Бельскай Зямлі, скаланізаванай некалькі стагоддзяў раней, яшчэ ва ўмовах поўнай рэлігійнай талеранцыі. Прытым, у загаспадараванні Крыншчыны — і далей, за паплавы верхняй Сакалды ды Ласосны — прымаў удзел многалікі іншаверны балтаўскі элемент, пераважаючы ў некаторых ваколіцах. Зараз знаходзіць гэта цікавае адлюстраванне, між іншым, у папулярных тут неславянскіх прозвішчах балта-літоўскага паходжання, як: Радэль, Карвель, Кішкель, Скроўба, Загроба, Шаціла, Шока, Дандзіла, Трэйга. Неславянскія назвы і многіх вёсак, як: Шудзялава, Нетупа, Трайглі, Уснар, Слоя, Сакалда.

Польскі вучоны сусветнай славы, Ян *Чэканоўскі*, у сваёй кніжцы «Człowiek w czasie i przestrzeni», выпушчанай масавым тыражом у 1967 г., падсумоўваючы дагэтуляшнія навуковыя дасягненні, піша на стар. 195 аб вельмі выразных рэліктах колішняга балта-яцвяжскага насельніцтва ў Сакольскім павеце. Вучоны мае на ўвазе незвычайна высокі тут працэнт (61,5) нардычнага тыпу, характэрнага балтам. Несумненна, пасля крывавага разгрому яцвяжскіх цэнтраў за Бобраю шмат яцвягаў знаходзіла схованішча і ратунак ад крыжаносцаў у пушчах над Чорнай, Сакалдою, Супраслю, нават за Свіслаччу, пад Ваўкавыскам, дзе яшчэ ў познім сярэдневякоўі знаходзіліся вёскі яцвяжскіх недабіткаў.



Цяперашнюю форму Крынкам прыдаў гарадзенскі староста Тызенгаўз, у XVIII стагоддзі. Пабудаваў ён шасцікутны рынак, ад якога вуліцы ішлі праменіста ва ўсе бакі. Тызенгаўз, падскарбі княства літоўскага, прысвяціў многа ўвагі Крынкам, развіваючы не толькі будаўніцтва дамоў і дарог, але і рамяство, якое пасля перарасло ў мануфактуры.

У не так далёкім мінулым, паўтары стагоддзі таму назад, напрыклад, цяперашні ваяводскі Беласток быў малым ў параўнанні з Крынкамі, якім за гэты час прыбыла здаецца толькі Новая Вуліца, Алея Школьная, Акопы, Пагулянка і невялікія перыферыйныя канцоўкі ўнізе вуліц Сакольскай, Плянтанскай, Піражкоўскай, Касцельнай — ад Новай, і Гродзенскай. Межы тагачаснага Беластока канчаліся ў 150—200 метрах ад сучасных рынкаў Старабаярскага і Касцюшкі. (Studia z historii budowy miast, W-wa, 1955 г.).

Пасля разбору Рэчыпаспалітай руска-пруская граніца была ўстаноўлена недалёка на захад ад Крынак, ля Піражкоў. Пазбаўленыя такім чынам найбольш жыццёвай часткі свайго рэгіёна, дзе з'яўляліся бесканкурэнцыйнымі побач вясковай тады Саколкі ці Кузніцы, Крынкі пачалі занепадаць. Многія крынкаўчане займаліся кантрабандай і нелегальным гандлем коньмі цераз граніцу. Царыца Екацерына II падарыла Крынкі рускаму вяльможы Паўлу Дынаву.

Першыя прамысловыя прадпрыемствы паявіліся ў Крынках пасля 1831 года і ўстанаўлення на рацэ Нарве — на захад ад Беластоку — мытнай (цэльнай) граніцы паміж Каралеўствам Польскім і Расійскай Імперыяй. Граніца існавала 20 год, да 1850 года. Прамыслоўцы Лодзі і Варшавы, каб не плаціць мыта за ўвоз тавараў у Імперыю, пераносілі свае заводы за граніцу, у Кнышын, Крынкі, Васількова, Беласток, Супраслю, Міхалова. Каля 1840 г. паявіліся ў Крынках першыя тэкстыльныя мануфактуры, а ў 1860 г. — вялікая мануфактура Ліпхарта, у якой працавала 106 рабочых. Крызіс у гадах 1883—85 — які быў выкліканы канкурэнцыйным, бо вельмі танным чыгуначным транспартам, што якраз паявіўся тады, а таксама ўвядзеннем у прадукцыю паравых машын, у выніку чаго рукадзельная праца перастала аплачвацца, — прычыніўся да банкроцтва мануфактураў, на якіх месцы паявіліся гарбарні.

У 1905—6 гадах крынкаўскія рабочыя праславіліся на ўсю Расійскую Імперыю тым, што перанялі ў Крынках уладу ў свае рукі, стварылі, так званую, Крынкаўскую рэспубліку. Кіравала рабочымі вельмі актыўная ячэйка нелегальнай Сацыял-дэмакратыі Каралеўства Польскага і Літвы (СДКПіЛ). У беластоцкім музеі рэвалюцыйнага руху знаходзяцца цікавыя матэрыялы тайнай агентуры царскай паліцыі адносна рэвалюцыйнай дзейнасці ў Крынках. У 1914 годзе пражывала тут каля 10 тыс. асоб, а ў 1931 г. — усяго 5.786 асоб. Лік насельніцтва безупынна памяншаўся. Зараз ён найменшы, амаль удвая меншы чым у міжваенны час. Гэта ў асноўным вынік поўнага фізічнага знішчэння аку-



*У Крынкаўскім парку адпачынку.*



*Вучні Крынкаўскай школы. Год 1945.*



пантамі яўрэйскай часткі насельніцтва. Таму ў сучасны момант ў Крынках жыве насельніцтва амаль выключна беларускага паходжання.

З прыходам ненавісных фашыстоўскіх акупантаў перастала існаваць хаця бы якое-кольвек школьніцтва. Кожнаму настаўніку пагражаў расстрэл назат за тое, што ён адукаваны, а не цёмны чалавек. Патайное навучанне дзяцей у Крынках пачалося, бадай, позняй восенню 1943 года — у заняпалай «хаце Монькі» пры Гродзенскай вуліцы, куды зыходзіліся дзеці таксама з вуліц Сакольскай, Плянтанскай разам штосьці каля 10—15 дзяўчынак і хлопчыкаў. Вучыў бліжэй невядомы рабочы пякарні, строгі брунет, «Сяргей», якога час ад часу замяняў ананімны яго калега.

У пасляваенны час Крынкі адбудаваліся, асабліва, за апошнія дзесяцігоддзе. Увайну быў зраўнаны з зямлёю вялікі цэнтр горада і большасць гарбарняў, — уцалелі ўскраіны мястэчка. Зараз адноўлена гарбарную прамысловасць, з якой жыве тут прыблізна штокацвёртая сям'я. Крынкі ізноў сталі найбольшым прамысловым цэнтрам Сакольскага павета, харашэюць яны: вялікая школа, прыгожы парк адпачынку, адноўленыя вуліцы, новыя дарогі, пастаяннае кіно, святліцы, клуб, узорная ветэрынарная лячэбніца, добраўпарадкаваная бальніца і г.д. У бліжэйшай будучыні Крынкі стануцца значным цэнтрам механізацыі сельскай гаспадаркі, агранамічнай культуры і сельскагаспадарчай асветы; будуюцца вялікія гандлёвыя склады і эстэтычныя павільёны. Плануецца — купальны басейн, лазня і іншыя камунальныя збудаванні.

400-годдзе Крынак павінна стацца аказіяй да таго, каб не толькі адзначыць яе, але ўнесці канкрэтны ўклад у далейшую разбудову «места», добраўпарадкаванню яго вуліц, пляцоў і іншых публічных аб'ектаў.



*Кнігарня.*



*Заняткі ў бібліятэцы.*



Дац. др АНДРЭЙ БАРВІЮК

# БЕЛАСТОЦКАЯ ВЫШЭЙШАЯ ІНЖЫНЕРНАЯ ШКОЛА

Паміж паасобнымі галінамі гаспадаркі адбываюцца складаныя пераплывы насельніцтва, розныя ў розныя перыяды з пункту гледжання як маштабу, так і напрамку. У кожным ваяводстве ўсе працуючыя падзелены на розныя заняткі, розныя віды працы. Чым больш развітае ваяводства, тым большая наглядаецца там разнастайнасць гэтых заняткаў. Гаспадарчае развіццё вядзе за сабой усё большы падзел грамадскай працы, усё большую прафесіянальную спецыялізацыю. А гэта мае вялікі ўплыў на павышэнне прадукцыйнасці працы. Такім чынам мы даходзім да вываду, што працэсы развіцця выклікаюць змены ў грамадска-гаспадарчай структуры ваяводства, яркім прыкладам якіх з'яўляецца перш за ўсё пераўтварэнне ў структуры прафесіянальна актыўнага насельніцтва.

Гэтыя працэсы маюць таксама і іншы аспект. Менавіта, абапіраючыся на іх, можна меркаваць аб павышэнні прафесіянальнай кваліфікацыі насельніцтва, а таксама аб узросце прадукцыйных сіл. Іх дзейнасць датычыць не толькі мінулага і сённяшняга дня. Рост прафесіянальнай кваліфікацыі грамадскасці мае вялікае патэнцыяльнае значэнне для развіцця раёну ў будучыні.

Пераўтварэнні ў эканамічнай структуры Беласточчыны на працягу ўсяго пасляваеннага перыяду характарызуюцца выразнымі зменамі ў прафесіянальнай структуры насельніцтва.

На фоне прагрэсіўных пераўтварэнняў вельмі выразна відаць значэнне Вышэйшай інжынернай школы ў працэсе падрыхтоўкі высокакваліфікаваных тэхнічных кадраў. Хуткае развіццё гэтай установы было неабходна з увагі на патрэбы ў галіне тэхнічных кадраў для гаспадаркі хутка развіваючайся Беласточчыны. Сёння беластоцкая тэхнічная «Alma Mater» вучыць сыноў і дочак рабочых і сялян, а таксама працоўнай інтэлігенцыі з усіх паветаў Беластоцкага ваяводства. У сценах гэтай вышэйшай навучальнай установы атрымліваюць таксама прафесію студэнты, якія прыехалі з іншых ваяводстваў **Народнай Польшчы.** Вучацца тут на стацыянарным, вячэрнім і завочным аддзяленнях.



*У лабараторыі хіміі будаўлянага факультэта.*

Якія ж напрамкі прафесіянальнай падрыхтоўкі ёсць у Беластоцкай Вышэйшай інжынернай школе?

На стацыянары:

**1) механіка — са спецыяльнасцямі: а) тэхналогіі будовы машын, б) эксплуатацыі машын і сельскагаспадарчага абсталявання;**

**2) электратэхніка — са спецыяльнасцю: прамысловая электратэхніка;**

**3) кантынентальнае будаўніцтва са спецыяльнасцю ў аб'ёме гарадскога і прамысловага будаўніцтва.**

У бліжэйшыя гады ў Вышэйшай інжынернай школе прадугледжваецца стварэнне новых факультэтаў.

На вячэрнім і завочным аддзяленнях вучацца людзі, якія ўжо працуюць. На вячэрнім аддзяленні вучоба адбываецца так, як і на стацыянарным. Студэнт вячэрняга аддзялення абавязаны браць удзел у занятках, якія адбываюцца ў школе ў вячэрнія гадзіны (каля 15-ці гадзін у тыдзень). У сувязі з такой арганізацыяй вячэрняе аддзяленне ў асноўным прадугледжана для жыхароў Беластока або яго ваколіц, з якіх можна прыехаць на заняткі.

На завочным аддзяленні навучанне заключаецца ў асноўным у кіраванні самастойнай працай студэнтаў. Студэнт абавязаны браць удзел у занятках, якія адбываюцца ў школе ў суботу і нядзелю 2 разы ў месяц. У сувязі з гэтым завочнае аддзяленне прадугледжана ў асноўным для тых студэнтаў, што жывуць далей ад Беластока і не могуць прыехаць у школу часцей, чым раз у два тыдні. Завочна могуць вучыцца таксама жыхары Беластока; гэта датычыць у асноўным тых, хто вымушан з увагі на характар працы часта ездзіць у камандзіроўку і не мае магчымасці сістэматычна хадзіць на заняткі.

На завочным аддзяленні колькасць гадзін у семестры меншая, чым на вячэрнім аддзяленні, у сувязі з гэтым там выкладаецца толькі найбольш цяжкі матэрыял, а рэшту студэнт абавязаны вывучыць сам, карыстаючыся падручнікамі і пры дапамозе палітэхнічных выкладаў па тэлебачанню. Вучоба на завочным аддзяленні цяжэйшая, чым на стацыянарным, і патрабуе дысцыпліны і сістэматычнай працы.

Хацелася б закрануць тут яшчэ дзве праблемы. Першая датычыць агульнай арганізацыі навучання, другая — пастацям выпускнікоў Вышэйшай інжынернай школы.

Арганізацыя вышэйшага тэхнічнага навучання ў школе абапіраецца на праграме, якая выдзяляе два этапы. Першы этап прадугледжвае навучанне ў аб'ёме тэарэтычных прадметаў і часткова ў аб'ёме важнейшых тэхнічных прадметаў. Гэты этап ахоплівае два першыя гады вучобы, дзе праграмы для розных факультэтаў вельмі падобныя.

Другі этап ахоплівае ўжо прадметы выключна спецыфічныя на кожным факультэце. Уласна кажучы, своеасаблівасць вучобы ў вышэйшых тэхнічных навучальных установах заключаецца ў розным аб'ёме



*Заняткі пры апрацоўцы металу.*

і характары праграм для паасобных груп дысцыплін, якія складаюцца на адукацыю інжынера. Час вучобы на стацыянарным аддзяленні — 4 гады, на вячэрнім і завочным аддзяленнях — 4,5 года. Пасля заканчэння вучобы былы студэнт атрымлівае ступень інжынера пэўнай спецыяльнасці. Гэта ўжо спецыяліст з вышэйшай тэхнічнай адукацыяй.

У датыхчасовым развіцці тэхнічнай «Alma Mater» у Беластоку можна было заўважыць, як узрастае колькасць выпускнікоў са званнем інжынера. Толькі на працягу 1956—1957 г.г. гэтае званне атрымала 420 асоб, у тым ліку 35 жанчын. Большасць выпускнікоў з'яўляецца выхадцамі гарадоў і вёсак Беласточчыны. Павялічваецца таксама колькасць студэнтаў. У 1956—57 навучальным годзе вучылася ўсяго 250 чалавек, а ў 1966—67 г.г., ужо 1315 студэнтаў. Ужо гэтыя факты сведчаць аб вельмі хуткім развіцці гэтай навучальнай установы.

Выпускнікі Вышэйшай інжынернай школы займаюць часта адказныя пасады ў прамысловасці, будаўніцтве, у гаспадарчай адміністрацыі. Яны з'яўляюцца не толькі добрымі спецыялістамі, але і грамадскімі дзеячамі. Вышэйшая інжынерная школа звяртае таксама ўвагу не толькі на тэхнічнае тэарэтычнае і практычнае навучанне, але і на грамадзянскае выхаванне. Выхаванне студэнтаў у духу добрага грамадзяніна адбывалася не толькі на занятках, але і дзякуючы дзейнасці грамадскіх і палітычных арганізацый гэтай навучальнай установы. Грамадства Беласточчыны можа, такім чынам, з даверам глядзець на далейшае хуткае развіццё Вышэйшай інжынернай школы ў Беластоку, можа быць упэўнена, што вучыць яна не толькі інжынераў, але і грамадскіх дзеячоў, мілуючых сваю краіну, свой горад і ваяводства.

---

**Палкоўнік Іван Анацік**

# ПА ДАРОГАХ ВАЙНЫ

(УСПАМІНЫ)



*ІВАН АНАЦІК — нарадзіўся ў 1922 годзе ў сялянскай сям'і ў вёсцы Сыпні, Сямяціцкага павета. Падчас II-гой сусветнай вайны ў радах Савецкай Арміі змагаўся ён з нямецкімі фашыстамі на савецкай зямлі, а потым у дэсантнай групе «ДАЛЬНІЯ» на роднай зямлі Бельскага, Гайнаўскага і Сямяціцкага паветаў, аб чым ён нам піша ў сваіх успамінах «Па ДАРОГАХ ВАЙНЫ».*

### ТАК ПАЧАЛОСЯ.

Нападзенне гітлераўскіх войск на Польшчу 1-га верасня 1939 г. было пачаткам другой сусветнай вайны. У гэты дзень пачаўся перыяд масавых праследванняў, забойстваў, гвалтаў, грабяжоў, таптання чалавечай годнасці, здрад, шантажоў, інтрыг, хабарніцтва і спекуляцыі — перыяд гітлераўскіх злачынстваў, якія памнажаліся кожны дзень, кожную гадзіну, кожную мінуту ў цэлай Еўропе паўсюдна і настолькі масава, што ўсе суды свету не мелі б магчымасці іх разгледзець.

У гэты дзень да васемнаццаці год не хапала мне аднаго дня. Быў яшчэ я занадта малады і ў вераснёвай абароне ніякага ўдзелу не браў.

19 снежня 1939 г. прыехаў я ў Бельск-Падляшскі і атрымаў працу ў аўтаінспекцыі. Былі гэта першыя самастойныя жыццёвыя крокі. Так мінуў 1940 год, праходзілі першыя месяцы 1941 года...

Перыяд працы пры савецкай уладзе зрабіў карэнны ўплыў на далейшы лёс майго жыцця. Маладосць, лёгкасць прысвойвання, адносіны з пэўнай катэгорыяй савецкіх людзей, іх ідэалагічны ўплыў, школа, — усё гэта мела велізарнае значэнне ў фарміраванні новага светапогляду.

## НАПАДЗЕННЕ

22 чэрвеня 1941 г. на світанні ўсё насельніцтва Бельска ўсхапілася на ногі. Магутныя выбухі артылерыйскіх снарадаў, якімі плюла нямецкая артылерыя недзе з захаду, паднялі людзей з пасцелі. Нямецкія фашысты напалі на СССР. Ізноў пачалася вайна, прынамсі не новая, гэта быў далейшы працяг той, якая пачалася 1-га верасня 1939 г. і прайшла лавінай па краінах заходняй і паўднёвай Еўропы.

Я вырашыў уцякаць з таварышамі на ўсход. Ехаў грузавіком у няведамае, не развітаўшыся з сям'ёй...

Мінск, 24 чэрвеня 1941 г. Я ляжаў у парку, прытуліўшыся да стогадовай таполі. Назіраў за небам. На яго блакітным фоне ляцелі ў напрамку горада дзесяткі гітлераўскіх бамбардзіроўшчыкаў, якія неслі гораду смерць і спусташэнне. Нягледзячы на шквальны агонь супрацьпаветранай артылерыі і кулямётаў, самалёты ішлі самкнутым строем. Пасля адарваліся чорныя пункцікі, свіст... гул выбухаў, які нарастаў, станавіўся ўсё больш магутным, так што зямля нават закалыхалася. Штомінута я падскакваў з зямлі, як мячык, і ападаў назад. Горад быў ахутан полымем, дымы пажараў засланілі неба...

Я адступаў далей на ўсход: Магілёў, Бранск, Гомель. У Гомель перабраліся рэспубліканскія ўлады Беларусі. Тут, у Гомелі, я ўступіў дабраахвотнікам у рады Чырвонай Арміі.

## БАЯВОЕ ХРЫШЧЭННЕ

Нямецкія калоны наступалі з Баранавіч на гарады: Асіповічы, Бабруйск, Любань, Жытковічы. Правае крыло нямецкай групоўкі «Цэнтр» намервалася абысці Пінскія балоты, ударыць у напрамку Калінкавіч, фарсіраваць Прыпяць, захапіць горад Мозыр і адкрыць вароты на Украіну. Загароджваючы дарогу гітлераўцам, Чырвоная Армія вяла крывавыя баі ў раёне Асіповіч, Глуска і ўздоўж ракі Птыш...

Рота, у якой я служыў, была накіравана з Гомеля ў горад Мозыр, адтуль нас павінны былі адправіць на фронт...

...Плывем Прыпяццю. Цёплая ліпнёвая раніца, кацеры спакойна рэжуць чорную ваду ракі, а ранішнюю цішыню парушае толькі крык балотнага птаства. Перад намі на паўночным беразе ракі бярозавы лес. Назіральнік з біноклем пры вачах уважліва назірае за берагамі. Усюды спакойна і раптам...



Лес ажыў. На кацеры пасыпаліся дзесяткі мін з мінамётаў, артылерыйскіх снарадаў, білі кулямёты. У першы, плывучы перад намі кацер трапіў артылерыйскі снарад — у падводную частку кармы. Кацер зарыўся дзёбам у ваду, выкінуў угару карму і зрабіў дзіўны абарот. Салдаты пасыпаліся ў ваду, як селядцы з вывернутай бочкі.

Усё гэта адбылося так знянацку і нечаканаа, а агонь ворага быў такі моцны і з блізкай адлегласці, што не было мовы аб нейкай абароне.

— У ваду! — крыкнуў мой сябра Ільяшук з Пружан, — трымацца разам і плысці да левага берага.

І мы даплылі, але не ўсе. Да змроку сядзелі мы ў прыбярэжным чароце. Вечарам сабралася нас каля дванаццаці. Мы накіраваліся назад у Мозыр...

## АДПЛАТА ЗА ПАРАЖЭННЕ

У Мозыры быў арганізаваны спецыяльны атрад камуністаў і камсамольцаў (я быў камсамольцам ад чэрвеня 1940 г.). Было нас каля пяцідзесяці. Камандаваў намі капітан, які да вайны быў цывільным і выконваў функцыю сакратара райкома партыі на Палессі. Наш атрад меў кулямёты, аўтаматы, гранаты, бутэлькі з бензінам і некалькі звычайных піл (як у дрывасекаў). Нас пагрузілі на машыны і давезлі аж да палескіх балот. Мы кружылі па багне, абмінаючы віры, пакуль не дабраліся да шашы Пінск-Мозыр. Камандзір даў заданне. Мы занялі пазіцыю ўздоўж шашы, зашываючыся ў балотную траву. З абодвух бакоў нашай пазіцыі было чуваць, як працавалі пілы. Гэта надпілоўвалі росшыя над шашой старыя, ссохшыя дубы.

Надыходзіў дзень. Час цягнуўся, а шаша ўсё была пустая. Атакавалі нас камары. Шыя і рукі пакрываліся пузырамі, якія вельмі свярбелі. Месца на засаду было выбрана вельмі ўдала. На супрацьлеглым баку шашы цягнуліся лясныя балоты, сярод балот — маленькія астраўкі, а на іх паваленыя, парахнеючыя, парослыя аксамітным мохам дрэвы. Вакол гэтых астраўкоў рос чарот, а далей цягнуўся зялёны пушысты дыван, які закрываў віры. Пад гэтым дываном хавалася халодная, як лёд, іржавая густая мазь, якая была гатова неміласэрна паглынуць кожную ахвяру, якая адважылася б узысці на дыван.

Пасля поўдня на шашы паказаўся бранявік, за ім другі, трэці, чацвёрты — усяго было іх восем. У канцы калоны ехалі чатыры грузавікі, загружаныя бочкамі, мяхамі і іншым інвентаром. Фашысты праходзілі перад намі, як на парадзе, і раптам...

Лес ажыў! На правым і левым крылах засады рынулі на зямлю падпілаваныя дубы — фашысты папалі ў засаду.

Заскрыпелі тармазы, машыны стоўпіліся ў кучу, з іх веж пасыпаўся агонь кулямётаў, а ўгару выстралілі ракеты.

Адначасова на нямецкія машыны пасыпаліся звязкі гранат, паляцелі бутэлькі з бензінам. На шашы ўсё захадзіла хадуном. Успышкі гранат і суправаджаючы іх гук выбухаў, звон разбіваемых бутэлек і з сыкам паўзучае па сталёвых тулавах машын полымя, крыкі і трэск кулямётаў, абсыпаючых фрыцаў градам куль.

Перапуджаныя фашысты выскаквалі з палаючых бранявікоў і грузавікоў. Запальваліся бочкі з бензінам, яны лопаліся з трэскам, страляючы ўгару фантанамі агню і чорнага дыму.

Фашысты спрабавалі ўцякаць, але было ўжо позна, ды і ўцякаць не было куды. Наш агонь касіў іх бязлітасна. Яны скакалі ў напоў-



неныя вадою роў, вылазілі з вады на супрацьлеглы бераг і пад градам куль, асепленыя панічным страхам, беглі прама наперад, траплялі ў віры, западалі ў іх аж да каленяў, пагружаліся да пояса, да плячэй, а з іх горла вырываўся страшэнны крык роспачы... Апошняя мітусня і... рэдкая іржавая мазь залівала ім рот, нос... Месцы, дзе яны з апошніх сіл змагаліся са смерцю, пакрывала кіпучая, мутная вада.

### СПЕЦГРУПА

З Мозыра нас адклікалі ў Гомель. У Гомелі ўжо ў ліпені 1941 г. падрыхтоўвалі людзей да партызанскай барацьбы, падбіралі перш за



ўсё каманданы састаў. Стварылі таксама спецгрупы, якія павінны былі быць перакінуты ў тыл ворага. Была створана і 20-асабовая спецгрупа пад камандай капітана Ісаева. У яе склад уваходзілі беларусы і палякі, якія паходзілі з Заходняй Беларусі. Група размясцілася ў мясцовасці Клёнкі на ўсходнім беразе ракі Сож. Перад намі, як на далоні, відаць быў Гомель, яго белыя будынкі канулі ў зелені дрэў.

Разам са мной у гэтай групе былі мае землякі Ілля Панфілюк з Орлі і Аляксандр Ільяшук з Пружан. Мы трымаліся адзін другога, як браты.

Абарончая лінія на Дняпры лопнула, разам з гэтым лопнула наша надзея. Я вельмі перажываў утрату горада Гомеля. Я бачыў, як на горад сыпаліся тысячы бомб, бачыў дым і зарыва пажараў.

Мы адступалі далей на паўднёвы ўсход, на Украіну. Ззаду засталіся гарады Рэчкі, Чарнікаў, мы перайшлі раку Дзісну. Навокал украінская раўніна: палі залатой пшаніцы, сланечніка, цукровых буракоў, белыя станічныя хаткі, што хаваліся ў зелені садоў. Пакідаем Бахмач, Канатоп, Белаполле, даходзім да горада Сумы. За намі — толькі зарыва пажараў. У Сумах атрымліваем загад выехаць у Маскву...

### ПЕРАЛОМ

7-га лістапада 1941 г., XXIV гадавіна Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі. Разам з лейтэнантам Пакулавым мы стаім на пасту на Чырвонай Плошчы. З непакоем глядзім уверх — прарвуцца фашысцкія паветраныя піраты над горад, ці не дапусцяць іх? Роўна ў дзесяць на трыбуне маўзалея Леніна паказваецца палітбюро ВКП(б). Прамова Сталіна, парад...

Не быў гэта ўрачысты парад, не было радаснай дэманстрацыі масквічоў. Быў гэта парад шэрых салдат і соцень танкаў, якія з Чырвонай Плошчы пайшлі проста на фронт.

Масква ў небяспецы! Немцы пад Хімкамі! Хімкі — гэта сёння прадмесце Масквы. На калені ў снягу, пры 25-градусным марозе мы мініравалі падмаскоўныя палі...

6 снежня 1941 г. Савецкая Армія пераходзіць у контрнаступленне. Пад Масквой немцы страцілі 75% сваіх танкавых часцей і 40% ударнай сілы — паўмільёна людзей. Пад Масквой разыгралася бітва, якая для гісторыкаў мае такое ж значэнне, як бітва пад Барадзіном у 1812 годзе. Нямецкая навала ўпершыню ў гісторыі другой сусветнай вайны пакацілася на захад.

### ВІТАЙ, РОДНАЯ ЗЯМЛЯ!

У верасні 1943 г. ЦК КП(б) Беларусі стварыла Беластоцкі абласны Камітэт (абком) з першым сакратаром Васілём Самуціным на ча-

ле. Вясной 1943 г. тав. Даніла Сухачоў — упаўнамочаны ЦК КП(б)Б і Беларускага Штабу партызанскага руху быў накіраваны з групай работнікаў партыйнага апарату (тав. тав. Кімаловіч, Шурман, Аўсейчук, Казакоў, Баешун, Гардзіенка, Ісаенка, Стома, Шаламанаў) на тэрыторыю нашага ваяводства.

1943 год быў годам, калі галоўнае камандванне Савецкай Арміі апрацоўвала план Беларускай аперацыі пад крыптонімам «Баграціён». План прадугледжваў разбіццё групіроўкі нямецкіх армій «Цэнтр» і вызваленне Беларусі. У Маскве падрыхтоўваліся дыверсійна-разведачныя групы, якія яшчэ перад пачаткам наступлення павінны былі разведаць глыбокія тылы ворага і пераказаць неабходныя матэрыялы камандванню Савецкай Арміі. Да адлёту на тэрыторыю Беластоцкага ваяводства падрыхтоўваліся спецгрупы: **«Стойкія»**, **«Заходнія»**, **«Слава»**, **«Чырвоныя»**, а таксама група, ў якой быў я, — **«Дальнія»**.

Летам 1943 г. у раёне Слуцка, у Мінскай вобласці, была вылучана частка партызанскіх атрадаў і створана з іх Беластоцкая партызанская групіроўка, якая 1-га верасня 1943 г. пад камандваннем генерала Філіпа Капусты накіравалася на Беласточчыну.

5 кастрычніка 1943 г. наша група **«Дальнія»** выляцела з аэрадрома ва Ўнукаве пад Масквой у тыл ворага. Ноччу з 5-га на 6-е кастрычніка нас скінулі на Палессі каля вёскі Сварын, у Кобрынскім раёне, Брэсцкай вобласці. Над ракой Ясельдай мы далучыліся да атрадаў Беластоцкай партызанскай групіроўкі, якія маршыравалі ў напрамку Ружанскіх лясоў. Да Белавежскай пушчы мы дайшлі з партызанскай брыгадай «У імя Радзімы», якой камандваў Міхаіл Янкоўскі (псеўданім **«Мартынаў»**). У час гэтага паходу мы вялі тры баі (першы — на чыгуначнай лініі Брэст—Пінск, другі — на чыгунцы Брэст—Мінск, трэці — у Белавежскай пушчы ва ўрочышчы Войтаў Мост). У пушчы наша група падзялілася на дзве часткі. Камандзір капітан Хмялеўцаў і радыётэлеграфіст Шытаў засталіся пры штабе брыгады. Я ж, узяўшы з сабой старшага лейтэнанта Нячаева і лейтэнанта Новікава, дайшоў да вёскі Шашылы каля Боцек. Там нам удалося зусім выпадкова наладзіць сувязь з малым партызанскім атрадам Смірнова, які пасля прыняў назву **«імя Пархоменкі»**. Атрад разрастаўся. Дзякуючы Смірнову, мы хутка наладзілі сувязь з мясцовымі антыфашысцкімі камітэтамі. У пачатку снежня 1943 г. мы скантакталіся з групай Разіна, якая дзейнічала ў Руцкіх лясах паміж Цеханоўцам і Бранскам. Групу Разіна мы пераўтварылі ў партызанскі атрад **«імя маршала Жукава»**. Да гэтага атрада далучылася даволі вялікая група яўрэяў, якія хаваліся ў лесе каля вёскі Свірыды пад Бранскам.

Свае заданні мы маглі выконваць паспяхова толькі дзякуючы дапамозе мясцовага насельніцтва. Цяжка сказаць тут, на гэтых скупых





старонках аб усіх тых, што нам дапамагалі, але не можна не ўспомніць тых, хто рызыкуючы ўласным жыццём і жыццём сваёй сям'і выконваў самаахвярна даручаныя ім заданні. Да іх належалі: Юльян Хількевіч, Соня Тарлецкая з сынамі з вёскі Шашылы, Павел Вашчук і яго сын Жэня з Белак, настаўнік Рыгор Гуральчук, Алесь Мусько і яго жонка Шура, Даніла Бартошук з жонкай Крыстынай і Уладзімір Гарлецкі — усе з Дубна, сям'я Баранскіх і Кастшыцкіх са Снежак, Міхал і Дуня Аляксеюкі з Кобус пад Цехсноўцам, Томаш Грабаж з Цеханоўца, Язэп Алейніцкі з Руткі і нарэшце Тодар Савіцкі з Праняўіч, Аляксандр Сідарук з Беластока, Тодар Сідарчук з Кузавы пад Чаромхай і шмат іншых.

Дзякуючы нашым партызанам, разведчыкам і сувязным, наша дзейнасць распасціралася ўсё шырэй. Яна абхапіла ўжо гарады Бельск і Беласток. Надыходзілі каштоўныя інфармацыі, расла колькасць дыверсій на чыгунцы, на аэрадроме ў Беластоку, дзе працавалі нашы разведчыкі Найдзенка і Ракавец, быў спалены Soldatenheim у Беластоку, падпілоўваліся тэлефонныя слупы, паліліся нямецкія маёнткі.

## ВОКА Ў ВОКА СА СМЕРЦЮ

Першага лютага 1944 г. я паехаў з сувязным Шуркам Баравым поездам з Бельска ў Чаромху, каб сустрэцца там з нашым сувязным

— машыністам. Мы не засталі яго і вырашылі перачакаваць у хаце Тодара Сідарука ў вёсцы Кузава. Раніцой 2 лютага немцы акружылі дом. Было іх каля трыццаці. Вывалілі дзверы, пяцёра ўварвалася ў хату. — Рукі ўверх! — крыкнулі мне. Я стаяў ля сцяны з паднятымі рукамі, перада мной — у падобнай пазіцыі Шурка. Адзін з жандараў прыткнуў дула карабіна да маіх грудзей. Шэф жандармерыі Мюлер абшукваў Шурку...

— У яго ёсць зброя! — крыкнуў жандар, паказваючы на мяне. Мюлер піхнуў Шурку, падскочыў да мяне і хацеў ударыць проста ў твар. Я адхіліў галаву, удар трапіў у ключыцу і кінуў мяне на сцяну.

— Цяпер, — прамільгнула думка. Я адскочыў ад сцяны, схапіў дула нацэліванага на мяне кулямёта і ўдарыў ім у лампу, што стаяла каля мяне на стале. Цемень. У той жа момант я выхапіў свой пісталет. Успышка і гук! Жандар з карабінам паваліўся на падлогу. Мюлер схапіў мяне ззаду, хочучы абяззброіць. Два стрэлы назад і наступнае цела звалілася на падлогу. Уцякаючых з хаты фрыцаў даганялі мае кулі...

Выскачыўшы ў сені, я ўбачыў перад парогам на панадворку немца, які страляў у бок агароду. Я падняў пісталет, націснуў курок... але ён не выстраліў, не было ўжо ніводнай кулі. Я схаваўся за дзверы і прысеў за нейкай бочкай, каб набіць пісталет кулямі.

Матка Сідаруковай запаліла капцілку, паставіла яе на стале, стала перад абразамі на калені, малілася, падымаючы ўгару зложаныя далоні. Дзікі крык дзяцей, на падлозе віючаяся з болю раненая Сідарукова, перавернутыя табурэткі і малячаяся старушка, — вось карціна, якую ўбачыў я ў святле капцілкі.



Раптам успышка і гук гранаты ля маіх ног, палаючыя зоркі ў вачах. — Смерць! — як маланка, праляцела ў маім мазгу. Нешта цёплае плыве па твары, салёны смак у роце... кроў.

— Уцякаць з гэтага пекла, — падказвае мне інстынкт, — але як, хата акружана...

Я глянуў на ляжачага ў куце афіцэра жандармерыі... Пераапрануцца! У цемры не пазнаюць. Падбягаю да яго, знімаю шапку і адзяваю сабе на галаву. Расшпіляю гузікі шыняля і... гітлеравец ажывае, накіроўваючы на мяне свой Вальтэр. Хапаю яго за лапу, б'ю па галаве, і яго пісталет знаходзіцца ў маёй левай далоні.

Дзверы... плот... агарод... лес... я вольны, толькі кроў залівае мне твар. Трэба забінтаваць выараную на шчацэ баразну.

## САМЫ РАДАСНЫ ДЗЕНЬ У ЖЫЦЦІ.

Фронт, як грамадны таран агню і сталі, праходзіў па савецкіх землях Беларусі і Украіны з усходу на захад, прыбліжаўся да нас. Беласточчына, як адно з найбольш высунутых на ўсход ваяводстваў, прыслухоўвалася да адгалосаў франтавой кананады.

Нарэшце 22 ліпеня 1944 г. У лесе, каля вёскі Быстрэ, гміна Боцькі, атрад «**імя Пархоменкі**» з велізарнай радасцю вітаў першых салдат пераможнай Савецкай Арміі. Сталася гэта ў дзень абвяшчэння Ліпнёвага Маніфесту і нараджэння Народнай Польшчы.



*Зімою.*



*Ранняй вясною.*



*Вясною.*



Г. МАТЭЙЧЫК

# НЕЗАБЫЎНЫЯ ЛЮДЗІ

Прыгожая наша Беласточчына. Сёння, 25 год пасля заканчэння вайны з гітлераўскім фашызмам, радуюць вока акуратна забудаваныя вёскі і гарады, значна пашырылася сетка добрых дарог, усюды відаць лад і парадак. Людзі жывуць у дабрабыце, свабодна дыхаюць вольным паветрам сваёй народнай айчыны.

Аднак, каб дабіцца такіх дасягненняў, колькі ж крыві сардэчнай праліта ў барацьбе за незалежнасць, у барацьбе за ўстанаўленне і ўмацаванне народнай улады — у барацьбе на смерць і жыццё з недабіткамі ўласнай буржуазіі і фашысцкімі паследышамі, якія хацелі захапіць уладу і далей нажывацца працай і потам працоўнага люду. У гэтай барацьбе за народную ўладу, за грамадскую справядлівасць, за сацыялізм таксама нямала пралілося крыві нашых братоў, асабліва беларусаў, на тэрыторыі паўднёва-ўсходняй Беласточчыны.

Волю гэтай тэрыторыі прынесла неперамножная Савецкая Армія ўжо ў ліпені 1944 года, але ахова гэтай волі ад уласнай рэакцыі, устанаўленне і ўмацаванне народнай улады было справай нашых бацькоў і братоў, якія пралівалі кроў у барацьбе за справу працоўнага люду, не шкадавалі здароўя і жыцця. Многія з іх загінулі ў барацьбе верачы, што іх праца не прападзе, што з іх крыві вырасце шчаслівая будучыня для працоўных. Аб іх барацьбе і ахвярах нельга нам забываць, мы павінны памятаць аб іх подзвігах і расказваць аб іх заслугах нашым дзецям і ўнукам, каб гонар і слава людзей, якія аддалі сваё жыццё за народную ўладу, вечна жылі ў нашым грамадстве.

Ад моманту вызвалення Беластока, Бельска, Гайнаўкі, Сямяціч і іншых мясцовасцей у ліпені 1944 года актыўныя партыйныя дзеячы, партызаны, а ў першую чаргу моладзь, адразу пачалі ўмацоўваць народную ўладу. Пад кіраўніцтвам партыі адны добраахвотна ўступілі ў Войска Польскае, іншыя арганізоўвалі рады нарадовыя, пастарункі грамадзянскай міліцыі, установы, адбудоўвалі і пускалі ў рух



*Вёска Райск у Бельскім павеце, якую гітлераўскія акупанты 6 чэрвеня 1942 года спалілі, а яе 140 жыхароў расстралялі.*



*Партызанскі атрад імя Ф. Дзяржынскага, якога ўдзельнікамі былі Ян Баена з Гарнова і Іван Пашко з Тыневічаў Вялікіх.*



фабрыкі, арганізоўвалі спажывецкія спулдзельні і г. д. Тысячы маладых хлопцаў, часта ўчарашніх партызанаў узмоцнілі рады Войска Польскага, імкнучыся да канца дабіць гітлераўскую нечысць. Шмат іх не вярнулася на бацькоўскі парог, іх косці спачываюць на баявым шляху ад Беластока да Берліна. Многія з іх — гэта невядомыя воіны, аб многіх мы забыліся, але іх прозвішчы трэба адшукаць у пыле забыцця, а дапамогу ў гэтым павінны аказаць іх бацькі, сваякі і сябры. Бо, на жаль, нямнога прозвішчаў загінуўшых у барацьбе з фашызмам было знойдзена ў тых ці іншых дакументах.

Шмат змагароў за свабоду загінула ў час гітлераўскай акупацыі. Вядомыя выпадкі знішчэння цэлых вёсак, масавых расстрэлаў, западозраных хоцьбы ў сімпатыі да антыфашысцкага руху. Гэтым людзям шмат месца прысвяціў у сваёй працы аб месцах змагання і мучаніцтва насельніцтва Беласточчыны палкоўнік Ян Анацік.

Каб прысвяціць хоць па некалькі слоў кожнай ахвяры гітлерызму, трэба было б напісаць шмат тамоў. Таму абмяжуемся толькі некалькімі прозвішчамі.

### КІРЫЛ АНДРЭЮК

— рабочы — тэкстыльшчык, родам з вёскі Соцы каля Нарвы, 1905 года нараджэння. У міжваенны перыяд ён працаваў на беластоцкіх тэкстыльных фабрыках, быў актыўным дзеячам ППС-лявіцы, а таксама адным з арганізатараў забастовак сярод тэкстыльшчыкаў. У час гітлераўскай акупацыі адразу ўключыўся ў падпольную барацьбу з ворагам. У 1941 годзе ён арганізаваў у Бельскім павеце антыфашысцкія камітэты, а таксама быў адным з першых арганізатараў партызанскага руху. У 1944 годзе добраахвотна ўступіў у польскую армію, ваяваў пад Варшавай, на Вале Паморскім і пад Калабжэгам. Загінуў пад канец красавіка 1945 года ў бітве за Берлін.

### ЯН БАЕНА

— сын селяніна з вёскі Горнава ў Бельскім павеце, 1914 года нараджэння., партызан з атрада імя Фелікса Дзяржынскага, начальнік разведкі, моцна дапёк ён гітлераўцам. У лютым 1944 года ў час разведкі ён трапіў у рукі гітлераўцаў. Спачатку яго трымалі ў турме ў Ломжы, а затым перавезлі ў лагер смерці Штутгоф, дзе быў забіты фашыстамі ў час эвакуацыі лагера ў 1945 г.

### ЮЛІЯН ГАДЛЕЎСКІ

— сын рабочага, нарадзіўся ў 1906 г. у вёсцы Студзянкі ў Беластоцкім павеце. У міжваенны перыяд працаваў на лесапільным заводзе ў Чорнай Всі (цяпер Чорна Беластоцка), быў адным з арганізатараў забастовак сярод рабочых лясной і драўніннай прамысловасці. У 1939—1941 гадах працаваў у органах народнай міліцыі.

Пасля нападзення Гітлера на Савецкі Саюз Гадлеўскі застаўся ў Чорнай Всі і тут арганізаваў антыфашысцкі рух, пазней

уступіў у савецкі партызанскі атрад, які дзейнічаў на тэрыторыі Сакольскага павета. Арыштаваны гітлераўскімі захопнікамі ў час разведкі ў Беластоку, быў расстраляны ў Бацечках у 1942 годзе.

### СЦЯПАН ПАРФЕНЮК

— селянін з вёскі Новы Востраў у Сакольскім павеце, 1900 года нараджэння, член і дзеяч КПЗБ і КПСС. У час гітлераўскай акупацыі змагаўся з ворагам у радах партызанскага атрада імя Кастуся Каліноўскага сувязным і разведчыкам. Загінуў у 1943 годзе ад выбуху міны ў час спуску пад адхон гітлераўскага эшалона з войскам на лініі Беласток — Ваўкавыск.

### АННА САХАРЧУК

— дочка рабочага — чыгуначніка са Стараселйцаў, 1908 г. нараджэння, у трыццатых гадах працавала ў дзіцячым садзе чыгуначнікаў у Старасельцах выхавацелькай, была актыўным дзеячом рабочай маладзёжнай арганізацыі ОМТУР у Беластоку, была праследвана санацыйнымі ўладамі. У час гітлераўскай акупацыі А. Сахарчук арганізавала і вяла ў Старасельцах патаемнае навучанне дзяцей, а таксама была актыўным дзеячам антыфашысцкага руху. У снежні 1941 года ў выніку здрады была арыштавана ў час вядзення ўрока і на месцы расстраляна.

Гэтых некалькі прыведзеных прозвішчаў — гэта толькі сотыя долі працэнта той велізарнай масы антыфашысцкіх дзячоў і партызан, загінуўшых у барацьбе з гітлераўскімі акупантамі. Былі тысячы ахвяр, але яны не загінулі дарэмна. З іх мук і крыві вырас ясны сённяшні дзень. Гонар і слава ім!



*Піліцкі лес — месца расстрэлу жыхароў Бельшчыны гітлераўцамі падчас акупацыі.*



Гэта была барацьба са знешнім ворагам, чужынцамі. Але не менш найлепшых сыноў і дачок паўднёва-ўсходняй Беласточчыны загінула ў грамадзянскай барацьбе з уласным, унутраным фашызмам, з бандамі, якія дзейнічалі на карысць польскага і заходняга імперыялізму, на карысць адсунутых ад улады памешчыкаў і капіталістаў. У гэтай барацьбе фашысцкія банды не прабіралі ў сродках. Сваёй жорсткасцю бандыты даказалі, што былі здольнымі вучнямі гестапаўцаў.

Ахвярамі бандытаў былі людзі з розных слаёў грамадства. Бандыты не шкадавалі нікога, забівалі маладых і старых, жанчын і дзяцей, часта пераўзыходзячы сваёй жорсткасцю гітлераўскіх настаўнікаў. А вось постаці некаторых ахвяр бандытызму:

### ІЛЬЯ АСТАПЧУК

— (1911—1947), капраль МО, сын селяніна з вёскі Чыжы, Гайнаўскага павета. Да II сусветнай вайны працаваў на бацькавай гаспадарцы, быў маладзёжным дзеячам, членам КЗМЗБ, у час акупацыі змагаўся з гітлераўскімі акупантамі ў радах партызанскага атрада імя Ф. Дзяржынскага, некалькі разоў быў ранены ў сутычках з немцамі, адзначаны медаллю «За перамогу».

Пасля вызвалення І. Астапчук пайшоў працаваць у міліцыю, быў намеснікам каменданта пастарунка МО ў Бранску, як дзеяч ППР карыстаўся вялікім аўтарытэтам сярод насельніцтва, загінуў у час нападу банды НСЗ на пастарунак МО ў Бранску.

### КАЗІМІР БЕЛЯЎСКІ

— (1907—1945), сын селяніна з Кузніцы Беластоцкай, дзеяч лявіцы, член Незалежнай сялянскай партыі. У трыццатыя гады Беляўскі супрацоўнічаў у КПЗБ, а ў час акупацыі змагаўся ў радах савецкіх партызан на тэрыторыі Сакольшчыны.

Пасля вызвалення ў 1944 годзе Беляўскі уступіў у Польскую рабочую партыю, развіваючы шырокую палітычную дзейнасць сярод сялян, прычым быў вельмі папулярны. У 1945 годзе быў выбраны прэзэсам Павятовага праўлення Сялянскай самапомачы ў Саколцы, у тым жа годзе быў дэлегатам сакольскіх сялян на І краёвы з'езд ЗСХ у Любліне. Беляўскі загінуў у снежні 1945 г., забіты быў бандай НСЗ у час службовай паездкі з Саколкі ў Кузніцу Беластоцкую.

### ЯН БОГДАН

— (1915—1947), сын малазямельнага селяніна з вёскі Манаўцаны ў Бельскім павеце, з 1936 г. быў у арміі падафіцэрам. У верасні 1939 года ўдзельнічаў у баях з немцамі пад Нарвай, ранены дабраўся да роднай вёскі і да нападзення Гітлера на СССР працаваў з бацькам на гаспадарцы.

У час гітлераўскай акупацыі Ян Богдан уступіў у савецкі партызанскі атрад, дзе быў мінёрам,

разбіраў знойдзеныя ў лесе артылерыйскія снарады і бомбы, забяспечваючы такім чынам партызан выбуховым матэрыялам.

Непасрэдна пасля вызвалення, у жніўні 1944 года Богдан уступіў у грамадзянскую міліцыю, быў адным з першых членаў і арганізатараў Польскай рабочай партыі. Ян Богдан загінуў у лютым 1947 г. у сутычцы з моцнай бандай НСЗ ля вёскі Жэндзяны ў Беластоцкім павеце.

МІКАЛАЙ БУДНІК

— (1903—1945), сын рабочага-тэкстыльшчыка з Супраслі, член КПЗБ і ППР, у міжваенны перыяд быў вядомым дзеячам прафсаюзаў і адным з актыўных арганізатараў і ўдзельнікаў забастовак тэкстыльшчыкаў, асабліва паказаў сябе ў час усеагульнай забастоўкі тэкстыльшчыкаў у 1932 г., а таксама ў галадоўцы рабочых плюшавай фабрыкі Бэкера ў Беластоку.

Непасрэдна пасля вызвалення М. Буднік пачаў працаваць у радах нарадовых, быў намеснікам бурмістра ў Супраслі, членам Грамадскай камісіі да спраў сельскагаспадарчай рэформы і арганізатарам Польскай рабочай партыі і Саюза барацьбы маладых у Супраслі і ваколіцы. М. Буднік загінуў, забіты ноччу ў сваёй кватэры бандай НСЗ.

АЛЯКСАНДР БУЖЫНСКІ

— (1914—1951), селянін з вёскі Зайчыкі ў Сямяціцкім павеце, грамадскі і партыйны актывіст, быў сакратаром гмiннага камітэта ППР, пазней ПАРП, а таксама старшынёй Гмiннай рады нарадовай у Драгічыне над Бугам. А. Бужынскі быў забіты фашысцкімі недабіткамі з банды «Гузара».

ЮРЫЙ БУРЫЧ

— (1900—1946), селянін з вёскі Тымянка ў Сямяціцкім павеце, дзеяч КПЗБ, шматразовы вязень санацыі. У час гітлераўскай акупацыі супрацоўнічаў з савецкімі партызанамі ў Белавежскай пушчы.

Пасля вызвалення Ю. Бурыч адзін з першых у Сямяціцкім павеце ўступіў у ППР, быў першым сакратаром гмiннага камітэта ППР у Клюковічах і дзеячам Гмiннай рады нарадовай, а таксама членам грамадскага камітэта да спраў сельскагаспадарчай рэформы. Загінуў ад бандыцкай кулі ў час аховы гмiннага праўлення і пастарунка МО ў Клюковічах ад нападу банды НСЗ.

АЛЯКСАНДР ВАЛКАВЫЦКІ

— (1895—1945), настаўнік пачатковай школы ў Нараўцы, нарадзіўся ў сялянскай сям'і ў вёсцы Забалотчына (Гайнаўскі павет). Перад І сусветнай вайной дзейнічаў у радах СДКПіЛ пазней па чарзе ў КПРП, КПП і КПЗБ, быў камуністычным актывістам, аказваў шмат дапамогі партыйным агітатарам, пасрэднічаў у распаўсюджванні прэсы і камуністычных выданняў, а таксама арганізаваў і вёў ідэалагічную падрыхтоўку камуністаў і прыхільнікаў. У час акупацыі А. Валкавыцкі арганізаваў антыфашысцкія камітэты, быў партызанскім разведчыкам і сувязным. Пасля вызвалення пачаў працаваць у асвеце, быў настаўнікам падставовай школы ў Нараўцы, членам ППР і арганізатарам партыі на тэрыторыі Нараўкаўскай гміны, дзеячам радаў нарадовых. А. Валкавыцкі загінуў ад бандыцкай кулі ў красавіку 1945 г. у час нападу на Нараўку фашысцкай банды Лупашкі.



ВАЛЯНЦІНА ВІШНЕЎСКАЯ

— (1924—1948), вясковая настаўніца, нарадзілася ў сялянскай сям'і ў вёсцы Рыбалы, Бельскага павета. У час акупацыі змагалася з гітлераўцамі ў радах савецкіх партызан на тэрыторыі Белавежскай пушчы, вельмі памагала партызанам, будучы выключна здольнай і смелай сувязной і разведчыцай.

Пасля вызвалення В. Вішнеўская вярнулася на працу ў школу, але на жаль, ненадоўга — памерла ў 1948 г. ад сухот, на якія захварэла ў час партызанскай службы.

МІХАЛ ГАДЛЕЎСКІ

— рабочы — тэкстыльшчык з Васількова, маладзёжны дзеяч і адзін з першых арганізатараў Польскай рабочай партыі ў Беластоцкім павеце, а таксама член рабочай групы, якая праводзіла сельскагаспадарчую рэформу. У грамадска-палітычнай працы шмат памагаў яму сын Рышард.

М. Гадлеўскі быў забіты бандай з-пад знаку НСЗ у час падзелу зямлі для беззямельных сялян, прызнанай ім сельскагаспадарчай рэформай. Месяц пазней тыя ж бандыты забілі Рышарда Гадлеўскага.

МІКАЛАЙ ГАЛІЦКІ

— (1903—1946), селянін з вёскі Пухлы ў Гайнаўскім павеце, вядомы дзеяч КПЗБ, у час акупацыі адзін з першых арганізатараў партызанскага руху, пасля вызвалення — сакратар гмiннага камітэта ППР у Нарве і актыўны дзеяч ГРН, забіты разам з усёй сям'ёй — бацькам, жонкай, сынам і дачкой — фашысцкай бандай НСЗ Лупашкі ў час нападу банды на Нарву.

АЛЯКСАНДР ГАРЭНЮК

— (1925—1947), сын рабочага — тэкстыльшчыка, сам быў таксама тэкстыльшчыкам. Нарадзіўся ў Гарадку, Беластоцкага павета. Пасля нападу гітлераўцаў на Савецкі Саюз, адышоў разам з адступаючым войскам на ўсход, потым добраахвотна ўступіў у ра-

ды Савецкай Арміі, а ў 1943 г. перайшоў у Польскую Армію ім. Т. Касцюшкі і біўся з гітлераўцамі пад Леніна. У 1945 годзе быў цяжка паранены ў баі пад Віслай, пасля вылячэння быў дэмабілізаваны і вярнуўся ў Беласток. Як дзеяч ППР прымаў актыўны ўдзел у працы груп, праводзячых сельскагаспадарчую рэформу, пад канец 1945 года перайшоў на працу ў органы бяспекі ў Беластоку, два гады пазней загінуў у час разгрому банды «Князя».

КАСТУСЬ ДАМБРОЎСКІ

— (1902—1946), сын селяніна з вёскі Патока ў Беластоцкім павеце, ужо ў юнацтве сутыкнуўся з рэвалюцыйным рабочым рухам, з якім актыўна супрацоўнічаў у Саюзе сялянскай моладзі.

У 1925 годзе К. Дамброўскі ўступіў у КПЗБ, поўнячы спачатку абавязкі распаўсюджвальніка лістовак і партыйнай прэсы, адначасова быў актыўным дзеячам беларускай «Грамады». У трыццатыя гады быў адным з арганізатараў сялянскіх забастовак у Беластоцкім і Бельскім паветах. У сувязі з гэтым шмат разоў яго арыштоўвала санацыйная паліцыя.

У час гітлераўскай акупацыі Дамброўскі быў адным з першых арганізатараў антыфашысцкага руху на вёсцы, а ад моманту з'яўлення ў Беластоцкіх лясах партызанскіх атрадаў, пайшоў у партызаны, дзе быў разведчыкам і сувязным паміж польскім і савецкім партызанскім рухам. Пасля вызвалення Дамброўскі ўступіў у ППР і пайшоў працаваць у органы бяспекі, у 1945 г. быў назначаны намеснікам шэфа ПУВП у Алецку, год пазней загінуў ад бандыцкай кулі ў час службовай паездкі ў Беласток.

СЦЯПАН ДАМАНЬ

— (1910—1946), сын селяніна з вёскі Новая Воля каля Міхалова ў Беластоцкім павеце, актыўны грамадска-палітычны дзеяч, сакратар гміннага камітэта ППР у Міхалове, член Гміннай рады нарадовай, загінуў ад бандыцкай кулі ў час нападу на Міхалова банды Лупашкі.

ВІКТАР ЗДУНЮК

— (1906—1945), сын селяніна з вёскі Буякі, Сямяціцкага павета, вядомы перад вайной камуністычны дзеяч і санацыйны вязень у час гітлераўскай акупацыі заслужаны сувязны і інфарматар партызан, які быў у пастаянным кантакце з польскімі і савецкімі партызанамі, якія дзейнічалі ў Белавежскай пушчы.

Пасля вызвалення В. Здунюк уступіў у ППР і быў адным з арганізатараў партыі на тэрыторыі Драгічынскай гміны, быў актыўным членам Гміннай рады нарадовай і дзеячам Саюза сялянскай самапомачы. Загінуў у час бандыцкага нападу на вёску Буякі.

ПЁТР КАБАЦЬ

— (1913—1945), нарадзіўся ў сялянскай сям'і ў Нараўцы, Гайнаўскага павета. У міжваенны перыяд працаваў лясным рабочым і быў вядомым у Нараўцы дзеячам класавых прафсаюзаў, а таксама шматразовым членам забастовачных камітэтаў у час забастовак лясных рабочых і сплаўшчыкаў, якія сплаўлялі дрэва на Нарве.

У гады акупацыі быў дзеячам антыфашысцкага руху, а таксама разведчыкам і партызанскім сувязным. Пасля вызвалення ўступіў у ППР, быў членам і дзеячам Гміннай рады нарадовай, а таксама сакратаром гміннага праўлення ў Нарве.

П. Кабаць быў забіты ў час нападу на Нарву, фашысцкай банды НСЗ Лупашкі.

УЛАДЗІСЛАВА КАЗЛОЎСКАЯ

— (1912—1945), дачка рабочага-гарбара з Крынак, Сакольскага павета. У міжваенны перыяд была настаўніцай у вясковай школе і асветным дзеячам сярод моладзі, у час акупацыі — сувязной і разведчыцай атрада савецкіх партызан, які дзейнічаў у сакольскіх лясах. Пасля вызвалення Ул. Казлоўская працавала настаўніцай і была кіраўніком святліцы ЗСХ у Крынках, а таксама дзеячам Гміннай рады нарадовай. Загінула разам з трохгадовай дачушкай ад рукі бандытаў з-пад знаку НСЗ.

АНТАНІНА КОСЦЮК

— (1920—1946), дачка селяніна з вёскі Алешкава ў Беластоцкім павеце. У міжваенны перыяд — арганізатар і дзеяч маладзёжнай арганізацыі ОМТУР у Чорнай Всі, у час акупацыі — арганізавала патаемнае навучанне дзяцей.

Пасля вызвалення А. Косцюк поўнасцю аддалася працы ў радах нарадовых і ў лізе жанчын на тэрыторыі гміны Чорная Весь. Бандыты з банды НСЗ завялі яе ў лес і па-зверску замучылі на смерць.

ПАВЕЛ ЛЕВАШОЎ

— (1924—1945), рабочы — тэкстыльшчык, родам з Васількова пад Беластокам, адзін з першых арганізатараў ППР у Васількове і ваколіцы, актыўны дзеяч ОРМО, загінуў у час вулічных баёў з бандай НСЗ, якая атакавала Васількаў.

ГЭЛЕНА ЛІСОЎСКАЯ

— (1912—1945), дачка селяніна з вёскі Радуле ў Беластоцкім павеце, вядомы ў міжваенны перыяд дзеяч Саюза сялянскай моладзі «Віці», у 1939—1941 гадах — член сельсавета ў Гуранах (Сакольскі павет), а ў час гітлераўскай акупацыі — партызанская сувязная.

Пасля вызвалення Г. Лісоўская была арганізатарам і дзеячам рад нарадовых і лігі жанчын. У 1945 годзе на вёску Радуле, дзе тады прабывала Лісоўская, напала банда НСЗ. Бандыты вывелі з вёскі Лісоўскую і яе сяброўку Любу Сабалеўскую і Рамана Беляневіча, замкнулі ў стаячай за вёскай пустой клуні і жывых спалілі.

ВІНЦЭНТЫ ЛЯНКЕВІЧ

— (1904—1945), рабочы родам з Бельска-Падляшскага, вядомы ў міжваенны перыяд дзеяч, член Незалежнай сялянскай партыі, адзін з найбольш актыўных арганізатараў сялянскіх забастовак у трыццатыя гады.

У час гітлераўскай акупацыі В. Лянкевіч быў антыфашысцкім дзеячам, сувязным і партызанскім разведчыкам, пасля вайны ў 1944 годзе ўступіў у партыю і быў адным з актыўных арганізатараў Гміннай рады нарадовай у Бранску, а таксама намеснікам войта ў той жа гміне. Развіваў шырокую грамадска-палітычную дзейнасць і арганізаваў у гміне рух сувязі горада з вёскай.

В. Лянкевіч загінуў геройскай смерцю ў час аховы пастарунка МО ў Бранску ад нападу фашысцкіх бандытаў.

### ЯН ЛЯШЧЫНСКІ

— (1905—1945), селянін з вёскі Новае Ляўкова ў Гайнаўскім павеце, актыўны маладзёжны дзеяч, арганізатар сялянскіх забастовак у трыццатыя гады. У час гітлераўскай акупацыі быў партызанскім разведчыкам і сувязным паміж польскімі і савецкімі партызанамі, якія дзейнічалі ў Белавежскай пушчы.

Пасля вызвалення Ян Ляшчынскі быў адным з першых арганізатараў народнай улады і першым народным войтам у Нараўцы. Загінуў ад бандыцкай кулі ў час нападу на Нараўку фашысцкай банды Лупашкі.

### ЯН МАРОЗ

— (1922—1947), старшы сяржант МО, нарадзіўся ў сялянскай сям'і ў вёсцы Койлы, Гайнаўскага павета. У 19 гадоў уступіў у 1941 г. добраахвотна ў Савецкую Армію, у 1943 г. перайшоў на службу I Арміі Польскай імя Т. Касцюшкі і ў яе радах ваяваў на ўсім шляху ад Леніна да Берліна. Быў узнагароджаны медалямі «За адвагу» і «За перамогу». Пасля заканчэння ваенных дзеянняў дэмабілізаваўся, вярнуўся ў Беласток і пайшоў працаваць у грамадзянскую міліцыю, быў у аперацыйнай групе Ваяводскай Камэнды МО ў Беластоку.

Ян Мароз загінуў ад бандыцкай кулі ля вёскі Жэндзяны ў Беластоцкім павеце ў час разгрому банды НСЗ.

### ПЁТР МІХОЎСКІ

— (1898—1946), селянін з Мілейчыц, Сямяціцкага павета. У міжваенны перыяд змагаўся з санацыйным ладам, арганізаваў у трыццатыя гады сялянскія забастоўкі, а ў час акупацыі быў сувязным польскіх і савецкіх партызан.

Пасля вызвалення П. Міхоўскі ўступіў у партыю і быў першым сакратаром КГ ППР і сакратаром гміннага праўлення ЗСХ у Мілейчыцах. Загінуў у барацьбе з бандытамі ў час нападу на Мілейчыцы банды НСЗ.

### ЯН ПАШКО

— (1910—1950), селянін з вёскі Вялікія Тыневічы, Гайнаўскага павета, перад вайной вядомы сялянскі дзеяч, у час акупацыі ваяваў з гітлераўцамі ў радах партызанскага атрада імя Ф. Дзяржынскага.

Пасля вызвалення Ян Пашко ўступіў у партыю і быў адным з першых арганізатараў грамадзянскай міліцыі на тэрыторыі Бельскага павета і працаваў міліцыянерам у Бельску-Падляшскім, прымаючы актыўны ўдзел у большасці акцый супраць бандыцкага падполля, загінуў у час сутычкі з бандай НСЗ у Нарве.

### ГЭЛЕНА СІКОРСКА

— (1901—1960), актыўны дзеяч рад нарадовых нарадзілася ў рабочай сям'і ў Белавежы, перад вайной не праяўляла грамадска-палітычнай дзейнасці, але ў час акупацыі вельмі шмат дапамагла партызанам у барацьбе з гітлераўцамі: была вельмі здольнай і адважнай сувязной, за што пасля вайны была ўзнагароджана савецкімі ўладамі.

Пасля вайны Г. Сікорска пачала працаваць у радах нарадовых, была раднай ГРН у Белавежы і ПРН у Бельску-Падляшскім. Адначасова вялікая яе заслуга ў актывізацыі жанчын, была папулярнай у горадзе і на вёсцы як дзеяч лігі жанчын.

Г. Сікорска памерла ад сухот, на якія захварэла ў час акупацыі будучы ў партызанах.

### МІКАЛАЙ ФЁДАРАЎ

— (1910—1945), рабочы — тэкстыльшчык, нарадзіўся ў Беластоку. У міжваенны перыяд быў актыўным дзеячам класавых прафсаюзаў, адным з арганізатараў забастовак тэкстыльшчыкаў, у сувязі з чым некалькі разоў быў вязнем санацыйных улад. У час акупацыі быў дзеячам антыфашысцкага руху і сувязным, а таксама партызанскім разведчыкам.

Пасля вызвалення ў жніўні 1944 г. ён арганізаваў групу рабочых, з якой прыступіў да адбудоўвання разбураных гітлераўцамі тэкстыльных фабрык. Пасля аднаўлення сучаснай фабрыкі імя Саржана Фёдараў стаў працаваць па сваёй спецыяльнасці, шмат сіл і часу прысвячаў грамадска-палітычнай працы, быў першым сакратаром гуртка ППР на фабрыцы, прымаючы адначасова ўдзел у дружыне сувязі горада з вёскай.

У час выезду з дружынай сувязі горада з вёскай на тэрыторыі гміны Бранск М. Фёдараў быў забіты разам з усёй дружынай бандытамі з фашысцкай банды НСЗ.

### ПІЛІП ЯГАДНІЦКІ

— (1902—1945), сын селяніна з вёскі Курашава ў Гайнаўскім павеце, у міжваенны перыяд быў членам КПЗБ і дзеячам беларускай «Грамады».

У час гітлераўскай акупацыі Ягадніцкі арганізаваў антыфашысцкі рух і быў сувязным аднаго з савецкіх партызанскіх атрадаў, які дзейнічаў на тэрыторыі Белавежскай пушчы, пасля вызвалення ўступіў у ППР і быў высланы партыяй для працы ў камітэце да спраў сельскагаспадарчай рэформы на тэрыторыю сённяшняга Манецкага павета. На пачатку 1945 г. арганізаваў на тэрыторыі гміны Тчцяннэ Саюз сялянскай самапомачы. У красавіку 1945 года Ягадніцкі быў высланы на працу ў органы бяспекі ў Беластоцкі павет, а месяц пазней загінуў ад бандыцкай кулі ў час аблавы на банду.

### СТАНІСЛАЎ ЯГЕЛЬСКІ

— (1875—1945), лясны рабочы, нарадзіўся ў Чорнай Всі ў Беластоцкім павеце. З рабочым рэвалюцыйным рухам сутыкнуўся

ўжо ў юнацтве, быў членам рэвалюцыйных гурткоў і кас супрацілення, арганізаваных пралетарыятчыкамі, у 1901 г. уступіў у ППС-лявіцу. У 1905—1907 гады ўдзельнічаў у рэвалюцыйных баях, быў членам рабочай міліцыі, змагаўся з царскай аховай супраць яўрэйскіх пагромаў. У міжваенны перыяд працаваў у Чорнай Всі лясным рабочым, быў актыўным дзеячам класавых прафсаюзаў, за што некалькі разоў арыштоўвала яго санацыйная паліцыя. Пасля нападу гітлераўцаў на Савецкі Саюз далей працаваў лясным рабочым, будучы адначасова сувязным паміж польскімі і савецкімі партызанамі. Пасля вызвалення ў 1944 годзе быў адным з першых членаў і арганізатараў ППР у Чорнай Всі і па паручэнню партыі развіваў прафсаюзную дзейнасць. У снежні 1945 года быў забіты бандытамі ў час працы ў лесе.

АЛЯКСАНДР ЯКУБОЎСКІ

— (1893—1945), нарадзіўся ў сялянскай сям'і ў Нарве, Гайнаўскага павета. У міжваенны перыяд быў актыўным дзеячам беларускай «Грамады» і выконваў абавязкі сувязнога «Грамады» ў КПЗБ. У час гітлераўскай акупацыі быў антыфашысцкім дзеячам і партызанскім сувязным.

Пасля вызвалення А. Якубоўскі ўступіў у ППР, быў адным з арганізатараў і першым прэзэсам гміннага праўлення Саюза сялянскай самапомачы ў Нарве. У чэрвені 1945 года яго забралі бандыты з банды НСЗ і забілі ў недалёкім лесе.

ФЁДАР ЯНУШЭВІЧ

— (1903—1946), селянін родам з Мілейчыц, Сямяціцкага павета, сімпатык і супрацоўнік КПЗБ, адзін з найбольш актыўных арганізатараў сялянскіх забастовак на тэрыторыі Сямяціцкага павета ў трыццатыя гады, у час акупацыі — арганізатар антыфашысцкага руху, а таксама партызанскі сувязны і разведчык.

Пасля вызвалення Янушэвіч быў членам і адным з арганізатараў ППР, а таксама першым у Мілейчыцах сакратаром КГ ППР, выконваючы адначасова функцыю гміннага праўлення ЗСХ.

Ф. Янушэвіч быў забіты бандытамі ў час службовай паездкі ў Сямяцічы.

Немагчыма напісаць аб усіх героях, якія палі ў барацьбе за ўладу працоўнага люду, у барацьбе за грамадскую справядлівасць, за сацыялізм. Бо ў гэтай барацьбе аддалі сваё жыццё дзесяткі тысяч найлепшых сыноў і дачок Беласточчыны. Пішучы аб некаторых з іх, мы імкнуліся аддаць гонар усім тым, што не шкадуючы свайго жыцця закладалі фундаменты лепшага заўтра для наступных пакаленняў. Перш за ўсё дзякуючы ім мы здабылі сваю вольнасць, якія стварылі нам умовы будаваць новае жыццё, з іх учарашняга аддання і крыві вырасла наша сённяшняя сацыялістычная айчына. Вечная слава і гонар ім, а памяць аб іх у народзе ніколі не загіне. У нас і ў будучых пакаленнях яны будуць жыць вечна.



# 50 ГОД БЕЛАРУСКАЙ ССР

На пераломе 1968—1969 гадоў беларускі народ адзначае 50 гадавіну ўтварэння Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі — першай на сваёй зямлі дзяржавы рабочых і сялян. Знамянальная гэта падзея ў гісторыі найбольш адсталай краіны, якая на працягу стагоддзяў была падпарадкавана інтарэсам суседніх дзяржаў і не магла нават называцца Беларуссю, а яе падняволены народ — «людзмі звацца».

Але і гэтым разам народ-герой, народ-працаўнік пры дапамозе ўсіх на развіваць эканамічна-культурнае жыццё. Землі гэтыя былі арэнай ваенных падзей І-шай сусветнай вайны і інтэрвенцыі.

На землях Беларусі разыгралася таксама ІІ-я сусветная вайна, якая нанесла чарговыя знішчэнні.

Але і гэтым разам народ-герой, народ-працаўнік пры дапамозе ўсіх братніх саюзных рэспублік хутка адбудаваў сваю эканоміку і пераўтварыў БССР у індустрыяльна-аграрную краіну.

Пасля вайны за кароткі перыяд былі створаны новыя галіны прамысловасці. Няведамая Беларусь стала экспарцёрам аўтамабіляў, трактараў, радыётэхнікі, лічыльных машын, металарэжучых станкоў, гадзіннікаў, штучных угнаенняў. Вырабы гэтыя можна сустрэць таксама ў Польскай Народнай Рэспубліцы.

Усіх грамадзян Польшчы цешыць бурнае развіццё блізкай нам краіны. На падкрэсленне заслугоўваюць пасляваенныя дружалюбныя адносіны паміж БССР і ПНР. Народы гэтых краін спалучалі шматлікія гістарычныя сувязі. Іх умацоўвалі слаўныя выхадцы беларускай зямлі Тадэўш Касцюшка, Станіслаў Манюшка, Адам Міцкевіч, Кастусь Каліноўскі, Эліза Ажэшка.

Штораз шырэй развіваецца тавараабмен, кантакты вучоных, грамадска-палітычных і культурных дзеячоў, турыстычныя паездкі, прыгранічны абмен дэлегацыямі і сустрэчы насельніцтва, у якіх не малы ўдзел прыймае Беласточчына. Спрыяе гэта лепшаму ўзаемна-



*Дружалюбныя суадносіны паміж БССР і ПНР.*



*Мастацкі калектыў Гродзенскай вобласці.*

пазнанню, абмену вопытам, развіццю і ўмацоўванню дружбы паміж народамі.

З нагоды слаўнага юбілею Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі з яе дасягненнямі знаёмяць нашых чытачоў вядомыя грамадскія дзеячы Беларусі Ніна Каменская, Уладзімір Навіцкі і Рыгор Мачулін.



НІНА ВАСІЛЬЕЎНА КАМЕНСКАЯ

доктар гістарычных навук, дырэктар Інстытута Гісторыі Акадэміі навук БССР

# УТВАРЭННЕ БССР

У выніку перамогі Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі ў Расіі ўся ўлада ў краіне перайшла ў рукі рабочых і працоўных сялян, якія пачалі будаваць сваё новае жыццё на новых, сацыялістычных асновах. Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя ў інтарэсах працоўных вырашыла і нацыянальнае пытанне. Ленінская «Дэкларацыя праў народаў Расіі», апублікаваная 2 лістапада 1917 года, заканадаўча замацавала права народаў Расіі на самавызначэнне аж да аддзялення і ўтварэння самастойнай дзяржавы. Практычна ажыццяўляючы гэта права, камуністычная партыя і Савецкі ўрад ужо ў 1917—1918 г. г. многа зрабілі ў справе стварэння савецкіх сацыялістычных рэспублік. У канцы 1917 і ў 1918 гадах былі ўтвораны Расійская Федэратыўная рэспубліка, Латвійская, Эстонская і Літоўская Савецкія Сацыялістычныя рэспублікі. У канцы 1918 года ў ЦКРКП (б) і Паўночна-Заходнім Абласным Камітэце РКП (б), на VI Абласной канферэнцыі РКП (б) (30—31 снежня 1918 г.) абмяркоўвалася пытанне аб стварэнні Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі.

Па дакладу старшыні Паўночна-Заходняга Абласнога Камітэта РСДРП (б) А. Ф. Мяснікова канферэнцыя прыняла пастанову аб стварэнні БССР. У гэтай пастанове гаварылася: «Каб яшчэ больш умацаваць заваёвы расійскага пралетарыята і садзейнічаць адпору наступлення драпежнага ворага, які паставіў сабе задачай таптанне заваёў пралетарыята і свабодных праў нацый з мэтай устанаўлення фактычна буржуазнага самавызначэння народаў, — тым самым беспрасветнага разгулу капітала, VI Абласная канферэнцыя бальшавікоў лічыць неабходным аб'явіць самастойную сацыялістычную рэспубліку Беларусі». Гэтая прапанова дэлегатамі канферэнцыі была сустрэта з натхненнем і прынята абсалютнай большасцю галасоў.

У «Пастанове аб граніцах Беларусі» гаварылася, што «асноўным ядром Беларускай рэспублікі лічацца губерні: Мінская, Смаленская,

Магілёўская, Віцебская і Гродненская з часткамі сумежных з імі мясцовасцей суседніх губерняў, населеных пераважна беларусамі. Уся тэрыторыя рэспублікі ў адміністрацыйна-гаспадарчых адносінах дзялілася на сем раёнаў з назвамі, якія паходзілі ад іх эканамічных цэнтраў, а менавіта: Мінскі, Смаленскі, Віцебскі, Магілёўскі, Гомельскі, Гродненскі, Баранавіцкі. Улічваючы, што на канферэнцыі былі прадстаўлены ўсе партыйныя арганізацыі, якія існавалі ў гэты час на тэрыторыі Беларусі, канферэнцыя аб'явіла сябе Першым з'ездам Камуністычнай партыі Беларусі.

Першы з'езд КП(б)Б выбраў Цэнтральнае Бюро (ЦБ) КП(б)Б — вышэйшы партыйны орган на тэрыторыі БССР.

Першы дзень новага, 1919 года адзначаўся выдатнай у жыцці беларускага народа гістарычнай падзеяй: у гэты дзень, які стаў днём нацыянальнага свята, быў апублікаваны Маніфест Часовага рэвалюцыйнага рабоча-сялянскага ўрада аб утварэнні БССР. У Маніфесце гаварылася аб магутным рэвалюцыйным уздыме ў многіх краінах, у абставінах якога ствараецца БССР, аб далучэнні беларускага народа, вызваленага з-пад нямецкай акупацыі, да новага жыцця, якое павінна быць пабудавана ў БССР. «Сумесна з працоўнымі народамі Расіі, Літвы, Украіны і Латвіі, — запісана ў Маніфесце, — з сённяшняга дня становіцеся і вы свабоднымі паўнапраўнымі гаспадарамі свабоднай, незалежнай Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі.

Ад імя народа Савецкай Беларусі Часовы рабоча-сялянскі ўрад БССР заявіў у Маніфесце, што «Ад гэтага часу ўся ўлада на Беларусі належыць толькі Саветам рабочых, сялянскіх, батрацкіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў». У Маніфесце падкрэслівалася, што працоўныя ўсіх нацыянальнасцей, якія жывуць на тэрыторыі Беларусі, карыстаюцца роўнымі правамі, што лічацца несапраўднымі ўсе распараджэнні, выданыя акупацыйнымі ўладамі і паза законам аб'яўлена прадажная буржуазная «Беларуская Рада».

Асвяшчэнне Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі і Маніфест Першага Рэвалюцыйнага рабоча-сялянскага ўрада БССР былі сустрэты працоўнымі Беларусі з велізарным задавальненнем. У партыйных арганізацыях, вытворчых калектывах, ва ўстановах, вайсковых злучэннях, у вёсках Беларусі адбыліся шматлікія сходы і мітынгі рабочых, служачых, чырвонаармейцаў, сялян, вітаўшых нараджэнне Беларускай Сацыялістычнай Рэспублікі. Так, напрыклад, агульны сход вёскі Кашалейскай воласці Навагрудскага павета, прыслаў у адрас Часовага рэвалюцыйнага рабоча-сялянскага ўрада Беларусі тэлеграфнае прывітанне, у якім гаварылася: «Вітаем і выражаем поўны давер рабоча-сялянскаму ўраду Беларусі, як абаронцу прыгнечаных і абяздоленых рабочых і сялян. Будзем падтрымліваць Савецкую ўладу ўсімі сіламі і сдоркамі».





*Мінскі праспект.*



*Дом Урада ў сталіцы Беларусі — Мінску.*

У пачатку студзеня 1919 года часовы ўрад БССР пераехаў у Мінск. З гэтага дня Мінск становіцца сталіцай БССР. На сваім першым пасяджэнні ў Мінску 7 студзеня 1919 года Часовы рабоча-сялянскі ўрад БССР прыняў рашэнне аб скліканні ў пачатку лютага 1919 года першага ўсебеларускага з'езда Саветаў, які павінен быў юрыдычна афарміць стварэнне БССР, прыняўшы адпаведныя заканадаўчыя акты.

Першы Усебеларускі з'езд Саветаў адбыўся ў Мінску ў гарадскім тэатры (цяпер тэатр імя Янкі Купалы) 2—3 лютага 1919 года. Рабочыя, бяднейшыя сяляне, чырвонаармейцы Беларусі, як поўнаўладныя гаспадары сваёй краіны, паслалі на яго 230 лепшых прадстаўнікоў. З'езд з'явіўся новай яскравай старонкай у жыцці Беларусі, якая стала самастойнай савецкай сацыялістычнай рэспублікай — роўнай сярод роўных савецкіх рэспублік.

З'езд адкрыў Старшыня ЦБ КП(б)Б і член Урада БССР А. Ф. Мяснікоў. Дэлегаты горача віталі адкрыццё з'езда. Першыя словы іх прывітання былі звернуты да правадыра Камуністычнай партыі і савецкага народа У. І. Леніна. Ён быў выбраны ганаровым членам Прэзідыума з'езда, ад імя з'езда яму была паслана прывітальная тэлеграма.

Прадстаўніком ад ЦК партыі і Савецкага ўрада на з'езд прыбыў старшыня ВЦВКЯ Я. М. Свярдлоў, які выступіў з прамовай і прывітаў у асобе дэлегатаў з'езда ўсіх працоўных Беларусі ад імя Вярхоўнага органа Савецкай улады — Усерасійскага Цэнтральнага выканаўчага Камітэта. Ён даў высокую ацэнку іх гераізму і мужнасці ў барацьбе за Савецкую ўладу і заявіў, што Савецкі ўрад дапаможа загоіць раны, нанесеныя яе гаспадарцы імперыялістычнай вайной і нямецкай акупацыяй. Я. М. Свярдлоў паведаміў дэлегатам з'езда, што цэнтральны Савецкі ўрад прыняў пастанову аб прызнанні незалежнасці Беларусі і абвясціў гэтую пастанову.

Першы Усебеларускі з'езд Саветаў зацвердзіў першую Канстытуцыю Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі — яе асноўны закон. У поўнай адпаведнасці з асновамі Канстытуцыі РСФСР, Канстытуцыя БССР зафіксіравала важнейшы вынік сацыялістычнай рэвалюцыі ў Беларусі — устанаўленне дыктатуры пралетарыята. Падобна Канстытуцыі РСФСР, Канстытуцыя Савецкай Беларусі змяшчала ў першай сваёй частцы «Дэкларацыю праў працоўных і эксплуатуемага народа». Другая яе частка была прысвечана пытанням арганізацыі Савецкай улады ў цэнтры і на месцах, правам і абавязкам грамадзян Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі.

У «Дэкларацыі праў працоўных і эксплуатуемага народа» Беларусь абвяшчалася Рэспублікай Саветаў рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў, у якой уся ўлада ў цэнтры і на месцах належыць гэтым Саветам. Канстытуцыя заканадаўча замацавала асноўную задачу працоўных Беларусі — знішчэнне ўсялякай эксплуатацыі чалавека





*Дзяржаўны мастацкі музей БССР.*

чалавекам, поўная ліквідацыя падзелу грамадства на класы, бязлітаснае падаўленне эксплуататараў, устанаўленне сацыялістычнай арганізацыі грамадства, перамога сацыялізма.

У першай Канстытуцыі БССР былі заканадаўча замацаваны забеспячэнне за працоўнымі сапраўднай свабоды сумлення, аддзяленне царквы ад дзяржавы і школы ад царквы, свабоды антырэлігійнай прапаганды, свабоды сходаў, мітынгаў, дэманстрацый і г. д. Канстытуцыя зафіксавала правы працоўных на бясплатную адукацыю, прызнала працу абавязкам усіх грамадзян рэспублікі і абвясціла лозунг: «Не працоўны, — хай не есць».

У мэтах сусветнай аховы заваёў сацыялістычнай рэвалюцыі Канстытуцыя заканадаўча замацавала абавязак усіх грамадзян рэспублікі абараняць сацыялістычную бацькаўшчыну і ўстанавіла ўсеагульную воінскую павіннасць. Прычым, ганаровае права абараняць рэвалюцыю са зброяй у руках прадстаўлялася толькі працоўным.

Асноўныя прынцыпы адносін з братнімі рэспублікамі, перш за ўсё з РСФСР, Першы Усебеларускі з'езд Саветаў выклаў у «Дэкларацыі аб саюзе з РСФСР», прынятай 3 лютага 1919 г.

З'езд пастанавіў: Пачаць перагаворы з Расійскай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікай па ўстанаўленню федэратыўнай сувязі паміж ёю і Савецкай Беларуссю.

У адпаведнасці з Канстытуцыяй БССР з'езд выбраў ЦВК БССР з 50 чалавек і яго Прэзідыум, зацвердзіў герб і флаг Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі.

Выбраны на з'ездзе ЦВК БССР звярнуўся з адозвай да працоўных Беларусі, у якой паведамляючы аб пачатку сваёй дзейнасці, заклікаў іх цесна згуртавацца вакол бальшавіцкай партыі і Савецкага ўрада і аб'явіў рашучую барацьбу ўсялякім антысавецкім элементам і арганізацыям, якія спрабавалі б выступіць супраць Савецкай улады.

Такім чынам, перамога Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі і ўстанаўленне Савецкай улады з'явілася тым фундаментам, на аснове якога ствараліся савецкія рэспублікі, будавалася і ўмацоўвалася братняе супрацоўніцтва савецкіх народаў. Савецкая ўлада ведала, што паслядоўна ажыццяўляючы сваю нацыянальную палітыку, яна заваюе давер народаў Расіі, і тады замест разбуранага рэвалюцыяй насільнага адзінства, створанага царызмам, узнікае новае адзінства, заснаванае на агульнасці мэт, братнім супрацоўніцтве і дружбе народаў маладой савецкай дзяржавы, на іх агульнай барацьбе за сацыялізм.

Утварэнне БССР з'явілася карэнным паваротам у гісторыі беларускага народа. Збылася яго мара аб сацыяльным і нацыянальным вызваленні. Перад працоўнымі рэспублікі адкрыліся неабмежаваныя магчымасці нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва і ўсебаковага развіцця народнай гаспадаркі і культуры рэспублікі на сацыялістычнай аснове.

Ва ўмовах савецкай дзяржавы і грамадскага ладу, у братняй сям'і народаў Савецкага Саюза, пад мудрым кіраўніцтвам Камуністычнай партыі беларускі народ гэтыя магчымасці ператварыў у рэчаіснасць.

Утварэнне Беларускай ССР, яе велізарныя поспехі ў развіцці народнай гаспадаркі і культуры, дасягнутыя ў братняй сям'і народаў Савецкага Саюза за 50 год, з'яўляюцца бліскучым трыумфам ленінскіх ідэй сацыялістычнай рэвалюцыі і пралетарскага інтэрнацыяналізма, сведчаннем і сцвярджэннем таго, што вялікая справа будаўніцтва першай у свеце Рабоча-Сялянскай дзяржавы, пачатая Кастрычніцкай рэвалюцыяй, прайшла за мінулыя пяць дзесяцігоддзяў усебаковую гістарычную праверку, паказала сваю непераможную моц і непераходнае значэнне не толькі для нашай краіны, але і для ўсяго міжнароднага рэвалюцыйнага руху.



Дац. УЛАДЗІМІР НАВІЦКІ

Кандыдат геаграфічных навук
Беларускага дзяржаўнага універсітэта
імя У. І. Леніна ў Мінску

# Эканоміка Савецкай Беларусі за 50 год

На заходніх ускраінах СССР расцягнуліся землі Савецкай Беларусі, якая займае тэрыторыю 207,6 тыс. кв. кіламетраў. На гэтай зямлі, у гарадах і сёлах, на фабрыках і заводах, шырокіх палях добразычлівай і гасціннай Беларусі жыве, працуе і багацее 9,8 мільёна людзей.

Да Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі Беларусь была адной з адсталых ускраін царскай Расіі. У 1913 годзе на душу насельніцтва тут вытваралася прамысловай прадукцыі амаль у пяць разоў менш, чым у цэлым па Расіі. Ва ўсёй прамысловасці было занятых 33,5 тысяч рабочых, г. зн. менш, чым толькі на двух сучасных прадпрыемствах Мінска — аўтамабільным і трактарным заводах.

У гарадах пражывала адна сёмая частка насельніцтва. Выключна адсталай была сельская гаспадарка. У кніжцы «Белоруссия и белорус» (Масква, 1879 г.) Р. С. Пан оў пісаў: «Ёсць на Русі не мала месц халодных і галодных, аднак мала можна знайсці абшырных краяў, такіх бедных і сумных, як Беларусь».

Савецкая ўлада карэнным чынам змяніла лёс беларускага народа. У выніку ажыццяўлення ленінскага плана індустрыялізацыі і калектывізацыі сельскай гаспадаркі Беларусі ператварылася ў развітую індустрыяльна-калгасную сацыялістычную рэспубліку. Ужо ў гады, якія папярэджвалі другую сусветную вайну, на Беларусі былі пабудаваны і працавалі сотні прамысловых прадпрыемстваў. У перадваенным 1940 годзе вартасць валавай прадукцыі перавысіла ўзровень 1913 года ў 23 разы, а вытворчасць электраэнергіі — больш, чым у 100 разоў.

Аднак спакойная творчая праца беларускага народа ў чэрвені 1941 года была спынена вераломным нападам фашысцкай Германіі на Савецкі Саюз. Вайна і акупацыя нанеслі вялікія шкоды народнай гаспадарцы Беларусі. Фашысцкія варвары знішчылі і спалілі 20 гарадоў і раённых цэнтраў, 9 200 вёсак, больш 460 тысяч хат, у выніку чаго мільёны жыхароў былі пазбаўлены жылля. Акупанты знішчылі або вывезлі ў Германію большую частку абсталявання энергетычнага,



*Мінск. Помнік-абеліск воінам і партызанам, якія загінулі ў час Вялікай Айчыннай вайны 1941 — 1945 г. г.*

металаапрацоўчага, паліграфічнага, а таксама шклянай, тэкстыльнай, трыкатажнай, мясамалочнай і іншых галін прамысловасці.

Улетку 1944 года над Беларуссю ізноў засвяціла сонца свабоды. Працоўныя рэспублікі з аграмаднай энергіяй узяліся за адраджэнне народнай гаспадаркі. Дзякуючы бескарыснай братэрскай дапамозе ўсіх народаў Савецкага Саюза, працоўныя Беларусі ў надзвычай кароткім часе не толькі адбудавалі разбураную народную гаспадарку, але зрабілі вялікі крок наперад.

Цяпер на Беларусі створана магутная сацыялістычная індустрыя, якая ў 1967 годзе выпрадукавала прамысловай прадукцыі ў 73 разы больш, чым у 1913 годзе. У сучасны момант у рэспубліцы за кожныя пяць дзён прадукуецца столькі прамысловай прадукцыі, колькі яе выпускалася за ўвесь 1913 год. Прадукцыя беларускіх заводаў і фабрык сёння экспартуецца ў 70 краін свету.

Асабліва вялікіх поспехаў дасягнуў беларускі народ за гады мінулай пяцігодкі (1959—1965) — гэтага важнага этапа на шляху стварэння матэрыяльна-тэхнічнай базы камунізма. Калі сямігадовым планам прадбачвалася павялічыць колькасць прамысловай прадукцыі ў 1,8 разоў, то фактычна ён узрос у 2,1 разы. За сем год у эксплуатацыю ўведзена больш 300 вялікіх прадпрыемстваў. Кожныя 8 дзён аддаецца новае прадпрыемства або цэх. За гады сямігодкі пабудавана найбольшая на Беларусі фабрыка электрычнасці — Бярозаўская дзяржаўная раённая электрастанцыя, закончана пабудова трансеўрапейскага нафтаправода «Дружба», па якім «чорнае золата» з берагоў рускай ракі Волгі прышло на прадпрыемствы гарадоў-беларускага





*У Мінскім трактарным заводзе.*



*Уборка кукурузы.*

Полацка, польскага Плоцка, нямецкага Шведта, чэхаславацкай Браціславы, венгерскага Сазхаломбадта.

Разам з ростам агульнага аб'ёму вытворчасці ў прамысловасці Беларусі адбыліся карэнныя якасныя змены. Побач з развіццём аўтамабільнай і трактарнай прамысловасці, сельскагаспадарчага машынабудаўніцтва і станкабудаўніцтва створаны новыя галіны, такія, як электроніка, прыборабудаўніцтва, нафтаперапрацоўка, вытворчасць калійных і азотных угнаенняў, сінтэтычных смолаў шкловалакна, плытаў, будаўляных матэрыялаў.

Выконваючы пастановы XXIII З'езда партыі, працоўныя Беларусі дасягнулі вялікіх поспехаў у выкананні новага пяцігадовага плана (1966—1970 г. г.). За першыя два гады пяцігодкі прырост агульнай колькасці прадукцыі склаў 29%. Выканана прадукцыі звыш плана больш, чым на паўмільярда рублёў, у тым ліку — на 220 мільёнаў рублёў прадметаў шырокага ўжытку. Значна ўзраслі тэмпы росту прадукцыйнасці працы.

Згодна з пастановай верасьнёвага (1965) Пленума ЦК КПСС, у Беларусі на новыя метады планавання і эканамічнага стымулявання да канца 1967 года пераведзена 290 прамысловых прадпрыемстваў. Гэта ў нейкай ступені спрыяла значнаму паляпшэнню ўсіх паказчыкаў працы сацыялістычнай індустрыі.

Абапіраючыся на дасягнутыя поспехі, працаўнікі прамысловасці БССР прынялі на сябе абавязацельствы датэрмінова выканаць пяцігадовы план з нагоды 50-годдзя Беларускай ССР і Камуністычнай партыі Беларусі. План 1968 года было вырашана выканаць да 25 кастрычніка, а пяцігадовы план закончыць да 7 лістапада 1970 года.

За мінулыя гады пяцігодкі былі дасягнуты таксама значныя поспехі ў развіцці сельскагаспадарчай вытворчасці. Узрост ураджайнасці і агульнай колькасці сельскагаспадарчых культур, а таксама павелічэнне прадукцыйнасці жывёлагадоўлі дазволілі ў 1967 годзе выканаць дзяржаўныя планы — заказы закупак збожжа на 149%, цукровых буракоў (фабрычных) — на 118, бульбы — на 108, гародніны — на 104, фруктаў — на 117, жывёлы — на 135, малака — на 121, яек — на 117%. Па надрыхтоўцы мяса і малака рэспубліка дасягнула ўзроўню, які быў запланаваны на канец пяцігодкі. Гэта дазваляе павялічыць план закупу жывёлы ў 1970 годзе на 25% у параўнанні з тым, што мелася раней.

На Беларусі выконваюцца вялікія меліярацыйныя працы. Толькі ў 1966—1967 гадах у БССР асушана 370 тыс. гектараў. Усяго за пяцігодку трэба асушыць 1550 тысяч гектараў балот і забалочаных земляў.

У рэспубліцы ажыццяўляюцца вялікія мерапрыемствы па ўмацаванню матэрыяльна-тэхнічнай базы сельскай гаспадаркі. У 1967 годзе яна атрымала 13,9 тыс. трактараў, 4,2 тыс. грузавых аўтамашын, 3,9 тыс. збожжазбіральных і 1,2 тыс. бульбакапальных камбайнаў,





*Будынак Міністэрства сельскай гаспадаркі ў Мінску.*



*Беларуская сельскагаспадарчая акадэмія ў Мінску.*

вялікую колькасць іншай тэхнікі. У канцы мінулага года ўсе калгасы, саўгасы і вясковыя населеныя пункты, акрамя хутароў і пасёлкаў, маючых менш 10 хат, атрымалі электраэнергію ад дзяржаўных электраправадоў. Усё гэта ў значнай меры будзе ўздзейнічаць вырашэнню гістарычнага задання — ліквідацыі культурна-жыллёвых розніц паміж горадам і вёскай, індустрыялізацыі ўсёй сельскагаспадарчай вытворчасці.

Працоўныя беларускай вёскі побач з рабочымі прамысловасці ўключыліся ў сацыялістычнае спаборніцтва за датэрміновае выкананне пяцігадовага плана і ганаровую сустрэчу 50-годдзя БССР і Камуністычнай партыі Беларусі. Яны абавязаліся ў 1964 годзе выйсці па колькасці вытворчасці збожжа і мяса на ўзровень, прадугледжаны планам у 1970 годзе, а пяцігадовы план прадукцыі малака выканаць да 7 лістапада 1970 года.

Рост галін матэрыяльнай вытворчасці, павелічэнне грамадскага багацця ў СССР накіравана на сталае паляпшэнне дабрабыту працоўных. За 50 савецкіх год сярэдні працяг рабочага тыдня ў краіне, у тым ліку і ў Беларусі скарочаны на 18 гадзін. Рэальныя даходы рабочых узраслі ў 6,5 разоў, а сялян — у 8,5 разоў. Абагульняючым паказчыкам асноўных перамен у жыцці савецкага народа з'яўляецца хуткае павелічэнне працягласці жыцця чалавека. Калі да рэвалюцыі сярэдняя працягласць жыцця складала 32 гады, то зараз яна перавышае 70 год. Агульная смяротнасць зменшана ў 4 разы, а дзіцячая — у 10 разоў.

У рэалізацыі новага пяцігадовага плана ў нашай краіне будуць зроблены далейшыя крокі на шляху паляпшэння матэрыяльнага становішча народа. За 1966—1970 гады зарабатная плата рабочых і служачых БССР павялічыцца на 30%, грашовыя і натуральныя даходы калгаснікаў ад грамадскай гаспадаркі — на 60%.

Значна павялічацца выплаты і льготы ад грамадскіх даходаў спажыцця. У 1970 годзе іх агульная сума складзе ў БССР 2 мільярды рублёў, што ў 1,5 разы больш, чым у 1965 годзе. Гэтыя аграмадныя сродкі будуць накіраваны на далейшае развіццё асветы, аховы здароўя, сацыяльнага забеспячэння і іншыя патрэбы.

Такім чынам, уся дзейнасць нашай партыі і ўрада праводзіцца ў імя шчасця народа, у імя чалавека, у імя яго сённяшняга будучага дня.

---

РЫГОР МАЧУЛІН

намеснік міністра культуры
Беларускай ССР

# РОСКВІТ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ КУЛЬТУРЫ БЕЛАРУСКАГА НАРОДА ЗА ГАДЫ САВЕЦКАЙ УЛАДЫ

У выніку перамогі Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, якая адкрыла новую эру ў гісторыі чалавецтва — эру крушэння капіталізму і будаўніцтва камунізма, 1-га студзеня 1919 года была створана Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка.

Да Кастрычніцкай рэвалюцыі Беларусь уяўляла сабою адсталую ўскраіну царскай Расіі. Яе эканоміка складалася, галоўным чынам, з паўкустарнай прамысловасці і малапрадукцыйнай сельскай гаспадаркі. Для Беларусі былі характэрны паўсюдныя непісьменнасць, адсутнасць нацыянальных кадраў, вышэйшых навуковых устаноў, даступных народу культурных устаноў.

За гады Савецкай улады ў сваім развіцці Беларусь зрабіла сапраўдны гістарычны скачок. У брацкай сям'і народаў Савецкага Саюза яна за кароткі тэрмін ператварылася ў раўнапраўную рэспубліку з высокаразвітай эканомікай, навукай, культурай. Па ўзроўню развіцця вытворчасці і культуры Савецкая Беларусь апярэдзіла многія высокаразвітыя капіталістычныя краіны. У народнай гаспадарцы цяпер працуе каля паўмільёна спецыялістаў з вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыяй. Рэспубліка мае сваіх вучоных, пісьменнікаў, кампазітараў, мастакоў, дзеячоў тэатра і кіно.

Сучасная культура Савецкай Беларусі ўвабрала ў сябе не толькі ўсё лепшае, што створана беларускай нацыяй, але і дасягненні брацкіх культур народаў Савецкага Саюза.

Калі да Кастрычніцкай рэвалюцыі на Беларусі не было ніводнага прафесіянальнага тэатра, то цяпер у рэспубліцы працуе 11 тэатраў. Буйнейшым цэнтрам вакальнай і музычнай культуры з'яўляецца Беларускі дзяржаўны ордэна Леніна акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балету. На яго сцэне побач з аўтарамі рускай і зарубежнай класікі ставяцца оперы і балеты беларускіх кампазітараў: опера Я. Цікоцкага «Дзяўчына з Палесся», Ю. Семянякі «Калючая ружа», балет Я. Глебава «Альпійская балада» і іншыя.



*Мінск. Беларускі дзяржаўны ордэна Леніна Вялікі тэатр оперы і балету*

Шырокай папулярнасцю ў рэспубліцы і за яе межамі карыстаюцца Дзяржаўная акадэмічная капэла БССР (мастацкі кіраўнік — народны артыст СССР Р. Шырма), Дзяржаўны народны хор БССР (мастацкі кіраўнік — народны артыст БССР Г. Цітовіч), Дзяржаўны ансамбль танца БССР (мастацкі кіраўнік — заслужаны дзеяч мастацтваў БССР А. Апасенка), аркестр народных інструментаў (мастацкі кіраўнік — народны артыст БССР І. Жыновіч), Дзяржаўны сімфанічны акрестр БССР (галоўны дырыжор — заслужаны дзеяч мастацтваў БССР В. Катаеў).

Да Кастрычніка на Беларусі не было не толькі прафесіянальнага музычнага мастацтва, але і прафесіянальнай музычнай адукацыі. Першая музычная навучальная ўстанова была адкрыта толькі ў 1924 годзе. Цяпер жа ў рэспубліцы працуюць Беларуская дзяржаўная кансерваторыя, музычныя школы і вучылішча, якія штогод выпускаюць сотні спецыялістаў з вышэйшай і сярэдняй адукацыяй.

За гады Савецкай улады напісаны творы розных музычных жанраў, трывала ўвайшоўшых у рэпертуар прафесіянальных калектываў самадзейнасці. Гэта творы беларускіх кампазітараў М. Чуркіна, М. Аладава, В. Залатарова, Я. Цікоцкага, П. Падкавырава і іншых.

Шырока вядомымі сталі ў рэспубліцы такія песні, як, «Дняпро» Ю. Семянякі, «Край мой любімы» Р. Пукста, «Нёман» М. Сака-





*Арка пры ўваходзе на стадыён «Дынама» ў Мінску.*



*Мастацкі калектыў з калгаса імя «Сцяг Саветаў» Навагрудскага раёна.*



*У Музеі Янкі Купалы.*

л о ў с к а г а, а таксама многія песні і рамансы А. Б а г а т ы р о в а, С. П а л о н с к а г а, В. А л о ў н і к а в а і іншых. Характэрнымі рысамі беларускіх песень з'яўляюцца жыццерадаснасць, узвышанасць, напеўнасць.

У студзені 1968 года споўнілася 30 год з дня заснавання Беларускай дзяржаўнай філармоніі, гэтага цудоўнага прапагандыста музычнай культуры. Адно з вядучых месц сярод мастацтва брацкіх народаў Савецкага Саюза займае выяўленчае мастацтва Беларусі. На яго развіццё добратворны ўплыў зрабіў перадавы рускі жывапіс.

У пасляваенны перыяд у БССР створаны Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут, Мінскае мастацкае вучылішча, мастацкі факультэт пры Віцебскім інстытуце, Дзяржаўны мастацкі музей БССР.

Беларускія мастакі і скульптары В. Ц в і р к о, А. Б е м б е л ь, Я. З а й ц а ў, З. А з г у р, А. Ш ы б н е ў, А. Г л е б а ў і іншыя стварылі шмат карцін і скульптур аб жыцці беларускага народа, аб яго гераічным мінулым, аб барацьбе за пабудову камуністычнага грамадства.

III З'езд Саюза мастакоў БССР, які адбыўся ў студзені 1968 года, падсумаваў вынікі дасягненняў і пошукаў, вызначыў далейшы шлях уздыму выяўленчага мастацтва на Беларусі.

Небывалага росквіту дасягнула беларускае самадзейнае мастацтва. Каля 400 тысяч работнікаў горада і вёскі ўдзельнічаюць у розных гуртках мастацкай самадзейнасці. За высокае выканаўчае мастацтва 105 калектывам мастацкай самадзейнасці прысвоена ганаровае званне народных.

Праведзены ў 1967 годзе фестываль самадзейнага мастацтва Беларусі, прысвечаны 50-годдзю Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, прадэманстраваў сапраўдны росквіт народнай творчасці беларускага народа. Толькі ў раённых, абласных і рэспубліканскіх выстаўках прымала ўдзел больш 5 тысяч народных мастакоў, разьбяроў, майстроў мастацкай вышыўкі, ткацтва і іншых відаў творчасці: фестываль прыцягнуў да самадзейнага мастацтва больш 14 тысяч новых спевакоў, танцораў, мастакоў.

За гады Савецкай улады ў гарадах і сёлах рэспублікі вырасла шырокая сетка культурна-асветных устаноў. Да Кастрычніка на Беларусі не было дзяржаўнай сеткі бібліятэк. Існавалі толькі асобныя бібліятэкі ў губеранскіх і павятовых гарадах, створаныя за сродкі грамадскіх арганізацый і прагрэсіўных дзеячоў. Такіх бібліятэк налічвалася каля 850, кніжны фонд іх складаў 420 тысяч экземпляраў. Цяпер жа на Беларусі ёсць 20 640 бібліятэк з кніжным фондам 80 мільёнаў экземпляраў.

Толькі ў сталіцы рэспублікі — Мінску цяпер працуюць 654 бібліятэкі, якія налічваюць 28 мільёнаў экземпляраў кніг. Лічба гэта будзе больш пераканаўчай, калі ўспомнім, што ў дарэвалюцыйным Мінску былі толькі 3 прыватныя і адна гарадская публічныя бібліятэкі, якімі маглі карыстацца толькі заможныя людзі з-за высокіх штомесячных складчын.



*Мастацкі калектыў песні з Гродзенскай вобласці.*

У рэспубліцы цяпер працуе 5536 клубаў і дамоў культуры. З кожным годам колькасць клубаў і бібліятэк павялічваецца, удасканальваецца іх праца. Да канца пяцігодкі (1970 г.) дзяржаўная сетка бібліятэк і клубаў павялічыцца на 1578 адзінак. Сотні клубаў будуць пабудаваны калгасамі і саўгасамі.

Па ініцыятыве працоўных у БССР узнікла новая форма эстэтычнага выхавання, народныя ўніверсітэты, клубы па зацікаўленням і многія іншыя.



*Адна з чытальных залаў Беларускай дзяржаўнай бібліятэкі імя Ул. І. Леніна.*

Беларускі народ шануе памяць змагароў за свабоду і незалежнасць Савецкай Радзімы. З гэтай мэтай ствараюцца музеі, куткі, пакоі баёў і рэвалюцыйнай славы, ставяцца помнікі, насыпаюцца курганы славы і гд.

За пасляваенныя гады ў рэспубліцы створана 40 дзяржаўных, 6 ведамасных музеяў, каля 6 тысяч музеяў, пакояў і куткоў баёў, рэвалюцыйнай і працоўнай славы, якія працуюць на грамадскіх прынцыпах. Гонарам БССР з'яўляецца Беларускі дзяржаўны музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Гэта адно з найбольш поўных у краіне сховішч каштоўнейшых дакументаў і рэліквій Вялікай Айчыннай вайны. У яго фондах перахоўваецца каля 90 тысяч экспанатаў.

З 4500 помнікаў гісторыі, культуры, якія знаходзяцца на тэрыторыі Беларусі, — 3000 адносяцца да перыяду Вялікай Айчыннай вайны. З мэтай аховы і папулярызацыі помнікаў у рэспубліцы створана добраахвотнае таварыства, у якім налічваецца больш 80 тысяч энтузіястаў.

За гады Савецкай улады, дзякуючы клопатам Камуністычнай партыі, урада, культура і мастацтва Беларусі выйшлі на такія рубяжы свайго развіцця, якія дазваляюць ім паспяхова вырашыць самыя складаныя задачы камуністычнага выхавання працоўных.



Мгр М. ГАЙДУК

Дырэктар ліцэя

# РОДНАЯ ШКОЛА

У 1969 годзе Агульнаадукацыйны ліцэй з беларускай мовай навучання ў Бельску Падляшскім адзначае 20-годдзе сваёй працы. Гэта былі прыгожыя і плённыя гады. А сам факт заснавання ліцэя і яго дасягненні ў адукацыі і выхаванні моладзі — непадважальны довад тых усебакова спрыяльных умоў, якія стварылі Польская аб'яднаная рабочая партыя і Урад Польскай Народнай Рэспублікі для развіцця асветы на роднай мове ў асяроддзі беларускай нацыянальнай меншасці.

Яшчэ ў 1944 годзе на толькі што вызваленай Савецкай Арміяй і Войскам Польскім Бельшчыне, у час станаўлення і ўмацоўвання народнай улады, у асяроддзі бельскага грамадства ўзнікла імкненне паклікаць да жыцця беларускую сярэднюю школу. Пры падтрымцы і садзеянні тагачасных павятовых улад і перад усім Павятовага Камітэта Польскай рабочай партыі ўвосень 1944 года паўстае Беларуская Гімназія ў Бельску Падляшскім.

Тагачасны дырэктар гімназіі Уладзімір Т ы м і н с к і — сам дасканалы выкладчык матэматыкі, чулы і вопытны выхаваўца — згуртаваў вакол сябе лепшых педагогаў горада, пераважна тых, якія працавалі ў часы савецкай улады ў 1939—1941 гадах у дзесяцігодцы ў Бельску Падляшскім і засталіся жывымі пасля звыш трохгадовай крывавай нямецкай акупацыі. Гэта быў працавіты і ахвярны калектыў. І нягледзячы на вялікія цяжкасці ў працы — недахоп падручнікаў, якіхколечы навуковых прыбораў, нават сшыткаў і звычайнай школьнай крэйды — узровень навучання ў гімназіі быў высокі. Вучылася ў ёй моладзь, якая адносілася з піетызмам да вучобы. Часта гэта былі былыя партызаны, дэмабілізаваныя салдаты Савецкай Арміі і Войска Польскага, дзяўчаты і юнакі, якія вярнуліся з прымусовых работ з Нямеччыны — людзі таленавітыя і высока цаніўшыя вучобу.

Многія з выпускнікоў гімназіі, адразу пасля яе заканчэння, актыўна ўключыліся ў бурлівае палітычнае і грамадскае тагачаснае жыццё краіны як працаўнікі ўстаноў народнай улады, працаўнікі партыйнага апарата, войска, органаў унутранай бяспекі. Многія паступілі ў вышэйшыя навучальныя ўстановы, сталі высокакваліфікаванымі спецыялістамі — адказнымі працаўнікамі самых разнастайных гаспадарчых, культурна-асветных і навуковых устаноў. Ёсць сярод іх дацэнты, дактары навук, інжынеры, эканамісты, лекары, афіцэры высокіх званняў, выкладчыкі вышэйшых і сярэдніх школ. Атмасфера безгранічнага аддання справе ўмацавання народнай улады і пабудове сацыялістычнага грамадства ў краіне, якая панавала ў гімназіі, *прынесла багаты плён. Дае гэтаму свой паэтычны выраз* Дз. Шатыловіч у вершы «Радзіма». Дз. Шатыловіч сын селяніна з вёскі Чаромха на Гайнаўшчыне. Быў салдатам Савецкай Арміі, змагаўся на франтах супраць фашысцкай Германіі. Цяжка паранены ў лютым 1945 года. Пасля дэмабілізацыі вучыўся ў Беларускай Гімназіі ў Бельску Падляшскім. Пасля быў накіраваны на вучобу ў СССР. Закончыў Ленінградскі Электратэхнічны Інстытут імя Ульянава-Леніна. Цяпер працуе ў бюро праектаў Міністэрства Энергетыкі пры праектаванні электрастанцый. Сваю творчую думку заключыў ён у пабудовах такіх гігантах нашай энергетыкі як Конін, Турув, Понтнув і іншых, а ў паэтычным слове выражае безгранічную адданасць сваёй краіне:



*Чарговыя выпускнікі Бельскага ліцэя.*





*Будынак ліцэя — пабудаваны ў 1960 годзе.*

Дзе б я ні быў, заўсёды я з табою,
І да цябе заўжды мне сэрца б'е.
І кожнай ноччу льюцца, як ракою,
Сны аб табе, ды толькі аб табе.

Я за цябе ў дні чорныя нягоды
Стрэльбу ўзяў, каб ворагаў страляць.
За гонар твой і за тваю свабоду
Гатоў цяпер я кроў сваю аддаць...

Кахаю я красу тваю, Айчына,
Гук роднай мовы з вусн тваіх сыноў...
Я так хачу, каб ты, мая Радзіма,
Не знала больш ні пут, ні кайданоў. [1])

Беларуская Гімназія ў Бельску Падляшскім спыніла сваё існаванне ў 1946 годзе, і была ўключана ў склад Агульнаадукацыйнага ліцэя.

---

[1]) Дзмітры Шатыловіч, Радзіма, «Белавежа», Альманах № 1, ГП БГКТ, Беласток, 1965, стар. 257—8.



*Пісьмовы экзамен па беларускай мове.*



*Настаўнік Рыгор Анацік у лабараторыі вядзе заняткі па вывучэнні фізікі.*

Аднак традыцыі яе, як школы з высокім узроўнем навучання і выхавання, не былі страчаны. Іх прадаўжалі настаўнікі былшай Беларускай Гімназіі, якія перайшлі працаваць у Агульнаадукацыйны ліцэй, падтрымлівалі і былшыя вучні.

І калі ў 1949 годзе была паклікана да жыцця як самастойная навучальная ўстанова Пачатковая школа і Агульнаадукацыйны ліцэй з беларускай мовай навучання ў Бельску Падляшскім, яна адклікалася да спадчыны па Беларускай Гімназіі. На чале Пачатковай школы і Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання стаў Яраслаў Кастыцэвіч — чалавек высокай асабістай культуры і добрага сэрца. У школе запанавала атмасфера сямейнай цеплыні і добразычлівасці да моладзі пры адначасовых высокіх патрабаваннях ад яе ў вучобе. І таму ад таго часу і па сённяшні дзень найбольш хіліцца да яе моладзь незаможная з гушчы вёсак і малых мястэчак Бельшчыны, значнай часткі Гайнаўшчыны і Надбужжа. Прыходзяць дзяўчаты і юнакі — выпускнікі з навакольных, а часта і надта аддеглых ад Бельска, вясковых пачатковых школак — сціплыя, скромныя, поўныя надзеі, кіруюць іх у ліцэй бацькі, напамінаючы: «вучыся добра і шануй настаўнікаў, гэта ж — наша школа». І гэты дух свойскасці і блізасці да сялянства і рабочых з кожным годам развіваўся і ўмацоўваўся. Для многіх сем'яў з Бельска, Орлі, Кляшчэль, Чаромхі, Мілейчыц, Плёсак, Стрыкоў, Аўгустова, Відава і шматлікіх іншых мясцін яна стала проста роднай школай. Вучыліся ў ёй бацькі, закончылі яе дзеці, а сёння пачынаюць вучыцца ўнукі. Аўтару гэтых радкоў не раз даводзіцца пачуць словы, якія выражаюць сардэчную ўдзячнасць ліцэю. Прыгадваецца размова з жыхаркай вёскі Галады, сялянкай Магрук: «Гэта, — сказала яна, — мая школа. У ёй вучыліся ўсе мае браты...» І сапраўды, Леанід Магрук — абсальвент ліцэя — пасля заканчэння Галоўнай школы планавання і статыстыкі ў Варшаве, цяпер з'яўляецца магістрам эканомікі вытворчасці. Павал Магрук — таксама выпускнік ліцэя — зараз студэнт Вайсковай Медыцынскай акадэміі ў Лодзі. Наймалодшы з сям'і Магрукаў — Уладзімір — цяпер вучань другога класа ліцэя. Тое ж самае можна сказаць пра шматлікі род Сычэўскіх з вёскі Стрыкі. Цэлыя пакаленні іх паспяхова канчалі наш ліцэй, і сёння сярод іх ёсць прафесар Вайсковай тэхнічнай акадэміі ў Варшаве, прафесар Вышэйшай інжынерскай школы ў Беластоку, фармаколагі, матэматыкі, філолагі і зноў — новыя студэнты. З сям'і Хілімонюкаў з Бельска — прафесар вышэйшай навучальнай установы, эканаміст, настаўніца, адказны працаўнік Прэзідыума Павятовай рады нарадовай — усе яны абсальвенты нашага ліцэя — дзеці іх цяпер ужо вучні нашай пачатковай школы. Такія прыклады можна множыць у дзесяткі і сотні.

Некаторыя з выпускнікоў, закончыўшы вышэйшыя навучальныя ўстановы, вярнуліся ў яго муры да працы ў якасці настаўнікаў. І так, сям'я Анацікаў — выпускнікі ліцэя — Рыгор Анацік вы-



*Заняткі праводзіць абсальвентка ліцэя — Зося Бусловіч.*

кладчык фізікі, заслужаны педагог, працуе ў ліцэі звыш 15 год. Да рэчы будзе заўважыць, што ліцэй пасняхова закончылі абодва яго сыны — Янка і Мікола. Сёння яны ўжо студэнты: Янка Анацік вучыцца ў Вышэйшай інжынерскай школе ў Беластоку, Мікола Анацік — у Вышэйшай сельскагаспадарчай школе ў Любліне. Сям'я Красоўскіх — сястра і брат — выпускнікі ліцэя. Мгр Мікола Красоўскі, закончыўшы матэматычнае аддзяленне Вышэйшай педагагічнай школы ў Аполі, вярнуўся да працы ў наш ліцэй. Цяпер ён працуе загадчыкам секцыі матэматыкі Акруговага метадычнага цэнтра ў Беластоку і выкладчыкам матэматыкі ў нашым ліцэі. Мгр Зінаіда Красоўская закончыла беларускую філалогію ў Варшаўскім універсітэце і ў сучасны момант працуе ў нашым ліцэі выкладчыцай беларускай мовы і літаратуры. Сёстры Сідарук з Чаромхі — таксама нашыя абсальвенткі. Адна з іх пасля заканчэння факультэта будаўніцтва і архітэктуры Палітэхнічнага інстытута ў Варшаве працуе ў Праектным бюро па разбудове горада Варшавы. Другая — Серафіма Кандрацюк пасля заканчэння геаграфічнага аддзялення Вышэйшай педагагічнай школы ў Гданску вярнулася ў свой ліцэй і цяпер працуе кіраўніком секцыі геаграфіі Павятовага метадычнага



ABITURIENCI
1967/1968
BIELSK PODL. L.O. B.J.N.
LICEUM OGÓLNOKSZTAŁCĄCEGO z BIAŁORUSKIM JĘZYKIEM NAUCZANIA
KL. XI a W BIELSKU PODLASKIM KL. XI b

цэнтра ў Бельску і выкладчыцай геаграфіі і астраноміі ў нашым ліцэі. Мгр Пётр Анапюк — выпускнік нашага ліцэя — пасля заканчэння беларускай філалогіі ў Варшаўскім універсітэце вярнуўся ў наш ліцэй і зараз працуе выкладчыкам беларускай мовы і літаратуры і вядзе бібліятэку ў нашым ліцэі. Зубны ўрач нашага ліцэя — Людміла Калішук — пасля заканчэння Медыцынскай акадэміі ў Любліне ўжо шмат год працуе ў ліцэі. Працаўнікі канцылярыі ліцэя — галоўны бухгалтар Людміла Ёдла і сакратар Зінаіда Гантарчук — таксама нашыя выхаванкі.

У Пачатковай школе № 3 з беларускай мовай навучання ў Бельску Падляшскім, якая ад 1965 года з'яўляецца самастойнай навучальнай установай, яе загадчыкам працуе Янка Суліма — выпускнік нашага ліцэя. Настаўніцы гэтай школы: Зоя Бусловіч, Валянціна Гаўрычэнкава і Ірына Хіліманюк — абсальвенткі нашага ліцэя.

Першы выпуск абсальвентаў адбыўся ў 1952 годзе. Было іх усяго 20 асоб. Але гэта быў сапраўды шчаслівы і з вялікімі задаткамі на будучыню пачатак. У 1968 годзе ліцэй закончыў 17-ты выпуск абсальвентаў, а іх агульная колькасць за 20 год працы школы выносіць 746 асоб. З гэтага ліку 339 асоб закончыла ўжо вышэйшыя навучальныя ўстановы ў Польшчы або ў СССР, 130 асоб у сучасны момант вучыцца ў розных вышэйшых школах краіны. Можна іх сустрэць у Шчэціне, Познані, Гданску, Торуні, Беластоку, Жэшове, Любліне, Варшаве і Ольштыне. Асабліва ўданым быў апошні выпуск, г. зн. з 1968 года. На агульны лік 65 абсальвентаў паступала ў вышэйшыя школы 48 асоб, з іх паступіла і вучыцца 39 асоб, сярод іх у Любліне вучыцца 6 асоб, у Варшаве — 7, у Беластоку — 21 асоба.

Гэтае несумненна вялікае дасягненне ліцэя з'яўляецца вынікам ахвярнай і самаадданай працы ўсяго настаўніцкага калектыву школы, яго дбайнасці пра высокі ўзровень адукацыі і належнае выхаванне даверанай яму моладзі. А на гэта складваецца шэраг фактараў. Першы і найважнейшы з іх — гэта настаўніцкі калектыў, грунтоўная яго падрыхтоўка да працы (дарэчы будзе заўважыць, што ўсе настаўнікі ліцэя закончылі вышэйшыя навучальныя ўстановы або іх канчаюць у сучасны момант завочна, а двух з іх адкрылі дактараты і цяпер працуюць над доктарскімі дысертацыямі). Другі — спакойная, карпатлівая, сістэматычная праца выкладчыкаў і моладзі. Трэці — прадуманая арганізацыя самой працы школы. Чацвёрты — добрае матэрыяльнае забеспячэнне ліцэя. І не будзе перабольшаннем, калі сказаць, што ўсе гэтыя патрабаванні ў ім споўнены.

Вакол ліцэя згуртаваўся вялікі грамадскі актыў, які заўсёды і на кожным кроку прыходзіць з дапамогай ліцэю. Узначальвае яго Бацькоўскі камітэт на чале з грамадзянінам Міколам Федаровічам — старшынёй камітэта. Па яго ініцыятыве пабудавана прышкольны





*Вучні ліцэя пры пабудове прышкольнага спартыўнага стадыёна.*

стадыён вартасцю ў 180 тысяч злотых, вядзецца падрыхтоўка да разбудовы будынка ліцэя, пачынены захады і ў выніку атрымана трэці паралельны клас у ліцэі і такім чынам, пачаўшы з 1 верасня 1968 года, працуе па тры аддзелы кожнага класа з наборам у першы клас па 120 вучняў. Шматлікія пачыны па матэрыяльнай дапамозе і апецы над моладдзю ліцэя, выхаваўчыя і культурныя мерапрыемствы — гэта справа нашага сапраўды нястомнага і ахвярнага Бацькоўскага камітэта. І гэтая еднасць у дзеяннях настаўніцкага калектыву і Бацькоўскага камітэта прыносіць надзвычай плённыя вынікі ў выхаванні моладзі.

Ліцэй спаўняе значную ролю ў падрыхтоўцы будучых працаўнікоў і актыву Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы. Многія сярод яго з'яўляюцца абсальвентамі нашага ліцэя. У беларускім штотыднёвіку «Ніва» працуюць былыя яго выпускніцы Лідзія Верабей і Вера Валкавыцкая.

На кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта працуюць былыя абсальвенты ліцэя мовавед мгр А. Багроўская і літаратуразнаўца мгр М. Врублеўскі.

У яго мурах, яшчэ будучы вучнямі, пачалі свае літаратурныя спробы сённяшнія паэты і празаікі з аб'яднання «Белавежа» Дз. Шатыловіч, У. Гайдук, Я. Чыквін і В. Швед.



*Моладзь школы ў Рэдутах, Бельскага павета, працуе ў грамадскім чыне.*



*Моладзь вучыцца рамяства.*





## АГУЛЬНААДУКАЦЫЙНЫ ЛІЦЭЙ З БЕЛАРУСКАЙ МОВАЙ НАВУЧАННЯ Ў ГАЙНАЎЦЫ

Гайнаўка, вуліца Вызвалення 5. Гэта адрас будынка, на якім ад вуліцы прымацавана шыльда: *«Агульнаадукацыйны ліцэй з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы»*, але на Гайнаўшчыне яго называюць проста *«беларускай школай»*. Гэты ліцэй яшчэ малады, але ўжо мае сваю гісторыю.

Годам нараджэння ліцэя быў навучальны год 1949/50. Ужо ў 1944 годзе ў Гайнаўцы паўстае Беларуская Гімназія. Яе арганізатарам і першым дырэктарам была Ніна Нічыпарук, якая паходзіла з Нараўкі, Гайнаўскага павета. Пасля дырэктарам яго быў Васіль Літвінчук, які з вялікай самаахвярнасцю ўключыўся ў нялёгкую працу і, не шкадуючы намаганняў, стварыў неабходныя ўмовы для вучобы. Ужо ў навучальным годзе 1952/53 з ліцэя выходзіць першых 28 выпускнікоў. Была гэта моладзь з Гайнаўшчыны, пераважна сялянскага паходжання. Пяцёра з іх паступаюць у розныя вышэйшыя навучальныя ўстановы, астатнія або паступаюць у розныя прафесіянальныя школы, або пачынаюць працаваць, часта працягваючы вучобу завочна. І так кожны наступны год. Апошні навучальны год (1966/67) быў для ліцэя юбілейным годам. З яго сцен выйшаў пятнаццаты выпуск абсальвентаў.

На працягу 15 год існавання ліцэя закончыла яго 457 абсальвентаў, з іх 111 закончыла або закончыць розныя інстытуты. Яшчэ большая колькасць выпускнікоў закончыла або закончыць розныя прафесіянальныя школы. Якія прафесіі выбіраюць нашыя абсальвенты? Для лепшай нагляднасці прасочым апошні выпуск — выпуск 1966/67 г.

У навучальным годзе 1966/67 закончыла ліцэй 85 абсальвентаў. З іх 5 паступіла на філалагічныя факультэты ўніверсітэтаў, 2 — на матэматычны факультэт педінстытута, 3 у СГГВ, 2 — у ВСР, 2 — у афіцэрскую школу, 21 — у палітэхнічны інстытут; 17 вучыцца ў СН-ах: 11 — на філалагічным аддзяленні, 2 — на фізіка-матэматычным, 2 — на хімічным, 1 — на фізкультурным, 1 — на музычным.

Сярод выпускнікоў вялікай папулярнасцю карыстаюцца гуманітарныя прадметы наогул, а ў прыватнасці родная мова. Аддзяленне беларускай філалогіі пры Варшаўскім універсітэце закончыла звыш дзесяці выпускнікоў Гайнаўскага ліцэя. Варта тут успомніць пра Мар'ю Чурак, якая з'яўляецца навуковым супрацоўнікам Акадэміі навук у Варшаве.

Агульнапаважаным навуковым работнікам з'яўляецца таксама абсальвент нашага ліцэя Міхась Кураш, які з'яўляецца кіраўніком Метадычнага аб'яднання беларускай і рускай моў пры Ваяводскім метадычным цэнтры ў Беластоку. Многія з нашых абсальвентаў працуюць настаўнікамі ў Гайнаўцы і ў Гайнаўскім павеце. Яны з'яўляюцца і добрымі педагогамі, і вядомымі культурна-асветніцкімі дзеячамі ў сваім асяроддзі, зжыліся з гэтым асяроддзем і карыстаюцца там вялікай пашанай. Амаль у кожнай канторы горада і павета, школе і бібліятэцы, радзе нарадовай можна сустрэць нашага былога вучня. Многія з дзяўчат пасля сярэдніх медыцынскіх школ працуюць у бальніцах і розных медпунктах.

У выхаванні гэтых людзей велізарная заслуга настаўнікаў, якія часта працавалі ў цяжкіх і складаных умовах, але не шкадавалі сваіх сіл на тое, каб навучыць і адпаведна выхаваць будучага грамадзяніна Польшчы. Многія з іх адышлі ўжо на заслужаны адпачынак. Да іх належыць напрыклад, вядомы настаўнік Васіль Дзун, узнагароджаны за сваю працу Крыжам заслугі, працаваў у 1951—1959 г.г. Таксама многа намаганняў і працы ўлажылі настаўніцы Тацяна Суфраненка, Яніна Суйкоўская, а перад усім Ніна Вішнеўская, якая вялікі ўклад працы мае за сабою ў вывучанні беларускай мовы.

У гісторыі школы адбылося многа істотных змен. Вельмі нас цешыць той факт, што ўсе ліцэальныя класы маюць па два аддзелы. Ва ўсіх класах (6 аддзелаў) вучацца ў навучальным годзе 1967/68 222 вучні. Вельмі цешыць і тое, што з кожным годам маем усё больш і больш кандыдатаў у першы клас. Вясковая моладзь усё больш ахвотна горнецца да навукі, а таксама школа карыстаецца добрым аўтарытэтам сярод грамадства Гайнаўшчыны.

Трэба адзначыць і той факт, што паступае да нас моладзь больш падрыхтаваная як да навукі, так і да калектыўнага сужыцця, а задача сучаснай школы — гэта не толькі даць вучням прадметныя веды, але і падрыхтаваць іх да жыцця ў калектыве, да будавання шчасця супольна з іншымі, гатовымі да дзейнасці на карысць усяго грамадства. Таму настаўнікі і сама моладзь павінны былі стварыць у школе такую атмасферу, якая была б узорам будучага грамадства, якое маладое пакаленне само будзе тварыць і ў якім будзе жыць. Да гэтых мэт імкнулася наша праца на ўроках, пазаўрочная праца, а таксама ў вялікай меры дзейнасць маладзёжных арганізацый ЗГП і ЗМВ.





*НІНА НІЧЫПАРУК — арганізатар і першы дырэктар Беларускай гімназіі ў Гайнаўцы ў 1944—1945 навучальным годзе. Загінула яна падчас выконвання службовых абавязкаў.*



*ВАСІЛЬ ЛІТВІНЧУК — нарадзіўся ў 1898 годзе ў вёсцы Збочна ў БССР. У 1915 годзе будучы вучнем настаўніцкай семінарыі ў Невелі браў актыўны ўдзел у працы марксісцкай групы студэнтаў, а ў 1918 годзе будучы ў Екацерынаславе ўступіў у рады «КАМСАМОЛА», а потым у 1920 годзе быў прыняты ў рады ВКП(б). Браў ён удзел у Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. На радзіму вярнуўся ў 1922 годзе. У 1945/46 і 1946/47 навучальных гадах быў дырэктарам Беларускай гімназіі ў Гайнаўцы, а ў наступных гадах працаваў выкладчыкам у Ваяводскай партыйнай школе ў Беластоку. Апошнія гады яго працы — гэта Клуб Міжнароднай кніжкі і прэсы ў Беластоку. Зараз ён пенсіянер. За ахвярную шматгадовую працу народная ўлада Польшчы ўзнагародзіла яго «ЗАЛАТЫМ КРЫЖАМ ЗАСЛУГІ» і «КАВАЛЕРСКІМ КРЫЖАМ ОРДЭНА АДРАДЖЭННЯ ПОЛЬШЧЫ». За ўдзел у Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі ўказам Вярхоўнага Савета СССР прысвоена яму «ОРДЭН ЧЫРВОНАЙ ЗВЯЗДЫ».*



*Урачыстасць уручэння Школьнага Сцяга Гайнаўскаму ліцэю.*

Асобнай увагі заслугоўвае арганізацыя ЗМВ, якая налічвае 157 членаў з агульнай колькасці 222 вучняў. Гэта вельмі актыўная арганізацыя, і дзейнасць яе адчуваецца не толькі ў школе, але і на вёсках цэлай Гайнаўшчыны. Усе важныя мерапрыемствы і ў школе і ў павеце не адбываюцца без удзелу нашых школьных актывістаў. За сваю ахвярную працу многія з іх атрымалі ад Павятовага аддзела ЗМВ у Гайнаўцы пахвальныя граматы. Па ініцыятыве арганізацыі ЗМВ прымаюцца і пры актыўным удзеле яе членаў выконваюцца розныя важныя абавязацельствы, як, напрыклад, праца пры ўпарадкаванні горада, пабудове і рамонце дарог, вясковых крам, малачарні, пасадцы дрэў і г. д. Каб не быць галаслоўным, прыводжу вытрымку з «Беластоцкай газеты» ад 4—5 мая 1968 года аб апошніх абавязацельствах вучняў нашай школы:

*«Члены арганізацыі ЗМВ пры агульнаадукацыйным ліцэі ў Гайнаўцы возьмуць удзел у працах пры агарожы школьнай пляцоўкі, пасадцы лесу і ўпарадкаванні сваёй школы. Агульная вартасць гэтых прац у пераліку на грошы раўняецца 10 тысячам злотых».*

Да заслуг нашай школы належыць і тое, што вучні нашыя часта займаюць перадавыя месцы ў міжшкольных конкурсах пад назвай «Алімпіяда ведаў аб Польшчы і сучасным свеце». У мінулым годзе





*АЛЯКСАНДР ІВАНЮК — нарадзіўся ў сялянскай сям'і ў вёсцы Клейнікі, Гайнаўскага павета. Агульнаадукацыйны ліцэй закончыў ён у Бельску, а потым быў прыняты на Варшаўскі універсітэт (кафедра беларускай філалогіі). Пасля яе заканчэння пачаў працаваць настаўнікам у Агульнаадукацыйным ліцэі ў Гайнаўцы, у 1968/69 навучальным годзе з'яўляецца яго дырэктарам.*



*Спартыўная група Гайнаўскага ліцэя, якая ў 1967/68 годзе здабыла кубак Куратара Беластоцкай акругі.*



*Мастацкі калектыў Гайнаўскага ліцэя.*

наша каманда (3 вучняў) заняла трэцяе месца, а ў гэтым — другое ў акрузе. Яшчэ большыя перамогі атрымалі нашыя спартсмены. Шырока вядомы на Гайнаўшчыне і ў ваяводстве выступленні школьнага гімнастычнага калектыву (143 асобы), або жаночай каманды валейбалістак, якая двойчы заваявала кубак куратара, адзін раз была чэмпіёнам ваяводства, заняла трэцяе месца на акруговым чэмпіянаце Польшчы. Тут неабходна сказаць аб вялікім укладзе працы і намаганняў у развіццё фізічнай культуры ў школе настаўнікаў фізкультуры Зоі Колпы і Мікалая Врублеўскага.

Педагагічны савет ліцэя складаецца з 16 чалавек. Трое з іх з'яўляюцца выпускнікамі ліцэя. 8 настаўнікаў мае вышэйшую адукацыю і ступень магістра, трое — вучыцца ў інстытутах завочна. Адзін з настаўнікаў піша доктарскую дысертацыю. Дырэктарам ліцэя ад 1968/69 навучальнага года з'яўляецца мгр Аляксандр Іванюк. Да яго прыхода дырэктарам Гайнаўскага ліцэя ад 1957/58 навучальнага года была Анастасія Тропак.

На словы асобай удзячнасці заслугоўвае таксама настаўніца нямецкай і рускай мовы Эліза Кшэўская, якая на працягу сваёй 19-гадовай працы ў школе паказала сябе як сумленны педагог і блізкі таварыш. Апрача прадметаў яна многа год вучыла дзяцей музыцы, спеву і танцам.





*Вёска Чыжы, Гайнаўскага павета.*

Аднак жа, як і ўсе людзі, жывем мы не толькі радасцямі і дасягненнямі сённяшняга дня. Жывем мы таксама думкаю, каб дабіцца штогод лепшых поспехаў у навучанні моладзі, каб выхаваць яе на ахвярных будаўнікоў нашай Айчыны — народнай Польшчы. Хочам мы таксама, каб іменна ў памяцці бацькоў нашых вучняў, а таксама і самых вучняў наш ліцэй быў сапраўды «беларускай школай».



*Помнік прыроды — «Дуб Ягайлы» у Белавежскім Нарадовым парку.*



*Выраб саламяных каробак.*



Мгр ВІНЦУК СКЛУБОЎСКІ
старшыня ГП БГКТ

# НАСУСТРАЧ VI З'ЕЗДУ БГКТ

## НАШЫЯ ДАСЯГНЕННІ

У дакладзе тав. Клішкі на VIII Пленуме ЦК ПАРП была звернута асаблівая ўвага на велізарнае значэнне для пабудовы сацыялізма — росту грамадскай свядомасці. Пасля рэвалюцыі неабходны дзесяткі год, каб вырашыць у галіне грамадскай свядомасці пытанне «хто каго» на карысць новых пануючых класаў. Нягледзячы на тое, што большасць людзей у нашай краіне адабрае сацыялізм, у свядомасці многіх застаецца яшчэ шмат несацыялістычных, часта рэакцыйных поглядаў, старых навыкаў і звычаяў. Да гэтых перажыткаў адклікаюцца варожыя сілы як у дзяржаве, так і за мяжой.

На VIII Пленуме ЦК ПАРП была падкрэслена неабходнасць узмацнення палітычнай і ідэалагічнай барацьбы за сацыялістычную свядомасць, завастрэння пільнасці ў адносінах да варожай дзейнасці.

Гэтым справам БГКТ прысвячае не малую ўвагу ў сваёй прапагандысцкай і культурна-асветніцкай дзейнасці.

У 1967 годзе былі праведзены 124 даклады, 153 гутаркі, 59 радыёгутарак і зроблены 324 фотавыстаўкі.

Важнай галіной дзейнасці таварыства з'яўляецца пашырэнне беларускага друкаванага слова — органа таварыства — газета «Ніва», беларускіх кніжак і выданняў БГКТ.

Тыднёвік «Ніва», тыраж якога ўзрастае з кожным годам, сталася пачытнай газетай сярод беларускага насельніцтва.

Дзякуючы дапамозе беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі, Саюзу пісьменнікаў БССР, бібліятэкі імя Леніна ў Мінску і Дому савецкай культуры ў Варшаве (плюс закупы ў дамах кніжкі) таварыства атрымоўвае значную колькасць беларускіх кніжак. Большыя бібліятэкі знаходзяцца ў Беластоку, Варшаве, Саколцы, Мілейчыцах. Апрача гэтага, беларускія кніжкі знаходзяцца ў дзяржаўных і школьных бібліятэках. Трэба аднак звярнуць далей увагу на лепшае іх выкарыстанне.

Вялікае значэнне ў пашырэнні беларускага друкаванага слова мелі выданні БГКТ, якія з кожным годам распаўсюджваюцца ў штораз

большай колькасці. Трывалую пазіцыю здабыў выдаваемы штогод Беларускі каляндар, тыраж якога дасягнуў у 1968 г. шасці тысяч экземпляраў. Кожны год узбагачае нас новымі пазіцыямі. Гэткай пазіцыяй быў у 1967 годзе зборнік вершаў Віктара Шведа «Жыццёвыя сцежкі», які здабыў прызнанне беларускага насельніцтва ў Польшчы і спаткаўся з прыхільнай ацэнкай у БССР.

У 1967 г. таварыствам было паказана 270 савецкіх фільмаў, папулярызуючых савецкія дасягненні ў галіне кінематаграфіі.

У папулярызацыі беларускай песні вялікую ролю адыграла эстрадная група «Лявоніха». Нягледзячы на нясталасць кадраў і арганізацыйныя цяжкасці, «Лявоніха», хаця зменшыла колькасць выступленняў, усё ж атрымала належны мастацкі ўзровень.

Нярэдка можна пачуць, што пашырэнне кінематаграфіі і тэлебачання зменшылі магчымасці развіцця аматарскай самадзейнасці. Практыка гэтага не пацвярджае. Выступленні аматарскіх калектываў як харавых, так і драматычных спатыкаюцца з гарачым прыёмам насельніцтва. Хор Бельскага аддзела з поспехам выступаў 19 разоў, у тым і ў Беластоку. У адным Бельскім павеце 25 аматарскіх калектываў дало 131 выступленне. Калектыў вёскі Маліннікі на працягу года арганізаваў 17 выступленняў у вёсках Бельскага і Гайнаўскага паветаў, а ў конкурсе «Тэатр бліжэй вёскі» здабыў першае месца ў павеце. Актыўна працаваў калектыў з Паўлаў, які даў 12 выступленняў. Пасняхова працаваў калектыў з Аўгустова каля Бельска, які быў узнагароджаны (аддзелам культуры ВРН) тэлевізарам на аглядзе БГКТ. Вялікія дасягненні мае эстрадны калектыў Гайнаўскага аддзела БГКТ, які быў высока ацэнены камісіяй на аглядзе ў Беластоку.

Святкаванне 50-годдзя Кастрычніка было адным з найбольш эфектыўных мерапрыемстваў нашага таварыства. Справай гэтай жыло БГКТ ад чэрвеня, а ў верасні быў апрацаваны падрабязны план: пачаліся масавыя мерапрыемствы. Кульмінацыйным пунктам было ўрачыстае пасяджэнне Галоўнага праўлення таварыства 5. XI. 1967 г.

У рамах святкавання было праведзена 112 вечарын і сустрэч з удзельнікамі Кастрычніцкіх падзей, у якім прыняло ўдзел каля 15 000 асоб.

Сустрэчы з мясцовымі грамадскімі і культурнымі дзеячамі, прадстаўнікамі Савецкай Арміі, фільмы і фотавыстаўкі папулярызавалі дасягненні Савецкага Саюза, а асабліва БССР.

Гэтая кампанія прычынілася да значнага ажыўлення працы гурткоў БГКТ, а асабліва аматарскіх калектываў, якія разам з «Лявоніхай» і дэманстраваннем фільмаў забяспечылі мастацкую частку.

Вялікім здарэннем у галіне культуры было адкрыццё ў маі 1966 г. для наведвальнікаў этнаграфічнага музея ў Белавежы. У музеі знаходзіцца звыш 500 цікавых экспанатаў. У 1967 годзе музей наведала каля 6 000 чалавек.





*Урачыстасці 50-годдзя КПЗБ у Рыбаках, Беластоцкага павета.*

Праца ў гуртках лічыцца слабым месцам нашай арганізацыі. Да гэтай апініі прычыняецца факт, што многія гурткі не праяўляюць належнай дзейнасці. Іншыя абмяжоўваюць яе да самадзейнага руху. Зразумела, што самадзейны рух — гэта адна з асноўных форм дзейнасці гурткоў. Аднак праца гурткоў павінна пашырацца на справы палітычныя і гаспадарчыя. У супрацоўніцтве з іншымі грамадскімі арганізацыямі гурткі павінны праяўляць ініцыятыву ў прыманні грамадскіх абавязацельстваў, у пашырэнні ведаў у галіне земляробства, у арганізаванні супольнага набывання сельскагаспадарчых машын, суседскай дапамогі.

Належнае выконванне сваіх абавязкаў усімі звеннямі таварыства, пачынаючы ад паасобных членаў і гурткоў, а канчаючы на галоўным праўленні павінны ліквідаваць многія недахопы і падняць прапагандысцкую, грамадскую і культурную працу на вышэйшы ўзровень.



*Хор Бельскага аддзела БГКТ.*




*Мастацкі калектыў Гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку.*




*Мастацкі калектыў з Барташыцаў, Альштынскага ваяводства. Выступае ў Банях Мазурскіх, Галдапскага павета.*





*Галіна Ціміцкая і Янка Крупа выконваюць беларускі танец «Крыжачок».*



*Мастацкі калектыў Гайнаўскага ліцэя.*




*Мастацкі калектыў з Баняў Мазурскіх, Галдапскага павета.*




*Мастацкі калектыў з Лісаў, Галдапскага павета.*



*«Лявоніха» выступае ў Рыбалах, Бельскага павета, падчас урачыстасці прысвечанай 50-годдзю КПЗБ.*



**Мгр УЛАДЗІМІР ЮЗВЮК**
**Сакратар ГП БГКТ**

# ЦІ ВЕДАЕЦЕ, ШТО...

1) БГКТ у 1966 годзе налічвала 5 499, а ў 1967 годзе — 6 093 члены. Лік гурткоў і членаў у паасобных аддзелах выглядаў так:

| № | Аддзелы БГКТ | 1966 | | 1967 | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | гурткоў | членаў | гурткоў | членаў |
| 1 | г. Беласток | 1 | 760 | 1 | 755 |
| 2 | Бельскі | 45 | 1536 | 46 | 1572 |
| 3 | г. Варшава | 1 | 215 | 1 | 225 |
| 4 | Гайнаўскі | 52 | 1753 | 63 | 2075 |
| 5 | Гарадоцкі | — | — | 6 | 200 |
| 6 | Дуброўскі | 5 | 140 | 5 | 144 |
| 7 | Мілейчыцкі | 17 | 489 | 17 | 518 |
| 8 | Міхалоўскі | 15 | 230 | 9 | 141 |
| 9 | Сакольскі | 23 | 376 | 24 | 403 |
| 10 | г. Гданск | — | — | 1 | 60 |
| | Разам: | 159 | 5499 | 172 | 6093 |

2) Прэзідыум ГП правяло ў 1966 годзе 11 пасяджэнняў, а ў 1967 годзе — 8 пасяджэнняў.
Праўленні аддзелаў БГКТ у той жа час правялі 58 і 57 пасяджэнняў.

3) 12. III. 1966 года быў адкрыты Беларускі музей у Белавежы. У 1967 годзе наведала яго 5410 турыстаў, з гэтага каля 500 чалавек замежных гасцей.

4) У 1966 годзе быў выдадзены беларускі каляндар, а ў 1967 г. зборнік паэзіі В. Шведа «Жыццёвыя сцежкі», беларускі каляндар і статут БГКТ.

5) Асноўныя паказчыкі прапагандысцка-асветніцкай дзейнасці БГКТ у 1966 і 1967 гадах выглядалі так:

| Аддзелы БГКТ | Даклады | | Гутаркі | | Радыё-гутаркі | | Фільмы | | Фота-выстаўкі | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1966 | 67 | 66 | 67 | 66 | 67 | 66 | 67 | 66 | 67 |
| г. Беласток | 14 | 11 | 10 | 10 | — | 2 | 42 | 45 | 16 | 12 |
| Бельскі | 48 | 45 | 41 | 22 | 36 | 10 | 43 | 40 | 28 | 48 |
| г. Варшава | 5 | 6 | — | — | — | — | — | — | 3 | 3 |
| Гайнаўскі | 32 | 45 | 22 | 39 | 42 | 20 | 44 | 53 | 60 | 74 |
| Гарадоцкі | — | — | — | — | 41 | 8 | 10 | 12 | — | 16 |
| Дуброўскі | — | — | 6 | 2 | 47 | 15 | 6 | 12 | 21 | 35 |
| Мілейчыцкі | 30 | 6 | 31 | 53 | — | — | 15 | 31 | 11 | 57 |
| Міхалоўскі | 7 | 2 | 12 | 6 | — | — | 12 | 22 | 16 | 30 |
| Сакольскі | 4 | 9 | 8 | 17 | 44 | 6 | 9 | 35 | 14 | 49 |
| г. Гданск | — | 1 | — | 1 | — | — | — | — | — | — |
| Разам: | 140 | 125 | 130 | 150 | 210 | 59 | 181 | 250 | 169 | 324 |

6) З нагоды 50-ай гадавіны Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі БГКТ правяло 112 акадэмій і вечарын, у якіх прыняло ўдзел 14 140 чалавек. Мастацкую частку давалі на 42 вечарынах аматарскія самадзейныя гурткі, на 19 — школьнікі беларускіх школ, на 46 — БГКТ дэманстравала савецкія фільмы і толькі на 5 вечарынах выступілі самадзейнікі іншых арганізацый.



*Драматычны гурток у вёсцы Сухавольцы, Гайнаўскага павета.*



7) У 1966 годзе прадана 7270 кніжак, а ў 1967 годзе — 8998 кніжак выдавецтва БГКТ,, з гэтага Гайнаўскі аддзел таварыства распаўсюдзіў каля 32%.

8) У апошніх гадах аматарскі беларускі рух не выказвае стабільнасці, але няма таксама ў сувязі з увядзеннем тэлебачання — упадку. Сведчаць аб гэтым наступныя даныя:

| № | Аддзелы БГКТ | Лік аматарскіх гурткоў | | Лік калектыв. | | Канцэрты „Лявоніхі" | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1966 | 1967 | 1966 | 1967 | 1966 | 1967 |
| 1. | г. Беласток | — | 1 | 1 | — | 2 | 6 |
| 2. | Бельскі | 21 | 26 | 1 | 1 | 31 | 31 |
| 3. | г. Варшава | — | — | 1 | 1 | — | — |
| 4. | Гайнаўскі | 24 | 18 | 1 | 1 | 29 | 30 |
| 5. | Гарадоцкі | 2 | 4 | 1 | 1 | 6 | 7 |
| 6. | Дуброўскі | — | — | — | — | 4 | 2 |
| 7. | Мілейчыцкі | 9 | 12 | — | — | 33 | 18 |
| 8. | Міхалоўскі | 3 | — | — | — | — | — |
| 9. | Сакольскі | 3 | 5 | — | — | 35 | 32 |
| 10. | г. Гданск | — | 1 | — | — | — | — |
| 11. | іншыя | — | — | — | — | 42 | 29 |
| | Разам: | 62 | 67 | 5 | 4 | 188 | 165 |



*Віктар Швед падчас сустрэчы з моладдзю Бельскага ліцэя.*



*Кацярына Марцінчык з Бялявіч, Беластоцкага павета, прадзе на калаўротку.*



*Настуся Палаўянюк з Парцава, Бельскага павета, тчэ саламяныя маты.*



ГЕОРГІ ВАЛКАВЫЦКІ

галоўны рэдактар «Нівы»

# З „НІВАЙ“ ПРАЗ ГАДЫ

«Ніва» з'яўляецца органам Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства і ўзнікла разам са стварэннем нашай арганізацыі. Дакладней, рэдакцыя паклікана была ў студзені 1956 года і разам з арганізацыйным камітэтам БГКТ рыхтавалася да свайго вялікага свята — І з'езда БГКТ і выпуску першага нумара. З'езд быў запланаваны на 26 лютага і, улічыўшы, што большасць рэдакцыйнага калектыву ў журналісцкай працы ставіла першыя крокі, часу на падрыхтоўку было вельмі мала. Але было ў нас многа энтузіязму. І ён не падвёў. На з'езд выпусцілі мы спецыяльны нумар, а ад 4 сакавіка пачалі лік сваім нармальным нумарам.

Працавалі ў цяжкіх умовах. Два пакоі, у якіх на вуліцы Кілінскага змяшчалася наша рэдакцыя, служылі да працы і адпачынку. Паколькі амаль усе мы ў той час не мелі ў Беластоку сваіх сталых кватэр, часта рэдакцыя была і нашым начлежным домам. Жылі мы адной думкай: здабыць правы грамадзянства! Гэта значыла, здабыць чытача. Толькі ён дасць нам сапраўдную ацэнку. Яму ж і пакліканы мы служыць.

Паток усхваляваных, поўных радасці, лістаў, які паплыў у рэдакцыю з першымі нумарамі «Нівы», цешыў нас і забавязваў. Мы не маглі падвесці даверу сваіх чытачоў, якія, апрача слоў захаплення, выказвалі таксама свае спадзяванні, а то і проста ставілі перад рэдакцыяй канкрэтныя патрабаванні. Паміж чытачамі і рэдакцыяй ад першага нумара склаліся сяброўскія адносіны. Такімі яны і засталіся да сённяшніх дзён. З лістоў, якіх за гэтыя гады атрымалі мы тысячы, перш за ўсё б'е менавіта сяброўства, непасрэднасць у выказванні сваіх думак, клопатаў ці запытанняў. Гэты шчыры і надзвычай прыязны дух асабліва адчуваем у час нашых паездак у вёскі, дзе і знаходзіцца наша асноўная чытальніцкая база. Ён у нас — галоўным дэвізам. Яго мы заўсёды ахвотна вітаем на сваіх старонках і ў сваіх (павялічыўшыхся) пакоях на Весялоўскага 1. Стараемся аддзякаваць чытачам не менш сардэчнымі адносінамі.



*На здымку справа: Нестар Перазой з Бельска — прапагатар «Нівы».*

Наша дружба з гадамі сталела і пашыралася. Найлепш аб гэтым сведчыць пастаянны ўзрост попыту на наш часопіс. Чытаюць «Ніву» не толькі на Беласточчыне, але і ва ўсёй нашай краіне. Маем таксама сваіх падпісчыкаў у 10 замежных краінах. Найбольш, вядома, чытаюць нас беларусы Беласточчыны. На Гайнаўшчыне, напрыклад, па колькасці падпісчыкаў, выйшлі мы на першае месца. Добра развіваецца чытальніцтва «Нівы» і ў Бельскім павеце. Трэба, каб з гэтых паветаў бралі прыклад і іншыя паветы з беларускім насельніцтвам, такія як Беластоцкі, Сакольскі, Дуброўскі і Сямяціцкі. Там менавіта скрываюцца нашыя нявыкарыстаныя рэзервы ў пашырэнні «Нівы». Вялікую ролю адыграць маглі б тут гурткі БГКТ і мясцовыя актывісты нашага таварыства.





*Беласток. Будынак РСВ «Прэсы», у якім знаходзіцца рэдакцыя штотыднёвіка «Ніва».*

Як выглядаў попыт на наш тыднёвік у гадах 1956—1967 паказвае наступная табліца:

| Год | Прададзена агулам (экземпляраў) | У тым | |
|---|---|---|---|
| | | на падпісцы | У рознічнай продажы |
| 1956 | 241 000 | 194 700 | 46 300 |
| 1957 | 179 000 | 148 000 | 31 000 |
| 1958 | 203 000 | 172 000 | 31 000 |
| 1959 | 206 000 | 179 000 | 27 000 |
| 1960 | 215 000 | 192 000 | 23 000 |
| 1961 | 226 000 | 203 000 | 23 000 |
| 1962 | 236 000 | 210 000 | 26 000 |
| 1963 | 252 229 | 214 789 | 37 440 |
| 1964 | 262 000 | 225 000 | 37 000 |
| 1965 | 261 000 | 219 000 | 42 000 |
| 1966 | 289 831 | 239 452 | 50 379 |
| 1967 | 338 692 | 265 435 | 73 257 |




*Чытач «Нівы».*

Для яснасці адзначым, што 1956 год не быў тыповым у распаўсюджванні «Нівы» (зрэшты, таксама і іншых часопісаў). Тады існавалі іншыя правілы ў продажы газет і падпісцы (напрыклад, пісьманосцы мелі планы). Так што для дадзенай табліцы, калі хто б хацеў даследваць развіццё «Нівы», зыходным пунктам павінен быць 1957 год.

Наш рост тым больш будзе выразны, калі ўлічым факт не малога значэння, што ў сапраўднасці ўзніклі мы на цаліннай глебе. Бо хоць і выйшла на Беласточчыне першая беларуская газета — «Мужыцкая праўда», аднак толькі «Ніва» знайшла тыя ўмовы, якія неабходны для плённага развіцця газеты. Гэтыя ўмовы стварыла нам народная ўлада. Сёлета, калі святкуем 25-годдзе народнай улады ў Польшчы, гэты факт варта асабліва падкрэсліць. Таму мы гаворым: стварэнне і развіццё «Нівы» — гэта заслуга народнай улады.

Яшчэ ніколі беларусы ў Польшчы не мелі такіх правоў, такіх магчымасцей творчага развіцця, якія маем мы — грамадзяне ПНР. Гэта найлепшы стымул для нашай працы. Таму мы з'яўляемся патрыётамі нашай народнай айчыны, таму мы змагаемся за яе светлую будучыню і заклікаем да гэтага ж сваіх чытачоў.

*

* *



Мгр АЛЯКСАНДР ІВАНЮК

старшыня праўлення аддзела БГКТ
у Гайнаўцы

# Гісторыя, дасягненні, перспектывы

Беларускае грамадска-культурнае таварыства было ўтворана 26 лютага 1956 г. першым арганізацыйным з'ездам у Беластоку. Неўзабаве, бо ўжо 20 мая 1956 г. на першай канферэнцыі быў арганізаваны Гайнаўскі аддзел БГКТ. У склад праўлення аддзела ўвайшлі: Філіпчук Ян — старшыня, Вішнеўскі Мікалай — намеснік старшыні і Ніна Лебядзінская, настаўніца, у якасці сакратара. Членамі былі: Грачко Параска, Гіншт Анатоль, Грыць Кастусь, Баравік Рыгор, Младзяноўскі Ян, Новік Кастусь, Несцяровіч Мікалай. З аналізу плана працы і справаздаўчых даных вынікае, што Гайнаўскі аддзел з першых дзён свайго існавання пачаў рэалізаваць статутовыя заданні арганізацыі. Асаблівую ўвагу звяртаў на колькасны рост арганізацыі ў павеце, на прапаганду ролі і заданняў таварыства, на развіццё аматарскага руху і на пашырэнне чытальніцтва беларускай кніжкі.

Даныя за 1956 год сведчаць, што ў гэтых галінах аддзел дасягнуў, як на пачатак, добрых вынікаў. У канцы гэтага года існавала ў павеце 12 гурткоў з агульнай колькасцю 215 членаў. Працавала 16 мастацкіх калектываў, якія за асенне-зімовы сезон далі 39 канцэртаў. Дзякуючы, клопатам аддзела, большасць бібліятэк у Гайнаўскім павеце набыла беларускія кніжкі і часопісы. Наступіў таксама значны ўзрост чытальніцтва, што ў выніку спрыяла павышэнню культурнага ўзроўню вёскі. Трэба дадаць, што на працягу. 1956 года ў Гайнаўскім аддзеле не было штатнага працаўніка. Таму гэтыя вынікі заслугоўваюць тым больш на пахвалу.

У 1958 годзе выдзяляецца новае праўленне аддзела на чале з Мікалаем Тарасевічам. У гэтым годзе ўводзяцца новыя формы працы. Аддзел пачынае апрацоўваць радыёгутаркі, праводзіць першыя нарады актыву БГКТ, арганізуе першыя ў нашай арганізацыі конкурсы на лепшы мастацкі калектыў і іншыя працы.



*Гайнаўка. Дом настаўніка, у якім знаходзіцца памяшканне аддзела БГКТ.*

Нягледзячы на вялікія дасягненні, трэба сцвердзіць, што Гайнаўскі аддзел у 1957—1958 г.г. не выкарыстаў існуючых магчымасцей.

З гадавых справаздач і некаторых інфармацый ГП БГКТ вынікае, што выразнае ажыўленне ў працы Гайнаўскага аддзела наступіла ў 1959 г. У гэтым жа годзе актыўна ўключаюцца ў працу аддзела: В. Дзун, М. Самоцік, А. Закройшчык. Вынікі працы ў наступных гадах пераканаўча пацвердзілі правільнасць такога напрамку дзейнасці. Выразна ўзрастае колькасць членаў арганізацыі, больш поўна рэалізуюцца заданні таварыства, акрэсленыя статутам. І так у 1960 годзе БГКТ у Гайнаўскім павеце налічвала 607 членаў, аб'яднаных у 37 гуртках.

Да іншых форм працы, якія праводзіліся аддзелам трэба залічыць: радыёгутаркі, даклады, арганізацыя бібліятэкі пры аддзеле БГКТ. Наладжанне супрацоўніцтва са школамі і настаўнікамі, аддзелам асветы і культуры, арганізацыямі ЗМВ і ЗНП. Вялікія заслугі аддзела ў павелічэнні колькасці падпісчыкаў «Нівы». У 1960 г. на Гайнаўскі павет прыпадала 1 600 экземпляраў, а гэта была колькасць паловы ўсіх падпісчыкаў гэтай газеты ў Беластоцкім ваяводстве.

У 1961—1962 г.г. асаблівай увагі заслугоўваюць клопаты аб развіцці самадзейнасці руху. У канцы 1961 г. у павеце актыўна працавала 28






*Мастацкі калектыў Гайнаўскага аддзела БГКТ падчас экскурсіі наведаў гістарычныя месцы Польшчы. Быў ён у Кракаве, Ойцаве, Алькушы і ў Музеі Мартыралогіі ў Асвенціме.*

калектываў. Калектывы гэтыя абслугоўвалі фестыны, прысвечаныя 80-годдзю нараджэння Я. Купалы, павятовыя дажынкі ў Чыжах, вечарыну прысвечаную 44-ай гадавіне Кастрычніцкай рэвалюцыі і іншыя ўрачыстасці. У 1963 г. вясной адбываецца чарговая павятовая канферэнцыя, якая выбрала новае праўленне аддзела: яго старшынёй выбраны Васіль Дзун. Гэты ж год прыносіць новыя вынікі ва ўсіх амаль прынятых і выпрацаваных ужо раней формах працы, арганізацыя ўсё больш разрастаецца. На працягу года прыбыло 13 новых гурткоў і 220 членаў.

У 1965 годзе наглядаецца ўзможаная дзейнасць у галіне прапаганды. У гэтым годзе многія актывісты БГКТ уключыліся ў выбарчую кампанію ў рады нарадовыя і сейм ПНР. Актывісты БГКТ правялі многа сустрэч з насельніцтвам вёсак, у час якіх былі праведзены даклады аб дасягненнях Польскай Народнай Рэспублікі за перыяд яе 20-цігоддзя. Было арганізавана 11 фотавыставак з жыцця Савецкай Беларусі. Праводзіўся таксама набор новых членаў і арганізацыя новых гурткоў.

У 1966 годзе адбываецца перадвыбарчая кампанія БГКТ. Нашыя актывісты правялі вялікую колькасць сустрэч з членамі таварыства. Гэтыя сустрэчы дазволілі сабраць багаты матэрыял у сэнсе ацэнкі нашай працы. На аснове гэтага матэрыялу, на аснове дыскусіі і пастаноў V-ай канферэнцыі і V з'езда таварыства праўленне нашага аддзела глыбока прааналізавала ўсе дасягненні, недахопы і магчы-

масці БГКТ у павеце. Вывад быў наступны: Дасягненні вялікія, але яшчэ недастатковыя, недахопы трэба ліквідаваць, а магчымасці працы і запатрабаванні на яе ў павеце вялікія. Прыняўшы гэты вывад за падставу, праўленне аддзела пачало шукаць новых форм, якія б дазволілі зрабіць працу больш атракцыйнай і цікавейшай. Каб рэалізаваць вышэй указаныя замыслы, праўленне аддзела ўпершыню пачало:

— *апрацоўваць больш рэальныя, больш дастасаваныя да магчымасцей і патрэб гадавыя планы працы;*

— *рабіць на сваіх пасяджэннях аналіз працы інструктараў і актыву;*

— *навязаць вельмі цесныя кантакты і супрацоўніцтва з рознымі ўстановамі і арганізацыямі;*

— *утрымліваць шырэйшыя кантакты з ГП БГКТ і патрабаваць ад яго дапамогі;*

—*арганізаваць мастацкі калектыў пры аддзеле.*

Дасягненні 1966—1967 г.г. даюць поўныя падставы сцвярджаць, што прынятая праграма дзейнасці была добра прадумана і правільная. Каб больш поўна паказаць вышэй сказанае, трэба хаця агульна затрымацца над дадзенымі з працы на працягу гэтых двух гадоў. Колькасны ўзрост арганізацыі быў у параўнанні з папярэднімі гадамі вялікі. Прыбылі нам 663 новыя члены і 13 новых гурткоў.

Праўленне аддзела далей вялікую ўвагу прысвячала прапагандзе. Найбольш масавым сродкам прапаганды нашай арганізацыі, несумненна, з'яўляецца тыднёвік «Ніва». Разумеючы вялікую ролю «Нівы» як інфарматара аб працы таварыства, аб культурных і гаспадарчых дасягненнях у Польшчы, аб розных падзеях у свеце, а ў апошні час, як дапаможніка для настаўнікаў, праўленне нашага аддзела шукала спосабаў павелічэння колькасці падпісчыкаў «Нівы». Пры дапамозе аддзела асветы і многіх настаўнікаў, а таксама дырэктара гайнаўскай пошты Мікалая Сулімы былі дасягнуты добрыя вынікі. На агульны тыраж 7 897 экземпляраў на Гайнаўскі павет прыпадала ў 1967 г. 2870.

Вялікую ролю ў развіцці і папулярызацыі беларускай культуры маюць выдавецтвы ГП БГКТ. Гайнаўскі аддзел у распаўсюджванні гэтых выдавецтваў зараз займае першае месца. І так у 1966 г. было распаўсюджана выдавецтваў на агульную суму 22 800 зл., а ў 1967 г. на 20 000. Гэта значыць, што на наш аддзел прыпадае каля 30% даходаў ГП БГКТ з выдавецтваў.

Наступнай формай, якую прымяняе наш аддзел для папулярызацыі беларускага слова, з'яўляюцца аўтарскія сустрэчы, якія карыстаюцца вялікай папулярнасцю. Ініцыятыва выходзіць не ад самога аддзела, а ад школ, клубаў ці бібліятэк. На працягу апошніх двух год было арганізавана 56 сустрэч. Гэтая колькасць не вычэрпвае ўсіх патрэб насельніцтва на падобнага характару кантакты аўтара з чытачом, але роля сустрэч і іх уздзеянне вялікае.



Адным з важных статутовых заданняў таварыства з'яўляецца прапаганда сярод насельніцтва культурных, гаспадарчых і навуковых дасягненняў Савецкай Беларусі. Найбольш папулярнай формай у рэалізацыі гэтых заданняў з'яўляюцца фотавыстаўкі. У 1966 г. Гайнаўскі аддзел арганізаваў 17 фотавыставак, а ў 1967 г. 74.

У сваёй працы праўленне нашага аддзела вялікую ўвагу прысвячала актуальнай грамадска-палітычнай праблематыцы і дзяржаўным падзеям. Члены нашай арганізацыі заўсёды актыўна ўключаліся ў адзначэнне дзяржаўных свят, гадавін і важных актуальных падзей. І так у 1967 г. для адзначэння 25-гадавіны ППР былі арганізаваны вечары і сустрэчы з былымі яе членамі. З гэтай нагоды было арганізавана 5 вечарын і праведзена лектарамі БГКТ 17 дакладаў. У гэтым жа годзе ўсё прагрэсіўнае чалавецтва святкавала 50-ую гадавіну Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі. З вялікім задавальненнем трэба сказаць, што БГКТ мела адну з багацейшых праграм у павеце пры адзначэнні гэтай гадавіны. Быў арганізаваны 18 чэрвеня ў Семяноўцы фестын, адбылося 13 акадэміі і 21 вечарніца. Было праведзена 10 дакладаў на тэмы, звязаныя з Вялікім Кастрычнікам.

Вялікую дапамогу атрымаў аддзел ад Рады мейскай і прадпрыемства «Постэмп» у Гайнаўцы.



***Члены мастацкага калектыву падчас экскурсіі наведалі былы канцэнтрацыйны лагер у Майданку, у якім гітлераўскія акупанты замучылі тысячы асоб.***

Культурна-асветныя праблемы Гайнаўскі аддзел у 1966—1967 г. г. ардэалізаваў станоўча. Трэба звярнуць тут увагу на цесны кантакт аддзела з аддзелам асветы і культуры, з усімі школамі, бібліятэкамі, клубамі, настаўнікамі і рознымі ўстановамі ў павеце. Гэтае супрацоўніцтва праяўлялася асабліва пры распаўсюджванні выдавецтваў БГКТ, пры стварэнні самадзейных калектываў, пры арганізацыі дэкламатарскіх конкурсаў, элімінацый мастацкіх калектываў, пры зборы экспанатаў, падпісцы на «Ніву», пры аўтарскіх сустрэчах і іншых працах, звязаных з жыццём школы, ці іншых культурна-асветных устаноў. Прыкладна, у 1967 г. у дні асветы, кніжкі і друку аддзел сумесна з павятовай бібліятэкай арганізаваў 10 аўтарскіх сустрэч з беларускімі паэтамі А. Барскім і В. Шведам, а таксама журналістамі «Нівы». З нагоды дня дзеяча культуры многія нашыя актывісты атрымалі грашовыя і рэчавыя ўзнагароды ад ГП БГКТ і аддзела асветы і культуры ў Гайнаўцы.

Ацаняючы культурна-асветную дзейнасць, трэба моцна падкрэсліць яшчэ адну з форм гэтай дзейнасці, а менавіта настаўніцкія канферэнцыі. Аб'ектыўна трэба сказаць, што дзякуючы ініцыятыве аддзела і сур'ёзнаму падыходу да гэтага з боку педагагічных працаўнікоў Гайнаўскага аддзела асветы і культуры, настаўніцкія канферэнцыі сталі больш цікавымі, на вышэйшым узроўні, стала багацейшая іх педагагічна-метадычная праблематыка. Зусім дрэнна прадстаўляецца справа ў галіне арганізавання сярод дарослых праблемных курсаў беларускай літаратуры і мовы. Гэтая форма культурнай дзейнасці ў апошні час зусім перастае існаваць. Цяжка пакуль што ўказаць на асноўныя прычыны гэтай з'явы. Адно толькі пэўнае, што ад гэтай формы працы нельга зусім адмаўляцца, таму што яна дазваляе найбольш грунтоўна і поўна пазнаёміць насельніцтва з гісторыяй беларускага народа і яго культурай.

Асобую ўвагу трэба прысвяціць праблеме аматарскага руху. Гэты адрэзак працы вельмі важны для таварыства і патрэбны для асяроддзя.

Нягледзячы на ўсё гэта, аддзел мае ў галіне мастацкай самадзейнасці даволі добрыя вынікі. Адным з найбольшых дасягненняў было стварэнне эстраднага калектыву пры аддзеле. Існаванне такога калектыву дазволіла аддзелу навязаць больш блізкія кантакты з насельніцтвам, шырэй пазнаёміць яго з беларускай культурай і мовай, павінна садзейнічаць развіццю самадзейнага руху ў павеце. Гаворачы аб калектыве, нельга памінуць людзей, якія найбольш заслужыліся для яго арганізацыі. Да іх перш за ўсё належыць старшыня гарадскога гуртка Кастусь Грыц, канферансʼе калектыву Сяргей Сац і мастацкі кіраўнік Віталі Макац. З вялікай дапамогай прыйшоў аддзел культуры і перш за ўсё яго кіраўнік Станіслаў Кастэра, які шчыра падтрымліваў калектыў і прычыніўся да яго развіцця. Папаўняючы вобраз дзейнасці Гайнаўскага аддзела, трэба асоба адзначыць яго заслугі ў стварэнні беларускага грамадскага музея ў Белавежы.





*Мастацкі калектыў Гайнаўскага аддзела БГКТ падчас выступлення ў Дубічах Царкоўных.*

Гайнаўскі аддзел у 1964 годзе пачаў збор экспанатаў, а першым збіральнікам экспанатаў быў В. Дзун, які сам знайшоў і прынёс да аддзела першых 10 экспанатаў. Гэта быў пачатак музея. На звыш 500 экспанатаў з Гайнаўскага павета паходзіць значная частка.

Адзначаныя вышэй дасягненні і недахопы, напэўна не вычэрпваюць усёй дзейнасці, якой займалася БГКТ. Выдаецца аднак, што гэтая, хаця няпоўная, інфармацыя дазваляе зрабіць істотныя вывады а менавіта:

— *колькасць членаў арганізацыі пастаянна павялічваецца;*
— *адбываюцца сталыя пошукі новых форм і метадаў працы ў канфрантацыі з практыкай, з патрэбамі жыцця;*
— *узрастае якасць працы БГКТ і ўзбагачаецца яе змест;*
— *штораз лепш выконваюцца заданні статута.*

Гэтыя станоўчыя моманты ў нашай працы ствараюць перспектывы далейшага развіцця дзейнасці БГКТ у нашым павеце ў будучыні.

УЛАДЗІМІР РАЕЎСКІ

старшыня Бельскага аддзела БГКТ

# Хор Бельскага аддзела БГКТ

Доўгі час Праўленне Бельскага аддзела Беларускага грамадска-культурнага таварыства хвалявала тое, што ў самым Бельску таварыства слаба разгортвае сваю дзейнасць. Справы культурна-асветнай працы ў павеце і горадзе абмяркоўваліся некалькі разоў. Члены праўлення пачалі шукаць розных спосабаў, каб актывізаваць бельскае асяроддзе.

Мастацкая самадзейнасць папулярная ў беларускіх вёсках. Яна часта аб'ядноўвае людзей, гуртуе іх у супольнай грамадскай працы. Там, дзе ёсць самадзейны мастацкі калектыў, заўсёды добра працуе гурток БГКТ. Гэта было намі заўважана ўжо даўно. Таму праўленне аддзела падтрымала прапанову вопытнага дзеяча Якуба Базылюка, каб у Бельску стварыць беларускі хор.

Праўленне аддзела на сваім пасяджэнні ў лістападзе 1964 года даручыла Якубу Базылюку пры дапамозе Мікалая Серадзінскага і мяне, як старшыні аддзела, прыступіць неадкладна да арганізацыі хору.

Асноўным нашым заданнем было знайсці жадаючых працаваць у хоры людзей і спецыяліста, які б мог імі кіраваць. З таго часу не толькі адказныя, але і цэлае праўленне праводзіла размовы з многімі членамі БГКТ і сімпатыкамі. Знайсці адпаведную для хору колькасць людзей, як пазней аказалася, не было справай простай. Адначасова мы звярнуліся да маладога абсальвента настаўніцкай студыі Аляксандра Лукашука, які ўзяўся весці хор бескарысна.

Першы раз будучы хор меў сабрацца ў клубе Бельскага агульнаадукацыйнага ліцэя. На рэпетыцыю прыйшлі толькі Еўдакія Навакоўская, Ганна Радзівонюк, Анастасся Адамюк і Марыля Серадзінская. Праца хору не магла пачацца. Аднак мы не злажылі рук.

Пасля гэтага мы больш актыўна пачалі шукаць таленавітых людзей у горадзе і суседніх вёсках. Між іншым, аднымі з першых былі Надзя Манаковіч і Уладзімір Весялоўскі з вёскі Пасынкі.



У снежні 1964 г. пачалася праца з 12 асобамі. Нягледзячы на тое, на рэпетыцыі хору прыходзіла штораз больш людзей. На працягу 3 месяцаў мы згуртавалі ў хоры 30 асоб, якія пачаў выступаць з канцэртамі на павятовых урачыстасцях і ў вёсках. Нават выступаў у Беластоку на акадэміі, прысвечанай 40-годдзю Беларускай сялянска-работніцкай грамады, а таксама ў Сакольскім і Гайнаўскім паветах.

Галоўнае праўленне БГКТ высока цаніла працу хору і закупіла хору нацыянальныя ўборы. Гэта спрыяла паляпшэнню працы хору. Як бы не было, харысты ў нацыянальных уборах адчувалі сябе на сцэне смялей.

У 1966 годзе праўленне аддзела звярнулася да аднаго з актыўных харыстаў Юркі Шурбака, каб паспрабаваў сваіх сіл у кіраванні хорам. Выбар аказаўся ўдалы і карысны. Хор пад кіраўніцтвам Ю. Шурбака паспяхова працуе да сённяшняга дня. Найбольш актыўнымі членамі хору ад пачатку яго існавання з'яўляюцца: Уладзімір Жэпко, Кастусь Шымчук, Марыя Цар, Вера Раеўская, Мікалай Хілімонюк, Зінаіда Врублеўская, Анна Прыступ і некалькі іншых, якіх з недахопу месца не можам вылічыць.

Наш хор у сваім рэпертуары мае песні беларускія, рускія, украінскія і польскія. Складаецца з 42 асоб, у тым ліку ёсць 11 мужчын. Выступае не толькі ў сваім павеце, але і ў суседніх. У 1966 годзе даў



*Мастацкі калектыў аддзела БГКТ у Бельску падчас выступлення ў Супраслі.*



*Марыя Ярашук — салістка мастацкага калектыву ў Бельску.*

12 канцэртаў, у 1967 — 19. Выступалі, між іншым, у Чаромсе ў сувязі з днём чыгуначніка, у Беластоку ў зале ГП БГКТ, на акадэміі прысвечанай 50-цігоддзю Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі, у Супраслі на нарадзе кіраўнікоў аддзелаў унутраных спраў паўночна-ўсходніх ваяводстваў.

Вялікім поспехам карысталіся канцэрты нашага хору ў Бельску. Водгукі аб гэтых канцэртах былі вельмі добрыя. Публіка прыняла нас горача і шчыра.

Беручы пад увагу нашыя дасягненні, бельскія ўстановы, такія як ПЗГС, ПСС, кааператыў інвалідаў, ГС, многабранжавы кааператыў ПГР «Рудка», прызначылі нашаму хору адпаведны фонд, які мы выкарысталі на ўзбагачэнне праграмы дзейнасці хору. У будучыні мы павінны ўвесці танцы. Гэта значна ўзбагаціла б праграму. Гаворачы аб харыстах, трэба падкрэсліць іх самаахвярнасць, іх шчыры падыход да працы ў хоры. Яны ж працуюць бескарысна і за гэта ім шчыра дзякуем.

Спадзяемся, што канцэрты ў Бельску, на якіх былі прадстаўнікі мясцовых улад, будуць спрыяць іх зацікаўленню працай нашага хору і аказванню яшчэ большай дапамогі.

А хор далей будзе развівацца і расці.

---

др АЛЯКСАНДР БАРШЧЭЎСКІ

Старшыня праўлення
літаратурна-мастацкага аб'яднання
«Белавежа»

# ДЗЕСЯЦІГОДДЗЕ «БЕЛАВЕЖЫ»

Дзесяць гадоў таму назад было створана літаратурнае аб'яднанне, якое дало пачатак арганізаванаму беларускаму літаратурнаму руху ў Народнай Польшчы. Арганізаваныя формы гэтага руху звязаны цесна з узнікненнем Беларускага грамадска-культурнага таварыства і з заснаваннем яго органа «Нівы». Трэба аднак адзначыць, што ўжо і да моманту ўзнікнення БГКТ існавалі ў Польшчы спробы творчасці на беларускай мове. Праяўляліся яны найчасцей у кругах школьнай моладзі, выступалі таксама ў асяроддзі вясковых жыхароў.

Многія з вершаў, створаных у гэтых асяроддзях у гадах 1944—1956, захаваліся да сёння. Мне асабіста прыходзілася з імі сустракацца, таму што некаторыя аўтары перахоўваюць іх клапатліва, верачы, што становяць яны сур'ёзную літаратурную вартасць. У грамаднай большасці выпадкаў паэзія гэта пазбаўлена аднак літаратурнай каштоўнасці. Пры поўнай амаль адсутнасці высокай літаратурнай формы знаходзім у ёй вялікія эмоцыі і вялікае гучэнне палітычна-грамадскага зместу. Нянавісць да гітлераўскай Германіі, адлюстраванне дзейнасці партызанскага руху, вера ў грамадскую справядлівасць у новай Польшчы, праслаўленне гераізму Савецкай Арміі — гэта галоўныя праблемы гэтых вершаў. Такім чынам, беларуская паэзія ў пасляваеннай Польшчы ставалася дакументам эпохі, эпохі вялікіх падзей, вялікіх перамен і вялікіх надзей.

Выключна слабыя фармальныя вартасці гэтай паэзіі не апраўдвалі б спробы пошукаў, збору гэтай паэзіі і выдання яе ў зборніку. Варта аднак адзначыць, што некаторыя аўтары змяшчаюць у «Ніве» і іншых выданнях БГКТ свае найлепшыя творы, напісаныя адразу пасля вайны.

Вяртаючыся да створанага ў 1958 годзе літаратурнага аб'яднання, варта прыгадаць, што галоўным яго ініцыятарам і арганізатарам быў рэдактар «Нівы» Г. Валкавыцкі. Ён склікаў сходы аб'яднання, ён запрашаў на гэтыя сходы крытыкаў і ён друкаваў творы членаў аб'яд-

нання ў «Ніве». Валкавыцкаму таксама належыць ініцыятыва выдання і рэдактарства першага супольнага альманаху — «Рунь», які выйшаў у 1959 годзе. У гэтым зборніку змясціла свае творы 17 аўтараў. Былі гэта наогул слабыя вершы. Некаторыя аўтары аднак сваімі творамі заяўлялі, што маюць праўдзівы літаратурны талент і што іх паяўленне ў літаратурнай творчасці не выпадковае. З 17 аўтараў, змясціўшых свае вершы ў «Руні», каля дзесяці знікла бясследна з нашага пазнейшага літаратурнага руху. З гэтага факту трэба зрабіць вывад, што на пачатку існавання гэтага руху не мала было ў ім людзей выпадковых, у якіх творчасць не вынікала з прыроджанага таленту і з патрэбы сэрца, а толькі з таго пад'ёму і энтузіязму, які спадарожнічае непасрэдна кожнай новай літаратурнай плыні.

На змену адыйшоўшым, выпадковым аўтарам прышлі аўтары іншыя — аўтары, надзеленыя бясспрэчным літаратурным талентам. Сярод іх паявіліся людзі з вышэйшай філалагічнай, мастацкай ці журналісцкай адукацыяй. Гэта, несумненна, расшырыла магчымасці і абсяг дзейнасці нашага літаратурнага аб'яднання.

Трэба аднак сказаць, што паэтычная форма ўзнікшых у той час вершаў даволі простая. Набліжаецца яна ў многіх выпадках да формы той аматарскай беларускай паэзіі, якая паяўлялася ў вясковым ці школьным асяроддзі ў першыя гады народнай улады. Найбольш тыповымі прадстаўнікамі такога стылю ў паэзіі сталіся Сошка, Швед, Шатыловіч. У іх творчасці маем дачыненне з пастаяннай дамінацыяй зместу над формай. Праблематычны абсяг гэтага зместу даволі шырокі, датычыць ён і перамогі над фашызмам, і новых магчымасцей вёскі падчас народнай улады, і перспектываў моладзі, і барацьбы за мір. Пафаснасць, эмацыянальнасць і шчырасць гэтай паэзіі вялікія, аднак у сэнсе фармальным не робіць яна ніякага кроку наперад у параўнанні з ранейшымі дасягненнямі беларускай паэзіі. Выключэннем з'яўляецца тут, несумненна, паэзія Бурша — галоўнага эксперыментатара ў галіне паэтычнай творчасці.

На працягу двух першых год існавання літаратурнае аб'яднанне правяло значную работу ў канцэнтрацыі літаратурных сіл, у скліканні беларускіх паэтаў з розных куткоў Польшчы. У яго радах знайшліся людзі, пражываючыя ў Сілезіі, і ў Познані, і ў Лодзі, і ў Варшаве. Зразумела, што галоўную групу складалі аднак аўтары, пражываючыя на Беласточчыне. Узрост аб'яднання патрабаваў новых форм арганізацыі і навелізацыі дзейнасці. Вынікам гэтага была пастанова аднаго з яго сходаў аб пераходзе аб'яднання пад непасрэдную апеку Галоўнага праўлення БГКТ. У сувязі з тым, што да літаратараў далучаюцца і мастакі, арганізацыя прымае назоў «Літаратурна-мастацкае аб'яднанне «Белавежа». З гэтага часу праўленне «Белавежы» пачынае рэгулярна два разы ў год арганізоўваць семінары для сваіх членаў, арганізоўваць у год каля 50 аўтарскіх сустрэч з насельніцтвам, ініцыяваць выдаванне альманахаў і зборнікаў. Вылучае яно з свайго





*Члены Літаратурнага Аб'яднання падчас юбілею Х-годдзя.*

складу трохасабовую рэдакцыю, якая рыхтуе і кваліфікуе матэрыял да органу аб'яднання «Літаратурнай старонкі».

За дзесяць год свайго існавання аб'яднанне «Белавежа» можа пахваліцца несумненнымі дасягненнямі. Да іх у першую чаргу трэба залічыць выданне наступных кніжных выданняў: «Рунь» — зборнік 17 аўтараў, «Фельетоны Дзядзькі Левана» — зборнік фельетонаў Станіслава Вагуркі, «Мой родны кут» — зборнік прозы і паэзіі для дзяцей 12 аўтараў, «Белавежскія матывы» — зборнік паэзіі Алеся Барскага, «Альманах «Белавежа» — зборнік паэзіі і прозы 22 аўтараў, «Прамень думкі» — зборнік паэзіі Яшы Бурша, «Жыццёвыя сцежкі» — зборнік паэзіі Віктара Шведа, «Жнівень слоў» — зборнік паэзіі Алеся Барскага. Падрыхтаваны да выдавецтва зборнікі І. Чыквіна, С. Яновіча, А. Барскага. Выйдуць яны ў свет у найбліжэйшыя гады.

Апрача зборнікаў і кніжных чыста літаратурных выданняў члены аб'яднання запоўнілі сваімі творамі больш чым 140 літаратурных старонак. Замясцілі значную колькасць вершаў і апавяданняў у «Беларускіх календарах», падрыхтавалі да друку вялікі альманах прозы і паэзіі — «Літаратурная Беласточчына», які выйдзе ў хуткім часе ў БССР. Варта таксама прыгадаць, што на працягу мінулых дзесяці год члены «Белавежы» адбылі больш чым 700 аўтарскіх сустрэч з насельніцтвам і вучнямі Беласточчыны. Трэба сказаць, што ў арганізацыі гэтых сустрэч сур'ёзную ролю адыгрываюць, акрамя ГП БГКТ, таксама кіраўніцтва ваяводскай бібліятэкі ў Беластоку і аддзел культуры Павятовай рады нарадовай у Гайнаўцы.

Вяртаючыся да спраў агульных, хацелася б падкрэсліць, што творчасць членаў «Белавежы» засталася творчасцю глыбока заангажаванай. Праблематыка Беласточчыны ў далейшым дамінуе ў прозе і ў паэзіі. Няма ў гэтай паэзіі ні хваравлівага песімізму, ні безнадзейнасці, ні нігілізму. Аўтары, глыбока зросшыся з сваёй зямлёй і сваім народам, стараюцца па сіле сваіх магчымасцей, як найболей адбіваць у сваёй творчасці характэрныя з'явы з мінулага і сённяшняга дня Беласточчыны. Не азначае гэта, што творчасць белавежцаў замыкаецца выключна ў коле Беластоцкага рэгіёну. У ніякім выпадку нельга акрэсліць усю нашую творчасць як з'яву рэгіянальную. Не чужыя нашым аўтарам праблемы агульначалавечыя, хаця выяўлены яны найчасцей праз прызму перажыванняў і дасведчанняў герояў з Беласточчыны.

Да найбольш актыўных членаў «Белавежы» трэба аднесці ў паэзіі Шведа, Бурша і Чыквіна, а ў прозе Рамянчука, Гайдука, Яновіча, Рудчыка, Дваракоўскага. Варта зазначыць, што амаль кожны з гэтых аўтараў ужо ў стане выдаць індывідуальны зборнік. На жаль, у гэтай галіне выдавецкія магчымасці БГКТ значна ўступаюць творчым магчымасцям аўтараў. Цыкл прадукцыі кніжкі цягнецца цэлымі гадамі, а колькасць выдаваных кніжак вельмі нязначная. Нягледзячы на гэтыя перашкоды аб'яднанне «Белавежа», узмоцненае дзесяцігадовым вопытам, будзе старацца ў наступным дзесяцігоддзі давесці лік выдаваных кніжак да 30—40 пазіцыі. Хочам такім чынам яшчэ больш падкрэсліць і зрабіць наглядным факт нашай актыўнай прысутнасці ў культурным жыцці Беласточчыны і ўсёй краіны.

Канчаючы, хочацца падкрэсліць вялікую разнароднасць творчых стыляў паасобных аўтараў «Белавежы». Непаўторная індывідуальнасць творчага почырку належыць да галоўных дасягненняў нашага аб'яднання, свабода пошукаў, магчымасць эксперыменту, адсутнасць шаблонных установак з боку адміністрацыі будуць спрыяць, несумненна, узнікненню твораў, якія сваёй шматграннасцю пакажуць жыццё ў яго шматлікіх адценнях і праявах.

---

Мгр УЛАДЗІМІР ГАЦУТА

Кіраўнік Рэгіянальнага музея ў Белавежы

# РЭГІЯНАЛЬНЫ ГРАМАДСКІ МУЗЕЙ У БЕЛАВЕЖЫ

Рэгіянальны грамадскі музей у Белавежы быў створаны дзякуючы ініцыятыве актыву Беларускага грамадска-культурнага таварыства, дапамозе ПЗГС у Гайнаўцы і ГС у Белавежы. Да канца 1967 года ўдалося сабраць ад насельніцтва каля 550 экспанатаў. Галоўная задача музея — ахоўваць помнікі культуры, папулярызаваць іх і праводзіць іх навуковую апрацоўку.

У Польшчы існуе многа рэгіянальных музеяў. Толькі ў Беластоцкім ваяводстве, апрача Акруговага музея ў Беластоку і Рэгіянальнага музея ў Белавежы, маем яшчэ чатыры, а менавіта ў Ломжы, Сувалках, Цеханоўцы і Аўгустове.

Беларускае насельніцтва паўднёва-ўсходняй часткі Беластоцкага ваяводства захавала дагэтуль цікавую культуру. Яно перахоўвае або карыстаецца многімі рэдка сустракаемымі ў другіх раёнах ПНР прадметамі хатняга ўжытку, прыладамі працы і г. д. Тут захаваліся таксама многія беларускія абрады і песні. Нашыя землі — гэта адна з багацейшых крыніц этнаграфічных матэрыялаў ў Польшчы.

Пасля вайны Беласточчына перажывае перыяд вялікіх змен. Прагрэс відаць ва ўсіх галінах жыцця. Многа старых прылад працы сяляне ўжо закінулі, таму што на іх месца ўводзяць новыя, лепшыя. Ужо толькі старэйшыя людзі памятаюць саху, драўляны плуг, вязаную барану ці драўляныя сахары. Заміраe народнае ткацтва, бандарства, калясніцтва і другія галіны сялянскага рамясла. Знікаюць паступова ўсялякія абрады, звязаныя з вяселлем, хрэсбінамі ці другімі ўрачыстасцямі, а таксама з працай. Радзей чуваць старыя песні, апавяданні, загадкі, прыказкі і іншыя фальклорныя творы.

Галоўнае праўленне БГКТ у Беластоку адчувала вельмі моцна патрэбу стварэння Рэгіянальнага музея і прыступіла да яго арганізавання. 12 сакавіка 1966 г. музей быў афіцыяльна адкрыты для наведвальнікаў.

З таго часу належна абслугоўваюцца наведвальнікі і праводзяцца неабходныя ў музеі працы. Дасягненні музея вялікія, аднак ёсць многа цяжкасцей, асабліва па збору экспанатаў, іх інвентарызацыі, уступнай кансервацыі, а таксама да падрыхтоўкі і ўпарадкавання выстаўкі, абслугоўвання наведвальнікаў. Арганізуюцца гутаркі на этнаграфічныя тэмы і выстаўкі экспанатаў музея ў дамах культуры Гайнаўскага павета. Плануецца правесці навуковыя доследы ў вёсках. Дзейнасць музея трэба абавязкова пашырыць. Павінен ён стацца ўстановай, якая спалучала б культурна-асветную працу з навуковымі доследамі фальклору, мастацтва і матэрыяльнай культуры. Тым больш, што амаль ва ўсіх цікавейшых рэгіёнах Польшчы дзейнічаюць добра арганізаваныя музеі (напрыклад курпёўскі музей у Ломжы і скансен у Новагродзе).

Цікавыя ўражанні наведвальнікаў аб экспазіцыі нашага музея. У «Кніжцы для памяці» можна знайсці многа шчырых слоў пра музей, пра цікавыя прадметы на выстаўцы.

Усе турысты цікавіліся беларускай культурай. Маем вельмі цёплыя пажаданні ад наведвальнікаў з ГДР, ФРГ, Швейцарыі, Францыі, Бельгіі, Даніі і г.д. Вельмі цешацца тым, што існуе ў Белавежы рэгіянальны музей, наведавальнікі з БССР і іншых рэспублік Савецкага Саюза. Агляд экспанатаў аказаўся карысным для студэнтаў і вучняў розных школ. Як відаць з запісаў, большая частка іх першы раз у жыцці сустрэлася з беларускай культурай, толькі пабываўшы ў музеі. З захапленнем пішуць яны аб багацці і разнастайнасці гэтай культуры. Некаторыя звярнулі ўвагу на багацце экспанатаў музея, напрыклад, экскурсія з Варшавы з 22 чэрвеня 1967 г. піша: «Гэтыя экспанаты з'яўляюцца ўнікальным і непаўтораным зборам, які сведчыць аб вялікай кемлівасці і працавітасці людзей, якія тут пражываюць. Выстаўка і кансервацыя гэтых прадметаў сведчаць аднак аб зацікаўленні імі з боку апекуноў культуры і мастацтва.

22. X. 1967 г. экскурсія студэнтаў з ГДР напісала: «Дзякуем добраму праваднiку, які пазнаёміў нас вельмі цікава з прыладамі працы і народным мастацтвам. Жадаем яму многа наведвальнікаў». Студэнтка з Кіпра пісала, што для гэтых цікавых і каштоўных экспанатаў трэба пабудаваць новы будынак, таму што могуць яны знішчыцца ў непрыстасаваным для гэтай мэты будынку.

У другой частцы артыкула нам хацелася б пазнаёміць чытачоў з экспанатамі музея ў Белавежы. Цяжка затрымацца даўжэй над кожнай групай прадметаў. Мы раскажам таму толькі аб тых, якія знаходзяцца на выстаўцы, а аб іншых цікавейшых экспанатах толькі ўспамянем.

Выстаўка музея змяшчаецца ў адным вялікім і двух меншых залах. У пярэдняй вялікай зале ляжаць прадметы да апрацоўкі зямлі, транспарту, падрыхтоўкі ежы, перахоўвання сельскагаспадарчых прадуктаў, апрацоўкі дрэва, хатнія прылады. У аддзеле апрацоўкі зямлі выстаўляюцца драўляныя сахары да гною, два з якіх маюць на канцах набітыя жалезныя нарожнікі. Такія сахары былі распаўсюджаны на Беларусі (апрача Палесся), у Расіі, паўночна-ўсходняй Фінляндыі, Венгрыі і часткова ў Польшчы. Цікавым экспанатам з'яўляецца таксама драўляная лапата да капання зямлі.

Нашыя продкі аралі калісь сахою. У музеі выстаўлена саха тзв. «двупаліцовага» тыпу. Раздвоенае яе рала ўваткнута ў дышла. Дзве дошкі (паліцы) адсоўвалі ў бок зямлю, аднак яе не пераварочвалі, як адкладня ў плузе. Даўжыня сахі каля 4 метраў. «Двупаліцовы» тып сахі выступаў калісь на Беларусі (апрача паўночна-ўсходняй часткі), ва ўсходняй частцы Польшчы да Віслы і да Жэшаўскага ваяводства на поўдні, у колішняй Усходняй Прусіі, часткова на Літве і паўночных ускраінах Украіны.

Музей мае таксама сошку да асыпання бульбы. Калі адкінуць ад яе дадаткі, то сошка з выстаўкі мала будзе розніцца ад сахі. Як піша Казімір Машынскі, такі тып ралаў выступаў некалькі стагоддзяў таму назад у ваколіцах Белавежскай пушчы, а пасля замяніла яго «двупаліцовая саха».

З пяці драўляных плугаў кавальскай работы выстаўляюцца два. Адзін плуг мае калёсы, а другі без калёс.



*У Белавежскім музеі.*

У музеі можна ўбачыць тры бараны: адну вязаную і два драпачы. Вядома, барана выканана з пруткоў арэшніка, звязаных віткамі з карэнняў сасны. У дзіркі між пруткамі ўваткнуты драўляныя зубы. Жалезныя зубы драпачоў замацаваны ў драўляныя рамы з бярозавага дрэва. Адзін драпач мае квадратную, а другі — трохвугольную форму. Ярмо з'яўляецца ўжо экспанатам, звязаным больш з транспартам, чым з апрацоўкай зямлі. Сярод некалькіх ярмаў нашага музея наведвальнік можа агледзець на выстаўцы два. Звонку маюць яны занозы, а знутры кулі (кульбакі), дзякуючы якім ярмо называецца «кулёвым». Выступала яно на Беларусі, ва ўсходняй частцы Мазоўша, а назат у некаторых ваколіцах Балгарыі. Воз, паказаны ў музеі, адносіцца да тыпу вазоў з разворкай. Калёсы яго — акаваныя званякі. Паасобны тып можна было сустрэць калісь у заходняй частцы і паўночнай Беларусі, заходняй Украіне, у прыбалтыйскіх краінах, Польшчы, Венгрыі, Румыніі і часткова ў Балгарыі. На выстаўцы можна таксама ўбачыць дугу. Да падымання калод пры вывазцы іх з лесу ўжываецца яшчэ цяпер ляда. Такую ляду, выкананую з дубовага дрэва, паказваем мы ў музеі.

У наступнай частцы выстаўкі стаяць драўляныя вілы да сена, граблі, цапы, ключкі да выцягвання сена, граблі да збожжавай касы на месца плахты і г. д. Пры выціскані воску ўжываліся ціскі, а да сыра — дошкі. Адна з дошак вымагае накладвання каменя, а другая мае прэсса шрубаў. Музей мае два тыпы жарон. У адных каменні змяшчаюцца ў ліпавым кадлубе, а ў другіх — у скрыні, якая стаіць на ножках. Адны і другія жорны маюць верацяно і ігліцу, дзякуючы чаму можна было паднімаць або апускаць верхні камень і рэгуляваць якасць мукі. Жорнавыя камені кавалі жалезным малатком, які таксама знаходзіцца ў зале. Вялікая ступа, якая стаіць каля жорнаў, выдаўблена з пня дрэва. Пры ёй паказаны розныя таўкачы, аднаручны, двухручны і «джоган». Ёсць таксама некалькі маленькіх ступак.

З прылад хатняга ўжытку наведвальнік убачыць драўляную лапату, пры дапамозе якой саджалі хлеб у печ, чапялу да патэльні, апалонікі, драўляныя лыжкі з грушы, ліпы, а таксама рэжчыкі да іх выкавання. Далей стаяць чарпакі (начаткі), каб мясіць цеста, і вялікая капанька, якая ў апошні час ужывалася да салення мяса, кадушкі на ваду, піва, хлебны квас. Збожжа, муку, ці крупы перахоўвалі ў ліпавых кадаўбцах. Каля іх стаіць таксама пасуда на мёд. Драўляныя калодкі да воза, часці да калаўротка і іншыя прадметы тачылі на такарні. У музеі стаіць ножная такарня з вёскі Катлы, Бельскага павета.

Вельмі цікавая выстаўка каляснічых прылад з вёскі Міклашэва, Гайнаўскага павета. Маем тут стоўб, круг і смык, каб гнуць абады, раму да ўбівання шпіц, прылады да нацягвання абадоў, прылады да размервання шпіц, дзве формы на званякі, лопацень (долата падобнае





*Жорны Міхася Міруця з вёскі Бандары, Беластоцкага павета. Выкананыя ў 1830 г.*

на лыжку), пры дапамозе якога пашыралі дзіркі на восі ў калодках, фіту і размерач дна. Апошнія два прадметы выкарыстоўвалі ў сваёй працы таксама бандары. Музей мае багаты збор прадметаў працы бандароў, аднак не хапае месца, каб усё гэта паказаць.

У другой зале музея змяшчаюцца аддзелы ганчарства, пляцёнак і кавальскіх вырабаў. На ганчарскім крузе ляжаць недаконченыя сырыя вырабы з гліны. Большая частка керамікі выканана ў двух вёсках Гайнаўскага павета — Луцы і Кляшчэлях. Сівы колер амаль усіх посудаў узнікае пры выпальванні. Некалькі гаршчкоў маюць паліву цёмнажоўтага колеру.

Усе ганчарскія вырабы з музея можна падзяліць на некалькі груп:

1. Бунькі да вады.
2. Збанкі: да іх залічваюцца, апрача ўласцівых збанкоў, гладышкі, кубкі, дваяны і траяны, у якіх насілі ежу ў поле.
3. Група вазаватых, да якіх належаць усе гаршчкі.
4. Група міскаватых. Апрача розных місак да ежы, з гэтай групы можна ўбачыць у музеі верцехі, формы да пячэння, гугельніцы, ступкі, букетнікі, вазоны і г. д.



*Вышываны ручнік у выкананні Гагозы Марыі з вёскі Малінікі, Бельскага павета.*

5. Групу дзежкаватых прадстаўляюць у музеі слоі.

З кавальскіх вырабаў на выстаўцы экспануюцца свярдзёлкі простыя, паўкруглыя і крывыя, долаты, каляснічы малаток, струг, замок да дзвярэй, жалезныя путы, старыя і новыя падковы, матычкі, цясальская сякера, пажынка і гвінтаўнік, а нават кавальская іголка.

Ужо да паляўнічых прылад залічваецца капкан, хоць ён выкапаны кавалём. Дзейнічаў ён наступным чынам. Заяц ці іншы звер, наступіўшы на яго, звальняў абручы, якія дзякуючы пружыне хутка замыкаліся і лавілі звера за нагу. У музеі стаяць таксама розныя пасткі на мышэй, пацукоў і шлапы на тхароў, куніц. Апошнія прылады ловяць звяроў жывымі.

З рыбацкіх прылад выставілі толькі некалькі прадметаў, напрыклад, вершу ці кошык на рыбу. Іншыя прадметы, як кломлі, сакі, жакі, осці, вудачка і розныя вершы, перахоўваюцца на складзе. Вершы і кошыкі на рыбу сплецены з вярбы і ракіты тэхнікай наўскрыж на аснове з рэбраў. Так сама выкананы кошыкі і калыска, выстаўленая ў аддзеле пляцёнак. Сеткі на кломлях, жаках ці саках не плеценыя, а вязаныя.

У аддзел пляцёнак уводзяць пераважна розныя саламяныя посуды. Яны выкананы тэхнікай «спіральнай», гэта значыць, што валачак саломы, які з'яўляецца асновай, акружаны віткамі вярбы, лазы або ракіты. Віткі злучаюць суседнія валачкі саломы. Саламяныя вырабы






*Саламяныя пляцёнкі.*

дзеляцца на каробкі з накрывай і без яе, гарчыкі, сеялкі, гарнічкі, кадушкі, седлікі, міскі, дэкарацыйную патэру; ёсць тут домік для птушак, а нават саламяныя лапці. Саламяны капялюш сплецены так, як дзяўчаты заплятаюць свае косы. Лыкавыя лапці пялі стужковай тэхнікай наўскрыж. Аснова і вуток тут аднолькавы. Таксама выкананы розныя торбы і кашалі з бярозавай, берастовай і дубовай кары. Цікавая фаска з бярозавай кары.

Сярод дваццаці масці саламяных мат наведвальнік убачыць маты простыя і калянковыя, саламяна-трысняговыя і трысняговыя, саламяныя з струкамі з фасолі і трысняговыя з дошчачкамі. Узор на дошчачках гэтых мат выпаляецца жалезным штампам.

Апошні зал музея адведзены на паказанне працэсу апрацоўкі ільну і ткацтва. Знаходзіцца тут толькі частка экспанатаў гэтай галіны рамясла. Іншыя прадметы знаходзяцца на складзе. Выстаўка пачынаецца ад церніцы з падвойным мячом. Каля яе стаіць станн да трапання ільну з трапачкай. Далей — шчоткі да часання ільну рэдкія і густыя.

Сярод шматлікіх прасніц экспануюцца дзве т. зв. «лапаткавага тыпу». Кудзелю прывязвалі да дошкі. Каля прасніц стаяць верацёны. На выстаўцы ўказаны таксама тры тыпы калаўроткаў: адзін вертыкальны і два гарызантальныя.

Далейшая частка экспазіцыі мае матавіла вітковага тыпу. Ніткі на клубок ці назад на верацяно навівалі пры дапамозе развітушак. Выстаўляецца некалькі ткацкіх ігліц і нічальнічны варштат. Трэба ўспамянуць таксама аб сукальніцах, чаўнаку і цэўках.

Кросны з музея залічваюцца да тыпу гарызантальных. Тып гэты шырока быў распаўсюджаны на ўсёй славянскай тэрыторыі. Кросны складваюцца з нічальніц, дзякуючы якім паўстаюць зевы, берды да прыбівання вутка да тканіны, задняга навоя да навівання асновы і пярэдняга да навівання тканіны, панажоў да рэгулявання нічаніц і стацўў. Нічаніцы завешаны на блоках.

Вельмі цікавыя з'яўляюцца красёнкі, на якіх выконвалі сіты да рашот з лыка і сіты з конскага валосся, знойдзеныя ў вёсцы Багнюкі, Беластоцкага павета. Красёнкі да лыкавага сіта маюць аснову з паскаў лыка, павязаных на некалькі штук на заднім і пярэднім навоях. Адначасова пратыкаюцца паскі праз берда, якое выканана з тонкіх дошчак з дзіркай у кожнай. Адзін пасак лыка праходзіць праз дзірку, а другі праз шчыліну між дошчачкамі. Дзякуючы таму, што пасачкі лыка ўкладваліся ў вуха ігліцы, яна праз зевы працягвала лыка. Зусім падобны працэс працы быў пры красёнках да сіт з конскага валосся.



*Вырабы Кляшчэляўскіх ганчароў.*

У музеі выстаўляецца дзевяць дываноў, плахтаў і радзюжак. Вытканы яны на кроснах пры дапамозе шасці або васьмі нічаніц. Адзін з дываноў вытканы тэхнікай на падвойную аснову, характэрную для Сакольшчыны. Усе дываны багата дэкараваны. Сярод шматлікіх ручнікоў большая частка мае вельмі багатыя ўзоры, вышываныя крыжыкамі. Устаўкі выканаы кручком. Музей мае многа мужчынскай і жаночай вопраткі, напрыклад, вышываныя кашулі, саяны, спадніцы, каптуры, суконную бурку і г. д. У маленькім калідорчыку музея можна ўбачыць вулей — калоду і ручнога вырабу гадзіннік з вёскі Рэпіскі.

Не буду затрымлівацца над цікавымі экспанатамі, якія не выстаўляюцца. Успомню толькі аб драўляным манежы, пры дапамозе якога можна было б рэзаць сечку і малоць, а таксама аб драўлянай, па-мастацку выкананай паліцы да люстра. Каля паловы экспанатаў не выстаўляецца, таму што не хапае месца.

Беларускі музей у Белавежы мае вельмі розныя і цікавыя экспанаты. Аднак збор далей працягваецца і таму звяртаемся да ўсіх: калі ў Вас знаходзяцца якія-небудзь цікавыя рэчы, просім паведаміць нам аб гэтым. Наш адрас:

**Zarząd Główny Białoruskiego Towarzystwa Spoleczno-Kulturalnego w Białymstoku, ul. Warszawska 11.**



*Сейны — будынак, у якім знаходзіцца ПК ПАРП.*



*Вясковы клуб у Бялявічах. Беластоцкага павета.*



ЯЎГЕНІЙ ПЕТРАШКЕВІЧ

генеральны сакратар ГП ЛГКТ

## З ЖЫЦЦЯ ЛІТОЎСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

Карыстаючыся гасціннасцю рэдкалегіі Беларускага Календара хочам расказаць шырокаму колу членаў і сімпатыкаў БГКТ аб працы Літоўскага грамадска-культурнага таварыства.

Дзейнасць ЛГКТ вельмі падобная да дзейнасці БГКТ. Вынікае гэта з падобных мэт нашых таварыстваў, а таксама падобнай гістарычна-геаграфічнай сітуацыі двух асяроддзяў, у якіх дзейнічаюць нашыя арганізацыі. Тым не менш ёсць паміж імі і вялікая розніца. Мо найбольш істотнай розніцай з'яўляецца тое, што Літоўскае таварыства ў некалькі разоў па колькасці членаў меншае, чым Беларускае.

Асноўнай тэрыторыяй дзейнасці Літоўскага грамадска-культурнага таварыства з'яўляецца паўночна-ўсходняя частка Сейненскага павета. Тут ад вякоў пражываюць людзі, якія штодзённа карыстаюцца літоўскай мовай, маюць свае звычаі, спяваюць свае літоўскія песні. Людзей гэтых не так многа.

Каб не здзівіла паважанага беларускага чытача тое, як такая невялікая нацыянальная група змагла захаваць сваю спецыфіку, трэба паказаць адну з найбольш істотных прычын гэтага — моцную згуртаванасць і аднароднасць літоўскага асяроддзя.

У гэтым асяроддзі, на ускраіне Беласточчыны, праводзіць сваю дзейнасць існуючае ад 1957 года Літоўскае грамадска-культурнае таварыства.

Як ужо ўспаміналі, яно не з'яўляецца вялікай арганізацыяй. Гуртуе ў Сейненскім павеце ў 36 гуртках 1270 членаў, а за яго межамі ў 6 гуртках 320 членаў, якія знаходзяцца ў Беластоку і Сувалках (у Беластоцкім ваяводстве) і ў гарадах Лодзі, Слупску, Вроцлаве і ў Варшаве. Па гэтых прычынах дзейнасць ЛГКТ у адносінах да Беларускага таварыства прапарцыянальна больш скромная.

У гэтым артыкуле мы хочам коратка напісаць аб формах працы, якія вядзе Літоўскае таварыства ў сваім асяроддзі.



*Арганізацыйны з'езд ЛГКТ у Сейнах.*

Адной з асноўных галін дзейнасці нашага таварыства з'яўляецца ахоўванне нацыянальнай літоўскай культуры, асабліва аднаго з яе элементаў — мастацкай самадзейнасці. Літоўская мастацкая самадзейнасць у Сейненскім павеце мае багатыя шматгадовыя традыцыі.

Меладычная, часта крыху сумная, гуллівая літоўская народная песня неразрыўна злучылася з літоўскім селянінам у долі і нядолі. Яна будзіла нацыянальны гонар, была букваром літоўскага дзіцяці тады, калі кіруючыя класы міжваеннай Рэчы Паспалітай нічога не рабілі, каб забяспечыць літоўскай меншасці належныя ёй правы.

І таму любоў да роднай песні, сімволікі народнага танца, прыгажосць і прастата ткацкіх узораў асталося ў нашым асяроддзі да сёння і стварае падставы да развіцця рэгіянальнай літоўскай культуры ў новых грамадска-палітычных умовах. Зараз літоўская мастацкая самадзейнасць развівае тры асноўныя тыпы калектываў: харавыя, танцавальныя і драматычныя. Вельмі часта калектывы спалучаюць усе тры формы, што дазваляе самастойна арганізаваць мастацкія мерапрыемствы. Вельмі папулярныя ў асяроддзі так званыя «вечары песні». Гэта звычайныя канцэрты, на якія прыходзіць усё больш асоб. Яны адбываюцца ў летні перыяд на вольным паветры, будуюцца пляцоўкі, якія выглядаюць, як «глядзельныя залы».

Робіцца гэта таму, што ніводная святліца ці клуб не змаглі б па-





*Прэзідыум чарговага пленума, якое прысвечана Х-годдзю стварэння ЛГКТ.*



*Мастацкі калектыў з Клейваў.*




*«Айшра» — газета Літоўскага грамадска-культурнага таварыства.*

мясціць такой вялікай колькасці гледачоў. Іншай формай паказу дасягненняў мастацкіх самадзейных калектываў з'яўляюцца маладзёжныя фестыны, арганізаваныя на свежым паветры палёў, лясоў, над азёрамі, якіх маем у сябе пад дастаткам.

У праграму такіх фестынаў уключаюцца спартыўныя спаборніцтвы, як валейбол, конкурс на вясковага сілача, матацыклетныя гонкі, і канцэрт аднаго з калектываў.

Часта такія фестыны канчаюцца супольнай вячэрай ля вогнішча, танцамі і ракетнымі фейерверкамі.

Такога тыпу мерапрыемствы можна смела назваць масавымі, бо ніколі на іх не бывае менш, чым 1 500 чалавек.

Шматгадовы агляд літоўскай мастацкай самадзейнасці адбываецца на злётах літоўскіх калектываў над возерам Голадусь ля граніцы з Літоўскай ССР.

Гэткія злёты з'яўляюцца, можна сказаць, падсумаваннем працы мастацкіх калектываў за цэлы год.

У апошнія гады штораз часцей гурткі Літоўскага грамадска-культурнага таварыства спалучаюць сваю дзейнасць з рознымі мастацкімі мерапрыемствамі. Зімой арганізуем кулігі ў іншыя мясцовасці, спалучаныя з мастацкімі мерапрыемствамі. Летам многа ўвагі звяртаем на турыстыку, асабліва матацыклетную. Гэтай формай працы мы прычыняемся да актывізацыі моладзі, прыцягваем яе да працы ў таварыстве.

Абагульняючы, можна ў асноўным падзяліць формы дзейнасці ЛГКТ на традыцыйныя, якія праводзяцца пастаянна, і іншыя, якія залежаць ад актуальных патрэб грамадства.





*Сейны. Вуліца Чырвонай Арміі, пры якой знаходзіцца памяшканне ГП ЛГКТ.*

Некаторыя формы дзейнасці замяняем зусім новымі. Так, напрыклад: замест дакладаў у гуртках ад 1967 года арганізуем віктарыны. Дагэтуль арганізавалі наступныя: «Ці ведаеш СССР», «Свет, у якім жывеш», «Савецкая Армія — вызваліцельніца народаў», «Ці ведаеш Савецкую Літву?».

Уласна кажучы, той самы пазнаўчы змест, які перадавалі раней у форме дакладаў, зараз перадаем у іншай форме, дзякуючы адпаведнаму дабору пытанняў.

Такім чынам, у віктарыне актыўна ўдзельнічаюць усе прысутныя. Віктарыну «Свет, у якім жывеш» думаем закончыць паводле ўзораў Польскага Радыё ў форме «Згадуй — згадулі».

Новая з'ява ў нашай дзейнасці — гэта клубы. Ужо пачаў сваю дзейнасць клуб інтэлігенцыі ў Пунску, які называецца «Клюмпэ»*). Мае ён багатую праграму дзейнасці. Яго ўдзельнікі знаёмяцца з гісторыяй родных мясцін, праводзяць дыскусіі над літоўскімі фільмамі, працуе гурток фатаграфіі.

Мы асабліва зацікаўлены ў тым, каб прывіць школьнай моладзі любоў да прыгожых народных песень і танцаў. Штогод у рамах адзначэння міжнароднага дня дзіцяці арганізуем злёты школьных гурт-

*) Клюмпэ: гэта найстарэйшы від народнага абутку, які выраблялі з дрэва. Астаўся ён сёння як сімвал народнага фальклору.



*Возера Галадусь.*

коў мастацкай самадзейнасці. Але нашае ўздзеянне на маладое пакаленне не абмяжоўваецца гэтым. У Сейненскім павеце ў 20 школах 885 вучняў вучыцца літоўскай мовы (у гэтым у 9 школах з літоўскай мовай навучання). Літоўскае школьніцтва заўсёды было ў цэнтры ўвагі ЛГКТ і таму мы супрацоўнічаем з асветнымі ўладамі.

У выніку нашых старанняў школы атрымоўваюць штогод з Літоўскай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі неабходныя падручнікі, а таварыства — мастацкую і грамадска-палітычную літаратуру.

Асобных бібліятэк ЛГКТ не мае і таму ўсе кніжныя навінкі перадаем у дзяржаўныя бібліятэкі.

Літоўская літаратура знаходзіцца зараз у 5 грамадскіх бібліятэках і даступная ўсім жадаючым яе чытаць.

Так коратка прадстаўляецца дзейнасць нашага таварыства, з якой у сваім кароткім артыкуле мы хацелі пазнаёміць беларускае насельніцтва.

Маем надзею, што гэтае знаёмства з літоўскім асяроддзем у Польшчы і яго грамадска-культурнай арганізацыяй прычыніцца да ўзмацнення кантактаў паміж нашымі таварыствамі, а гэта ў сваю чаргу будзе садзейнічаць нашаму ўзаемнаму пазнанню.

---



# Этнаграфічны куток

Е. Ф. Карский. Белоруссы Т. I. Варшава, 1903, стар. 121.

«В тех местах, где теперь уже служится малорусская речь, в XVI веке акты пишутся еще на чисто белорусском наречии. Сказанное относится, например, к деловому языку Подляшья и южной части Гродненской губернии».

Dr A. Krysiński. **Liczba i rozmieszczenie białorusinów w Polsce. Sprawy narodowościowe.** Warszawa, 1929 Nr 3—4, s. 352.

*„...Jeszcze nie tak dawno świadomość narodowa u Białorusinów prawie zupełnie nie istniała: znaczna część ludności białoruskiej swej przynależności narodowej zupełnie nie umiała określić, oznaczając ją jako „tutejszą", „miejscową" lub też podając zamiast narodowości wyznanie".*

Wincenty Krzysztofik. **Jasienówka, wieś powiatu sokólskiego** Poznań, 1933.s.202.

*„W szerszym życiu społecznym wsi czy państwa lud tutejszy nie bierze udziału, bo życia tego nie zna i nie rozumie. Nie ma też żadnych aspiracji społecznych czy politycznych, po pierwsze, że ten rozgwar szerszego życia tu wcale nie dochodzi, po drugie, ludność nie ma wiary we własne siły i poprostu nie wierzy, że w państwie może coś znaczyć i że ktoś powinien się z jej głosem liczyć".*

Aleksander Stafiński. **Z przeszłości Suraża.** Białystok, 1937. s. 21.

*„Począwszy od XII i XIII wieku do podlaskich opuszczonych przez Jadźwingów ziem zaczął przenikać z południa i z zachodu element osadniczy ruski i polski. Oba te żywioły zetknęły się ze sobą i częściowo zmieszały, lecz granice pozostały dość wyraźne. Osadnik mazowiecki zajął zwartym szeregiem zachodnią część Podlasia i późniejszego powiatu Surażskiego do Narwi odcinając się wyraźnie na jej lewym brzegu... W takich warunkach ludność Suraża tworzyła w owym czasie dwujęzyczne i dwuwyznaniowe zbiorowisko, z przewagą jednak elementu ruskiego w części miasta po prawej stronie rzeki Narwi i dość zwartej masy polskiej po lewej stronie rzeki".*

Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі. Мінск, т. II, 1940 г. стар. 413.

Хваляванне 10 000 сялян Беластоцкага пав. пасля абвяшчэння маніфеста 19 лютага і расправа войска над сялянамі.

«Начальник губернии, получив рапорт белостоского земского ис-

правника о том, что крестьяне Белостокского уезда помещиков: Шумовича, Рутковского, Колонтая, Краузенштерна и проч., по обьявлению им всемилостивого манифеста, толкуя превратно смысл оного, отказались от исполнения барщинной и всякой другой повинности, ...мы вынуждены были прибегнуть к мерам строгости и более дерские из разных деревень и вотчин (Заблудаўскага р-на—ую) были, по распоряжению полковника Нарышкина, наказаны через солдат розгами: 11 самых упорных до 50 ударов каждому, 50 человек от 10 до 25, а остальные 39 от 5 до 10; ко подобному наказанию заставило нас прибегнуть и то обстоятельство: а) что крестьяне Заблудовского имения не в первый уже раз ослушались и были приводымы в должное повиновение с помощью военной экзекуции и наказания розгами, б) что в числе собравшихся в Заблудов крестьян не только прибыли из разных вотчин Белостокского уезда, но даже, из ближайших Сокольского и Бельского уездов...»

Stanisław G l i n k a. **Granica językowa i przykłady zróżnicowania fonetycznego gwar białoruskich Białostocczyzny. Sprawozdania z prac naukowych Wydziału Nauk Społecznych (PAN)** Warszawa, 1960, s. 44.

*„Powiaty sokólski i dąbrowski z wyjątkiem krańców wschodnich zostały zasiedlone po wykarczowaniu puszczy „na surowym korzeniu” głównie dopiero w wieku XVIII. Dane językowe wskazują, że osadnicy przyszli ze wschodu, byli to Białorusini z rozwiniętym już akaniem. Jest to obszar gwary akającej nie mazurzącej, podobnie jak i na samym wschodzie powiatów: dąbrowskiego (Lipsk, Nowy Dwór), sokólskiego (Krynki), białostockiego (Gródek), gdzie ludność białoruska mieszkała już w XVI w.*

Tam gdzie Białorusini ze wschodu zmieszali się z Mazurami, wytworzyła się gwara akająca mazurzącą, t.j. nad Biebrzą koło Sztabina (Jagłowo, Krasnoborki).

Wyspa akająca na Fainach nad Narwią (rejon Baciut — U. J.), gdzie wszystkie wsie były własnością klasztoru w Supraślu mogła powstać w wyniku akcji osadniczej zakonu, który sprowadził do swoich majątków chłopów białoruskich z terenów akających i tu ich osiedlił.

Na ziemiach na wschód od Brzozówki wiele wsi powstało w I połowie XVI w. w latach 1509-1536. O mowie przybywających tam osadników białoruskich trudno coś bliższego powiedzieć”.

Władysław B i e g a j ł o. **Sposoby gospodarowania w rolnictwie województwa białostockiego.** Warszawa, 1962. s. 170.

*„Podniesienie poziomu rolnictwa woj. białostockiego uruchomienie rezerw produkcyjnych tego obszaru wymaga regulacji stosunków agrarnych (zahamowania procesu dalszego rozdrabniania gospodarstw i likwidacji szachownicy gruntów, (obszary pradolin Narwi i Biebrzy), a nade wszystko podniesienia oświaty rolnej”.*

Мгр ЕЖЫ АЛЬШЭЎСКІ

## ТАВАРЫСТВА ПРЫЯЦЕЛЯЎ БЕЛАВЕЖЫ

Датай заснавання таварыства прыяцеляў Белавежы трэба лічыць дзень 15 мая 1965 года. У гэты дзень невялікая група энтузіястаў арганізавала першае мерапрыемства — сустрэчу са стваральнікам прыродазнаўчых фільмаў, вядомым рэжысёрам інж. Уладзімірам Пухальскім. Спецыяльна прывезеныя фільмы гэтага рэжысёра з белавежскай тэматыкай пабачыла звыш 500 асоб.

Рэгістрацыя таварыства адбылася ў жніўні 1965 года на аснове пастановы Аддзела ўнутраных спраў Прэзідыума ВРН у Беластоку.

Галоўныя мэты і напрамкі дзейнасці таварыства былі прадстаўлены на першым сходзе арганізацыйнага камітэта ў лютым 1965 г. і гэта адлюстравалася ў прынятым раней статуце.

Мэтай таварыства з'яўляецца:

- пашыранне ведаў аб зоне Белавежскай пушчы, яе прыродзе, гісторыі, дасягненнях;
- культурная і грамадская актывізацыя асяроддзя;
- акрэсленая каардынацыя турысцкіх, культурных і грамадскіх пачынанняў;
- апека над прыроднымі і гістарычнымі помнікамі, клопаты аб забеспячэнні Белавежскага нацыянальнага запаведніка ў супрацоўніцтве з яго дырэкцыяй і навуковай радай, лігай аховы прыроды і стражай аховы прыроды;
- інфармацыйная і выдавецкая дзейнасць.

Таварыства налічвае каля 80 членаў індывідуальных і калектыўных, у большасці з Белавежы. Ёсць таксама члены ў Гайнаўцы, Беластоку, Варшаве, Лодзі і Вроцлаве. Дзейнасць таварыства абапіраецца ў асноўным на працаўніках белавежскіх навуковых устаноў, пачатковай школы і Белавежскага нацыянальнага запаведніка. Праяўляецца яна ў наступных формах:

- арганізацыя кірмашоў народнай вытворчасці зоны Белавежскай пушчы;
- арганізацыя выставак;

— арганізацыя лекцый і дакладаў з паказваннем фільмаў, дыяпазітываў з серый «Усё аб Белавежы» і «Свет вакол нас».

Трэба ўспомніць аб больш цікавых мерапрыемствах з праведзеных каля двухсот. Былі гэта: кірмаш ганчарскіх вырабаў, пляцёнак і іншых вырабаў з саломы, рэгіянальных сувеніраў арганізаваныя супольна з кааператыўным аб'яднаннем саматужнікаў і народных вытворцаў*) з Беластока. Былі сарганізаваны выстаўкі «Паўвека Белавежы на паштоўках», «Грыбы Белавежскай пушчы», «Прырода» — былі гэта прыродазнаўчыя фатаграфіі лодзінскага мастака-фатэграфіка мгр Януша Гарэзняка, а таксама выстаўка дзіцячых малюнкаў «Зубр у вачах дзяцей».



Было праведзена многа дакладаў, у якіх выступала белавежская і рэгіянальная тэматыка. Не раз госці і члены ТПБ знаёмілі слухачоў з прыродай і жыццём у іншых краінах.

Вось некалькі загалоўкаў: «З палярнай экспедыцыі ў Антарктыду», «Праз Афрыку і Паўднёвую Амерыку», «Сярод эскімосаў заліва Гудзона», «Экспедыцыя на Шпіцберген», «Сібір сёння», «Ля падножжа Каўказу», «Два гады ў Конга», «Чарнаморскае пабярэжжа Румыніі і Балгарыі». Многія мерапрыемствы, дзякуючы супрацоўніцтву з аддзелам асветы і культуры ППРН і павятовым праўленнем ТВП у Гайнаўцы былі паўтораныя ў іншых мясцовасцях Гайнаўскага павета.

*) Spóldzielcze Zrzeszenie Chałupników i Wytwórców Ludowych.



Каб даць добрую і грунтоўную навуковую інфармацыю аб Белавежскай пушчы, ТПБ кіравала апрацоўкай прыродазнаўчай манаграфіі Нацыянальны запаведнік у Белавежскай пушчы» *).

Рэдактарам гэтай кніжкі, якая была напісана калектыўна 23 аўтарамі, з'яўляецца доц. др Януш Фаліңскі — старшыня Таварыства прыяцеляў Белавежы.



*Тарпаны — лясныя коні — у Белавежскай рэзервацыі.*

Па ініцыятыве ТПБ была апрацавана на Белавежскай геабатанічнай станцыі Варшаўскага універсітэта турыстычная карта Белавежскай пушчы, якая з'яўляецца першым гэтага характару выдавецтвам нашага рэгіёна. Карта гэта справа картаграфічнага адлюстравання прыродазнаўчых, гістарычна-краязнаўчых і турыстычных элементаў. ТПБ таксама бярэ ўдзел у выданні тэматычных фольдэраў аб Белавежскай пушчы, якія павінны запэўніць турыстам краёвым і замежным добрую інфармацыю.

*) „Park Narodowy w Puszczy Białowieskiej".




*Па шляху жыцця генерала Аляксандра Вашкевіча.*

Значная частка планаў ТПБ стала дасягненнем толькі таму, што ў дзейнасці сваёй таварыства мела саюзнікаў. Гаворачы аб іх, трэба ўспомніць аддзел асветы і культуры Прэзідыума ПРН, павятовы камітэт ПАРП, павятовае праўленне ТВП у Гайнаўцы, пачатковую школу ў Белавежы, белавежскія навуковыя ўстановы: геабатанічную станцыю Варшаўскага ўніверсітэта, інстытут доследу над млекакормячымі ПАН, доследчы інстытут лясніцтва.

Якія ж нашыя планы?

У першую чаргу працяг праверанных форм дзейнасці, магчыма, з палажэннем націску на выдавецтвы з тэматыкай рэгіянальнай.

У гэтай галіне многа яшчэ трэба зрабіць.

Мгр УЛАДЗІМІР ЮЗВЮК

# НАШ ЮБІЛЯР

Беларускае грамадска-культурнае таварыства мае многа ахвярных людзей, якія дапамагаюць у нашай працы. Асаблівай пашанай карыстаецца адзін з членаў Галоўнага праўлення і член праўлення аддзела БГКТ у Гайнаўцы тав. Васіль Д з у н.

Спецыфічнай рысай яго жыцця з'яўляецца адданасць грамадскай працы, скромнасць і, нягледзячы на свае амаль 70 год, невычарпальная энергія. На першы погляд здаецца, што ён нямнога ўжо зможа дапамагчы нашай арганізацыі. Аднак гэты немалады, сціплы чалавек выдзяляецца незвычайнай ахвярнасцю і працавітасцю. І без пераўвелічэння можна сказаць, што мала ёсць такіх людзей, якія ўлажылі б столькі сілы ў развіццё беларускай культуры паўднёва-ўсходняй Беласточчыны.

Васіль Д з у н нарадзіўся ў 1900 годзе ў вёсцы Шымкі, Беластоцкага павета, у многадзетнай сялянскай сям'і. Невясёлае дзяцінства ўспамінае ён так: «Хлябнулі мы ўсе сіроцкага гора... На экзамен у настаўніцкую семінарыю ў Ялоўцы я пайшоў боса, каб не паказацца ў лапцях, а маё стада кароў у той дзень пасвіў мой сябра...» Але І сусветная вайна не дазволіла закончыць семінарыю і Васіль разам з сям'ёю апынуўся ў Барнауле, дзе атрымаў сярэднюю адукацыю і як малады настаўнік распачаў дзейнасць у Беларускай Барнаульскай грамадзе, а потым — камсамоле. Вярнуўшыся ў сваю вёску, не мог атрымаць настаўніцкай працы і таму крыху гаспадарыў, крыху дарабляў на лесанарыхтоўках. У 1925 годзе запісаўся ў Беларускую сялянска-работніцкую грамаду, дзе прымаў удзел у некалькіх павятовых з'ездах.

Найбольш творчы перыяд у яго жыцці наступіў пасля вызвалення. Тав. В. Д з у н ад 1944 года — настаўнік у Шымках, член ПАРП, АРМО, грамадска-асветны дзеяч. У 1951 годзе школьныя ўлады пераводзяць яго ў Гайнаўку ў агульнаадукацыйны ліцэй з беларускай мовай навучання. За працу і грамадскую дзейнасць у 1954 годзе атрымаў медаль 10-годдзя Народнай Польшчы і Залаты крыж заслугі.

У 1956 годзе да ўсіх абавязкаў дайшла яшчэ праца ў БГКТ. Заснаванне арганізацыі і яе пачатковая дзейнасць у Гайнаўскім павеце неразрыўна звязаны з постаццю В. Д з у н а. Ён і членам праўлення аддзела, потым яго старшыня (1960—1963), арганізатар гурткоў БГКТ на вёсках, лектар і добры сябра малодшых настаўнікаў. Будучы ад 1959 года пенсіянерам, не спыняе кантактаў са школаю і вясковым асяроддзем: «Хоць сам стары, — гаворыць, — але люблю моладзь. Кожны год наведваю школы, праводжу з дзяцьмі гутаркі, а вечарамі — сходы з моладдзю і дарослымі. Мяне ўжо многія памятаюць, як дэкламатара паэмы «Максімка» і іншых вершаў на беларускай мове».

Да грамадскай працы ў БГКТ тав. В. Д з у н а прасіць не трэба. Ён мае ўласны доўгатэрміновы план і сістэматычна яго рэалізуе на працягу ўсяго асенне-зімовага перыяду. План — гэта чарговае наведванне ўсіх вёсак Гайнаўскага павета. Праўду кажучы, вёсак такіх асталося нашаму юбіляру (50 год дзейнасці ў беларускіх арганізацыях) ужо нямнога. Паводле яго нататак і дакументацыі ГП, у 1967 годзе Васіль Д з у н наведаў наступныя вёскі і правёў у іх сходы: Семяноўка, Мора, Вітава, Дабрывода, Сухавольцы, Ягаднікі, Гарадзіска, Кленікі, Ваські, Фрабустоўка, Макаўка, Крывец, Барысаўка, Трасцянка, Койлы і Стараберазова. Амаль ва ўсіх 17 вясковых школах правёў з дзяцьмі гутаркі, да таго спецыяльна наведаў школы ў вёсках: Старына, Міклашэва, Масева, Курашава, Новаберазова, Іванкі, Гайнаўскага павета, Шымкі і Луплянка, Беластоцкага павета.

Выключна вялікія заслугі тав. Васіля Д з у н а ў разбудове нашай арганізацыі. Не ўспамінаючы ранейшых прац, трэба адзначыць, што ў тым жа 1967 годзе ён арганізаваў новыя гурткі БГКТ у вёсках: Плянты, Трывежа, Новы Корнін, Тыневічы Вялікія, Сакі, Адрынкі, Сацы і Белкі. Разам на працягу аднаго года выязджаў у вёскі як актывіст таварыства 33 разы. Можна сабе ўявіць, што за магутную сілу ўздзеяння на насельніцтва мела наша арганізацыя, калі б яе самы бліжэйшы актыў, аб'яднаны ў ГП і праўленнях аддзелаў у ліку каля 200 асоб, так актыўна і сістэматычна праводзіў працу з членамі вясковых гурткоў БГКТ. *«Працы ўсім хопіць і вёска яе патрабуе. Давайце тады,* — гаворыць В. Д з у н, — *закасаўшы рукавы, дружна пачнем рэалізаваць статутовыя заданні БГКТ».*

Прэзідыум Галоўнага праўлення не адзін раз аналізаваў удзел членаў сваёй арганізацыі ў грамадскай дзейнасці. Маем мы многа працавітых, ахвярных людзей. Частка з іх атрымала ўнутрыарганізацыйныя і дзяржаўныя ўзнагароды. Найвышэйшую аднак з іх — Кавалерскі крыж адраджэння Польшчы — за працу ў БГКТ Рада Дзяржавы прызнала ў 1966 г. тав. Васілю Д з у н у.

З нагоды 50-годдзя дзейнасці ў беларускіх арганізацыях шчыра дзякуем яму за ахвярную працу, жадаем добрага здароўя і многіх год жыцця.



АЛЯКСЕЙ КАЗЕЛ

## НЕКАЛЬКІ СЛОЎ АБ ВУСНАЙ НАРОДНАЙ ТВОРЧАСЦІ

На поўнач ад верхняй Нарві, недалёка ад вытоку Супраслі, у маляўнічай ваколіцы знаходзіцца населены пункт — вёска Меляшкі.

На ўсход ад яе знаходзіцца ўзвышша, дзе вылучаюцца дзве высокія гары, вышынёй каля 200 метраў над узроўнем мора. Адна з іх паўночная, называецца «Могілкі» — другая, паўднёвая, носіць назву «Канчанскія Могілкі».

Названыя горы — гэта сімвалы ў гісторыі вёскі Меляшкі, звязаныя з легендарнымі вуснымі паданнямі яе мінулага. Легенда гаворыць, што калісьці, у далёкім мінулым, на ўсход ад сучаснай вёскі Меляшкі, за гарамі, якія цяпер называюцца Могілкамі, знаходзілася вёска пад назвай «Селіско». Жыхары яе вымерлі ад эпідэміі. Застаўся толькі адзін жыхар па прозвішчы М я л е ш к а. Каб ратавацца ад смерці ён вырашыў пакінуць вёску і пайшоў праз горы на захад. Перайшоўшы іх, дайшоў да даліны ракі Супрасль, дзе захапіла яго ноч. М я л е ш к а зрабіў сабе шалаш, у якім заначаваў. Гэта мясцовасць яму вельмі спадабалася і ён рашыў тут пасяліцца. Ад яго імя носіць назву па сённяшні дзень вёска Меляшкі. На дапамогу яму прыйшлі жыхары з суседніх вёсак. Гэта, відавочна былі: Дарашкевіч, Лавіцкі, Казёл, Карповіч і Марцінчык, прозвішчы якіх па сённяшні дзень пераважаюць па колькасці над другімі*).

На захад ад вёскі Меляшкі распраціраюцца шматлікія абшары сенажацяў. На ўсход ад яе — вялікія лясныя абшары, якія называюцца: Ліпніцкі, Вейкаўскі і Падазеранскі.

Адміністрацыйна вёска Меляшкі належыць да рады нарадовай у Гарадку, Беластоцкага павета. З буйных адміністрацыйных і культурных цэнтраў найбліжэйшым да вёскі Меляшкі з'яўляецца горад

*) Легендарнае апавяданне аб гісторыі вёскі Меляшкі запісана аўтарам ад яе жыхароў Міколы Д а р а ш к е в і ч а (65 г.) і Кастуся К а с т э н ц і к а (73 г.).

Беласток, ён знаходзіцца ў адлегласці каля 45 кіламетраў у паўночна-заходнім напрамку. З Беластокам вёска Меляшкі звязана чыгуначнай і шасейнай дарогамі. Чыгуначная станцыя Валілы на шляху Беласток — Зубкі знаходзіцца ў адлегласці 9 кіламетраў на паўночны захад.

У вёсцы Меляшкі і яе наваколлі пражывае выключна беларускае насельніцтва, аднак дыялектныя асаблівасці ў штодзённай іх мове маюць спецыфічныя рысы.

Своеасаблівыя прыродныя ўмовы — адасобленасць населеных пунктаў балотамі і лясамі спрыялі захаванню дыялектных асаблівасцей у гаворках жыхароў навакольных вёсак.

На падставе параўнання фанетычных і марфалагічных асаблівасцей беларускіх гаворак можна зрабіць вывад, што гаворка вёскі Меляшкі адносіцца да групы паўночна-заходніх беларускіх гаворак.

Нягледзячы на тое, што вёска Меляшкі знаходзіцца ад заканчэння I сусветнай вайны ў граніцах Польшчы, прыкметнага ўплыву польскай мовы на мясцовыя беларускія гаворкі не назіраецца (уплыў польскай мовы адлюстроўваецца толькі ў лексіцы і часткова ў сінтаксісе).

Беларуская літаратурная мова таксама не аказвае прыкметнага ўплыву таму, што сфера яе ўжывання вельмі абмежаваная. Аб гэтым сведчыць перш за ўсё той факт, што паміж мовай прадстаўнікоў старэйшага і малодшага пакаленняў не назіраецца істотных розніц.

Ніжэй змяшчаем 10 фальклорных песень, запісаных аўтарам ад мясцовага насельніцтва ў 1958 годзе.



*Краявід вёскі Меляшкі з гары «Могілкі».*





*Меляшкі. Вясною.*



*Падставовая школа ў Меляшках, Беластоцкага павета.*



*68-гадовая* ***МАРЫСЯ ДАРАШКЕВІЧ*** *ад нараджэння жыве ў вёсцы Меляшкі, Беластоцкага павета. Належыць яна да тых, хто з пашанай адносіцца да народных песень. Ад яе запісаны песні «Чаму, зязюля, ты не кукавала?», «Цёмная хмара», «А дай божа нядзелі прыждаці» і «А я ў матулі ночку начаваў».*

## ЧАМУ, ЗЯЗЮЛЯ, ТЫ НЕ КУКАВАЛА?

Чаму, зязюля, ты не кукавала?
Як сады зацвіталі
Чаму ты, Манечка, ні плакала,
Як цябе запівалі?

Я думала, маладзенькая,
Што мною жартавалі,
А тыя жарты прышлі сапраўды —
Косаньку расчасалі.

Ой, ты думала, мая маманька,
Што ты міне не збудзеш,
Аддасі міне ў чужыя рукі,
Ты міне не забудзеш.

А як ты пойдзеш, мая матанька,
Пад бор жыта жаці,
Займеш палоску, шыроку, доўгу,
Ні будзе каму паджынаці.

Зажнешся, мая матанька,
З горкі на даліну,
Успомніш міне, матанька,
Сем раз на гадзіну.





## ЦЁМНАЯ ХМАРА

Ішла, ішла цёмна хмара,
А за ёю сіня.
Парадзіла ўдавонька
Солдацкага сына.

Яна яго нарадзіла
Цёмненькае ночы,
Дала ёму белае ліцо,
Сіненькія вочы.

Не паспела яна яго
У пялюшкі звязаці,
Асудзіла ўся грамада —
У салдаты аддаці.

Ой бярэце, ой бярэце,
Яго забірайце,
За рок, за два, за чатыры,
Назад адсылайце.

Развівайся, сухі дубе,
Зараз мароз будзе,
Сабірайся, удовін сыне,
Зараз паход будзе.

Я марозаў не баюся, зараз разаўюся,
Я паходу не жалею, зараз прыбяруся,
Стаіць конік асядланы,
Зараз садаўлюся.

Як выехаў за вароты,
Усім людзям скланіўся,
Прашчай, прашчай, уся радзіма,
Можа з кім браніўся.

Пыталася маці сына:
— Калі прыдзеш у госці?
— Як вырасце травіначка
У сенях на памосці.

Расла, расла травіначка,
Стала пасыхаці,
Ждала, ждала маці сына,
Стала плакаці.

Ляцеў певень чэрэз сверан
Спяваў ку-ка-рэ-ку,
Не ўбачыш маці сына
Аж да свайго веку.

Каб я была зязюляю,
Каб я мела крыла,
Паляцела б на Украіну
Аж да свайго сына.

Заляцела б на магілу
І сказала б ку-ку, ку-ку,
Падай, падай, сынаньку,
Хоць правую руку.

— Рад я быў бы, мая маці,
Абедзве падаці, —
Сыра зямля, пясок жоўты —
Не магу падняці.





## А ДАЙ БОЖА НЯДЗЕЛІ ПРЫЖДАЦІ

А дай божа нядзелі прыждаці,
То я пайду да роду гуляці (2 разы)

А як пайду да роду гуляці,
Скажут жа мне да дна выпіваці
(2 разы)

Я не буду да дна выпіваці,
Ёсць у мяне дзве беданькі ў хаце
(2 разы)

Адна бяда — дзяціна малая,
Другая бяда — свекруха ліхая
(2 разы)

Хоць ліхая — вечараньку варыць,
А свёкарка дубіначку парыць
(2 разы)

А хоць парыць, ды не будзе біці,
Сядзіць мілы, будзе бараніці
(2 разы)

Сядзіць мілы, дробны лісты піша
І нагою дзяціну калыша
(2 разы)

Люляй, люляй, дзяціна малая,
Гуляй, гуляй, жонка маладая.
(2 разы)

Гуляй, гуляй, жонка маладая,
Пакуль мая галоўка жывая
(2 разы)

Бо як мая галоўка хібнецца,
Тады тваё гулянне мінецца. (2 разы)



## А Я Ў МАТУЛІ НОЧКУ НАЧАВАЎ

А я ў матулі ночку начаваў,
Ночку начаваў, страшны сон відаў.

Матуля ўстала, той сон згадала;
— Нішчасце сынку, нідоля твая,

Твая мілая сына спавіла,
Спавіўшы сына сама ніжыва.

Слугі вы мае дай найвернейшыя,
Закладайце коні што найлепшыя.

Пад'ехаў пад сад — сады ні цвітуць,
Сады ні цвітуць, птушкі ні пяюць.

Вайшоў да саней — сталяры ходзяць,
Сталяры ходзяць і труну робяць.

Вайшоў да хаты — ложа заслана,
Ложа заслана, міла прыбрана,

Ложа заслана дай бялюсенька,
Міла прыбрана харашусенька.

Ў канцы галоўкі свечачкі гараць,
Ў канцы ножачак дзетачкі стаяць.

Свечачкі гараць, ды пазяхаюць
Дзетанькі плачуць, ды прыплакуюць:

— Табе, ойчаньку, жонка ў вяночку,
А нам сіроткам мама ў пясочку.

Табе, ойчаньку, сем жонак будзе,
А нам сіроткам мамкі ні будзе.







*ГАЛЕНА ДАРАШКЕВІЧ. Ад нараджэння жыве ў вёсцы Меляшкі, Беластоцкага павета. Ведаюць яе ў Меляшках як таленавітую спявачку — прадаўжальніцу фальклорных песень старэйшага пакалення. Зараз ёй 34 гады. Запісана ад яе песня «Ой, чы свет, чы світая».*

## ОЙ, ЧЫ СВЕТ, ЧЫ СВІТАЯ

Ой, чы свет, чы світая,
Чы на зоры займая,
Чы мой міленькі,
Голуб сіванькі,
Коніка асядлая.

Асядлай, мілы, коня,
Асядлай варанога,
Прыязджай мілы,
Ні кідай мілы,
Міне маладзенькую!

А чы ж я ні такая
Як і тая другая?
Я й харошая,
Я й прыгожая —
Доля нішчасная.

Ой, пайду я да броду,
Дай да броду па воду
Ой, і стану я,
Дай падумаю:
Чы з харошага роду?

Я з харошага роду,
Дай на лічка прыкрасна,
Аддала ж міне
Мая матанька,
Дзе дружынка ніпчасна.

Ой, пайду я да рэчкі,
Ой, пайду, утаплюся:
За ліхім мужам,
За разбойнікам
Я на век ні разжывуся.

Ой, ні йдзі, ні тапіся,
Бо на век душу згубіш.
Ой, чаму ж ты не сказала,
Каго верно ты любіш?

Каго верно любіла,
Таго век не забуду,
Наракала я,
На матуляньку,
Наракаці я буду.

* * *







*ЗОСЯ ЛАВІЦКАЯ — паходзіць з вёскі Случанка, Беластоцкага павета. Вядомая яна не толькі ў Случанцы, але і ў Меляшках (дзе жыве ад 1928 года), як спявачка старых народных песень. Ад яе запісана песня — «Ой, выйду, я выйду...»*

## ОЙ ВЫЙДУ, Я ВЫЙДУ...

Ой, выйду, я выйду
На круту гару,
Ой, гляну, я гляну
На быстру ваду,

Ой, я думала,
Што' Дунай гудзе,
А то мой міленькі
З карчмы п'яны йдзе.

А я маладая,
Ды спужалася,
У новую камору
Я схавалася.

У новую камору
Я схавалася,
Чыстаю вадою
Я ўмывалася.

Чыстаю вадою
Я ўмывалася,
Белым палаценцам
Я ўціралася.

Белым палаценцам
Я ўціралася,
У залатое люстра
Я ўглядалася.

У залатое люстра
Я ўглядалася,
Ды са свайго лічка
Дзівавалася.

Лічка, маё лічка
Ты бяленькае,
Дзе я цябе падзела,
Маладзенькая.

Я ж цябе не ўтапіла,
Не прагуляла —
За паганым мужам
Я цябе пацярала.

За зялёным кустам
Трава зелянее,
За харошым мужам
Жонка маладзее.

А за сухім кустам
Трава пасыхае
За паганым мужам
Жонка прападае.







*НАДЗЯ ЛАШАКЕВІЧ — нарадзілася ў 1914 годзе ў вёсцы Лявонавічы, Беластоцкага павета. Ад 1932 да 1947 года, выйшаўшы замуж, жыла ў Меляшках. Запісана ад яе песня, якую прынесла з сабою, — «Па садочку хаджу». Зараз жыве ў г. Беластоку.*

## ПА САДОЧКУ ХАДЖУ

Па садочку хаджу,
Первіначак саджу.
Чаму я ў цябе матуля
Ні жанаты хаджу.

Ажаніся сынку,
Вазьмі сабе жонку,
Вазьмі сабе жонку
Удовіну дочку.

Удовіна дочка —
То ні мая роўня,
Ходзіць па садочку
Як дзе каралеўна.

Ані з ёю стаці,
Ані пагадаці,
Толькі шапку зняці,
Дай «Дзень добры» даці.

Ой, дзень добры, добры,
Добры табе, маці,
Бо я хачу замуж
Тваю дочку ўзяці.

Шкада цібе сынку,
Шкада тваго слова,
Дочка — спавалочка
Ні начуя ўдома.

Байкі, маці, байкі —
Будзя начаваці,
Дубова галінка
Будзе прыпыняці.

Ой, у полі сасна
Высоко вырасла,
А я ў сваёй матулі
Да лет ні дарасла.

Ні я нажылася
Ні я набылася
За праклятым мужам
Роду забылася.







*ГАННА ЧАШЭЛЬ — з'яўляецца адной з лепшых выканаўцаў фальклорных песень. Яе голас заўсёды выдзяляецца на сямейных урачыстасцях, на якія яе часта запрашаюць. Ад яе запісаны наступныя песні:* **«Ой, раз вечарам,** *позняй парою», «Ой, цёмная ночка» і «Не пайду замуж». Нарадзілася яна ў 1918 годзе ў вёсцы Дзерьякова, Беластоцкага павета. У 1940 годзе выйшла замуж у вёску Меляшкі і па сёння ў ёй жыве. Большасць песень вывучала яна яшчэ ў Дзерьякове, якія прынесла з сабою.*

## ОЙ ЦЁМНАЯ НОЧКА

Ой, цёмная ночка,
Цямнейшая будзе,
Гаварылі людзі,
Свякроў добра будзе.

Свякроў добра будзе,
Уставаць рана будзе,
Мяне, маладзеньку,
Разбуджваць будзе.

Свякроў рана ўстала,
Мяне не збудзіла,
Пайшла да суседа,
Мяне абсудзіла.

А я рана ўстала,
І ніц то не знала,
Заняла волікі,
На расу пагнала.

Загнала я волы
У шыроку даліну,
Сама плакаць стала
У ліхую гадзіну.

Загнала я волы
У зялёну дуброву,
Сама плакаць стала
Ідучы да дому.

Паліліся слёзы,
Як з белай бярозы,
Няхай мілы чуе
У вялікай дарозі.

Прыедзь, прыедзь, мілы,
Прыплыві з вадою.
А як не прыплывеш,
Паплыву з табою.

Бо вашыя людзі —
Вялікія абмоўкі,
Абсудзілі мяне
Ад пят да галоўкі.

Гаварылі пра мяне
Старыя, малыя,
Цяпер пачынаюць —
Хлопцы маладыя.





## ОЙ, РАЗ ВЕЧАРАМ, ПОЗНАЙ ПАРОЮ

Ой, раз вечарам, познай парою
Дробны дождж ідзе,
Ой, сабралася бедна галота,
Дый гарэлку п'е.

Пілі гарэлку і пілі барэлку
А цяпер віно,
А як хто прыдзе з нас пасмяяцца,
Будзем біць таго.

Ой, прышоў дзядзька багаты
І насмешаецца:
—Ой, за што, за што, бедна басата,
Напіваецца.

— Ой, ты дзядзьку, дзядзьку багаты,
Не смейся ты з нас,
— Ой, сядай, сядай, дзядзьку багаты,
Вып'еш каля нас.

— Ой, вы хлопцы, слаўны малайцы,
Не буду сядаць,
Ой, бо я маю сто рублей грошай,
Не хачу мяняць.

Адзін узяў за руку, другі за другую
Трэці ў карк б'е:
— Не йдзі, не йдзі, дзядзьку багаты,
Дзе басота п'е.



НЕ ПАЙДУ ЗАМУЖ

Не пайду замуж,
Ні рок, ні два,
Ні за п'яніцу,
Ні за гультая.
Кажуць людзі,
Мой мужык добры,
У карчму не йдзе
І водкі не п'е.
Прапіў коніка
І не каецца,
Прыдзе да хаты
І ругаецца.
— Мілая мая,
Выкуп каня
Як выкупіш,
Любіць буду,
Як не выкупіш
Біць буду.
Я не раз, не два
Выкупляла,
У вішнёвым саду
Начавала.
Пташачкі ў саду
На каліне,
Я, малада,
На чужыне.
Пташачкі ў саду
Чы-чу, чы-чу,
А я, малада,
Плачу, плачу.





Мгр УЛ. ЮЗВЮК

# Знешняе ўпрыгожванне хат

Знешняе ўпрыгожванне хат паўднёва-ўсходняй часткі Беластоцкага ваяводства належыць да той галіны народнага мастацтва, якое дазолі мала вядома ў этнаграфіі. Паявілася яно ў мясцовых беларускіх вёсках каля 70 год таму назад, у перыяд замены традыцыйных курных хат так званай хатай падляшскай з абразнога дрэва, гладкімі вугламі і драўлянымі шчытамі. На 295 фотаздымкаў архітэктурнай разьбы, зробленых аўтарам ў шасці паветах (Беластоцкім, Бельскім, Гайнаўскім, Сямяціцкім, Сакольскім і Дуброўскім), знойдзена толькі 8 упрыгажэнняў, выкананых да І сусветнай вайны. Безумоўна, ваенныя знішчэнні 1914—1920 гадоў і час значна паменшылі лік хат, якія раней мелі такія ўпрыгажэнні.

Найбольш бурным перыядам архітэктурнага ўпрыгожвання хат быў міжваенны перыяд (142 фотаздымкі) і першае дзесяцігоддзе народнай улады ў Польшчы. У апошнія гады будаўніцтва драўляных хат устрымана загадам улад з прычыны дэфіцыту дрэва. У сувязі з гэтым перастала развівацца архітэктурная народная разьба.

Асноўнымі прычынамі, якія выклікалі знешняе ўпрыгожванне хат мясцовымі сялянамі, былі: а) дастатковая колькасць высокаякаснай драніны Белавежскай пушчы, адсюль магчымасць будовы вялікіх хат, ганкаў, б) традыцыйнае імкненне вясковага насельніцтва запаўняць большыя плошчы сцен-шчытоў арнаментаванымі ўпрыгажэннямі, в) канкурэнцыя паміж мясцовымі майстрамі (цеслямі), з якіх кожны імкнуўся выканаць нешта непаўторнае і дзякуючы гэтаму звярнуць на сябе ўвагу іншых сялян, г) неабходнасць практычнага забеспячэння вуглоў, шчытоў, абіцця шалёўкай сцен ад гніцця, замацаванне дахоўкі і г. д.

Невялікая колькасць выкананых фотаздымкаў не дазваляе яшчэ вылучыць раёны аднолькавай архітэктурнай разьбы, але можна ўжо звярнуць увагу чытача на асноўныя элементы, якімі ўпрыгожваюцца



*Ганак хаты Юрчука Уладзіміра ў вёсцы Нурэц, Сямяціцкага павета. Пабудаваны ў 1945 г.*



*Ганак хаты Петэрсона Міхася ў вёсцы Плюцічы, Бельскага павета. Пабудаваны ў 1931 г.*



*Ганак хаты Анішчука Сцяпана ў вёсцы Зубава, Бельскага павета. Пабудаваны ў 1965 г.*



*Ганак хаты Сцяпанюка Андрэя ў вёсцы Плюцічы, Бельскага павета. Пабудаваны ў 1947 г.*





*Вугал хаты Мікалаюка Арсеня ў вёсцы Канюкі, Бельскага павета. Пабудаваны ў 1928 г.*



*Вугал хаты Сеўчынскага Андрэя ў вёсцы Снежкі, Бельскага павета. Пабудаваны ў 1931 г.*



*Вугал хаты Юрчука Мікіты ў вёсцы Нурэц, Сямяціцкага павета. Пабудаваны ў 1945 г.*



*Вугал хаты Дзмітрука Аляксандра ў вёсцы Краснае Сяло, Бельскага павета. Пабудаваны ў 1910 г.*



*Хата Міхалюка Мікалая ў вёсцы Рыбалы, Бельскага павета. Пабудавана ў 1937 г.*

хаты на ўсёй апісваемай тэрыторыі. Да іх аднясем: шчыт, вугал, акно і ганак.

Шчыт з'яўляецца найбагацей упрыгожанай часткай хаты. На адпаведнай раме па-мастацку ўложана шалёўка (найчасцей у форме елачак, кубікаў, зубчатых ліставў). Увесь шчыт перадзелены на вышыні акенца ўпрыгожанай ліствай, над якою часта памяшчаюцца выразаныя з дошак конікі, птушкі, кветкі. На сярэдзіне шчыта адно або два невялікія акенцы, багата ўпрыгожаныя разьбой, асабліва пад акенцам.

Прымацаваныя да канцоў латаў вятроўкі маюць ніжні бераг арнаментаваны. Верхняе заканчэнне іх — канёк сустракаецца даволі рэдка, але ніжняе прадстаўляе выключнае багацце. Тут можна сустрэць розных звяроў, птушак, кветкі, геаметрычныя фігуры і г. д. Цэласць кампазіцыі шчыта дапаўняюць падшчытнік з дошак або дахоўкі і падстрышнік. Шалёўка шчытоў у большасці хат не малюецца. Дзе-нідзе светласінім колерам памаляваны рамы акенца.

Вугал ашалёўваецца ў залежнасці ад сцяны і матэрыялаў некалькімі спосабамі. Найбольш распаўсюджана шалёўка выстаючай падрубы падвугольнікам розных форм, які пакрываецца дажджавікам, а ўся верхняя частка вугла шалюецца адной дошкай. У старэйшых шалёўках гэтая дошка мае адзін бераг упрыгожаны, а ў навейшых служыць падложжам, на якое набіваецца арнамент. Багацце гэтага арнамента перадаць немагчыма. Ва ўспамянутай раней колькасці фотаздымкаў аўтар не сустрэў ніводнага паўтарэння. Амаль не сустра-





*Шчыт хаты Кананчука Васіля ў вёсцы Сацы, Гайнаўскага павета. Пабудаваны ў 1928 г.*



*Шчыт хаты Грыгарука Сямёна ў вёсцы Цялушкі, Бельскага павета. Пабудаваны ў 1935 г.*

каецца яго нават у аднаго і таго ж столяра, які паслугоўваецца ўзорамі (модламі), але кожны раз па-іншаму злучае кампазіцыю на шалёўцы. Тут можна сустрэць арнаменты, геаметрычныя фігуры, кветкі, птушак і г. д. — усё ў суровай сіметрыі. Шалёўкі вуглоў маюць розныя колеры, з якіх найбольш распаўсюджаны спалучэнні светла-сінята і цёмна-сінята, цаглясты, менш зялёны і чырвоны.

Акно ўпрыгожваецца пры дапамозе шалёўкі, ліствы і аканіц. Шалёўка вырабляецца гэблікам амаль усюды аднолькавай формы і пад вуглом 45° прыбіваецца вакол трох бакоў акна. Знізу шалёўка не даецца, але прымацоўваецца падаконнік, па якім сцякае з акна вада. У ніжняй частцы мае ён найчасцей разьбу ў выглядзе карнізаў, кубікаў або дадатковай вузкай ліствы. Ліства, якая прымацоўваецца пад акном, складае найчасцей выключна прыгожую кампазіцыю разьбы па дрэву. Выступаюць тут элементы раслін, арнаментаў, птушкі, менш геаметрычныя фігуры.

Дэкаратыўным дапаўненнем з'яўляюцца двухстворкавыя, філёнгавыя аканіцы, якія амаль ніколі не ўжываюцца да закрывання акон і не маюць нават адпаведных замацаванняў. Яны прыгожа выкананы, размалёўваюцца разам з рамай і шалёўкай такім жа ясна-сінім колерам, а, каб падкрэсліць філёнгі ўводзіцца цёмна-сіні або іншы колер.

Ганак мае падвойнае значэнне: як дэкаратыўная частка хаты і як месца адпачынку пасля працы, а ганкі — веранды — як часовыя кладоўкі. Архітэктурная разьба выступае каля калонак, на падстрэшніку, шчыце, вятроўках, а часта і на шалёўцы, якая складае ніжнюю частку сцен ганка. Гэтыя дэкаратыўныя элементы з'яўляюцца працягам агульнага ўпрыгажэння хаты з такімі ж арнаментамі, ліствамі, шалёўкамі.

У артыкуле змяшчаецца некалькі здымкаў архітэктурнай народнай разьбы, якія павінны паслужыць узорамі для ўпрыгожвання хат. Гэтае мастацтва не можа загінуць. Яго трэба ўтрымліваць, хоць датуль, пакуль будуць існаваць драўляныя хаты.



# ГАСПАДАРЧЫЯ ПАРАДЫ





Інж. ЯЎГЕНІЙ ЗДАЕЎСКІ

# Збожжа галоўная праблема гэтай пяцігодкі

Нашая сельская гаспадарка павінна пракарміць, прычым з году ў год усё лепш, узрастаючае насельніцтва нашай краіны. Гэтае заданне з году ў год робіцца ўсё цяжэйшым і не толькі таму, што ўсё больш людзей у Польшчы, але і таму, што мы імкнемся да таго, каб кожны грамадзянін спажываў усё больш і больш мяса, малака, масла, яек і іншых харчовых прадуктаў.

Разам з гэтым мы імкнемся таксама ўтрымаць на неабходным узроўні экспарт сельскагаспадарчых прадуктаў, які паспяхова развіваецца на карысць нашай народнай гаспадаркі.

Ключом да выканання гэтых заданняў з'яўляецца высокая прадуктыўнасць сельскай гаспадаркі, асабліва высокая ўраджайнасць збожжа, якое з'яўляецца падставовым прадуктам харчавання як людзей, так і хатняй жывёлы. І няма нічога дзіўнага ў тым, што ў гэтым пяцігадовым плане вядучую ролю ў галіне сельскай гаспадаркі займае праблема, якую агульна назвалі «збожжавай», і якая складаецца з шэрагу розных крокаў у напрамку інтэнсіфікацыі і ўвядзення навейшых метадаў у сельскую гаспадарку наогул. Найважнейшым з іх з'яўляецца імкненне да ліквідацыі імпарту збожжа шляхам павышэння яго ўраджайнасці, а таксама ашчаднага і рацыянальнага выкарыстоўвання канцэнтраваных кармоў, шляхам змяншэння скармлівання збожжа ў натуральным выглядзе і павелічэння колькасці прамысловых канцэнтраваных кармоў для хатняй жывёлы. Апрача таго, трэба стварыць (шляхам адпаведнага загаспадаравання лугоў і паш) танную кармавую базу для траваяднай жывёлы, а таксама павялічваць яе пагалоўе.

З мэтай забеспячэння выканання вытворчых заданняў, пастаўленых перад сельскай гаспадаркай, дзяржава дае вытворцам дастатковую колькасць неабходных сродкаў вытворчасці ў выглядзе мінеральных угнаенняў, сродкаў аховы раслін, сельскагаспадарчых машын і прылад, кваліфікаванага насення і пародзістай жывёлы, будаўнічых матэрыялаў, а таксама стварае ў розных формах адпаведную колькасць крэдытаў, якія даюць магчымасць карыстацца гэтымі сродкамі.

Незалежна ад гэтага, дзяржава прымае на сябе шэраг большых капіталаўкладанняў, асабліва такіх, якія сяляне не ў сілах зрабіць уласнымі сіламі. Гэта меліярацыя зялёных угоддзяў і ворнай зямлі, электрыфікацыя, частка будаўніцтва, пашырэнне сеткі скупу сельскагаспадарчых прадуктаў і забеспячэнне сельскай гаспадаркі галоўнымі сродкамі вытворчасці, а таксама перапрацоўка прадуктаў. Усе гэтыя рэчы немагчыма рэалізаваць без велізарных матэрыяльных і грашовых сродкаў, якія ў сваёй большасці ідуць са скарбу дзяржавы.

Аднак добрыя ўмовы для развіцця сельскай гаспадаркі, якія стварае дзяржава дзякуючы асаблівым намаганням, не вырашаць самі тых заданняў, якія пастаўлены перад нашай гаспадаркай. Яны з'яўляюцца толькі добрым пачаткам. У канцовым разліку аб поспеху вырашыць тое, якім чынам выкарыстаны тысячамі асобных сялян усе тыя сродкі, якія дзяржава дае ў распараджэнне вытворцаў.

Таму і варта яшчэ раз пагаварыць аб тым, што мы павінны рабіць ва ўмовах нашага ваяводства, каб як найбольш па-гаспадарску выкарыстаць усё тое, што можа паслужыць рацыянальнаму развіццю сельскагаспадарчай вытворчасці ў кожнай гаспадарцы.

Вядома, гэта не будуць рэцэпты на ўсе магчымыя недахопы і слабасці нашых гаспадарак, а толькі выяўленне найважнейшых спраў вельмі вялікага значэння для рацыяналізацыі сельскай гаспадаркі.

Адной з галоўных умоў павелічэння ўраджаяў наогул, а ў тым ліку і збожжа, з'яўляецца мінеральнае і арганічнае ўгнаенне. Аднак пры гэтым трэба памятаць, што эфектыўнасць мінеральнага ўгнаення, гэта значыць, адпаведнае павелічэнне ўраджаю, моцна залежыць ад узроўню акультуранасці глебы, галоўным чынам, ад яе структуры і ступені кіслотнасці.

Залежнасць гэтая ўзрастае разам з павелічэннем норм угнаення. Гэта азначае, што нават поўная норма мінеральнага ўгнаення не можа даць пажаданага эфекту на моцнакіслых глебах і з дрэннай структурай. Асабліва гэта датычыць дзейнасці фосфару, які ў кіслым асяроддзі вельмі хутка змяншае сваю эфектыўнасць дзеяння, а часта наогул перастае дзейнічаць.

Беластоцкае ваяводства мае шмат моцнакіслых глеб са слабой структурай. У такім становішчы галоўнай умовай адпаведнага прымянення норм угнаення з'яўляецца неабходнасць як найхутчэй палепшыць структуру і зменшыць кіслотнасць большасці глеб нашага ваяводства. Бо паляпшэнне структуры і кіслотнасці глеб не толькі створыць адпаведныя ўмовы для рацыянальнага выкарыстання мінеральных угнаенняў, але таксама створыць магчымасць пашырэння арэалу пшаніцы і ячменю і шмат іншых раслін, асабліва ўражлівых на кіслотнасць глебы. І незалежна ад гэтага будзе спрыяць лепшаму планаванню ўсіх сельскагаспадарчых культур.

Бо ж вядома, што рацыянальная гаспадарка ўгнаеннямі павінна перш за ўсё абапірацца на дакладных дадзеных або кармавых рэчывах і ступені кіслотнасці глеб дадзенага поля. Гэтыя дадзеныя для большасці нашых вёсак і гаспадарак сабраны на беластоцкай хімічна-сельскагаспадарчай станцыі. Таму кожны селянін павінен пазнаёміцца з картамі і інструкцыямі гэтай станцыі, якія знаходзяцца ў грамадскіх радах, а ў многіх вёсках — нават у солтыса. Гэтыя матэрыялы складаюцца не толькі з характарыстыкі хімічных багаццяў і кіслотнасці дадзенага поля, але ёсць у іх і лічбы аб патрэбнай колькасці ўгнаенняў, нормы мінеральнага ўгнаення і вапнавання для кожнага поля. У некаторых выпадках такія дадзеныя можна атрымаць за невялікую аплату проста з хімічна-сельскагаспадарчай станцыі.

Калі акажацца, што ўсе зялёныя ўгоддзі ў гаспадарцы, або частка, маюць павышаную кіслотнасць, трэба адразу брацца за вапнаванне, вядома ў адпаведны на гэтую работу час і абдумаўшы раней чарговасць.

Пакуль яшчэ кіслотнасць глеб не ўрэгулявана, трэба асабліва старанна размяшчаць асобныя культуры так, каб на кіслыя глебы не трапілі расліны, асабліва ўражлівыя на павышаную кіслотнасць. Падобная стараннасць павінна быць прыкладзена і ў час падзелу купленых угнаенняў пад асобныя культуры. Трэба памятаць, што дзеянне мінеральных угнаенняў у большай ці меншай меры будзе абмежавана на палях з павышанай кіслотнасцю глебы.

Вялікую ролю, і не толькі непасрэдна на павышэнне ўраджайнасці збожжа і іншых культурных раслін, але ў значнай ступені як умова добрага ўздзеяння мінеральных угнаенняў, адыгрывае арганічнае ўгнаенне. Гаворка ідзе аб гаспадаранні перагноем.

Арганічнае ўгнаенне (гной, зялёныя ўгнаенні, торф) мае асабліва вялікае значэнне на лёгкіх глебах, пясчыстых, з якіх вельмі лёгка вымываюцца кармавыя рэчывы, а паказнік кіслотнасці глебы хутка пагаршаецца. Супрацьдзейнічае гэтаму ў значнай меры перагной у глебе, які ствараецца тут дзякуючы арганічнаму ўгнаенню. Іменна таму ва ўмовах Беласточчыны, дзе пясчыстыя глебы займаюць значныя плошчы, для рацыянальнага гаспадарання неабходна забеспячэнне арганічным угнаеннем ворнай зямлі раз на 4 гады не менш як па 300 ц гною на гектар. На асабліва слабых глебах угнойваць трэба яшчэ часцей.

У нашых умовах вялікія шанцы на атрыманне арганічных угнаенняў, а гэтым самым на павышэнне эфектыўнасці сельскай гаспадаркі дае павелічэнне пагалоўя траваяднай жывёлы, галоўным чынам, буйнай рагатай жывёлы. Аднак развіццё гэтай галіны вытворчасці па зразумелых прычынах адбываецца ў параўнаўча невялікім тэмпе. Побач з раўнамерным павелічэннем пагалоўя хатняй жывёлы на гаспадарцы асаблівую ўвагу трэба звярнуць на лепшае гаспадараванне гноем, якога нават пры дасягненні высокай лічбы жывёлы ніколі ў нас не будзе больш, як трэба. Важна, каб гной адпаведна перахоў-

ваўся, так, каб абмежаваць да мінімума страту яго каштоўных рэчываў. Гэта не патрабуе ні вялікага ўкладу грошай, ні дадатковай рабочай сілы. Добры гаспадар патрапіць перахоўваць гной адпаведным спосабам не толькі на спецыяльнай гнаёўні, але і ў прыстасаваным да гэтай мэты кароўніку. Важнай крыніцай атрымання дадатковага ўгнаення, на якую часта зусім не звяртаюць увагі, з'яўляецца сістэматычна не выкарыстоўваемая гнойная жыжка (гнаёўка). Сабраная і адпаведна ўтрыманая, яна з'яўляецца незвычайна танным і добрым угнаеннем.

Аднак не ва ўсіх гаспадарках і не заўсёды дастаткова хутка можна будзе дабіцца такой колькасці жывёлы, якая поўнасцю б забяспечыла патрэбы ў арганічным угнаенні.

У шматлікіх выпадках, апрача павелічэння колькасці гною і паляпшэння яго якасці, неабходна будзе шукаць дадатковых крыніц папаўнення недахопу арганічных угнаенняў. Такім гаспадаркам варта запрапанаваць значнае павелічэнне, у залежнасці ад кліматычных і глебавых умоў, вырошчвання матыльковых на заворванне, галоўным чынам, лубіну, донніку (ностшыку), сэрадэлі, а таксама стручковых мяшанак ці нават канюшыны. Заворванне гэтых культур можа паспяхова замяніць гной. Аднак прымяняць гэтыя культуры на ўгнаенне трэба толькі тады, калі сапраўды існуе такая неабходнасць.

Добра арганізаваная раслінная гаспадарка характарызуецца не толькі правільным і эфектыўным выкарыстоўваннем натуральных і мінеральных угнаенняў, але і адпаведным выкарыстоўваннем глебы. Гэтыя справы павінны ўзаемна быць звязаны паміж сабой і дапаўняць адна другую.

Глебы добрай якасці, якіх у нашых ваяводствах не так ужо і многа, павінны быць абавязкова выкарыстаны пад расліны, патрабуючыя вельмі добрай глебы; слабейшыя глебы — пад расліны менш выбрэдныя. Нашыя сяляне не заўсёды так робяць, прызначаючы нямала лепшай зямлі пад жыта і бульбу. Гэта апраўдвалася тады, калі ў нас адчуваўся сур'ёзны недахоп як у мінеральных, так і арганічных угнаеннях. Цяпер узрастае забеспячэнне мінеральнымі ўгнаеннямі, а ўзрастаючае пагалоўе жывёлы дае ўсё больш гною. Гэта стварае магчымасць лепшага выкарыстоўвання, чым дагэтуль, слабейшых глеб. *На гэтых глебах пры вельмі інтэнсіўным мінеральным* і арганічным угнаенні паспяхова можна вырошчваць жыта і бульбу. Нельга спадзявацца на слабых глебах высокіх ураджаяў, але нават пры 12 ц з га вырошчванне ўжо эканамічна апраўдана, тым больш, што такім чынам можна будзе паступова выцесніць жыта з лепшых глеб, куды павінны ўваходзіць расліны больш рэнтабельныя. У адносінах да збожжавых культур ва ўмовах нашага ваяводства гэта датычыць, галоўным чынам, азімай пшаніцы і яравога ячменю, якія тут даюць даволі высокі і пастаянны ўраджай, асабліва, калі пад іх прызначаюцца большыя нормы ўгнаенняў. Добрыя таксама вынікі дае сяўба ячменю з падсевам матыльковых раслін.

Вядома, калі гаворым аб неабходнасці павелічэння плошчы пад *пшаніцу, ячмень, стручковыя і прамысловыя расліны, а таксама* гародніну, трэба разумець, што гэты ўзрост, прынамсі, у бліжэйшыя гады, будзе абмежаваны, а жыта ў нашых глебава-кліматычных умовах далей застанецца асноўным таварным збожжам і галоўнай пазіцыяй у структуры пасеваў Беластоцкага ваяводства. Іменна таму павелічэнне ўраджайнасці жыта і ашчаднае гаспадараванне ім у першую чаргу будзе вырашаць аб тым, у якой меры і як хутка мы зможам зліквідаваць імпарт збожжа ў нашай народнай гаспадарцы.

Варта затрымацца над тым, што мы павінны разумець пад паняццем ашчаднага гаспадаравання збожжам. Напэўна, не змяншэнне норм канцэнтраваных кармоў для хатняй жывёлы. Здаецца справай бясспрэчнай, *што тады, калі гаспадаруем абмежаванымі запасамі* кармоў, дык галоўнай мэтай з'яўляецца іх рацыянальнае і эфектыўнае выкарыстанне.

Як навуковыя доследы, так і вытворчая практыка даўно даказалі, што адным з канкрэтных шляхоў да дасягнення гэтай мэты з'яўляецца ўзбагачэнне натуральных кармоў прамысловай перапрацоўкай. Такім чынам можам пры кармленні свіней высакаякаснымі кармамі напалову зменшыць колькасць кармоў, неабходных для выпрадукавання 1 кг прыросту ў адносінах да колькасці, якая патрэбна пры кармленні кармамі з невялікай колькасцю бялкоў. Узяўшы пад увагу факт, што і народнай гаспадарцы і самім вытворцам залежыць не на колькасці свіней, а *на прадуктыўнасці, на павелічэнні* колькасці добрага мяса, дык правільным шляхам да гэтага будзе ўтрымоўванне пагалоўя свіней на пэўным узроўні, але ўзмацненне і прыспяшэнне адкорму і прыплоду. Іменна гэтага напрамку павінны трымацца беластоцкія сяляне ў бліжэйшыя гады. Пры гэтым галоўныя раёны канцэнтрацыі гадоўлі свіней павінны знаходзіцца ў гаспадарках на слабейшых глебах, дзе галоўнай кармавой культурай застаецца бульба, а таксама ў дробных гаспадарках, дзе гадоўля свіней павінна развівацца побач з гадоўляй буйной рагатай жывёлы і птушкі.

Колькасць свіней у гаспадарках, якія вядуцца рацыянальна, павінна быць разлічана згодна з магчымасцямі паўнаякаснага кармлення *мяшанкамі і бульбай. Але трэба паступова змяншаць* колькасць збожжа на корм толькі да неабходнага мінімуму. Тады можна будзе дабіцца значнай ашчаднасці ў кармах, а таксама ў канцовым выніку, і ў вытворчасці высакаякаснага таварнага мяса.

Асобнай праблемай вялікага значэння ва ўмовах беластоцкай сельскай гаспадаркі з'яўляецца поўнае выкарыстанне кармавых рэзерваў у галіне вырабу такіх мясцовых кармоў, якія павінны быць асноўным забеспячэннем больш дынамічнага развіцця гадоўлі буйной рагатай жывёлы ў параўнанні з іншымі відамі жывёлы.

Маю на думцы перш за ўсё лугі і пашы, якія ў нашым ваяводстве складаюць каля 468 тысяч гектараў, г. зн. больш 31% агульнай плошчы зялёных угоддзяў. Атрыманы з іх корм складае толькі невялікі працэнт усіх патрэб хатняй жывёлы ў кармавых рэчывах. Большая колькасць вырошчваецца на ворнай зямлі. Гэта сведчыць з аднаго боку аб вытворчых рэзервах, якія крыюцца ў зялёных угоддзях, а з другога — аб высокай загрузцы ворнай зямлі вырошчваннем кармоў.

Таму здаецца, што правільным будзе абапіраць жывёлагадоўлю Беластоцкага ваяводства, прынамсі на гэтым этапе, галоўным чынам на ўласныя кармавыя запасы. Аднак пастаяннага развіцця жывёльнай вытворчасці ў такіх умовах можна дабіцца толькі ў тым выпадку, калі яго папярэдзіць узрост раслінаводства. Генеральным заданнем нашай сельскай гаспадаркі, асабліва ў раёнах з вялікімі плошчамі зялёных угоддзяў, павінна быць імкненне да як найбольш рацыянальнага выкарыстоўвання лугоў і паш. Вяжацца гэта з неабходнасцю значнага павелічэння ўраджаяў сена, асабліва на меліяраваных угоддзях шляхам правільнага загаспадаравання іх пасля заканчэння меліярацыі, а затым сістэматычнага ўгнаення, а таксама догляду як самiх угоддзяў, так і меліярацыйных збудаванняў.

Большыя гаспадаркі, дзе ёсць шмат лугоў і паш, або вырошчваюцца значныя колькасці цукровых буракоў ці гародніны, павінны пашыраць гадоўлю рагатай жывёлы і спецыялізавацца перш за ўсё ў гадоўлі жывёлы на ўбой.

Прадстаўленыя вышэй (вельмі павярхоўна) крокі ў напрамку інтэнсіфікацыі прадукцыі на зялёных угоддзях павінны ў выніку ўсяго гэтага не толькі значна павялічыць запасы танных кармоў на гаспадарцы, але і стварыць умовы для сістэматычнага вызвалення ворнай зямлі для вырошчвання іншых, больш прадуктыўных культур. Таму ў рацыянальнай гаспадарцы асноўным заданнем павінна быць рацыянальнае гаспадараванне зялёнымі ўгоддзямі, а ўваход з кармавымі раслінамі на ворную зямлю можа быць апраўданы толькі тады калі прадукцыя лугоў і паш акажацца недастатковай. Уваход на ворныя землі з кармавымі культурамі пры нявыкарыстаным патэнцыяле пастаянных угоддзяў трэба лічыць марнатраўствам.

Пры гэтым варта падкрэсліць, што ў выпадку выкарыстоўвання ворнай зямлі пад кармавыя культуры трэба клапаціцца аб тым, каб у структуры пасеваў у большай ступені былі высакаякасныя культуры, г. зн. люцэрна, канюшына, сэрадэля, стручковыя і г. д., вядома, выбар павінен залежаць ад глебавых умоў, запасаў угнаенняў і структуры пасеваў.

Гаворачы аб павелічэнні запасаў танных кармоў мясцовага паходжання, нельга не ўспомніць аб вялікай ролі падсеваў і пaіржышчавых культур. Хоць праўду кажучы, беластоцкая сельская гаспадарка мае трохі абмежаваныя магчымасці ў гэтай галіне, але тое, што магчыма, павінна быць поўнасцю выкарыстана. А многія сяляне яшчэ не дацэньваюць гэтага, часта не разумеюць, што гэта найтаннейшая і найбольш даступная крыніца значнай колькасці высакаякасных кармоў. Паіржышчавыя культуры можна вырошчваць у кожнай гаспадарцы, бо гэта не звязана ні з больш значнай сумай грошай, ні з дадатковай плошчай ворнай зямлі.

Мы зрабілі павярхоўны агляд важнейшых крокаў, неабходных для рэалізацыі заданняў сельскай гаспадаркі на бліжэйшыя гады. Усе яны будуць у межах рэальных магчымасцей сярэдняй гаспадаркі. Мы спецыяльна стараліся не падаваць рэцэптаў, каб кожны гаспадар, ведаючы сваю гаспадарку, мог сам задумацца над тым, ці яго вытворчасць зgаджаецца з тым, што тут было сказана, і што яшчэ трэба было б направіць ці ўвесці новага, і ці гэтыя змены будуць сябе апраўдваць. Здаецца, што ў шматлікіх выпадках не абыдзецца без парады або дыскусіі з мясцовым аграномам. Толькі пасля ўсіх гэтых рознабаковых разважанняў у канкрэтных умовах гаспадаркі можна будзе ўстанавіць найбольш правільны шлях дзеяння, апрацаваць адпаведны «рэцэпт» і прыняць патрэбнае рабочае рашэнне.

Адпаведны напрамак, творчае намаганне селяніна і яго прафесіянальныя веды вырашаць аб тым, ці капіталаўкладанні і вялікія сродкі прадукцыі, якія дзяржава дае ў распараджэнне сельскай гаспадаркі, будуць адпаведна выкарыстаны і дадуць поўнасцю жаданы эфект у выглядзе мадэрнізаваных сельскіх гаспадарак і ўзросту сельскагаспадарчай вытворчасці. Толькі адпаведна рэалізуючы заданні пяцігадовага плана, беластоцкая сельская гаспадарка можа ўнесці свой уклад у народную гаспадарку ў выглядзе павялічанай масы спажывецкіх тавараў і прамысловай сыравіны, а адначасова садзейнічаць далейшаму ўзросту заможнасці нашых вёсак.



*Гадоўля коней у Сакольскім павеце.*



*На выпасе.*



Інж. М. ДЗЕМЯНОВІЧ

# Парады для жывёлагадоўцаў

Раслінаводства з'яўляецца асновай сельскай гаспадаркі Беластоцкага ваяводства. Ад раслінаводства ў значнай ступені залежыць жывёлагадоўля. У залежнасці ад карысці, якую дае хатняя жывёла, разрозніваецца рабочая, малочная, мясная, на воўну ці на футра жывёла. Жывёлагадоўля — гэта далейшы працэс перапрацоўкі прадуктаў раслінаводства. Больш 75% раслінных прадуктаў не магло б выкарыстоўвацца без жывёлагадоўлі (салома, мякіна, сена, трава). З другога боку, пабочны прадукт жывёлагадоўлі — гной — быў бы не патрэбны без раслінаводства.

Як бачым, сельская гаспадарка прадстаўляе сабой вялікае адзінае цэлае, у складзе якога знойдзем зямлю, агратэхніку, хімію, нерухомыя капіталаўкладанні — будынкі, раслінаводства і жывёлагадоўлю, а таксама цэлы шэраг машын і абсталявання. А на чале ўсяго гэтага стаіць сам селянін — «дырэктар сваёй гаспадаркі», які стараецца ўсім гэтым так ці інакш кіраваць па меры сваіх магчымасцей. Калі мне ўдасца хоць трохі дапамагчы яму ў гэтым кіраўніцтве, дык выканаю пастаўленае перад сабой заданне.

*
* *

Асновай прадаўжэння роду кожнага віду жывёлы з'яўляецца размнажэнне. Іменна таму трэба бліжэй пазнаёміцца з гэтай праблематыкай. Найбольш наглядна ўявіць гэта можна, карыстаючыся табліцай:

**Табл. 1**

| Пералік жывёл | Узрост пры першым пакрыцці | Найлепшы перыяд пакрыцця | Даўжыня перыяду | Час пакрыцця ад пачатку цечкі | Пачатак цечкі пасля ацялення | Паўтарэнне |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Кабыла | 3—4 гады | 15. II.—15. IV. | 4—7 дзён | 2—3 дзень | 7—9 дзень | 16—26 дзён |
| Кароза | 20—22 месяц. | 3 месяцы пасля ацялення | 12—30 гадзін | 6—12 гадзін | 30—90 дзён | 19—23 дзён |
| Свіння | 8—10 месяц. | XI.—XII. і V.—VI. | 2—3 дзён | 18—30 гадзін | 42—53 дзён | 18—24 дзён |
| Авечка | 16—18 месяц. | 15. IX.—15. XI. або 15. VI.—30. VII. | 12—36 гадзін | | каля 180 дзён | 16—21 дзень |

Паданая вышэй табліца № 1 з'яўляецца асновай для разважанняў асабліва для маладых сялян. Жывёлгаадоўцы з практыкай павінны карыстацца ёю і правяраць, ці так робяць, як падказвае тэорыя і практычны вопыт найлепшых спецыялістаў — жывёгаладоўцаў.

Многія сяляне вельмі часта пытаюцца, у якім узросце жывёла мае найлепшую здольнасць распладняцца, а ўсе гадоўцы расплоднікаў, хоць і не пытаюцца, павінны ведаць, колькі самак прыпадае на аднаго самца ў год.

Адказ можна знайсці на табліцы № 2:

**Табл. 2**

| Пералік жывёлы | Найлепшы ўзрост самак для расплоду | Прыблізная колькасць самак на аднаго самца ў год |
|---|---|---|
| Коні | 6—15 гадоў | да 100 (на капуляцыйнай станцыі) |
| Буйная рагатая жывёла | 6—9 гадоў | 50—70 |
| Свінні | 3—8 гадоў | 30—50 |
| Авечкі | 1,5—6 гадоў | 100 |

Да гэтага стану жывёлу трэба адпаведна падрыхтаваць. Не трэба яе перакармліваць, але нельга таксама і трымаць яе ў галадоўцы, каб была худая.

У звычайных умовах цяжарнасць, роды і аддзяленне месца прадстаўляе пададзеная табліца.

**Табл. 3**

| Пералік жывёлы | Перыяд цяжарнасці | Час прадаўжэння родаў | Аддзяленне месца пасля родаў |
|---|---|---|---|
| Кабыла | каля 340 дзён (II месяцаў) | 20—50 мінут | да паўгадзіны |
| Карова | каля 285 дзён (9 мес. і 10 дзён) | 3—6 гадзін | да 24 гадзін |
| Свіння | каля 116 дзён (3 мес. 3 тыдні і 3 дні) | 2—3 гадзіны | непасрэдна пасля родаў |
| Авечка | каля 150 дзён (5 месяцаў) | 1/2—1 гадзіны | да 6 гадзін |
| Каза | каля 154 дзён (5 месяцаў) | | 2—3 гадзіны |
| Трусіха | каля 30 дзён (месяц) | | некалькі гадзін |

Калі паасобныя віды жывёлы значна адхіляюцца ад нормы, пададзенай у табліцы № 3, неабходна выклікаць ветэрынара, каб прадухіліць непажаданыя вынікі ў гадоўлі.

Нашыя інкубатары не могуць яшчэ забяспечыць птушанятамі ў 100% патрэбы індывідуальных гаспадарак і таму падаем табліцу № 4, якая характарызуе вывядзенне хатняй птушкі.



**Табл. 4**

| Пералік птушак | Тэрмін выседжвання | Колькасць яек на квактуху | Колькасць самак на аднаго самца |
|---|---|---|---|
| Куры | 20—22 | 15—19[1] | 12—15 |
| Індычка | 27—30 | 15—19 | 5— 7 |
| Цэсарка | 26—28 | 5— 8[2] | 4— 6 |
| Пава | 29—31 | 4—12[3] | 2— 4 |
| Гусь | 23—32 | 13—14[4] | 4— 6 |
| Качка | 26—31 | 13—15[5] | 4— 5 |
| Галубка | 17—19 | 2— 3[6] | 1 |

1. У залежнасці ад велічыні квактухі; пад індычку 21—25 курыных яек.
2. Пад курыцай 20 яек, пад індычкай — 30.
3. Найчасцей пад курыцай або індычкай.
4. Пад курыцай 3—5, пад індычкай 9—11 гусіных яек.
5. Пад індычкай 21 яйка, пад курыцай 11 качыных яек.
6. 6—10 птушанят у год.

Як бачым у табліцы, галубка і курыца за найменш дзён выседжваюць сваіх птушанят — ад 17 да 22 дзён. Найдаўжэй выседжваюцца гусіныя яйкі — 32 дні, качыныя — 31 дзень, а таксама індычыя — 30 дзён. На аднаго пеўня прыпадае аж 12—15 курэй, а сярод іншых птушак — каля 5 самак на аднаго самца.

Большасць сялян у прынцыпе ведае пладавітасць хатняй жывёлы, але часам наглядаецца значная колькасць адхіленняў, і яны не павінны быць нечаканасцю.

Кабыла і карова найчасцей прыводзяць па адным цяляці ці жарабяці. Але здараюцца выпадкі двайнятаў. Авечка найчасцей прыводзіць 1—2 ягнят, радзей — 3—4.

Свіння дае два апаросы ў год у сярэднім па 8—12 парасят, але бываюць выпадкі, калі за адзін апарос прыводзіць і да 20 парасят.

Не ўсе бычкі ці жарабцы могуць быць расплоднікамі. Частка жывёлы мужчынскага полу выбракоўваецца і прызначаецца на ўбой. Таму падаем найбольш адпаведны ўзрост для кастрацыі самцаў:

1. Жарабцы 1—3 гады
2. Бычкі на адкорм 6—8 тыдзень.
3. Бараны 4—6 тыдзень.
4. Кнуры 3—5 тыдзень.

Пададзеныя тэрміны найлепшыя з пункту гледжання гадоўлі і выкарыстоўвання гэтай жывёлы. Але праўныя пастановы не дазваляюць

трымаць жарабцоў даўжэй 18 месяцаў, а бычкоў — 5 месяцаў, бо тады яны былі б здольныя да расплоду. У гэты час жывёла лягчэй пераносіць працэс кастрацыі і не спыняе свайго росту.

Каб пазнаёміць чытачоў з сярэднім перыядам карыснага выкарыстоўвання *хатняй жывёлы, прыводзім наступную табліцу.*

1. Жарабец цяжкай пароды — 12—15 гадоў.
2. Жарабец лёгкай пароды — 16—18 гаадоў.
3. Кабыла — 10—15 гадоў.
4. Бугай — 3—4 гадоў.
5. Карова — 6—8 гадоў.
6. Маркач — 2—6 гадоў.
7. Авечка — 3—5 гады.
8. Кнур — 2—4 гадоў.
9. Свінаматка — 2—4 гады.

Як бачым, коні цяжкіх парод хутчэй старэюць, каля 15 гадоў канчаецца перыяд іх выкарыстоўвання, а коні лёгкіх парод — да 18 гадоў. *Найлепшы перыяд у выкарыстоўванні каровы — да 8 гадоў.* Пазней наступае паступовы спадак у яе прадукцыйнасці, карова псуецца і худзее. Авечка карысная ад 2 да 5—6 гадоў. Свінні — ад 2-х да 4—5 гадоў.

Перыяд апраўданай гадоўлі жывёлы найбольш за ўсё залежыць ад адпаведнага кармлення і догляду, добрых хлявоў, а таксама спецыялістычных ведаў самога жывёлагадоўцы. А гэта ў сваю чаргу праяўляецца ў лепшай працаздольнасці коней, малочнасці кароў, яйканоскасці птушкі ці прыросту мяса ў свіней, а таксама воўны і мяса ў авечак.

## ГАДОЎЛЯ БУЙНАЙ РАГАТАЙ ЖЫВЁЛЫ

Для гаспадарства гэтая галіна вытворчасці мае асаблівае значэнне. Даход за малако і малочныя прадукты складае ад 10 да 35% агульнага даходу гаспадаркі. Вялікае значэнне маюць таксама скура, гной і розныя адпады, якія таксама з'яўляюцца сыравінай для прамысловасці.

У гадоўлі буйнай рагатай жывёлы адрозніваем два галоўныя напрамкі — малочны і мясны.

Эканоміка сельскай гаспадаркі падказвае нам малочны напрамак, які найлепш апраўдвае сябе, бо з той самай колькасці кармоў ствараецца больш калорый, а таксама адпадае патрэба ў вялікай колькасці маладняку на адначасна статку.

Узяўшы пад увагу гэтую розніцу, адпаведныя ўлады вырашылі павысіць цану маладняку на ўбой. Гэта ў канчатковым разліку выраўнала эканамічнасць абодвух напрамкаў.



На ўсім свеце цяпер адмаўляюцца ад выкарыстоўвання рагатай жывёлы ў адным напрамку. Пераходзяць на камбінаваныя пароды, напрыклад, малочна-мясныя. Жывёла гэтых парод характарызуецца лепш развітымі мышцамі, дае шмат тлустага малака, радзей хварэе і даўжэй жыве.

У нашай краіне пародамі з двайным, малочна-мясным напрамкам з'яўляюцца *нізінная чорна-белая, польская чырвоная і сіментальская.* Пры купленні кароў ці выбракоўванні іх трэба звярнуць увагу на рысы правільнай будовы цела. Гэтая ацэнка робіцца на аснове асобных частак цела.

З практычнага пунтку гледжання для таго, хто купляе карову на рынку, могуць спатрэбіцца нейкія рысы, якія сведчылі б аб малочнасці кароў. Вось яны:

— Здаровы выгляд, выразна зазначаны рысы самкі (гэта значыць, што карова не можа мець нават нязначнага падабенства да бугая).
— Тулава сярэдняй даўжыні, але адначасова шырокае і глыбокае.
— Адлегласць паміж апошнімі рэбрамі вялікая (3—4 пальцы).
— Тонкая, эластычная скура, якую лёгка можна адцягнуць ад рэбраў.
— Волас тонкі, бліскучы і прылягае да скуры.
— Вымя ў перыяд лактацыі вялікае, добра развітыя залозы, вымя добра размешчана, так, каб спераду заходзіла на бруха, а ззаду падыходзіла даволі высока.
— Пад брухам каля вымя павінна быць тоўстыя жылы, так зв. малочныя. У тым месцы, дзе жылы ўваходзяць у сярэдзіну бруха, ёсць так званыя малочныя ямкі, якія таксама павінны быць вялікімі.

Усе гэтыя рысы павінны выступаць разам, толькі тады яны маюць сваю вартасць. Калі будзем абапірацца толькі на адну з гэтых рыс, можна памыліцца.

Кармленне кароў мае рашаючы ўплыў на іх малочнасць. Народная прыгаворка вельмі слушна сцвярджае, што «карова з языка доіцца». Можна згадзіцца, што калі карова здаровая і адпаведна кормленая, яна павінна даваць больш 3 000 літраў малака ў год (цяпер на паўднёвым усходзе ваяводства надойваюць каля 1 730 літраў ад каровы).

Рацыянальнае кармленне заключаецца ў тым, каб даць ёй у кармах адпаведнай колькасці і якасці кармавыя рэчывы, патрэбныя на будову арганізма, у перыяд цельнасці — таксама на патрэбы плоду, а пасля ацялення — на стварэнне малака. Зялёныя кармы пераважна маюць у сабе ўсе патрэбныя кармавыя рэчывы. Таму трэба зімовае кармленне максімальна скараціць, а прадоўжыць летняе кармленне да 200 дзён. Раннім вясною трэба мець трохі азімага рапсу (рапаку), потым азімае жыта з вікай (касматай) і пшаніцу з той самай вікай. Восенню найлепш рэкамендуецца кармавая капуста, дзякуючы якой

можна прадоўжыць перыяд летняга кармлення да студзеня. З гэтай жа мэтай трэба старацца набліжаць зімовае кармленне да летняга. Падаем у скарачэнні спосаб планавання кармавых норм для кароў (падобным чынам і для іншай жывёлы).

Патрэбы жывёлы ў кармах акрэсліваюцца галоўным чынам у колькасці страўных бялкоў, а таксама ў кармавых адзінках. За кармавую адзінку прынялі 1 кг аўса, які мае ў сабе 1 кармавую адзінку і 82 грамы бялкоў, і да яго параўноўваюцца ўсе іншыя кармы. Плануючы нормы, трэба памятаць, каб у норму ўвайшлі ўсе кармавыя рэчывы. На 1 кг малака карова павінна атрымаць дадаткова 3 гр. вапны, 2 гр. фосфару і 5 гр. солі.

У табліцаах № 5 і 6 пададзены кармавыя патрэбы кароў.

**Табл. 5**

| Жывая вага каровы | Аўсяных адзінак | Страўных агульных бялкоў | Вапны | Фосфару | Солі |
|---|---|---|---|---|---|
| 400 | 4,0 | 240 | 15 | 10 | 20 |
| 450 | 4,3 | 270 | 18 | 12 | 23 |
| 500 | 4,6 | 300 | 20 | 13 | 25 |
| 550 | 4,9 | 330 | 21 | 14 | 27 |
| 600 | 5,2 | 360 | 23 | 15 | 30 |
| 650 | 5,5 | 390 | 24 | 16 | 32 |

Патрэбы ў кармавых рэчывах на выраб 1 кг малака з розным працэнтам тлушчу.

**Табл. 6**

| Працэнт тлушчу | Аўсяныя адзінкі | Агульных страўных бялкоў |
|---|---|---|
| 3,00—3,25 | 0,43 | 45—50 |
| 3,25—3,50 | 0,45 | 50—55 |
| 3,50—3,75 | 0,47 | 55—60 |
| 3,75—4,00 | 0,49 | 60—65 |
| 4,00—4,25 | 0,50 | 65—70 |
| 4,25—4,50 | 0,52 | 70—75 |
| 4,50—4,75 | 0,54 | 75—80 |
| 4,75—5,00 | 0,56 | 80—85 |

Апрача бытавых кармоў, пададзеных у табліцы № 5, каровы павінны атрымаць дадатак кармоў, пададзеных ў табліцы № 7. Для прыкладу падлічым кармавыя патрэбы пяршаткі вагой 450 кг., якая дае



10 кг малака з 3,4% тлушчу. У такім выпадку кармавыя патрэбы складаюць 4,3 кармавых адзінак і 270 гр страўнага бялка, лічачы бытавыя патрэбы, а таксама 4,5 кармавых адзінак + 550 гр. бялкоў на 10 кг малака.

Узяўшы пад увагу тое, што карова гэтая яшчэ расце, трэба да гэтых норм дадаць 1,4 кармавой адзінкі $(0,45 \times 3 = 1,35)$ + 150 гр страўных бялкоў. Тады норма складзе $(4,3 + 4,5 + 1,4 = 10,2)$ 10,2 кармавых адзінак і $(270 + 550 + 150 = 970)$ 970 гр страўных бялкоў.

**Табл. 7**

| Якім каровам даем дадатак | Дадатак адпаведны з надоямі ў кг |
|---|---|
| Маладым, растучым каровам | 3 |
| Худым каровам | 2—4 |
| На раздой у перыяд 3—6 тыдняў пасля ацялення | 3 |
| **У перыяд запуску:** | |
| Каровам нізіннай пароды | 12—15 |
| Каровам іншых парод і беспародным | 8—15 |

Не толькі пяршаткам, але і старэйшым каровам, калі яны цельныя, трэба даваць кармавы дадатак, г. зн. карміць больш, чым нормы, прадугледжаныя для іх малочнасці. Ужо ў чацвертым месяцы цельнасці неабходны такі дадатак, які даецца на 2 кг малака, а ў наступных месяцах — па 3 кг малака. Гэта значыць, што калі карова дае 10 кг малака ў суткі ў час цельнасці, дык трэба падлічваць яе кармавыя патрэбы так, нібы яна давала 13 кг малака.

Цельных кароў пасля запушчэння трэба карміць так, як тады, калі б яны давалі па 8—15 кг малака ў суткі. Гэта спрыяе развіццю цяляці і малочнасці пасля ацялення.

Пры летнім кармленні па пашы, калі часам наглядаецца недахоп, трэба папаўняць яго кошанымі зялёнкамі або травой. Выган на пашы найбольш эканамічна апраўданы для селяніна. Пры гэтым трэба памятаць, што добрай пашы хопіць 1 га на 2 каровы. Грамадскай пашы, недагледжанай, сухой і беднай, наогул нельга браць пад увагу.

Найбольш багатыя пашы бываюць у маі і чэрвені. Тады на іх можа хапіць корму для кароў на 15—20 кг малака ў дзень. Восенню корму на пашы хопіць толькі па 8 кг малака, таму жывёлу трэба дакармліваць зялёнкамі або сіласам, у залежнасці ад пастаноўкі кармавой базы гаспадаркі. За кожны літр малака трэба дадаваць 3 кг зялёнкі з матыльковых (люцэрна, канюшына, сэрадэля), іншых траў — па 4 кг на 1 літр малака.

Найвышэйшая норма зялёнкі пры выгане па пашу можа скласці 30—40 кг у дзень. Калі з падліку вынікае, што карова павінна атры-

мацъ больш зялёнкі, дык тады нормы не павялічваем, а дадаем канцэнтраваных кормаў у разліку 1 кг на 3 кг малака.

Узнікае пытанне — калі найлепш дадаваць зялёнку? Тэорыя і практыка паказваюць, што дадаецца па два разы ў дзень: пасля даення ў поўдзень і нанач. Вельмі добра даваць жывёле дадаткова пры выгане на пашу салому нанач, а таксама загадзя намочаных бурачаных высаладкаў. Калі няма пашы, на многіх гаспадарках іншых краін кормяць жывёлу скошанай зялёнкай, прычым у вялікай колькасці, напрыклад у ГДР. Вось дзённыя кармавыя нормы для кароў на веснавы перыяд:

**Табл. 8**

| Від кармоў | Надой малака ў суткі (кг) | | | |
|---|---|---|---|---|
| | 6 | 12 | 18 | 24 |
| 1. Рапс (рапак) зялёны азімы | 30 | 50 | 70 | 70 |
| Сухія высаладкі (кг) | 3 | 3 | 3,75 | 4 |
| Салома | 5 | 4 | 3 | 3 |
| Канцэнтраваныя кармы (кг) | — | — | — | 2,5 |
| 2. Зялёнка жыта з вікай (кг) | 25 | 40 | 60 | 70 |
| Сухія высаладкі (кг) | 3 | 3 | 3 | 3 |
| Салома (кг) | 6 | 5 | 3 | — |
| Дробленае зерне (кг) | — | — | — | 45 |

## ДЗЁННЫЯ КАРМАВЫЯ НОРМЫ ДЛЯ КАРОЎ НА ЛЕТНІ ПЕРЫЯД

**Табл. 9**

| Від кармоў | Надоі малака ў суткі (кг) | | | |
|---|---|---|---|---|
| | 6 | 12 | 18 | 24 |
| 1. Чырвоная канюшына (кг) | 30 | 40 | 45 | 55 |
| 2. Сухія высаладкі (кг) | — | 1 | 2 | 2 |
| Салома (кг) | 6 | 4 | 1 | 1 |
| Дробленае аўсянае зерне | — | — | 1 | 2 |

## ДЗЁННЫЯ КАРМАВЫЯ НОРМЫ ДЛЯ КАРОЎ НА АСЕННІ ПЕРЫЯД

**Табл. 10**

| Від кармоў | Надоі малака ў суткі (кг) | | | |
|---|---|---|---|---|
| | 6 | 12 | 18 | 24 |
| 1. Лісце цукр. буракоў з галоўкамі (кг) | 35 | 55 | 70 | 75 |
| Салома (кг) | 7 | 4 | 3 | — |
| Лугавое сена (кг) | — | — | — | 3 |
| Дробленае зерне (кг) | — | — | — | 3 |



| Від кармоў | Надоі малака ў суткі (кг.) | | | |
|---|---|---|---|---|
| | 6 | 12 | 18 | 24 |
| 2. Паіржышчавая канюшына (кг) | 25 | 35 | 40 | 50 |
| Сухія высаладкі (кг) | 2 | 2,5 | 5 | 5 |
| Салома (кг) | 6 | 5 | 3 | — |
| Сена (кг) | — | — | 2 | 4 |
| 3. Паіржышчавая рэпа з лісцем | 50 | 80 | — | — |
| Сухія высаладкі | 1 | 2 | — | — |
| Лугавое сена | 8 | 4 | — | — |

У іншых краінах таксама ўсё часцей прамяняюцца вялікія колькасці зялёных кармоў з дадаткам канцэнтраваных кармоў. Такі корм добры для кароў вагою 500—600 кг, лягчэйшым каровам змяншаюць колькасць зялёнкі павялічваючы аданачасова канцэнтраваныя кармы. Кармленне рагатай жывёлы ў зімовы перыяд можна абрысаваць схематычна. На кожную карову ў дзень трэба даць 20 кг. буракоў, 10 кг зялёнага сіласу, 6 кг сена і 4 кг саломы. Усіх кароў з большай малочнасцю трэба дакармліваць канцэнтраванымі мяшанкамі. Вельмі важна пунктуальнае падаванне кармоў у тыя самыя гадзіны.

## ДЗЁННЫЯ КАРМАВЫЯ НОРМЫ ДЛЯ КАРОЎ У ЗІМОВЫ ПЕРЫЯД

**Табл. 11**

| Від кармоў | Надоі малака ў суткі (кг) | | | |
|---|---|---|---|---|
| | 6 | 12 | 18 | 24 |
| 1. Добрае лугавое сена (кг) | 5 | 7 | 9 | 9 |
| Кармавыя буракі (кг) | 20 | 25 | 30 | 35 |
| Салома і мякіна (кг) | 5 | 3 | 1 | 1 |
| Канцэнтраваныя кармы — мяшанка (кг) | 1 | 2 | 3 | 5 |
| 2. Сена з люцэрны (кг) | 3 | 4 | 5 | 8 |
| Сілас з бурачанага лісця (кг) | 10 | 20 | 30 | 30 |
| Кармавыя буракі (кг) | 20 | 20 | 30 | 30 |
| Сухія высаладкі (кг) | — | — | — | 1,5 |
| Салома і мякіна (кг) | 5 | 4 | 3 | 1 |
| 3. Лугавое сена (кг) | 5 | 6 | 6 | 6 |
| Сілас з салодкага лубіну (кг) | 10 | 20 | 30 | 40 |
| Кармавыя буракі (кг) | 20 | 20 | 20 | 20 |
| Сухія высаладкі (кг) | — | 1 | 1,5 | 1,5 |
| Дробленае зерне (кг) | — | — | 1 | 2 |
| Дробленае зерне з макухай (кг) | — | — | — | 0,5 |
| Салома і мякіна (кг) | 4 | 2 | — | — |

Пераход з зімовага кармлення на летняе і наадварот павінна быць не раптоўнае, а паступовае за перыяд 2-х тыдняў. Паколькі заатэхнічная служба ОСМ (акруговая малочная спулдзельня) найбольш працуе над тэхнікай даення, гігіенай кароўнікаў і малака, гэтыя справы не будзем дакладна разглядаць.

Чысціня — гэта аснова здароўя людзей і якасці малочных прадуктаў. Гэта галіна павінна безупынку быць на парадку дня і ўдасканальвацца. Памяшканні для кароў у многіх сялян не маюць яшчэ неабходнага асвятлення. На 12—15 м² памяшкання павінна прыпадаць 1 м² шкла. Важнае для рагатай жывёлы сухое і чыстае паветра (механічная вентыляцыя як найбольш пэўная або шчыліны пад дахам ці спецыяльныя коміны ў новых хлявах).

Назаву найважнейшыя работы пры доглядзе: чышчэнне, мыццё цёплай вадой у цёплы перыяд (толькі не ў мароз), абрэзванне капытоў два разы ў год, калі зойдзе патрэба, пунктуальнае кармленне, падсціланне чыстай саломай, пазбягаць трымання рагатай жывёлы разам з іншай жывёлай, дазваляць рух на свежым паветры і сонцы і, як вянец да ўсяго гэтага, — паўнавартаснае кармленне здаровай жывёлы. Гэтую мэту можна дасягнуць, прымяняючы адпаведныя метады гадоўлі і догляду.

Каб ведаць кармовую вартасць усіх кармоў, трэба купіць кніжачку пад загалоўкам «Normy żywienia zwierząt gospodarskich», выданую ПВР і Л у 1965 годзе.

## ГАДОЎЛЯ СВІНЕЙ

У Беластоцкім ваяводстве ёсць больш мільёна свіней. Свінні характарызуюцца высокай пладавітасцю і вялікім прыростам вагі. Вельмі добрае выкарыстоўванне кармоў: на 1 кг прыросту кормнік з'ядае ад 3 да 7 кармавых адзінак, г. зн. менш, чым каровы ці авечкі. Мала адпадкаў пры ўбоі — толькі ад 15 да 25% (кішкі, кроў, шчаціна, капыты). Гэта значыць, што чыстага прадукту выходзіць ад 75 да 85%. А ў рагатай жывёлы чысты прадукт складае толькі 40—70%. Даволі высокая каларычнасць свінога мяса — 0,5 кг свініны можа замяніць 1 кг бараніны або амаль 1 кг ялавічыны.

Пры кармленні свіней трэба памятаць, што яны не жвачныя, маюць малы страўнік і таму даваць ім трэба іншы корм. Наогул свінням трэба даваць 10—20% кармоў жывёльнага паходжання. Корм падаецца штодзень у тыя самыя гадзіны ў выглядзе густой кашы і чыстую ваду для піцця.

У кармленні свіней выкарыстоўваем бульбу. Яна спрыяе адкорму, даваць можна большымі порцыямі свінням з вагой больш 60 кг. Бульбяныя камякі з'яўляюцца вельмі добрым кормам, так сама, як сушаная бульба. Паўцукровыя і кармавыя буракі добрыя на малочнасць,



але не на адкорм. Цукровымі ж буракамі добра адкармліваць. Кармавая морква — гэта вельмі добры корм, асабліва для свінаматак і маладняку. Яна мае ў сабе каратэн, з дапамогай якога ў арганізме вытвараецца вітамін «Д», вельмі патрэбны для паглынання арганізмам вапны і фосфару.

Зялёны корм для свіней павінен быць з маладых раслін і без фібрыны, найлепш матыльковыя — люцэрна, чырвоная і белая канюшына, сэрадэля, кармовы лубін, а таксама вікі са сланечнікам або лубінам, а таксама іншыя, не выключаючы траў і пустазелля.

Выган дае свінням вартасны зялёны корм. Апрача гэтага, прабыванне на свежым паветры добра спрыяе іх здароўю і ўстойлівасці супраць хвароб.

Маладняк, які прабывае на выгане, на свежым паветры і мае свабоду руху, адзначаецца лепшым здароўем (мацнейшыя лёгкія, сэрца, канчыны). Кормнікі або свінаматка даюць лепшы прырост вагі і здаравейшых парасят.

Побач з аб'ёмнымі кармамі трэба назваць муку з маладых матыльковых раслін. У канцы мая або на пачатку чэрвеня, калі зялёнкі яшчэ маладыя, трэба іх скасіць і высушыць у памяшканні пад дахам (пустыя клуні, на рыштаванях), бо сонечныя прамені знішчаюць вітаміны. Потым сена трэба змалоць на спецыяльным млынку і атрымліваем муку з сена, якая па сваёй вартасці не ўступае зерню збожжа. Калі млынка няма, можна перацерці сена на дробную сечку на сячкарні. Такім спосабам падрыхтаваную муку або сечку пакуем у мяшкі з паперы (іх можна купіць у ГС-е). Мяшок з трох ці чатырох столак раздзяляем на асобныя мяшкі, усыпаем падрыхтаваныя муку ці сечку ў мяшок і заклейваем.

Дарослая свіння ці парсюк з'ядаюць ~ 0,5 кг гэтага сушняку ў дзень.

Добрым кормам для свіней з'яўляецца і мякіна з сэрадэлі ці канюшыны або натрэсіны з сена.

З канцэнтраваных кармоў амаль усе вядомы і прымяняюцца ў гаспадарках. Але, на жаль, без дадатку да 20% дзённай нормы кармоў жывёльнага паходжання немагчыма дабіцца жаданых вынікаў (г. зн. без малака).

Ідэальным рашэннем могуць быць прамысловыя мяшанкі канцэнтраваных кармоў: Т-для кормнікаў, Р-для парасят, W-для маладых кормнікаў, М-бек — для кормячых свінаматак і іншыя. У склад гэтых мяшанак уваходзіць каля 12 кампанентаў, чаго не можа замяніць ніякае дробленае зерне.

Трэба карыстацца нормамі кармлення хатняй жывёлы, выданне III РІВР і Л, Варшава, 1965 г., якія памогуць сарыентавацца ў кармавых якасцях розных кармоў і эканоміцы кармлення. З гэтых норм вынікае, што, напрыклад, мяшанка Т у 1 кг мае 140 гр. страўных бялкоў, а ячмень — 81,1 гр. Пры адпаведным падліку вынікае, што, каб за-

мяніць 1 кг мяшанкі Т ячменем, трэба 1,8 кг ячменю. Бобік мае ў сабе 218,4 гр бялка, жоўты салодкі лубін — 337,1 гр бялкоў, авёс — 84,7 гр бялкоў, а лушчаны авёс (для парасят) — 132,0 гр бялкоў. Дробленага зерня матыльковых не даем больш чым 20—25% усіх канцэнтраваных кармоў для свіней, бо ў іх узнікае запор.

Для кормнікаў добрым кормам з'яўляюцца кухонныя адпадкі (недалёка ад сталовак), але ў гэтым выпадку ім можа пагражаць атручанне, бо шмат солі ў гэтай ежы. Каб пазбегнуць гэтага, неабходна жывёле арганізаваць пастаянны доступ да пітнай вады.

Нашыя чытачы не дацэньваюць мінеральных і вітамінаваных кармоў, такіх, як кармавая крэйда, кухонная соль, касцяная мука, драўнінны вугаль, мяшанка ММ, а таксама рыбі тлушч, дзе ёсць вітаміны А і Д. На заканчэнне вышэй сказанага прыводжу прыклад кармлення кормячай свінаматкі ў летні і зімовы перыяд.

### ЛЕТНІ ПЕРЫЯД

**Табл. 12**

| Від кармоў | Адзінка меры | Дзённая кармавая норма | |
|---|---|---|---|
| | | ад | да |
| Абястлушчанае малако | літры | 5 | 6 |
| Дроблены ячмень | кг | 2,7 | 3,5 |
| Параная бульба | кг | — | 4 |
| Зялёнка з люцэрны, канюш. | кг | 5 | 6 |

### ЗІМОВЫ ПЕРЫЯД

**Табл. 13**

| Від кармоў | Адзінка меры | Дзённая карм. норма | | |
|---|---|---|---|---|
| Абястлушчанае малако або маслянка | літры | 5 | — | 6 |
| Дроблены ячмень | кг | 1 | — | 1,3 |
| Дробленае зерне кукурузы | кг | — | 1,5 | — |
| Дроблены бобік | кг | 0,7 | — | 0,9 |
| Параная бульба | кг | 4 | — | 6 |
| Сушаная люцэрна, канюшына | кг | — | 0,4 | — |

Калі мы не прыменім пададзенага для арыентацыі прыкладу кармлення, тады гадоўля і адкорм свіней наогул не апраўдваюць сябе. Свінаматка можа пры кармленні парасят зменшыць сваю вагу да 100 кг. Парасяты ж, замест таго, каб падрасці ўсе разам на 200 кг да адсаджэння, будуць важыць усе разам каля 80 кг. Разам страты складаюць каля 200 кг жывой вагі, а 1 кг = 20 зл., што ў суме складае



каля 4 тыс. злотых. А кармы маглі б каштаваць максімум каля 1000 злотых.

Каб выбраць добрую свінню на свінаматку, трэба памятаць, што пладавітасць з'яўляецца спадчыннай рысай, і таму свінню трэба выбіраць так, каб паходзіла ад пладавітых бацькоў. Пладавітая свінаматка павінна добра адгадаваць парасят, быць малочнай і клапатлівай маці. Першы раз свінню пакрываць, калі яна ўжо добра вырасла, ва ўзросце 10—12 месяцаў і з вагой каля 120 кг. Каб свінаматка была добрай, свінню трэба як найдаўжэй пратрымаць да першага пакрыцця. Пры планаванні апаросаў найлепш, калі свінаматка паросіцца ранняй вясною (II, III, IV) і ў канцы лета (VIII—IX), тады мёты заўсёды могуць адбывацца ў адпаведных умовах.

На заканчэнне хачу зазначыць, што абапіраючыся на працу, якую вядзе беластоцкі ваяводскі саюз гадоўцаў свіней у індывідуальных гаспадарках, спатыкаем памылкі, якія вельмі перашкаджаюць у развіцці свінагадоўлі. Вось важнейшыя з іх:

— непрымяненне прыкладаў кармлення;
— адсутнасць адпаведнай кармавой базы;
— недахоп спецыялістычных ведаў у жывёлагадоўцаў;
— адсутнасць адпаведных хлявоў і механізацыі працы.

Каб паправіць гэтыя памылкі, трэба звяртацца за адпаведнай парадай да спецыялістаў — заатэхнікаў, выкарыстоўваць у шырокім маштабе розныя практычныя паказы і курсы. Трэба выбіраць і прыстасоўваць памяшканні так, каб у іх жывёла мела як найлепшыя ўмовы, а гадоўца — лягчэйшую абслугу. У выніку жывёла «адплаціць» тады ўдвая, а жывёлагадоўца будзе мець максімальны даход.

Др АНАТОЛЬ БАХАРЭВІЧ

лекар - ветэрынар

# ПАРАДЫ ЛЕКАРА-ВЕТЭРЫНАРА

Разам з развіццём жывёлагадоўлі ўзрастае неабходнасць аховы жывёлы ад хвароб і забеспячэння ёй поўнага здароўя. Нямала ёсць хвароб, якія перадаюцца людзям. Таму хворая жывёла небяспечна для людзей. Ужо нашы дзяды і прадзеды разумелі, што кожная хвароба мае сваю прычыну. Аднак не маглі вытлумачыць навукова гэтыя прычыны і таму прыпісвалі іх надпрыродным сілам. Вельмі распаўсюджанымі былі забабоны, што прычынай хваробы жывёлы мог быць «урок», кінуты зайздросным суседам. Яшчэ і цяпер у некаторых ваколіцах існуе звычай завязваць чырвоную стужку на шыю нованароджанаму жарабяці, цяляці ці ягняці. І толькі старэйшыя людзі памятаюць, што, паводле колішніх забабонаў, чырвоная стужка павінна была ахоўваць ад «урокаў» і хвароб. Верылі таксама ва ўменне некаторых людзей, якія валодалі дзіўнай сілай, адводзіць «урокі» і хваробы.

Развіццё прыродазнаўчых навук высвеціла нямала з'яў, якія некалі лічыліся надпрыроднымі. Было растлумачана паняцце хваробы і прычыны яе ўзнікнення.

Знешні свет, які акружае жывёлу, і ўмовы, у якіх яна жыве, ці так званае асяроддзе, заключае ў сябе шмат акалічнасцей, якія могуць спрыяць жыццю жывёлы або быць больш ці менш небяспечнымі для яе. Да небяспечных трэба залічыць наступнае: утрымоўванне жывёлы ў цесных, брудных і вільготных памяшканнях, да якіх не мае доступу свежае паветра, нерэгулярнае кармленне або кармленне неадпаведнымі кармамі, жорсткія адносіны да жывёлы — біццё, дакучанне і змушанне да непасільнай працы. Усе гэтыя з'явы спрыяюць узнікненню хвароб у жывёлы.

## НЕБЯСПЕЧНЫЯ ЗАРАЗНЫЯ ХВАРОБЫ

Каб зберагчы сваю жывёлу ад заразных хвароб, трэба трымацца наступных правіл:



— Жывёлу трэба трымаць у відных, сухіх, са свежым паветрам памяшканнях, а таксама забяспечыць ёй як найдаўжэйшае прабыванне на выгане (у загародах); нельга дапускаць, каб жывёла лазіла па суседскіх агародах, сметніках і гнаёўках.

— Усе памяшканні для жывёлы неабходна хоць два разы ў год дакладна чысціць і дэзінфікаваць, нават хоць бы шляхам бялення.

Неабходна весці сістэматычную барацьбу з насякомымі (мухі, камары, кляшчы) і грызунамі (мышы, пацукі), якія таксама з'яўляюцца разносчыкамі хвароб.

— Купляючы жывёлу на рынку, трэба заўсёды жадаць, каб прадавец паказаў пасведчанне аб месцы паходжання жывёлы, выдадзенае солтысам або ГРН. Закупленая жывёла, калі ёсць на гэта магчымасць, павінна быць аддзелена ад астатняй жывёлы на працягу 30 дзён. Гэта дасць гарантыю на тое, што калі нават купленая жывёла захварэе, дык не заразіць іншую.

— Падліна таксама можа быць расаднікам заразы, таму яе трэба закопваць толькі ў вызначаных месцах — далей ад лугоў, выганаў і вадапояў.

Вельмі добрымі сродкамі ад заразных хвароб з'яўляюцца ахоўныя прышчэпкі розных відаў жывёлы, якія праводзяцца сістэматычна ветэрынарнай службай. Галоўныя прышчэпкі наступныя: для свіней ад ружыцы і памору, для сабак ад шаленства, для птушкі ад памору, для коней і буйной рагатай жывёлы ад сібірскай язвы (вонглік), для кароў і авечак ад прышчыцы.

## ПРЫШЧЫЦА

Гэту хваробу выклікае вельмі малая бактэрыя, нябачная нават пад мікраскопам, называная вірусам прышчыцы. Найчасцей прышчыца выступае ў буйной рагатай жывёлы і тут прыносіць найбольшыя страты, аднак хварэць на прышчыцу могуць таксама авечкі, козы і свінні, сабакі і людзі. Заражаецца жывёла прышчыцай праз датыканне да хворай жывёлы, а таксама праз корм, ваду або прылады. Людзі могуць пераносіць бактэрыі на адзежы на вялікія адлегласці. Хворыя каровы аслабелыя, маюць павышаную тэмпературу да 41° C, праяўляюць адсутнасць апетыту, іх знікае малако. У поласці рота, з якой часта звісае густая, доўгая сліна, выступаюць запаленні слюзовай абалонкі ў выглядзе пухіроў і язваў на дзёснах і языку. Падобныя пухіры і нарывы могуць выступаць таксама на сасках вымені і ў міжкапытнай шчыліне.

У авечак прышчыцавыя змены падобныя на тыя, што і ў кароў, але найчасцей паяўляюцца ў міжкапытнай шчыліне. У хворых на прышчыцу свіней хвароба праяўляецца на лычы, у міжкапытных шчылінах, а таксама на ніжніх участках ног у ваколіцы суставаў.

З прышчыцай вядзе барацьбу дзяржава. Таму аб кожным выпадку захворвання трэба адразу ж паведаміць бліжэйшага ветэрынара. Галоўным у барацьбе з прышчыцай з'яўляецца суровае выкананне ветэрынарных распараджэнняў, у якіх гаворыцца аб поўнай ізаляцыі гаспадарак, дзе ёсць хворая жывёла, абмежаванне руху жывёлы і абароту прадуктамі жывёльнага паходжання, абмежаванне руху людзей, бо і яны разносяць заразкі прышчыцы, а таксама дэзінфекцыя гаспадарчых будынкаў і двара 2% растворам каўстычнай соды. А ў вёсцы і ваколіцы арганізуецца масавая праверка (ўсяе капытнай жывёлы і робіцца прышчэпванне здаровай жывёле (за выключэннем свіней).

## ШАЛЕНСТВА

Шаленства — гэта адна з найбольш небяспечных заразных невылячальных хвароб. Хварэць ім можа ўся хатняя жывёла і людзі, але найчасцей выступае ў сабак, катоў і лісіц. Зараза перадаецца галоўным чынам праз пакусанне сабакам, катом ці лісіцамі. Жывёла можа захварэць шаленствам у перыяд ад некалькіх дзён да некалькіх месяцаў ад моманту пакусання. У выпадку, калі жывёлу ўкусіць падазроны кот або сабака, трэба ўкушанага адізаляваць да моманту, пакуль яго не агледзіць ветэрынар.

Аб пакусанні чалавека трэба адразу павядоміць пункт аховы здароўя. Прызнакі хваробы — гэта адсутнасць апетыту, неспакой, моцная ўзбуджанасць на змену з асавеласцю, напады шаленства, момантамі страта прытомнасці, моцнае выдзяленне сліны і паражэнне канечнасцей. Пры гэтых прызнаках за некалькі дзён наступае смерць.

Каб засцерагчы ад распаўсюджвання хвароб, неабходна сістэматычна штогод рабіць ахоўныя прышчэпкі сабакам, а таксама нішчыць лісіц і бяздомных катоў, якія маглі б мець доступ да гаспадарскай жывёлы.

## ПАМОР СВІНЕЙ

Гэта вельмі заразная хвароба свіней выклікаецца вірусам, а адзначаецца ў большасці выпадкаў высокай тэмпературай, аслабленнем і высыпкай на скуры (чырвоныя і фіялетавыя плямкі велічынёй з галоўку шпількі), асабліва на бруху.

Зараза перадаецца проста са свінні на свінню праз заражаныя загароды, сцены, загоны, мух, пераносам на людскім абутку або за нагамі жывёлы, праз сабак і птушак. Часта памор свіней распаўсюджваецца праз продаж неправеранага мяса, якое паходзіць ад хворых свіней.

Каб пазбягаць хваробы, неабходна рабіць ахоўныя прышчэпкі, асабліва ў ваколіцы, дзе выступае хвароба.



## ПАМОР ПТУШАК

Паморам апрача курэй, хварэюць індыкі, цэсаркі, а часам і дзікія птушкі. Качкі і гусі ўстойлівыя на гэту хваробу. Заражэнне адбываецца праз сутыканне хворых птушак са здаровымі, а таксама праз корм і ваду, пабруджаныя выдалінамі хворых курэй і індыкоў. Першыя прызнакі памору птушак наступныя: адсутнасць апетыту, пасмутненне, настабурчанае пер'е. З вачэй, носа і дзюбы выцякае слізь. Куры сядзяць на зямлі са спушчаным пер'ем, выцягнутай шыяй і часта падаюць скрыпучы голас, падобны да пеўневага. З развіццём хваробы грэбень сінее, пачынаюцца дрыжыкі і параліч ног і крыл.

Забеспячэнне ад хваробы заключаецца ў даванні ў кармах прышчэпкі «L», якую можна атрымаць у кожнай лячэбніцы. Прышчэпку даваць трэба толькі здаровым птушкам ужо ад трэцяга тыдня жыцця, а затым паўтараць прышчэпку праз кожныя 3—5 месяцы.

## ХВАРОБЫ СВІНЕЙ

Грыпам хварэюць галоўным чынам парасяты ва ўзросце ад 6 тыдняў да 4 месяцаў, а асабліва ў перыяд адсаджвання ад свінаматкі. Гэта тыповая хвароба для парасят, якія выхоўваюцца ў негігіенічных умовах. Вільготныя, халодныя і цёмныя хлявы, а таксама дрэнныя кармы і недахоп у прабыванні на свежым паветры вельмі спрыяюць паяўленню хваробы. Першы прызнак хваробы — чханне і кашаль. Да гэтага даходзіць панос і адсутнасць апетыту. Часта на скуры вушэй, галавы і бруха з'яўляецца высыпка ў выглядзе невялічкіх пухіроў, якія лопаюцца і, засыхаючы, пакідаюць цёмныя струпкі. Часам паяўляецца запаленне суставаў і напады падачкі.

Барацьба з грыпам у парасят заключаецца ў стварэнні ім як найлепшых умоў жыцця: трымаць у сухіх, чыстых, відных і цёплых хлявах, стварыць умовы для прабывання на свежым паветры, а таксама адпаведнае кармленне.

## ХВАРОБА АЦЁКАЎ (АТОЧНАЯ)

Гэтай хваробай найчасцей хварэюць парасяты ва ўзросце 4—16 тыдняў, у рэдкіх выпадках — старэйшыя. Пачатак хваробы раптоўны — няма апетыту і ацёкі павек, якія пашыраюцца на шчокі і аколіцы глоткі. Пасля некалькіх гадзін можа наступіць параліч ног і панос. Смерць надыходзіць праз 12—36 гадзін, у рэдкіх выпадках хвароба цягнецца да 7 дзён. Пераважна захворваюць найлепш растучыя адзінкі. Хвароба не мае тэндэнцыі пашырацца, хоць могуць хварэць асобныя свінні на працягу ўсяго года.

Как засцерагчы свіней ад хваробы, трэба звярнуць асаблівую ўвагу на ўмовы гігіены выхоўвання, а таксама на паўнавартаснае і чыстае, але не вельмі аб'ёмістае кармленне ў перыяд адсаджвання.

## ЖЫВЁЛЬНЫ АВАДЗЕНЬ (ГІПАДЭРМОЗА)

Авадзень — гэта невялікае насякомае з зеленавата-жоўтым хрыбтом. Ён падобны да чмяля або вялікай мухі. У спякоту самкі авадня, сядаючы на жывёлу, складаюць на нагах (у аколіцы путавай косці) і бруху жывёлы яечкі, з якіх праз 4—7 дзён вылупяцца лічынкі. Лічынкі доўга вандруюць пад скурай і пад канец зімы або вясною асаджваюцца на хрыбце, ствараючы растучыя гузакі. Спачатку лічынкі растуць, прабіваюць скуру, выбіраюцца наверх і спадаюць на зямлю. Затым хутка заграбаюцца ў зямлю, дзе праходзяць далейшы цыкл развіцця. Праз месяц вылятаюць дарослыя авадні, якія зноў атакуюць жывёлу.

Да нядаўна яшчэ барацьба з аваднімі заключалася ў выцісканні лічынак і забіванні іх. Гэта не забяспечвала ад страт, якія вынікалі з прадзіраўлення скуры жывёлы. Цяпер прымяняецца націранне скуры хрыбта сродкамі, якія нішчаць раннія стадыі лічынак авадня. Націранне трэба паўтараць 2—3 разы вясною і на пачатку лета. Калі дакладна і тэрмінова праводзіць націранне на працягу 3 гадоў, дык можна поўнасцю зліквідаваць жывёльнага авадня (гіпадэрмозу) на пэўнай тэрыторыі.

## ХВАРОБЫ СТРАВАВОДУ

Хваробы стрававoду наглядаюцца асабліва часта, прычым ва ўсіх відах хатняй жывёлы. У кароў найчасцей сустракаемся з захворваннем страўніка і кішак, з атручваннем кармамі, удаўленнем, а таксама з ускладненнямі пасля хваробы печані, сэрца, нырак і іншых органаў, або пасля некаторых заразных і паразітычных хвароб.

Засцеражэнне жывёлы ад гэтых хвароб заключаецца галоўным чынам у выяўленні і ліквідацыі прычын, а таксама ў выпадку патрэбы, у хуткім выкліканні спецыялістычнай дапамогі.

Прычынай хвароб часта могуць быць памылкі ў кармленні, напр., нерэгулярная падача кармоў і вады, вельмі рэзкі пераход з аднаго віду кармоў на другі, папсаваны або дрэнна прыгатаваны корм.

Шкоднымі для здароўя жывёлы могуць быць засмечаныя механічна або хімічна кармы, гнілыя або падмёрзшыя кармы, з прымессю атрутных раслін, заражаныя грыбам, бактэрыямі або паразітамі.

## НЯСТРАЎНАСЦЬ

У залежнасці ад прычын нястраўнасць можа працягвацца ад 1 да 4 дзён, а калі дойдзе да ўздуццяў, тады мае раптоўны характар. Таму, калі хуткая дапамога хатнім спосабам не дае вынікаў, трэба неадкладна выклікаць ветэрынара.



Пры пачатку нястраўнасці трэба зрабіць галадоўку, а затым карміць дыетычна, г. з. даваць малымі порцыямі добрае сена, клеік з льнянога семя або з пасцёртай варанай бульбы.

Прафілактычна, каб не дапускаць да ўздуццяў на выгане, прапануецца штодзень даваць жывёле аб'ёмістыя кармы, багатыя валакном.

Каб засцерагчыся ад уздуццяў у кароўніку, трэба рэгуляваць склад кармоў, памятаць аб рэгулярным, у той самы час, кармленні і паенні, а таксама выпускаць жывёлу для руху на свежым паветры.

## «ЧУЖОЕ ЦЕЛА»

Жывёла мае схільнасці глытаць розныя невядомыя прадметы. У перыяд найбольшых надояў малака карове патрэбна большая колькасць ежы. У гэты час яна жадна хапае корм, глытаючы пры гэтым розныя прадметы. Наглядаецца таксама, што кармленне кармамі без вітамінаў, а асабліва мінеральных рэчываў, можа заахвочваць кароў да лізання, што ў сваю чаргу спрыяе глытанню невядомых прадметаў.

Гэта пераважна металічныя вострыя прадметы, як цвікі, кавалкі дроту, іголкі, шпількі, часткі падковаў і інш. Хвароба залежыць ад віду і размераў праглынутага прадмета, так званага чужога цела. Першыя прызнакі паяўляюцца пераважна на 1—4 дзень, а часам ужо праз некалькі гадзін.

У першай фазе хваробы, у перыяд прабіцця прадметам страўніка, жывёлу можна выратаваць хірургічнай аперацыяй. Такія аперацыі робяць у большых ветэрынарных лячэбніцах, а кошт пакрывае ПЗУ.

Каб засцерагчы жывёлу ад глытання розных прадметаў трэба:

- пры кожным рамонце або направах гаспадарчых прылад на падворку дакладна ўсё прыбраць, не пакідаючы ніякіх металічных адпадкаў, цвікоў, дроту, гаек і г. д.;
- час ад часу рабіць агляд жолабаў і сцен кароўнікаў, каб умацаваць або выцягнуць слаба сядзячыя цвікі ці гайкі;
- агледзець таксама выганы і гаспадарскія панадворкі, каб пазбіраць усе металічныя прадметы, якія магла б праглынуць карова.

## КОЛІКІ

Колікі (марыска) у коней — гэта перш за ўсё хвароба страўніка і кішак. Выражаецца яна пераважна моцнымі раптоўнымі болямі. Хвароба пачынаецца найчасцей ад пасмутнення, неахвотнай яды, неспакою. Коні аглядаюцца на бакі, грабуць нагамі, пераступаюць з нагі на нагу. Часам прымаюць ненатуральную паставу, напр., прысядаюць на заднія ногі, як сабака. Пры мацнейшых болях коні кладуцца, нават кідаюцца на зямлю, стогнуць, енчаць, качаюцца і напруж-

ваюцца, як пры аддаванні калу і мочу. На пачатку хваробы кал ад-даецца пераважна часцей, хоць з цяжкасцю і ў малых колькасцях. Потым спыняецца аддаванне калу або паяўляецца панос. Прычынамі гэтай хваробы з'яўляюцца наступныя памылкі:

— кармленне цяжкастраўнымі кармамі (ячмень, кукуруза, пшаніца) або набухаючымі ці ферментуючымі (маладое патраўе, эспарцэта, люцэрна, сапраўшая трава, мяшанка матыльковых і г. д.), папсаванымі кармамі (стухлае зерне, гнілая бульба), кармамі, беднымі на пажыўныя рэчывы (салома, кіслая трава), няправільна прыгатаванымі кармамі, напр., свежае не раздробленае або не вымачанае жыта, кармленне не ачышчанымі ад зямлі коранеплодамі, засмечанымі канцэнтраванымі кармамі, сенам і саломай, паенне бруднай вадой з пяском, нерэгулярнае кармленне і паенне, раптоўная змена відаў кармоў, паенне пасля яды або паенне халоднай вадой спацеўшай жывёлы.

У эксплуатацыі коней:

— цяжкая праца пасля накармлення, праца не пад сілу жывёлы, доўгае трыманне каня ў стайні.

Да захворвання на колікі могуць давесці і напады паразітаў, як, напрыклад, конскі авадзень, глісты або іншыя паразіты, якія знаходзяцца ў кішках, а таксама выпадкі астывання або перагрэву цела жывёлы.

Таксама спрыяюць захворванням лыкавасць, хворыя зубы, нарывы і язвы на языку, дзёснах ці нёбе, якія перашкаджаюць жаваць.

## РОДЫ У ЖЫВЁЛЫ

Ад адпаведнай апекі над цяжарнай самкай залежыць нармальны ход цяжарнасці і здароўе маладняку. Цяжарныя самкі павінны мець выгадныя і так зробленыя стойлы, каб забяспечыць іх ад магчымай небяспекі з боку іншай жывёлы. Удары могуць стаць прычынай заўчаснага ацялення, а затым і хвароб родзячых органаў самкі і няплоднасць. Вельмі добра ўплывае на ход цяжарнасці рух цяжарнай самкі на свежым паветры.

Спосаб кармлення самкі ў перыяд цяжарнасці аказвае вялікі ўплыў на развіццё плода і ходы родаў.

У час росту плод патрабуе на будову свайго арганізма шмат бялкоў, вугляводаў, мінеральных солей і вітамінаў. Гэтыя рэчывы ў большых колькасцях трэба даваць самкам у перыяд цяжарнасці і пры кармленні маладняку.

Калі кармоў не хапае або ў іх няма неабходных рэчываў, тады плод бярэ іх з арганізма маці, моцна аслабляе яе. Вынікам гэтага бываюць цяжкія роды, выпаданне маткі і іншыя хваробы. З-за недахопу мінеральных солей або вітамінаў у кармах можа наступіць смерць плода і заўчасныя роды.



Найлепшым кармленнем ў перыяд цяжарнасці з'яўляецца выпас летам, а зімой — добрае лугавое сена з дадаткам канюшыны. З канцэнтраваных кармоў цельным каровам трэба даваць пшанічнае вотруб'е, цёрты авёс і ў невялікай колькасці льняную або сланечнікавую макуху або найлепш мяшанку «В», а жарэбным кабылам — авёс, пшанічнае вотруб'е, а таксама моркву і кармавыя буракі. Для пароcных свінаматак асабліва добра даваць наступныя кармы: драблёны авёс, пшанічнае вотруб'е, льняную або сланечнікавую макуху, рыбную або мяса-косную муку, коранеплоды і худое малако або прамысловую мяшанку «М-ВЕК».

Роды, выхад месца і ачышчэнне родавых шляхоў у паасобных відаў жывёлы выглядае па-рознаму:

| | Кабыла | Карова | Свіння | Авечка |
|---|---|---|---|---|
| Час выхаду плода | 5—30 мін. | 0,5—4 гадз | 2—6 гадз. | 5—30 мін. |
| Час адыходу месца пасля родаў | 5—30 мін. | 12—24 гадз. | непасрэдна | 10—20 мін. |
| Перыяд пасля родаў | 8—10 дзён | 15—17 дзён | 2—8 дзён | 7—10 дзён |

Пры нармальным ходзе родаў дапамога чалавека непатрэбна. Практыка даказвае, што чым актыўнейшае ўмяшанне чалавека, тым часцей здараюцца ўскладненні. Празмерная паспешлівасць пры выцяганні плода як правіла прыводзіць да дрэннай дэзінфекцыі рук або шнуркоў і разрываў яшчэ поўнасцю не раскрытых родавых шляхоў і шыйкі маткі або тканак прамежнасці, падрапання ці нават прарвання сценак похвы або самой маткі.

*Роля жывёлагадоўцаў пры нармальных родах* павінна абмяжоўвацца ахоўваннем прамежнасці ад разрываў, а ў выпадку, калі плод зачапіўся ў родавых шляхах, пацягваннем яго за галаву або ногі, але толькі ў час сціскаў і сілай найбольш двух людзей. Неабходна пацягваць плод асабліва тады, калі ён выходзіць задам і можа задушыцца пупавінай.

## ХВАРОБЫ ВЫМЕНІ У КАРОЎ

Вельмі важным элементам, каб засцерагчы кароў ад хвароб вымені, з'яўляецца пастаяннае ўтрымоўванне чыстай і сухой падсцілкі пад каровамі. Даіць карову трэба без перапынкаў і закончыць за 7 мін., прычым даіць павінна тая самая асоба. Перад даеннем каровы трэба вымыць рукі. Вымя выцерці мокрай чыстай анучкай або вымыць вадой з дадаткам некалькіх крышталкаў марганцавакіслага калію на вядро вады (вада павінна мець светлафіялетавы колер). Пасля мыцця

і выціранія вымені трэба дзвюма рукамі зрабіць далікатны масаж абодвух бакоў вымені, масуючы зверху ўніз. Масаж павінен працягвацца каля 2 мін. Гэта спрыяе хуткаму выдзяленню малака. Каб утрымаць вымя ў добрым стане, трэба вельмі дакладна выдойваць карову. Дзякуючы гэтаму жывёла лепей адчувае сябе, а апошнія кроплі малака маюць у сабе найбольш тлушчу (6—10%).

Калі пасля цаджэння малака на цадзілцы застаюцца кавалачкі, рэшткі, гэта гаворыць аб тым, што вымя хворае. Скрытая хвароба вымені найчасцей пераходзіць у вострую форму, з такімі прызнакамі, як адсутнасць апетыту, боль вымені, затрымка ў выдзяленні малака або змена яго выгляду (вадзяністае, жоўтае, з прымессю гною, а часам з саскоў можа выдзяляцца толькі гной). Такія каровы могуць быць разносчыкамі хваробных бактэрый і могуць заражаць іншых кароў, наносячы гэтым самым сур'ёзныя страты гаспадарцы. Таму ў такіх выпадках неабходна дапамога спецыяліста.

Тэрміновае лячэнне дае добрыя вынікі і не цягне за сабой такія страты, як пры запушчанай хваробе. Трэба памятаць, што малако ад кароў, якія лечацца антыбіётыкамі (пеніцылін, стрэптаміцын, тэраміцын і іншыя), нельга есці ні людзям, ні здаваць на пераапрацоўку. Малако можна пачаць спажываць толькі праз тры дні пасля заканчэння лячэння.



*Новапабудаваная ветэрынарная лячэбніца ў Гайнаўцы.*



# ДАРАГІЯ ДЗЕЦІ!
# ПАВАЖАНЫЯ НАСТАЎНІКІ!

*Згодна з загадам Міністэрства асветы і вышэйшай адукацыі Польскай Народнай Рэспублікі з дня 23. XII. 1966 года, Галоўнае праўленне Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Беластоку і рэдакцыйная калегія Беларускага календара на 1969 год вырашылі дапамагчы вам у падборы матэрыялаў да вывучэння элементаў гісторыі Беларусі.*

*У календары на гэты год змяшчаем успамянуты загад Міністра і дастасаваныя да яго вымогаў гутаркі, якія падрыхтаваў вядомы аўтар беларускіх падручнікаў у ПНР мгр Мікола Гайдук.*

*Жадаем поспехаў.*

*ГП БГКТ*
*РЭДКАЛЕГІЯ*

# Zarządzenie
## Ministra Oświaty i Szkolnictwa Wyższego

*Z dnia 23.XII.1966 r. Nr PK-4113-4/66 w sprawie ustalenia tematów uzupełniających z zakresu historii ojczystej w 8-klasowych szkołach podstawowych z niepolskim językiem nauczania oraz w 8-klasowych szkołach podstawowych z dodatkową nauką języka ojczystego.*

Na podstawie art. 37 ust. 1 ustawy z dnia 15 lipca 1961 r. o rozwoju systemu oświaty i wychowania (Dz. U. Nr 32, poz. 160) zarządzam, co następuje:

§ 1. Dla ośmioklasowych szkół podstawowych z niepolskim językiem nauczania *(białoruskim, litewskim, słowackim i ukraińskim)* oraz dla ośmioklasowych szkół podstawowych z dodatkową nauką języka ojczystego *(białoruskiego, litewskiego, słowackiego, ukraińskiego i żydowskiego)* ustalam tematy uzupełniające z zakresu historii ojczystej realizowane w kl. IV—VIII.

§ 2. Tematy uzupełniające ogłasza się jako osobne wydawnictwo.

§ 3. Zarządzenie wchodzi w życie z dniem 1 lutego 1967 r.

MINISTER
(—) Henryk Jabłoński

Tematy uzupełniające z zakresu historii ojczystej dla szkół podstawowych z białoruskim językiem nauczania oraz dla szkół podstawowych z dodatkową nauką języka białoruskiego (ustalone zarządzeniem Ministra Oświaty i Szkolnictwa Wyższego z dn. 23. XII. 1966 r. Nr Pl-4113-4/66).

### UWAGI WSTĘPNE

Szkoły podstawowe organizowane dla uczniów narodowości niepolskiej stanowią część szkolnictwa PRL i mają do spełnienia wspólne dla całego szkolnictwa zadania ideowo-wychowawcze i dydaktyczne. Szczególnym zadaniem tych szkół jest umożliwienie uczniom poznawania i pielęgnowania rodzimej kultury i postępowych tradycji historycznych własnego narodu.

Program nauczania historii obowiązujący we wszystkich szkołach podstawowych PRL nie może uwzględniać szczególnych potrzeb uczniów narodowości niepolskiej. Zadanie to spełni nauczanie wiadomości z dziejów ojczystych poszczególnych narodowości niepolskich. Zaspokajać ono będzie naturalne zainteresowania uczniów przeszłością dziejową rodzimego środowiska, a zarazem ukaże związki tego środowiska z historycznymi losami narodu polskiego i dzięki temu powinno odegrać doniosłą rolę, jako czynnik wzmacniający zaangażowanie tych narodowości w sprawy budownictwa socjalizmu wspólnie z narodem polskim.

Materiał nauczania zawarty w tematach uzupełniających nie stanowi pełnego i systematycznego kursu historii ojczystej poszczególnych narodów. Przy jego doborze starano się uwzględnić doniosłość historyczną wydarzeń, zaś w układzie — porządek chronologiczny. Szczególnie podkreślono wydarzenia, które mają charakter postępowy i na tej płaszczyźnie ukazano współpracę ideowo-polityczną tych narodów z narodem polskim.

Tematy stanowią element składowy obowiązującego programu historii, lecz wprowadzenie ich nie powoduje zwiększenia tygodniowego wymiaru godzin nauki przedmiotu. W związku z tym należy je omawiać w toku realizacji programu historii, wiążąc je chronologicznie i tematycznie z podstawowym materiałem.

W szkołach z polskim językiem nauczania, prowadzących dodatkową naukę języka ojczystego dla uczniów narodowości niepolskiej, tematy z dziejów ojczystych realizuje się na lekcjach języka ojczystego w ścisłej korelacji z nauką historii.

## KLASA IV

TEMATYKA HISTORYCZNA W NAUCZANIU JĘZYKA OJCZYSTEGO:

G. Skaryna. Pierwsze książki w języku białoruskim. K. Kalinowski. Obrazki z walk ludu białoruskiego o społeczne wyzwolenie. Obrazki z walk partyzanckich z hitlerowskim okupantem na Białorusi.

## KLASA V

Plemiona Słowian wschodnich. Świetność Rusi Kijowskiej za Włodzimierza i Jarosława. Wprowadzenie chrześcijaństwa (988). Kształtowanie się feudalizmu na Białorusi. Podbój Białorusi przez Tatarów.

## KLASA VI

Najazdy książąt litewskich na ziemie białoruskie i podbój Białorusi przez Litwę. Wpływy kultury białoruskiej na Litwie. Język białoruski — językiem kancelarii wieloksiążęcej. Reformacja na Białorusi. G. Skaryna. Utrwalenie wpływów feudałów polskich i wzrost ucisku narodowego i społecznego chłopów białoruskich. Udział chłopów białoruskich w powstaniu Chmielnickiego.

## KLASA VII

Przyłączenie ziem białoruskich do Rosji w czasie rozbiorów Polski. Rozwój gospodarczy i kulturalny Białorusi w ramach państwa rosyjskiego. K. Kalinowski, „Mużyckaja Prawda". Uwłaszczenie chłopów na Białorusi (1861). Udział Białorusinów i Rosjan w powstaniu styczniowym na terenach białoruskich. Kształtowanie się stosunków kapitalistycznych i początki ruchu robotniczego. Wspólna walka rewolucyjna Białorusinów i Polaków (ulotki Wielkiego Proletariatu w języku białoruskim).

## KLASA VIII

Ruchy rewolucyjne na Białorusi w 1905—1907 r. Zniszczenia w okresie I wojny światowej. Utworzenie Radzieckiej Republiki Białoruskiej. Włączenie ziem zachodniej Białorusi do państwa polskiego w wyniku traktatu ryskiego. Dyskryminacja ludności białoruskiej i ucisk narodowościowy za rządów sanacji. Wzmożenie walki narodowo-wyzwoleńczej Białorusinów, KPZB, Hromada. Współpraca postępowych sił polskich i białoruskich. Połączenie Białorusi Zachodniej z Białorusią Radziecką — 1. XI. 1939 r. Walki partyzantów z okupantem hitlerowskim na Białorusi.






## ПЛЯМЁНЫ ЎСХОДНІХ СЛАВЯН

На ўсходзе Еўропы здаўна жылі шматлікія плямёны ў с х о д н і х  с л а в я н. Янызаймалі аграмадныя прасторы зямель ад Ладажскага возера на поўнач да ніжняга цячэння рэк Дняпра і Днястра на поўдні; ад верхняга цячэння ракі Волгі на ўсходзе да Карпацкіх гор і верхняга і сярэдняга цячэння ракі Буга на захадзе. Па паходжанню, мове і занятках усе яны былі сабе сваяцкімі. Аднак кожнае з гэтых плямёнаў рознілася ад іншых сваімі звычаямі, вераваннямі, асаблівасцямі мовы і займала адну суцэльную тэрыторыю.

У вярхоўях рэк Дняпра, Заходняй Дзвіны і Волгі жыло племя к р ы в і ч о ў. Па сярэдняму цячэнню Заходняй Дзвіны, па рацэ Палаце, жылі п а л а ч а н е — пазнейшае адгалінаванне крывічоў. Іх галоўны горад — старажытны Полацк. На поўдзень ад крывічоў, па рэках Прыпяці, верхняму цячэнню Нёмана, Бярэзіне размяшчалася племя д р ы г а в і ч о ў. Галоўнымі іх гарадамі былі: Тураў, Берасце (Брэст), Гродна, Мінск, Клецк, Слуцк. На ўсход ад дрыгавічоў, над ракою Сожам, жыло племя р а д з і м і ч а ў. Галоўным іх горадам быў Гомель.

Дрыгавічы, заходняя частка крывічоў (палачане) і радзімічы з'яўляюцца продкамі беларускага народа.

На поўнач і ўсход ад іх жылі славене, вяцічы, севяране. Яны разам з паўночнай і ўсходняй часткамі крывічоў увайшлі ў склад рускага народа.

На поўдзень ад беларускіх плямёнаў жылі валыняне, драўляне, паляне і ўглічы. На іх землях узнік украінскі народ.

Усходнеславянскія плямёны жылі ў селішчах і гарадзішчах. Селішчы знаходзіліся сярод лясоў, лугоў, поля. Іх жыхары займаліся абробкай зямлі, гадоўляй хатняй жывёлы, бортнічаствам, рыбнай лоўляй, паляваннем. Гарадзішчы — гэта былі ўмацаваныя месцы. Яны паўставалі на высокіх берагах рэк, азёр, балот. Вакол іх насыпаліся земляныя валы, пракопваліся равы, узводзіліся высокія драўляныя сцены. Гарадзішчы для навакольнага насельніцтва служылі сховішчам ад ворагаў, месцам народных сходаў і абмену вырабамі і прадуктамі. З цягам часу ў іх стала жыць пляменнае старшынства, жрацы, а вакол яго рамеснікі.

Нашыя продкі вырошчвалі пшаніцу, проса, боб; гадавалі кароў, свіней, коз, авечак, коней. Выплаўлялі з балотнай руды жалеза і выраблялі з яго сярпы, нажы, шылы, сякеры, зброю і іншыя прадметы. Яны апрацоўвалі медзь, косць; з дрэва і гліны выраблялі посуд, гарбавалі скуры; займаліся прадзівам і ткацтвам.

Усходнія славяне ахвотна выменьвалі са сваімі бліжэйшымі і далейшымі суседзямі збожжа, воўну, лён, футры, воск і мёд на бронзу, янтар, зброю, тканіны і ўпрыгожанні.

Нашыя продкі веравалі ў бога маланкі і грому Перуна — апекуна вояў; у багоў сонца Хорса і Дажджбога, якія мелі спрыяць дастатку; Стрыбога, які ўважаўся за бога вятроў; Велеса, які лічыўся апекуном хатняга дабытку і гандлю; Купалу — спрыяльніка здароўя і ўраджаю і іншым багам. На высокіх месцах і ў гарадзішчах ставіліся іх драўляныя статуі і жрацы адпраўлялі малебны.

У канцы VIII і на пачатку IX стагоддзяў на беларускіх землях узніклі два вялікія княствы палачан і дрыгавічоў.

Княства палачан паўстала на землях крывічоў, якія жылі па рацэ Заходняй Дзвіне. У яго склад уваходзіла частка дрыгавічоў, што жылі па рацэ Бярэзіне. Гэта было абшырнае і сільнае княства. Горад Полацк быў яго сталіцай. Уладаў гэтым княствам князь Рогвалад. Мужным палачанам даводзілася часта змагацца супроць ваяўнічых норманаў («норман» — паўночны чалавек), якія прыплывалі ў Полацкую зямлю са Скандынавіі, каб паланіць яе і рабаваць.

Княства дрыгавічоў займала абшырныя землі паміж рэкамі Нёманам і Прыпяццю. Яго сталіцай быў горад Тураў. Панаваў у ім легендарны князь Тур.

У тым жа часе на землях невялічкага племені радзімічаў таксама складвалася сваё княства. Аднак канчатковаму яго



сфармаванню перашкодзілі хазары — качэўныя стэпавыя плямёны, — яны на некаторы час запаланілі радзімічаў.

*Пытанні і заданне:*

*1. Пакажыце на карце, дзе жылі крывічы (палачане), дрыгавічы і радзімічы.*
*2. Чым займаліся нашыя продкі?*
*3. Якія вы ведаеце княствы на беларускіх землях? Знайдзіце на карце іх сталіцы.*

## КІЕЎСКАЯ РУСЬ — АГУЛЬНАЯ ДЗЯРЖАВА ЎСХОДНІХ СЛАВЯН

Адначасова з паўстаннем княстваў на землях палачан і дрыгавічоў узнікалі такія ж княствы ў іншых усходнеславянскіх плямёнаў. Ужо ў канцы IX стагоддзя князь Алег імкнуўся аб'яднаць усходнеславянскія княствы ў адну вялікую дзяржаву са сталіцай у горадзе Кіеве. Дзеля гэтага ён падпарадкоўвае сваёй уладзе суседнія княствы. У 865 годзе ён са сваімі дружынамі дапамагае Полацкаму княству вызваліцца ад нашэсця норманаў і адначасова ўзаляжняе полацкага князя ад сябе. У 885 годзе вызваляе радзімічаў з-пад залежнасці ад хазараў і падпарадкоўвае іх сваёй уладзе. Затым узаляжняе ад сябе Тураўскае княства. Аднак пачатае Алегам уз'яднанне ўсходнеславянскіх зямель было нетрывалым. Пасля яго смерці паасобныя князі разам са сваімі княствамі выйшлі з-пад улады кіеўскага князя. Таксама адлучыліся і сталі самастойнымі Полацкае і Тураўскае княствы.

Пачатую князем Алегам справу збудавання адзінай усходнеславянскай дзяржавы прадоўжыў князь Уладзімір, які панаваў у Ноўгарадзе. У канцы X стагоддзя ён падпарадкаваў сваёй уладзе Полацкае княства, затым здабыў Кіеўскае княства, узалежніў ад сябе Тураўскае княства і далучыў землі радзімічаў. Такім жа чынам аб'яднаў усе іншыя ўсходнеславянскія землі ў адзіную дзяржаву — Кіеўскую Русь. Каб умацаваць еднасць дзяржавы, ён пазбавіў улады мясцовых князёў, а на іх князеўскія пасады ставіў сваіх сыноў або давераных сабе баяраў. Так Полацкае княства было аддадзена Ізяславу, а Тураўскае — Святаславу.

Князь Уладзімір умацаваў граніцы Кіеўскай Русі ад знешніх ворагаў. Ён на чале сваіх добра ўзброеных дружын адбіваў напады качэўнікаў: хазар і печанегаў. У адным з паходаў пакарыў яцвяжскія плямёны. Яцвягі жылі на паўночным захадзе, за ракою Бобрай (Бебжай). Яны часта нападалі на дрыгавіцкія землі. Пасля перамогі над імі князя Уладзіміра, дрыгавічы, якія жылі над сярэднім цячэннем ракі Буга і ў вярхоўях Нарвы, былі забяспечаны ад яцвяжскіх наездаў. На граніцы абшырнай кіеўскай дзяржавы князь Уладзімір загадаў будаваць крэпасці.

## УВЯДЗЕННЕ ХРЫСЦІЯНСТВА Ў КІЕЎСКАЙ РУСІ

Адначасова са складваннем адзінай усходнеславянскай дзяржавы — Кіеўскай Русі — усталёўваўся на яе землях новы грамадскі лад — феадалізм. Зямля стала ўласнасцю князёў, баяраў, дружыннікаў. Ад іх залежалі сяляне, рамеснікі, купцы. Яны абавязаны былі працаваць на карысць уладальніка, на зямлі або ў горадзе якога жылі, даваць яму даніну прадуктамі, вырабамі, таварамі, выконваць іншыя патрабаванні феадал. Працоўныя людзі неахвотна прымалі на сябе такую залежнасць. У дзяржаве патрабавалася такая арганізацыя, якая б усяляла людзям перакананне неабходнасці падпарадкавацца новаму грамадскаму ладу і якая б адначасова служыла ўмацаванню еднасці ўсяе дзяржавы. Такую ролю ў суседніх краінах спаўняла рэлігія. Спачатку князь Уладзімір імкнецца ўстанавіць агульныя для жыхароў усёй Кіеўскай Русі вераванні. У цэнтры Кіева па яго загаду былі пастаўлены драўляныя і каменныя фігуры багоў, у якіх верылі ўсходнія славяне. Аднак гэта не садзейнічала ўмацаванню ўлады феадалаў у краіне.

Самай магутнай феадальнай дзяржавай, дзе найчасцей бывалі людзі з Русі і з якой яна мела найбольш шырокія ваенныя і гандлёвыя зносіны, была Візантыя. Пануючай рэлігіяй у ёй з'яўлялася хрысціянства — праваслаўе. Візантыя і паслужыла князю Уладзіміру і яго баярам узорам для пераймання.

У 988 годзе князь Уладзімір ахрысціўся ў візантыйскім горадзе Корсуні над Чорным морам і ажаніўся з візантыйскай царэўнай. Потым, вярнуўшыся ў Кіеў з вялікай колькасцю хрысціянскіх свяшчэннікаў, пачаў уводзіць новую рэлігію ва ўсёй дзяржаве. Хрысцілі простых людзей сілком. Княжацкія воі зганялі вялікія натоўпы народу ў раку або возера, а свяшчэннікі, стоячы на беразе, маліліся. Хто не



хацеў прыняць новай веры, таго жорстка каралі. Пасля хрышчэння яшчэ доўгі час людзі тайком верылі ў ранейшых багоў, а часам адкрыта бунтаваліся супроць царквы і свяшчэннікаў, якія таксама станавіліся феадаламі.

Увядзенне хрысціянства мела для ўсходніх славян вялікае значэнне. Хрысціянства было аднолькавай ва ўсіх землях рэлігіяй. Яно спрыяла ўнутранай еднасці дзяржавы. Адначасова сваім павучаннем простых людзей да паслушэнства і пакорлівасці ўладам умацавала панаванне князёў і іншых феадалаў. Прыняўшы хрысціянства — пануючую рэлігію ў тагачаснай Еўропе, Кіеўская Русь яшчэ болей наблізілася да еўрапейскіх краінаў. Праваслаўная царква паходзіла з Візантыі, яна імкнулася наблізіць Кіеўскую Русь да багатай візантыйскай культуры і гэтым садзейнічала развіццю культуры ва ўсходняй Славяншчыне.

*Пытанні і заданне:*

1. *Як адбылося ўз'яднанне ўсіх усходнеславянскіх зямель у супольную дзяржаву — Кіеўскую Русь?*
2. *Якія прычыны выклікалі патрэбу ўвядзення хрысціянства ў Кіеўскай Русі?*
3. *Калі і як адбылося хрышчэнне ўсходніх славян?*
4. *Якое значэнне мела ўвядзенне хрысціянства для Кіеўскай Русі?*

*

## ПЫШНАСЦЬ КІЕЎСКАЙ РУСІ ПРЫ УЛАДЗІМІРЫ І ЯРАСЛАВЕ

Кіеўская Русь у часы панавання князёў Уладзіміра (980—1015) і яго сына Яраслава (1036—1054) была самай абшырнай і адной з магутнейшых дзяржаў у Еўропе.

Ва ўсёй краіне ладзілася мірнае і спакойнае жыццё. Гэта спрыяла развіццю сельскай гаспадаркі, рамяства, гандлю і культуры. Сяляне абраблялі болей зямлі, шырока распаўсюджвалася трохпольная сістэма земляробства. Раллю ўжо не капалі матыкай, але аралі сахою з жалезнымі сашнікамі. Збожжа збіралі сярпом і касою. На палях вырошчвалі жыта, пшаніцу, ячмень, авёс, проса, гарох; а ў агародах: буракі, капусту, цыбулю. Буйна развіваецца жывёлагадоўля. Такія заняткі, як: паляванне, рыбная лоўля, бортнiча-

ства станавілася ўжо дапаможнымі або дадатковымі заняткамі. Людзі палявалі на тураў, зуброў, ласёў, дзікаў, мядзведзяў, зайцаў, казуль пры дапамозе лукаў і розных сецяў. Апрача асноўных прац у полі і пры дабытку сяляне самі рыхтавалі патрэбныя прылады працы, ткалі сукно і кужаль, шылі адзенне і абутак.

Хутка разрасталіся старыя гарады і паўставалі новыя. Яны станавіліся цэнтрамі рамяства і гандлю. Вучоныя-археолагі ў часе раскопак старажытных гарадоў у Мінску, Полацку, Пінску, Тураве, Ваўкавыску, Гродне выявілі, што рамеснікі гэтых гарадоў выраблялі шматлікія прылады працы, зброю і прадметы штодзённага ўжытку. Асабліва паспяхова развівалася кавальства і выраб рэчаў з жалеза і сталі. У асноўным гарадскія рамеснікі збывалі свае вырабы на кірмашах навакольным сялянам. Пры продажы раменік атрымоўваў плату ў натуры — прадуктамі з сельскай гаспадаркі. Значную частку вырабаў набывалі ад рамеснікаў купцы і вывозілі іх не толькі ў іншыя гарады Кіеўскай Русі, але і па-за яе межы.

Спакой і бяспека таксама спрыялі развіццю гандлю. Цераз беларускія землі праходзілі тады вялікія міжнародныя гандлёвыя шляхі. Старажытны гандлёвы шлях з поўначы на поўдзень (з Балтыйскага мора па рэках Заходняй Дзвіны і Дняпру ў Чорнае мора) злучаў не толькі паасобныя землі Кіеўскай Русі, але і вёў у краіны над Балтыйскім і Чорным марамі. Другі не менш важны шлях праходзіў з усходу на захад (з арабскіх краін цераз беларускія землі ў Польшчу і іншыя заходнія дзяржавы). Наколькі рухлівы быў гэты шлях сведчаць знойдзеныя ў пагранічным горадзе Драгічыне над Бугам тысячы пломбаў і іншых знакаў, якімі мецілася тавары, што вывозіліся з Кіеўскай Русі або ўвозіліся ў яе з-за мяжы. Купцы з Кіеўскай Русі вывозілі дарагія футры, мёд, воск, нявольнікаў; прывозілі розныя металы і дарагія тканіны.

У гарадах і селішчах пашыралася больш трывалае і выгоднае для людзей будаўніцтва. Горад у той час складаўся з цэнтральнай часткі — дзядзінца, які быў умацаваны сценамі, вежамі і абкапаны глыбокім ровам. У ім жыў князь, баяры, дружыннікі, заможныя купцы і царкоўнае старшынства. Вакол дзядзінца знаходзіліся рамесніцкія пасады, у якіх жылі рамеснікі і іншы працоўны люд. У часе небяспекі насельніцтва з навакольных сёлаў і рамесніцкіх пасадаў хавалася за ўмацаванні дзядзінца і адтуль баранілася ад ворагаў.



Кіеўская Русь славілася мастацкімі вырабамі рамеснікаў і творамі мастакоў. У гарадах уводзіліся мураваныя будынкі, асабліва прыгожымі былі царквы ў Кіеве, Полацку і ў Ноўгарадзе. Іх будавалі мясцовыя муляры і дойліды, упрыгожвалі жывапісам, мазаікай і разьбой свае мастакі.

Складваліся шматлікія легенды, быліны і песні, у якіх народ услаўляў сваіх продкаў, адвагу вояў, працавітасць і сілу простых людзей, іх любоў да свае радзімы і гатоўнасць абараняць яе граніцы ад ворагаў. Перадаваліся гэтыя творы з вуснаў у вусны, старэйшым пакаленнем малодшаму.

Побач з вуснай творчасцю паўставалі пісьмовыя літаратурныя творы. Усходнія славяне мелі сваё пісьмо яшчэ задоўга да ўвядзення хрысціянства і карысталіся ім у зносінах з іншымі дзяржавамі і ў штодзённым жыцці. Разам з хрысціянствам прыйшла ў Кіеўскую Русь вялікая колькасць адукаваных святароў і манахаў. Яны засноўвалі пры царквах і манастырах школы, у якіх рыхтавалі дзяцей з заможных сем'яў да службы ў царквах і на дзяржаўных пасадах, вучылі іх граматы. Быў прыняты кірылаўскі алфавіт, які ўжываецца ўсходнімі славянамі з невялікімі зменамі і па сённяшні дзень. Пачало разгортвацца тлумачэнне з грэчаскай мовы царкоўных, а затым і свецкіх кніг. Паўставалі і арыгінальныя творы. Самым буйным з іх быў летапіс «Повесць врэменных лет», у якім прадстаўлены важнейшыя падзеі, паходы князёў, жыццё і побыт людзей усходняй Славяншчыны.

Склаўшыяся грамадскія адносіны ў дзяржаве былі замацаваны ў законах, сабраных і спісаных у зборніках «Руская праўда». Паводле гэтых законаў вырашаліся ўсе маёмасныя і іншыя справы ва ўсёй Кіеўскай Русі.

Вельмі блізкія адносіны складаліся паміж Кіеўскай Руссю і Польшчай. Часта князі Кіеўскай Русі і Польшчы былі ў сваяцтве. Князь Яраслаў некалькі разоў хадзіў са сваімі дружынамі ў дапамогу князю польскаму Казіміру ў часе, калі той змагаўся за ўз'яднанне польскіх зямель у адну самастойную дзяржаву.

*Пытанні і заданне:*

*1. Раскажыце аб развіцці сельскай гаспадаркі, рамяства і гандлю ў Кіеўскай Русі.*

*2. Як развівалася культура ў Кіеўскай дзяржаве?*

*3. Як называліся летапіс і збор законаў, якія былі складзены ў Кіеўскай Русі?*
*4. Раскажыце аб адносінах паміж Кіеўскай Руссю і Польшчай.*

*

## РАЗВІЦЦЁ ФЕАДАЛІЗМУ Ў БЕЛАРУСІ

Адзінства Кіеўскай Русі пратрывала нядоўга. Разам з умацаваннем феадалізму пашыралася ўласнасць феадалаў на зямлю, крапчэла іх улада на мясцах. Мясцовыя князі імкнуліся вызваліцца з-пад залежнасці ад кіеўскага князя. Кіеўская Русь стала драбіцца на паасобныя ўдзельныя княствы. Яны пачалі весці міжусобныя спрэчкі і войны за багацейшыя гарады і лепшыя землі.

На беларускіх землях Полацкае княства выйшла першым з-пад залежнасці ад Кіева. Як сведчыць летапіс, полацкі князь Брачыслаў «усе дні жыцця свайго» змагаўся супраць кіеўскага князя за незалежнасць свайго княства. Полаччына значна пашырыла свае ўладанні за кошт далучэння суседніх зямель. Да яе належала ўсё ніжняе цячэнне ракі Заходняй Дзвіны, а гэта адчыняла вольны доступ да Балтыйскага мора, дзякуючы чаму гарады Полаччыны разгортвалі буйны гандаль з краінамі і гарадамі, паложанымі на балтыйскім пабярэжжы. Уплыў Полацкага княства распаўсюджваўся і на суседнія беларускія землі. Яно становіцца заможным і сільным княствам. Самым буйным і багатым горадам у ім быў Полацк. Да ўлады ў ім прыходзіць гарадское веча — агульны сход гараджан. Вечам кіравалі заможныя гараджане. Яно абмяжоўвала княжаскую ўладу, а часам пазбаўляла невыгодных князёў пасаду і запрашала іншых.

На поўдзень ад Полаччыны знаходзілася Тураўскае княства. Яно стала незалежным ад Кіева пазней, чым Полаччына. Па рацэ Прыпяці і яе прытоках ішлі шляхі з Тураўскага княства ў Полаччыну, Кіеў, на Валынь і ў Польшчу. Самымі буйнымі гарадамі ў ім былі Тураў і Пінск.

Землі радзімічаў уваходзілі ў склад суседняга Чарнігаўскага княства.

Дрыгавічы, якія жылі вакол гарадоў Берасця (Брэста), Драгічына, Бельска, Гродна і Свіслачы, часова ўваходзілі ў склад Валынскага княства.



Феадалы няспынна павялічвалі свае зямельныя ўладанні і пашыралі залежнасць сялян і жыхароў гарадоў. Сяляне вымушаны былі абрабляць землі феадала, працаваць пры іншых працах у яго маёнтках і даваць яму дань у натуры: жыта, авёс, лён, мёд і іншыя прадукты. Рамеснікі таксама былі залежнымі ад князёў і баяраў, на карысць іх мусілі працаваць і дастаўляць свае вырабы.

Рамеснікі беларускіх гарадоў славіліся вырабамі з розных металаў, упрыгожанняў з срэбра і золата. Купцы вялі бойкі гандаль не толькі з суседнімі гарадамі і княствамі, але і з адлеглымі замежнымі краінамі. Полацкія і віцебскія купцы развіваюць гандлёвыя зносіны з горадам Вісбі на востраве Готланд на Балтыйскім моры і гарадамі Паўночнай Нямеччыны.

Развіваецца мураванае будаўніцтва. Асаблівай велічынёй, прыгажосцю і багаццем вылучаліся царквы ў Полацку, Віцебску, Гродне і іншых гарадах. Гарадскія крэпасці ўмацоўваліся мурам і высокімі муравнымі вежамі. Асвета пашыралася не толькі ў асяроддзі князеўскай знаці, духавенства і багатых людзей, але і пранікала ў шырокія слаі насельніцтва. Граматай часта карысталіся купцы, рамеснікі і сяляне. Пісалі ж цвёрдым рыльцам з металу на спецыяльных дошчачках, пакрытых воскам, на бярозавай кары (бяросце) і на пергаменце.

У Полацку была бібліятэка, у якой перахоўваліся і перапісваліся кнігі.

Вядомай пашыральніцай граматы і перапісчыцай кніг была Еўфрасінія — дачка князя полацкага. Яна заснавала каля Полацка жаночы манастыр, у якім манахіні займаліся перапіскай кніг і навучаннем дзяцей. Выдатным пісьменнікам і прапаведнікам быў Кірыл з Турава. Яго творы сведчаць аб высокай адукацыі і веданні грэчаскай мовы і візантыйскай літаратуры.

Найвыдатнейшым помнікам свецкай літаратуры, які напісаны невядомым аўтарам і належыць у роўнай меры ўсім усходнеславянскім народам, з'яўляецца «Слова аб палку Ігаравым». У ім расказваецца аб паходзе аднаго з князёў супраць качэўнікаў-полаўцаў і яго паражэнні. Аўтар заклікае ўсіх князёў усходняй Славяншчыны да спынення міжусобных войнаў, у часе якіх спальваюцца і разбураюцца сёлы і гарады, гінуць людзі, марнеюць і слабнуць усходнеславянскія землі. Гэты твор дасканалы па сваёй форме, прасякнуты глыбокім пачуццём любві аўтара да свае радзімы.

*Пытанні і заданне:*

1. *Чаму Кіеўская Русь распалася на ўдзельныя княствы?*
2. *Якія княствы былі на беларускіх землях?*
3. *Раскажыце аб развіцці рамяства, будаўніцтва і культуры ў Беларусі.*
4. *Якіх вы ведаеце выдатных дзеячоў культуры з тае пары?*

*

## НАШЭСЦЕ ТАТАРАЎ НА БЕЛАРУСКІЯ ЗЕМЛІ

У часе, калі ўся Кіеўская Русь была раздроблена на малыя і слабыя ўдзельныя княствы, якія часта варагавалі паміж сабою, на ўсходзе ад яе паўстала магутная і ваяўнічая дзяржава татара-манголаў. Яе ўладары — ханы — накіроўвалі свае захопніцкія імкненні на славянскія і іншыя еўрапейскія краіны.

Перад пагражаючай небяспекай удзельныя князі Кіеўскай Русі аб'ядналі свае вайсковыя сілы, каб запабегчы нашэсцю. Аднак у бітве над ракою Калкай у 1223 годзе татара-манголы разбілі рускія войскі. У гэтай бітве таксама прымалі ўдзел палкі з княстваў, што былі на землях крывічоў і дрыгавічоў. Пасля перамогі на рацэ Калцы татара-мангольскія орды сталі часцей нападаць на ўсходнеславянскія землі і пасоўвацца ў іх глыб.

У 1240 годзе літоўскі князь Міндаўг і войскі з суседніх з Літвою беларускіх зямель разбілі ля сяла Крутагор'е пад Мінскам орды хана Кайдана і спынілі яго паход на захад.

У выніку нашэсцяў татара-мангольскіх ордаў амаль усе княствы Кіеўскай Русі, за выключэннем заходніх і Ноўгарада, былі разбіты, абрабаваны і запалонены татарамі.

Татара-мангольскія захопнікі ў запалоненых землях знішчалі або бралі ў няволю амаль усіх людзей, грабілі дабро і дабытак, а затым палілі і разбуралі сёлы і гарады. Пасля іх праходу заставаліся толькі руіны і папялішчы. На доўгі час загамоўвалася развіццё сельскай гаспадаркі, рамяства і гандлю. Насельніцтва, якое пазбегла смерці або палону, мусіла даваць захопнікам вялікія даніны

Былі знішчаны або зрабаваны найвыдатнейшыя помнікі будаўніцтва, мастацтва і літаратуры.



Найбольшы цяжар татара-мангольскага нашэсця выпаў на паўднёвыя і паўночна-ўсходнія землі Кіеўскай Русі. Жыхары гэтых зямель гераічна бараніліся і коштам аграмадных намаганняў і ахвяраў аслабілі сілы захопнікаў. Яны ўжо не здолелі пасоўвацца далей на захад. Іншыя славянскія землі і краіны Еўропы былі ўратаваны ад зруйнавання і спустошэнняў.

Кіеўская Русь — агульная дзяржава ўсходніх славян — спыніла сваё існаванне. Аднак у ёй былі пакладзены асновы гаспадарчага і культурнага развіцця ў наступныя стагоддзі трох братніх народаў: беларускага, рускага і ўкраінскага.

Беларускія землі не былі запалонены татара-манголамі. Аднак іх паасобныя атрады нападалі на гарады і вёскі, грабілі іх і палілі. Пра гэтыя напады ў народнай песні гаворыцца:

— А я быў на пабоішчы,
Над шырокай ракой каля Клецііўска!
А там пасцель сцелена ды галовамі,
Усё галовамі малайцоўскімі,
А там кроў плыве ды дунай-ракой,
А ваўкі грызуць белы костачкі.

*Пытанні:*

1. *Што было прычынай запаланавання княстваў Кіеўскай Русі татара-манголамі?*
2. *Як выглядалі землі Кіеўскай Русі пасля нашэсця татара-манголаў?*

*

## НАПАДЫ ЛІТОЎСКІХ КНЯЗЁЎ НА БЕЛАРУСКІЯ ЗЕМЛІ
## РАЗВІЦЦЁ ФЕАДАЛІЗМУ Ў БЕЛАРУСІ

На паўночным захадзе ад беларускіх зямель, па сярэдняму і ніжняму цячэнню ракі Нёмана, здаўна жылі літоўскія плямёны. Яны абраблялі зямлю, займаліся паляваннем і бортнічаствам. Знаходзіліся ў добрых адносінах з Кіеўскай Руссю, а пасля яе раздраблення на ўдзельныя княствы былі ў блізкай сувязі з Полаччынай. Не раз супольнымі сіламі змагаліся супроць нямецкіх захопнікаў, якія

прыбылі на ўсходняе пабярэжжа Балтыйскага мора і імкнуліся захапіць землі народаў Прыбалтыкі і ўсходніх славян.

Літоўскія феадалы імкнуліся ўмацаваць сваю ўладу над народнымі масамі. Паўстала неабходнасць абароны ад нямецкай і татара-мангольскай агрэсіі на літоўскія землі. Гэта было прычынай аб'яднання ў сярэдзіне XIII стагоддзя літоўскіх плямёнаў у моцную дзяржаву на чале з вялікім князем.

Пасля нашэсця татара-мангольскіх ордаў на землі Кіеўскай Русі пачаўся націск на суседнія з Літвою беларускія землі літоўскіх князёў. Слабыя і вынішчаныя татарскімі нападамі беларускія княствы не мелі сілы супрацівіцца літоўскаму напору.

На пачатку XIII стагоддзя дружыны літоўскіх князёў захапілі Полаччыну і пачалі нападаць адтуль на суседнія ўсходнеславянскія княствы. У хуткім часе літоўскі князь Міндаўг падпарадкаваў сваёй уладзе беларускія землі па верхняму цячэнню ракі Нёмана. За панавання князя Гедыміна (1316—1341) усе землі, паложаныя паміж Заходняй Дзвіной, Дняпром і Прыпяццю апынуліся пад уладай літоўскіх феадалаў.

Такім чынам, у выніку стогадовага наступлення літоўскіх князёў на беларускія землі, яны цалкам увайшлі ў склад новай дзяржавы — Вялікага Княства Літоўскага.

Пазней Вялікае Княства Літоўскае пашырыла сваю ўладу на значную частку Украіны і некаторыя рускія землі. З цягам часу яно стала абшырнай і моцнай дзяржавай.

Сталіцай новай дзяржавы спачатку быў горад Новагрудак, а потым Вільня.

Насельніцтва беларускіх зямель геранчна баранілася супроць літоўскага націску. Пра гэта гаворыцца ў народных песнях:

Ой, наехала літва,
Будзе ў нас бітва,
Будзем літву біці,
Вольку бараніці.

Жыццё насельніцтва пад панаваннем літоўскіх князёў было цяжкім. Яно было вымушана даваць даніну не толькі сваім князям, якія па-ранейшаму панавалі ў сваіх удзелах, але і літоўскім феадалам.



*Пытанні:*

*1. Як адбыўся захоп беларускіх зямель літоўскімі феадаламі?*

*2. Як стала называцца новая дзяржава і дзе знаходзілася яе сталіца?*

*

## УПЛЫЎ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ Ў ВЯЛІКІМ КНЯСТВЕ ЛІТОЎСКІМ

Землі палачан, дрыгавічоў і радзімічаў, якія ўвайшлі ў склад Вялікага Княства Літоўскага, ад XIV стагоддзя сталі ўсюды называцца Беларуссю, а іх жыхары — беларусамі.

Беларусь была ядром Вялікага Княства Літоўскага. У параўнанні з іншымі ваколіцамі гэтай дзяржавы яна была найгусцей заселена людзьмі і мела найвышэй развітую сельскую гаспадарку, рамяство і гандаль. Узровень культуры ў Беларусі быў таксама высокі. Існавалі і развіваліся вялікія і багатыя гарады. Да іх належалі такія выдатныя гандлёвыя, палітычныя і культурныя цэнтры, як Полацк, Віцебск, Мінск, Тураў, Пінск, Берасце, Гродна з высока развітымі рамёствамі, будаўніцтвам, мастацтвам і кніжным пісьменствам.

Гаспадарчы і культурны ўзровень літоўцаў быў значна ніжэйшы ад узроўню беларускага насельніцтва. Літоўцы не мелі такой высока развітай сельскай гаспадаркі, рамяства, гандлю і будаўніцтва. Яны не мелі яшчэ свайго пісьма, замацаваных на пісьме законаў права. Літоўцы былі яшчэ язычнікамі.

Таму літоўцы не толькі не змянялі ў Беларусі гаспадарчага і культурнага жыцця, мясцовых звычаяў, традыцый і мовы, але і самі трапілі пад уплыў больш развітай на Беларусі гаспадаркі і культуры. З цягам часу многія літоўскія князі, баяры і дружыннікі ўвайшлі ў сваяцтва з мясцовымі князямі, баярамі і дружыннікамі, прынялі іх культуру, звычаі, мову і праваслаўную рэлігію.

Паволі, але няспынна развівалася на Беларусі сельская гаспадарка. Сяляне гадавалі шмат дабытку, а гэта дазваляла на большае ўгнойванне раллі, што павялічвала ўраджай. Апрача збожжа вырошчвалася шмат ільну і канопляў, шы-

рока распаўсюдзілася сеянне грэчкі. Колькасць ворыўнай зямлі павялічвалася за кошт выпальвання і выкарчоўвання лесу. Штораз болей збожжа і сельскагаспадарчых прадуктаў вандравала на торг для абмену на рамесніцкія вырабы або на прадажу.

У гарадах развівалася і дасканалілася рамяство. Старыя гарады разрасталіся, паўставалі новыя. Апрача царкоўнага будаўніцтва наступіў росквіт будаўніцтва замкаў князёў і іншых багатых феадалаў. Развіваліся жывапіс, разьба ў дрэве і камені, выраб мастацкай абліцоўкі да мураваных пабудоў, шкла.

Адразу пасля ўваходу беларускіх зямель у склад Вялікага Княства Літоўскага ўнутраны і знешні гандаль развіваўся слаба. Перашкаджалі яго развіццю ўнутраны неспакой у Вялікім Княстве Літоўскім і яго працяглыя войны супроць нямецкіх захопнікаў.

У XV стагоддзі скла́ліся больш спрыяльныя ўмовы для развіцця ўнутранага гандлю паміж гарадамі Вялікага Княства. Гэтаму садзейнічала ліквідацыя ўнутранага падзелу дзяржавы на паасобныя княствы. Хутка і шырока разгортваўся гандаль беларускіх купцоў з рускімі і польскімі гарадамі. Сярод феадалаў узрастаў попыт на замежныя дарагія вырабы і прадукты.

Разам з тым, як крэпла і ўмацоўвалася Вялікае Княства Літоўскае, пашыраліся яго палітычныя і культурныя зносіны з еўрапейскімі краінамі. Гэта спрыяла далейшаму развіццю культуры ў Вялікім Княстве.

*Пытанні:*

1. *Чаму літоўскія захопнікі прынялі беларускую культуру і звычаі?*
2. *Як развівалася гаспадарчае і культурнае жыццё Беларусі ў складзе Вялікага Княства Літоўскага?*

*

## БЕЛАРУСКАЯ МОВА — АФІЦЫЙНАЙ МОВАЙ КАНЦЫЛЯРЫІ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА

У Кіеўскай Русі — супольнай дзяржаве ўсіх усходніх славян — продкі беларусаў разам з продкамі украінцаў карысталіся адзінай старажытнарускай мовай. На гэтай мове пісаліся дзяржаўныя акты, летапісы, творы мастацкай літаратуры, вялася перапіска паміж людзьмі. Адначасова насельніцтва розных ваколіц Кіеўскай дзяржавы размаўляла і складвала вусныя мастацкія творы на мясцовых дыялектах, гаворках. Гэтыя гаворкі ў нязначнай ступені розніліся ад старажытнарускай, пануючай ва ўсёй дзяржаве, мовы і не мелі вялікага значэння. Калі ж заходнерускія (беларускія) землі апынуліся ў складзе Вялікага Княства Літоўскага, гаворкі беларускага насельніцтва сталі агульнай для Беларусі гутарковай мовай. Гэтая жывая беларуская гутарковая мова пачала пранікаць у пісаныя акты, летапісы, творы мастацкай літаратуры. Такім чынам са спалучэння ранейшай старажытнарускай мовы і мясцовай беларускай гутарковай мовы склалася новая мова, якая стала звацца старажытнабеларускай. Старажытнабеларускую мову вельмі часта называлі «рускай». З цягам часу старажытнабеларуская мова ўбірала ў сябе ўсё болей і болей гутарковых элементаў і стала жыць уласным жыццём і развівацца самастойна.

Беларуская мова ад часу панавання князя Альгерда (1343 — 1377) была прызнана дзяржаўнай мовай ва ўсім Вялікім Княстве Літоўскім.

На ёй пісаліся дзяржаўныя акты і вяліся ўсе справы ў канцылярыі вялікага князя. Сам вялікі князь і яго двор ужывалі яе ў дыпламатычных зносінах з іншымі краінамі і ў штодзённым жыцці. Усё гаспадарчае і культурнае жыццё краіны адбывалася на беларускай мове.

На беларускай мове складаліся летапісы. У іх расказвалася аб важнейшых падзеях у дзяржаве і суседніх краінах, паходах князёў і войнах, жыцці і побыце насельніцтва, красачныя легенды і паданні.

Паўставалі творы мастацкай літаратуры. Перад усім гэта былі аповесці аб змаганнях беларускага і рускага народаў супроць татараў. У адной з іх — «Сказанні аб Мамаевым пабоішчы» — невядомы аўтар расказвае аб перамозе рускіх войск, якім дапамагалі і дружыны з беларускіх зямель, над войскамі татарскага хана Мамая.

У выніку шырокіх непасрэдных сувязей Вялікага Княства Літоўскага з іншымі еўрапейскімі краінамі на Беларусі паяўляюцца пераклады твораў мастацкай літаратуры на беларускую мову. Іх было шмат, і яны сведчаць аб тым, што на Беларусі было многа адукаваных людзей, якіх цікавіла жыццё не толькі ў сваім краю, але па-за яго межамі.

Грамадскія адносіны, якія сфарміраваліся ў Вялікім Княстве Літоўскім, былі выражаны ў пісаных, а затым і друкаваных, зборніках законаў. Яны называліся судзебнікамі і статутамі. Значэнне старажытнабеларускай мовы, як мовы дзяржаўнай у Вялікім Княстве Літоўскім, замацоўвалася законам, змешчаным у статуце. У ім гаварылася, што «пісар земскі маець па-руску (г. зн. па-беларуску) літарамі і словы рускімі (беларускімі) всі лісты, выпісы і позвы пісаці, а не іншым языком і словы».

*Пытанні:*

*1. Як паўстала старажытнабеларуская мова?*
*2. Якая мова была дзяржаўнай моваЙ у Вялікім Княстве Літоўскім?*
*3. Якія дзяржаўныя дакументы і творы паўставалі на старажытнай беларускай мове?*
*4. Што гаворыцца ў статуце пра ролю беларускай мовы ў Вялікім Княстве Літоўскім?*

*

## ФРАНЦІШАК СКАРЫНА

У канцы XV і на пачатку XVI стагоддзяў пачаўся на Беларусі буйны росквіт гарадоў. Штораз болей сярод самых вялікіх і багатых з іх здабывалі ад вялікага князя правы на самакіраванне па магдабургскаму праву. Магдабургскае права спрыяла эканамічнаму развіццю гарадоў і абмежаванню ў іх уціску феадаламі гарадского насельніцтва.

Адначасова з развіццём рамяства, гандлю і пашырэння гандлёвых і палітычных сувязей з іншымі краінамі павялічвалася зацікаўленне асветай, асабліва сярод гарадского насельніцтва. Школы паўставалі не толькі пры царквах і манастырах, іх засноўвалі таксама добрачынныя арганізацыі гараджан — брацтвы. Хоць у кожнай школе вучылася не больш дзесяці — дваццаці вучняў, а навука працягвалася ад 1 да 3 гадоў, школы выдатна спрыялі пашырэнню граматы і развіццю культуры на беларускіх землях.

Адным з выдатных дзеячоў навукі, асветы і культуры ў Беларусі быў Францішак Скарына. Нарадзіўся ён каля 1490 года ў Полацку ў сям'і багатага купца. У сваім родным горадзе атрымаў Скарына грунтоўную пачатковую адукацыю. Затым выехаў на далейшую вучобу ў Кракаўскі універсітэт у Польшчы, а пасля яго заканчэння ў Падуанскі універсітэт у Італіі. У Падуанскім універсітэце ён з вялікім поспехам здаў экзамены на вучоную ступень доктара медыцыны, выказваючы пры гэтым валоданне глыбокімі і абшырнымі ведамі.

Пасля заканчэння адукацыі Скарына ўсяцэла прысвяціў сябе справе наладжання друкавання кніг на беларускай мове. Ён заснаваў у чэшскай Празе беларускую друкарню і ў 1517 годзе выпусціў у свет першыя беларускія друкаваныя кнігі. Кіраваў ён іх «людзям простым для добрай навукі».

Хоць друкаванне кніг у Празе адбывалася вельмі паспяхова, і беларускі першадрукар карыстаўся сярод чэхаў прыхільнасцю і добразычлівасцю, аднак ён імкнуўся быць бліжэй да родных мясцін. Ён перавёз з Прагі ў сталіцу Вялікага Княства Літоўскага, горад Вільню, сваю друкарню і там працягваў сваю друкарскую дзейнасць.

У хуткім часе кнігі Скарыны пашыраюцца па ўсяму Вялікаму Княству Літоўскаму і вандруюць у іншыя краіны. Усюды яны з'яўляюцца не толькі ўзорам дасканалай тэхнікі кнігадрукавання, але і прыкладам ахвярнага служэння адукаванага чалавека свайму народу.

Скарына прызначаў свае кнігі простаму народу. У прадмовах да іх ён раіў чытачу шукаць у кнігах навуковых звестак і праўды для адукавання самога сябе. Ён пісаў, што «без мудрасці і без добрых звычаяў нельга пачціва жыць простым людзям на зямлі». Паводле Скарыны, кожны чалавек павінен жыць не толькі для самога сябе, ён сваёй дзейнасцю абавязан як мага болей прыносіць карысці свайму народу, бо «не толькі самі сабе нараджаемся на свет», але перад усім для «агульнага дабра». Беларускі першадрукар заклікаў, каб людзі «ўсякай працы і багацця для агульнага дабра і для айчыны свае не шкадавалі».

Скарына горача любіў сваю радзіму. Ён пісаў: «Так як звяры, блукаючыя ў пустыні, знаюць логавы свае, птушкі, лётаючыя ў паветры, ведаюць гнёзды свае, рыбы, плываючыя ў моры і ў рэках, чуюць віры свае, пчолы і ім падобныя бароняць вулляў сваіх, так і людзі, дзе нарадзіліся і выгадаваліся, да таго месца вялікую любоў захоўваюць».

Скарына карыстаўся вялікім аўтарытэтам і пашанай не толькі ў Вялікім Княстве Літоўскім, але па-за яго межамі. Яго запрашаў да сябе прускі герцаг, называючы яго «мужам непараўнанага розуму, найвучонейшым доктарам мастацтваў і медыцыны». Чэшскі кароль запрасіў Скарыну на свой двор і даручыў яму абавязкі каралеўскага батаніка і медыка.

Памёр Скарына каля 1540 года ў Празе.

Дзейнасць беларускага першадрукара зрабіла магутны ўплыў на далейшае развіццё беларускай культуры і прычынілася да ўмацавання сувязей паміж славянскімі народамі.

*Пытанні і заданне:*

*1. Як развівалася асвета на беларускіх землях у XV і XVI стагоддзях?*

*2. Раскажыце аб жыцці і дзейнасці Францішка Скарыны.*

*3. Да чаго заклікаў Скарына ў прадмовах да друкаваных ім кніг?*

*4. Якое значэнне мела дзейнасць Францішка Скарыны для развіцця асветы і культуры на беларускіх землях?*

*

## РЭФАРМАЦЫЯ Ў БЕЛАРУСІ

У першай палавіне XVI стагоддзя ўзнік і пачаў пашырацца ў краінах Заходняй Еўропы моцны рэфармісцкі рух. Ён быў накіраваны супроць непадзельнай уладзе каталіцкай царквы ў дзяржаве, яе непамернаму багаццю, разбэшчанасці вышэйшага кліру і непадпарадкаванню яго агульным правам і звычаям.

У тыя часы з Беларусі ў Польшчу, Чэхію, Нямеччыну і іншыя еўрапейскія краіны ездзіла шмат купцоў у справах гандлю. Многа шляхецкай і заможнай мяшчанскай моладзі вучылася там ва універсітэтах. Па заходніх краінах раз'язджала дзеля забавы і развесялення заможная шляхта і магнаты. Там яны знаёміліся з рэфармісцкім рухам і часта станавіліся яго гарачымі прыхільнікамі. Таму думкі і імкненні рэфармацыі хутка прыйшлі ў беларускія землі.



Не ўсё ў рэфармісцкім руху было аднолькава прынята ў Беларусі магнатамі, шляхтай і простым людам.

Магнаты і заможная шляхта баяліся, каб пашырэнне ідэй рэфармацыі сярод гарадской беднаты і сялянства не давяло да паўстання, як у Гданьску ці Нямеччыне. Адначасова яны імкнуліся аслабіць усясільную ўладу каталіцкага і праваслаўнага вышэйшага духавенства ў дзяржаве і загарнуць сабе царкоўныя землі і багацці.

Сярод магнатаў і заможнай шляхты найбольшай прыхільнасцю карыстаўся кальвінізм — адно з адгалінаванняў у рэфармісцкім руху. Кальвінізм вымагаў, каб царква была скромнай, недарагой, без пышнасці і пазбаўленай зямельных і іншых маёнткаў, а духавенства вяло сябе скромна і падлягала свецкім уладам.

У Беларусі пашыралі кальвінізм такія магнаты, як Радзівілы, Сапегі, Хадкевічы, Вішнявецкія і іншыя. Яны збіралі ў сваіх палацах і замках залежную ад іх шляхту, і схілялі яе прыняць новую веру. Магнаты і шляхта, прыняўшы кальвінізм, далучалі касцельныя і царкоўныя землі і прыгонных сялян, што жылі на іх, да сваіх маёнткаў, не аддавалі дзесятай долі ад сабранага ўраджаю касцёлам і царквам, ставілі ў парафіях новых кальвінскіх святароў. Рабілі яны ўсё гэта цішком і з ваганнем. Таму хутка магнаты і заможная шляхта, нічога не змяніўшы ў дзяржаве, памірыліся з вышэйшым каталіцкім і праваслаўным духавенствам.

Сярод малазаможнай шляхты, купцоў і рамеснікаў рэфармацыя на беларускіх землях прыняла больш дэмакратычны і ваяўнічы характар. Гэта быў арыянізм. Арыяне лічылі Хрыста не богам, а чалавекам. Многія з іх не прызнавалі дзяржаўнай улады, выступалі супраць зямельнай уласнасці, прыгону, эксплуатацыі чалавека чалавекам, не хацелі прымаць удзелу ў войнах.

Выдатнымі прадстаўнікамі арыянізму на Беларусі былі Сымон Будны і Васіль Цяпінскі.

Сымон Будны быў высокаадукаваным чалавекам. Ён заснаваў у горадзе Несвіжы друкарню, у якой друкаваў свае творы, у іх ён заклікаў любіць і шанаваць родную беларускую мову, змагаўся за вызваленне людской думкі ад рэлігійнай дэмагогіі, патрабаваў свабоднага развіцця навукі і пашырэння асветы сярод простага народа. Ён асуджаў прысвоенае магнатамі і шляхтай права ўладаць народам, абураўся пануючым у краіне свавольствам і злачынствамі феадалаў.

Будны адмаўляў боскае паходжанне Хрыста і лічыў, што духавенства не патрэбна народу. Крытыкаваў тых людзей, якія за дары свяшчэннікам і манастырам хацелі здабыць вечнае збавенне. За гэта Буднага асудзілі нават самі прыхільнікі рэфармацыі, а яго кнігі спальвалі на кастрах.

Сучаснікам і аднадумцам Буднага быў Васіль Цяпінскі. Ён з'яўляўся малазаможным шляхцічам. У сваім фальварку заснаваў друкарню, у якой выдаў царкоўную кнігу, перакладзеную ім на беларускую мову. У прадмове да кнігі Цяпінскі дакараў багатых, што яны не звяртаюць увагі на цяжкае палажэнне простага народа. Ён дамагаўся заснавання школ і пашырэння асветы ў краіне, патрабаваў навучання дзяцей на роднай мове. Цяпінскага абурала тое, што паны і свяшчэннікі трымаюць у цемры і нявуцтве беларускі працоўны люд.

Ідэі Сымона Буднага і Васіля Цяпінскага знайшлі шмат прыхільнікаў на беларускіх землях. Іх дзейнасць спрыяла далейшаму развіццю культуры і мовы беларускага народа.

*Пытанні:*

*1. Як пашыралі кальвінізм на беларускіх землях магнаты і заможная шляхта, чаго яны дамагаліся?*

*2. Што прапаведвалі і чаго дамагаліся Сымон Будны і Васіль Цяпінскі?*

*

## УНІЯ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА І ПОЛЬШЧЫ

У другой палавіне XIV стагоддзя паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Польшчай наступіла збліжэнне. Да яго прычынілася сталая пагроза наступленняў крыжаносцаў на літоўскія і польскія землі, намаганні мясцовых беларускіх і украінскіх феадалаў вызваліцца з-пад улады літоўскіх князёў і імкненні феадалаў і каталічаскай царквы здабыць уплыў і маёнткі на беларускіх і украінскіх землях. Гэта і давяло да уніі паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Польшчай, якая была заключана ў Крэве ў 1386 годзе.

Адначасова унія дала магчымасць літоўскім феадалам - католікам, польскім феадалам і каталічаскай царкве здабыць аграмадны ўплыў і маёнткі ў Вялікім Княстве Літоўскім. Роля і правы мясцовых беларускіх феадалаў і праваслаўнай царквы былі паніжаны і абмежаваны. Іх нездавальненне выразілася ў няспынных выступленнях і змовах супроць вялікага князя.

Асабліва варожа прынялі засілле чужаземцаў і каталічаства на беларускіх землях народныя масы. У розных гарадах і ваколіцах Беларусі ўспыхвалі паўстанні. Людзі не хацелі прымаць каталічаскай веры, якую насаджалі вялікі князь, літоўскія і польскія феадалы. Сярод працоўных расло незадавальненне з павялічанай паншчыны і іншых павіннасцей у карысць феадалаў.

Стан унутранага неспакою ў Вялікім Княстве Літоўскім асабліва ўзмоцніўся ў другой палавіне XVI стагоддзя. У гэтым часе на ўсходзе пачала развівацца і мацнець маладая Руская дзяржава са сталіцай у Маскве. Вакол яе аб'ядноўваліся рускія землі. З цягам часу яна стала абшырнай і магутнай краінай. Да ўз'яднання з брацкім рускім народам імкнуліся народныя масы беларускіх і украінскіх зямель. Гэтага баяліся вялікі князь і феадалы Вялікага Княства Літоўскага. Яны імкнуліся перашкодзіць росту магутнасці Рускай дзяржавы. Гэта прывяло да вайны. У ходзе яе рускія войскі ў 1563 годзе здабылі Полацк, значныя абшары паўночна-ўсходніх беларускіх зямель і накіраваліся да сталіцы Вялікага Княства Літоўскага. Беларуская шляхта не хацела ваяваць супроць Рускай дзяржавы, а мяшчане адмаўлялі плаціць падаткі на пакрыццё выдаткаў, звязаных з гэтай вайной. Перад Вялікім Княствам Літоўскім паўстала пагроза распаду. Літоўскія феадалы звярнуліся за дапамогай да Польшчы.

Польскія магнаты згадзіліся ім дапамагчы за кошт далучэння да Польшчы Падляшша, Валыні і Падоліі і аб'яднання Вялікага Княства Літоўскага з Польшчай. Літоўскія феадалы прынялі гэтыя цяжкія ўмовы і ў 1569 годзе ў Любліне падпісалі акт уніі. Вялікае Княства Літоўскае і Польшча аб'ядналіся ў адну дзяржаву — Рэч Паспалітую. Часткай яе аказалася і тэрыторыя Беларусі. На ёй сталі гаспадарыць разам з мясцовымі феадаламі польскія магнаты і літоўскія паны.

*Пытанні:*

*2. Што было прычынай збліжэння беларускіх феадалаў з польскімі феадаламі?*

*3. Якім коштам была заключана Люблінская ўнія?*

## УЗМАЦНЕННЕ ЎПЛЫВУ ПОЛЬСКІХ ФЕАДАЛАЎ НА БЕЛАРУСКІХ ЗЕМЛЯХ

Люблінская унія зусім не палепшыла цяжкага жыцця польскага працоўнага народа, але прынясла аграмадныя карысці польскім феадалам і каталіцкай царкве.

Раней вялікая колькасць зямлі і прыгонных сялян у Беларусі належала вялікаму князю. Значная частка даходаў з іх ішла на дзяржаўныя патрэбы і выдаткі. Пасля уніі гэтыя землі і сяляне сталі ўласнасцю караля Рэчы Паспалітай. Ён шчодра раздаваў іх польскім і беларускім магнатам, шляхце, каталічаскай царкве, асабліва багата ахвяроўваў ордэну езуітаў. Такім чынам схіляў на свой бок мясцовых феадалаў і ўзмацняў уплыў польскіх магнатаў, шляхты і каталіцкай царквы на беларускіх землях. Беларускія феадалы імкнуліся зраўняцца ў правах з польскімі магнатамі і дзеля гэтага пераходзілі з праваслаўнага веравання ў каталіцтва, пачалі паланізавацца.

На беларускіх землях разгарнулі дзейнасць езуіты. Яны намагаліся перавесці ў каталіцтва ўсё беларускае праваслаўнае насельніцтва, каб такім чынам замацаваць залежнасць беларускіх зямель ад рымскага папы і польскіх магнатаў. За сродкі, ахвяраваныя ім рымскім папам, каралём і магнатамі-католікамі, яны заснавалі ў Беларусі шмат сваіх школ. У гэтых школах панаваў дух пагарды да беларускай мовы, сваіх звычаяў і радзімы. Затое езуіты навучылі шанаваць рымскага папу, каталіцкую веру і быць паслухмянымі польскім магнатам. У езуіцкіх школах вучылася беларуская шляхецкая моладзь і дзеці заможных мяшчан. Таму ў хуткім часе многа беларускай шляхты і заможных мяшчан перайшло ў каталіцтва.

Паны дзейнічалі па праву: «чыя ўлада, таго і вера». Яны прымушалі пераходзіць у каталіцтва сваіх падданых. Але просты беларускі народ з усіх сіл супраціўляўся такому насіллю. Каб паскорыць умацаванне ўлады магнатаў і каталіцкай царквы на беларускіх і украінскіх землях, у 1596 годзе ў Брэсце па загаду караля і дапамозе магнатаў наступіла злучэнне праваслаўнай царквы з каталіцкай і ў яго выніку была створана новая царква — уніяцкая. Яна была падпарадкавана рымскаму папе і польскаму каралю. Уніяцкую царкву ўсямерна падтрымлівалі польскія і літоўскія феадалы, таму што яна служыла духоваму запаланенню беларускага народа і ўзмацняла панаванне прыгнятальнікаў.



*Пытанні і заданне:*

*1. Раскажыце аб тым, як узмацняўся ўплыў польскіх магнатаў і каталіцкай царквы на беларускіх землях пасля Люблінскай уніі.*

## ПАВЕЛІЧЭННЕ НАЦЫЯНАЛЬНАГА І САЦЫЯЛЬНАГА ПРЫГНЁТУ Ў БЕЛАРУСІ

Узмацненне ўлады феадалаў у Беларусі прывяло да таго, што ў палавіне XVI стагоддзя беларускія сяляне былі канчаткова запрыгонены. Яны не мелі права на зямлю, на якой жылі і працавалі, вымушаны былі даваць феадалам даніну збожжам, хатняй жывёлай, ільном, каноплямі, сенам, мёдам. Колькасць іх абавязковай працы ў панскім маёнтку павялічылася да чатырох—шасці дзён у тыдні. Апрача гэтага яны мусілі плаціць пану значныя грашовыя падаткі.

Сяляне сталі цалкам залежнымі ад феадалаў. Не мелі права пакінуць свайго пана, не знаходзілі абароны і апекі ў дзяржаўных уладаў ад здзекаў і несправядлівасцей. Пан меў права судзіць сялян, караць іх, выменьваць, купляць і прадаваць.

Не лепш жылося працоўнаму люду ў гарадах. У іх уся ўлада належала да феадалаў, багатых купцоў і заможных рамесніцкіх майстроў. Яны ўваходзілі ў склад гарадской рады, якая вырашала ўсе справы жыхароў горада. Яго асноўную частку насельніцтва складалі малазаможныя майстры, падмайстры, рамесніцкія вучні, гандляры, агароднікі, наймiты, прыслугі, жабракі. На іх накладвала гарадская рада ўсе падаткі і абавязкі, а за невыкананне іх жорстка карала.

Пагаршалася таксама палажэнне купцоў на беларускіх землях. Магнаты і шляхта атрымалі ад караля права без падатку вывозіць за граніцу і прывозіць адтуль розныя тавары. Купцы ж далей мусілі плаціць высокі падатак дзяржаве за вываз і прывоз з-за граніцы. Таму буйны калісьці гандаль гарадоў Беларусі з замежнымі краінамі цяпер амаль зусім быў спынены, збяднелі купцы, апусцелі крамы ў гарадах і мястэчках.

Гарадское насельніцтва баранілася ад прыгнёту гуртуючыся ў брацтвы. Брацтвы мелі супольную касу. Яны дапа-

магалі сіротам і бедным, утрымоўвалі свае школы, бальніцы, засноўвалі друкарні, пашыралі пісьменнасць і адстойвалі родную беларускую мову.

Цяжкае палажэнне сялян і гарадскога насельніцтва было прычынай частых бунтаў і паўстанняў.

Асабліва вялікім было паўстанне беларускіх сялян пад кіраўніцтвам казацкага атрада на чале з Налівайкам.

Атрад Налівайкі прыйшоў з Украіны. Да яго далучыліся беларускія сяляне і гарадская бедната. Восенню 1595 года паўстанцы здабылі горад Магілёў і жорстка пакаралі шляхту, паноў і багатых мяшчан за іх здзекі над працоўнымі. Каралеўскія войскі разбілі атрад Налівайкі. Хутка пасля яго паявіўся на Беларусі казацкі атрад пад кіраўніцтвам Дубіны. Да яго далучылася многа прыгонных сялян. Паўстанцы здабылі горад Віцебск. Хоць і гэты атрад быў разбіты панамі і шляхтай, сяляне не спынілі свае барацьбы супроць прыгнятальнікаў.

*Пытанні і заданне:*

1. *Раскажыце, як жылося сялянам і працоўным гарадоў.*
2. *Як бараніліся мяшчане і сяляне ад узрастаючага прыгнёту?*

*

## УДЗЕЛ БЕЛАРУСКІХ СЯЛЯН У ПАЎСТАННІ БАГДАНА ХМЯЛЬНІЦКАГА

У 1648 годзе украінскі народ на чале з Багданам Хмяльніцкім падняўся на барацьбу супроць прыгнёту магнатаў і шляхты. Беларускія сяляне і гарадская бедната са спачуваннем і надзеяй прыслухоўваліся да вестак аб геаічным змаганні брацкага ўкраінскага народа. Многія з іх пакідалі свае сем'і і хаты і тайком падаваліся на Украіну. Там яны далучаліся да войск Хмяльніцкага.

Хмяльніцкі пасылаў у Беларусь пасланцоў. Яны прыходзілі пераапранутыя за жабракоў, гандляроў, манахаў і заклікалі насельніцтва вёсак і гарадоў да паўстання супроць прыгнятальнікаў. Летам таго ж года ў многіх мясцовасцях Беларусі пачаліся сялянскія хваляванні. У гарадах і мястэчках рамеснікі гаварылі адкрыта, што яны чакаюць прыходу войск Хмяльніцкага.



У хуткім часе паявіліся на беларускіх землях казацкія атрады з Украіны. Яны лоўка пранікалі ва ўсе куткі краіны, бо ў іх было шмат людзей з беларускіх сёл і гарадоў. Да казацкіх атрадаў гурмам далучыліся сяляне, жыхары гарадоў і незаможная шляхта. Колькасць і сіла паўстанцаў узрастала з кожным днём.

Паўстанчаскія атрады займалі і знішчалі панскія маёнткі, сурова распраўляліся з панамі, шляхтай, каталіцкім і уніяцкім духавенствам. Знішчалі ўсё, што напаміналa аб прыгоннай няволі. Здабытае дабро раздавалі бяднейшаму насельніцтву.

Насельніцтва беларускіх вёсак і гарадоў радасна сустракала паўстанцаў. Мяшчане Гомеля, Лоева, Брагіна, Пінска самі расчынялі перад імі вароты гарадскіх крэпасцей.

Напалоханыя паны, каталіцкае і уніяцкае духавенства ўцякала за межы Беларусі.

Пад восень паўстанне ахапіла амаль усю Беларусь.

Магнаты і вышэйшае каталіцкае і уніяцкае духавенства пад кіраўніцтвам гетмана Януша Радзівіла пачалі спешна збіраць войскі супроць паўстаўшых. Сваімі сіламі справіцца з паўстаннем яны не маглі і таму наймалі нямецкую, шведскую і венгерскую конніцу і пяхоту і накіроўвалі яе ў Беларусь.

Паўстанне ж усё ўзрастала на сіле.

*Пытанні:*

*1) Чаму беларускія сяляне і мяшчане ўцякалі на Украіну і далучаліся да войск Багдана Хмяльніцкага?*

*

## ПАЎСТАННЕ Ў ПІНСКУ

Горад Пінск у тыя часы быў адным з буйнейшых і багацейшых гарадоў на беларускіх землях. Палажаны на скрыжаванні гандлёвых дарог па сушы і рэках, ён хутка разрастаўся і магутнеў. У ім жыло шмат купцоў і рамеснікаў. Каменныя і драўляныя будынкі горада шырока прасціраліся па беразе ракі Піны. У сярэдзіне горада ўзвышаўся драўляны замак, а вакол горада цягнулася высокая і моцная драўляная сцяна.

Восенню 1648 года ў Пінску ўспыхнула паўстанне. Ім кіравалі рамеснікі: сядзельнік Шапеня, шапачнік Мяшковіч, кравец Велясніцкі, кушнер Сачыўка і іншыя.

Частка феадалаў была знішчана паўстанцамі, а рэшта на чале з войтам, палкоўнікам Ельскім, паспела ўцячы. Збеглі з горада езуіты і каталіцкія духоўныя. Іх ненавідзелі пінчане не толькі за тое, што яны прымушалі пераходзіць на каталіцкую веру, але і за іх здзерствы і ліхвярства.

Паўстаўшыя выбралі сваю гарадскую раду, падзялілі дабро ўцёкшых паноў і духавенства паміж беднякамі, устанавілі ва ўсім горадзе парадак.

Магнаты і духавенства накіравалі ў канцы верасня на Пінск значную колькасць войска і артылерыю. Пачуўшы аб іх набліжэнні, пінчане аб'ядналіся з казацкім атрадам Нябабы і навакольнымі сялянамі. Супольнымі сіламі пачалі ўмацоўваць горад.

Адзін з вайсковых атрадаў пад кіраўніцтвам палкоўніка Ельскага ўварваўся ў горад. Калі ён набліжаўся да замка, раптоўна з усіх бакоў на яго сыпнулі кулі. Войска, пакідаючы забітых і раненых, кінулася наўцёкі з горада.

Пасля няўдалага нападу атрада Ельскага да сцен Пінска падступілі войскі на чале з князем Мірскім.

Паўстанцы рыхтаваліся да бою, умацоўвалі гарадскія сцены, рабілі завалы, перакопвалі равамі вуліцы. Насельніцтва дапамагала ім: з касцельных і манастырскіх будынкаў знімала вокны, здзірала з рамаў волава і вылівала кулі.

Кастрычніцкай раніцай войскі пачалі штурм горада. На гарадскія сцены кідалася атака за атакай праціўніка. Паўстанцы з поспехам адбіваліся. Толькі на змярканні войску ўдалося ўварвацца ў горад. Тады барацьба пайшла за кожную вуліцу, кожны дом. Бітва станавілася заядлай і працяглай. Князь Мірскі загадаў падпаліць горад. Нямецкія наёмнікі адразу выканалі яго загад. Неўзабаве ўвесь Пінск патануў у полымі. Але гэта не спыніла паўстанцаў. Абарона працягвалася.

Атраду Нябабы ўдалося прабіцца скрозь рады наёмнай нямецкай пяхоты і вырвацца з палаючага горада. Кавалерыя Мірскага акружыла атрад і сапхнула яго ў багну. Казакі біліся па-геройску, але сілы былі няроўнымі. Усе яны, разам са сваім важаком Нябабам, загінулі.



У горадзе барацьба не спынялася. Паўстанцы гінулі ў агні, але не здаваліся. Толькі на наступны дзень войску ўдалося зламаць абаронцаў Пінска.

Падобна як пінчане, гераічна змагаліся паўстанцы ў Мазыры і Бабруйску.

Доўга яшчэ бурлівіла паўстанне на беларускіх землях. Аднак магнатам удалося сабраць больш войска і накіраваць яго супроць паўстаўшых. Паўстанцы ж дзейнічалі разрозненна і гэта аслабляла іх. Не патрапілі яны стварыць моцнай і добра ўзброенай арміі. Не было сярод іх і здольнага кіраўніка, якім, напрыклад, быў Багдан Хмяльніцкі на Украіне. Усё гэта было прычынай упадку паўстання на Беларусі.

Аднак нягледзячы на тое, што паўстанцы на Беларусі пацярпелі паражэнне, яны сваёй гераічнай барацьбой дапамаглі брацкаму украінскаму народу ў яго змаганні за вызваленне.

*Пытанні і заданне:*

1. *Раскажыце, як праходзіла паўстанне і абарона Пінска.*
2. *Што было прычынай паражэння паўстання на Беларусі.*

*

## ДАЛУЧЭННЕ БЕЛАРУСКІХ ЗЯМЕЛЬ ДА РАСІІ Ў ЧАСЕ ПАДЗЕЛАЎ ПОЛЬШЧЫ

Беларускія землі ў 1700—1709 гадах былі месцам руйнуючай вайны Польшчы і Расіі супроць шведскай арміі на чале з каралём Швецыі Карлам XII. Карл XII імкнуўся запаланіць тэрыторыі Рэчы Паспалітай і Расіі. У выніку супольных намаганняў Польшчы і Расіі, а таксама пры вялікай дапамозе беларускага і ўкраінскага насельніцтва шведскія войскі былі разгромлены і рэшткі іх вымушаны былі пакінуць захопленыя землі.

У часе вайны большасць беларускіх гарадоў была абрабавана і разбурана, вёскі вынішчаны і спалены. Шмат насельніцтва загінула ў барацьбе са шведскімі захопнікамі і з прычыны розных заразных хваробаў.

Доўгі час пасля вайны гаспадарка і культура Беларусі знаходзілася ў заняпадзе. Толькі ў палавіне XVIII стагод-

дзя наглядаюцца на беларускіх землях пэўныя зрухі і ажыўленне.

У сельскай гаспадарцы па-ранейшаму панаваў прыгон, але некаторыя магнаты і заможная шляхта штораз часцей пераводзілі сялян на частковы чынш — грашовае ападаткаванне сялян замест прыгоннай працы ў панскім фальварку і данін сельскагаспадарчымі прадуктамі і вырабамі. Чынш спрыяў хутчэйшаму развіццю сельскай гаспадаркі, зацікаўленню сялян павышэннем ураджайнасці на палетках, якія яны абраблялі, і таварна-грашовага абмену паміж вёскай і горадам. Гэта пабуджала да ажыўлення рамяство і гандаль і развіццё гарадоў і мястэчак.

Аднак палажэнне прыгонных сялян заставалася цяжкім. Многія феадалы здавалі свае маёнткі і сялян арандатарам. Арандатары, заплаціўшы ўласніку арэнду, імкнуліся выціснуць як мага болей даходу з арандуемага маёнтку. Яны павышалі колькасць дзён прыгоннай працы на паншчыне, накладалі высокія даніны грашмі і прадуктамі, жорстка каралі сялян за супраціўленне.

Павольна, але няспынна павялічвалася колькасць сельскагаспадарчай прадукцыі, якая вандравала не толькі на рынкі ўнутры краіны, але па-за яе межы. З беларускіх зямель вывозілася збожжа, валакно ільну і канапель, суднабудаўнічая драўніна, паташ.

У замажнейшых маёнтках засноўваліся прадпрыемствы па вырабу неабходных у штодзённым жыцці тавараў і па пераробцы сельскагаспадарчай прадукцыі: бровары, тартакі, цагельні, рудні для выплаўкі жалеза, шкляныя гуты, фабрычкі па вырабу сукна, палатна, шоўку, панчохаў і шмат іншых. Сярод іх найбольш вядомымі былі і славіліся сваімі вырабамі: рудня ў вёсцы Руда на Брэстчыне, шкляная гута ля Несвіжа, фабрыкі па вырабу сукна і палатна ў Ружанах, ва ўсёй тагачаснай Рэчы Паспалітай і далёка па-за межамі славіліся прыгожыя паясы, якія выраблялія ў Слуцку.

У каралеўскіх маёнтках Гродзеншчыны іх загадчык граф Цізенгаўз заснаваў шмат прадпрыемстваў па вырабу сукна, палатна, шоўку, зброі і іншых. Працавала ў іх каля 1500 сталых рабочых, а вырабы былі высокай якасці і знаходзілі ахвотных пакупнікаў ва ўсёй Беларусі і Польшчы.

У паншчынных прадпрыемствах у асноўным працавалі прыгонныя сяляне. Дзеля павышэння вытворчасці некаторыя іх уласнікі выдавалі працуючым харчы і невялікую колькасць грошай.



У гарадах у той час, побач з цэхавым рамяством, адбываўся пераход ад рамеснай вытворчасці да заснавання багатымі купцамі і рамеснікамі мануфактур, у якіх працавалі не толькі збяднелыя рамеснікі, але і вольнаёмныя рабочыя. Такіх мануфактур было шмат у Мінску, Віцебску, Магілёве і іншых гарадах. Уся гарадская вытворчасць: і рамесніцкая, і мануфактурная, набывае таварны характар. З асяроддзя купцоў вылучаецца група новых прадпрыймальнікаў — скупшчыкаў. Скупшчык забяспечваў значную колькасць рамеснікаў сыравінай, даваў ім у пазыку грошы, а затым скупоўваў ад іх вырабы з мэтай збыту купцам. Купцы развозілі гэтыя вырабы па розных гарадах, мястэчках і сёлах і там збывалі мясцовым гандлярам або насельніцтву.

Ажыўленню гандлю спрыяла аднолькавае ападаткаванне ўсіх вывазных тавараў за граніцу, незалежна ад таго, каму яны належалі: купцу, шляхцічу ці каралю. Мясцовыя купцы атрымалі перавагу ў правах над прыезджымі, замежнымі. Ва ўсім Вялікім Княстве Літоўскім была ўстаноўлена адзіная сістэма меры і вагі. Былі пабудаваны новыя дарогі і палепшаны паштовыя зносіны. Запачаткавана пабудову двух вялікіх каналаў: адзін з іх злучаў рэкі Нёман, Шчару, Яселду і Прыпяць; другі — раку Прыпяць з ракою Бугам. Яны адчынялі выгодныя і танныя шляхі зносін не толькі ўнутры Беларусі, але і з пабярэжжамі Балтыйскага і Чорнага мароў.

Магнаты і заможная шляхта замест колісьніх умацаваных замкаў у гэты час узводзілі ў сваіх маёнтках раскошныя палацы. Да найбольш выдатных сярод іх належаў палац Радзівілаў у Несвіжы. Палацы ўпрыгожваліся адмысловымі скульптурамі і карцінамі, выкананымі беларускімі мастакамі і запрошанымі з-за мяжы. У цэнтрах гарадоў сродкамі мяшчан будаваліся высокія і прыгожыя гарадскія ратушы і крытыя рынкі. Брацтвы аднаўлялі старыя і будавалі новыя царквы. Іх упрыгожвалі роспісамі таленавітыя мастакі. Сярод іх вылучаўся талентам Рыгор Мядзведзкі, які выканаў дасканалыя роспісі ў царкве ў Журавічах.

Магнаты засноўвалі пры сваіх палацах прыдворныя паншчынныя тэатры. Артыстаў да іх набіралі з асяроддзя прыгоннай сялянскай моладзі. Навучалі ж акторскаму і балетнаму майстэрству акторы і балетмейстары, запрошаныя з Італіі і Францыі. Асаблівым майстэрствам славіўся гродзенскі балетны тэатр, які, разам са школай балету, засна-

ваў граф Цізенгаўз. У пазнейшы час гэты тэатр быў ахвяраван Цізенгаўзам каралю і паклаў пачатак варшаўскаму балету. Выдатным быў паншчынны тэатр у Шклове. Аб яго пастаноўках у той час пісалі, што ён «перавышае сваей пышнасцю прыдворныя пастаноўкі рускія, польскія, аўстрыйскія і французскія». Пасля далучэння беларускіх зямель да Расіі гэты тэатр быў перавезен у сталіцу Расіі — горад Пецярбург.

Ужо ў канцы XVII стагоддзя беларуская літаратура была загамавана ў сваім развіцці пастановай сейму Рэчы Паспалітай з 1697 года, якая забараняла складаць дзяржаўныя дакументы на беларускай мове. Нягледзячы на праследванні магнатамі, а асабліва каталіцкім духавенствам, беларускай мовы і літаратуры, беларуская літаратура не спыняла свайго жыцця. Яна стала развівацца ў розных вусных формах: песнях, казках, легендах, народных жартах і гутарках. Гэтыя творы, складзеныя невядомымі аўтарамі, перадаваліся з вуснаў у вусны, старэйшым пакаленнем малодшаму, распаўсюджваліся па ўсёй краіне і многія з іх захаваліся да нашага часу. Пашыраліся таксама на пісьме ананімныя творы. Сярод іх найбольш выдатнымі з'яўляюцца сатыры: «Прамова Івана Мялешкі» і «Ліст да Абуховіча». У гэтых творах невядомыя аўтары высмейвалі захапленне магнатаў і шляхты ўсім замежным і выступалі супраць фанабэрыі, здрады і прадажніцтва, якія панавалі ў магнацкім і шляхецкім асяроддзі. Прыдворныя паэты складалі пахвальныя вершы ў гонар сваіх апекуноў-магнатаў.

Найбольш выдатным пісьменнікам таго часу быў Сымон Полацкі. Ён пісаў вершы, драмы і творы па тэорыі мастацтва. У іх заклікаў чытачоў кахаць сваю радзіму, быць сумленнымі і адважнымі. Полацкі быў гарачым прыхільнікам уз'яднання беларускіх зямель з Рускай дзяржавай.

Сярод адукаваных людзей у той час на Беларусі пашыраліся ідэі Асвячэння. Найбольш выдатнымі іх пашыральнікамі былі К. Нарбут і Г. Страйноўскі — прафесары Віленскага універсітэта. Г. Страйноўскі ў кнізе «Навука аб натуральным і палітычным праве» пісаў, што «Кожны... чалавек ад прыроды з'яўляецца ўладаром свае асобы, таму ў адносінах да самога сябе ён ёсць ад прыроды вольным і ад іншых людзей незалежным». Гэтым Г. Страйноўскі дамагаўся перамены адсталых феадальных адносін у краіне на больш прагрэсіўныя для таго часу — буржуазныя



адносіны. У іншых сваіх творах ён дамагаўся асаблівай вольнасці для прыгонных сялян.

Нягледзячы на поспехі ў галіне гаспадаркі, культуры і грамадскай думкі, Рэч Паспалітая ад палавіны XVIII стагоддзя паволі, але няспынна хілілася да палітычнага заняпаду. Ва ўсёй краіне дзяржаўная каралеўская ўлада страціла сваю моц. Магнаты і шляхта не падпарадкоўваліся загадам караля і пастановам сейму. Выступаючы ў абароне сваіх класавых прывілеяў, яны не дапускалі да сур'ёзных пераўтварэнняў у краіне, якія б умацоўвалі Рэч Паспалітую. Беларускі народ падвяргаўся жорсткаму нацыянальнаму і рэлігійнаму прыгнёту.

Гэтую слабасць Рэчы Паспалітай сквапна выкарысталі магутныя суседнія дзяржавы: Прусія, Аўстрыя і Расія. Яны вырашылі падзяліць паміж сабою тэрыторыю Рэчы Паспалітай і далучыць яе да сваіх дзяржаў.

У выніку першага падзелу Рэчы Паспалітай у 1772 годзе да Расіі была далучана ўсходняя частка беларускіх зямель, з гарадамі: Полацкам, Віцебскам, Оршай і Магілёвам.

У 1793 годзе адбыўся другі падзел Рэчы Паспалітай. Да Расіі была далучана цэнтральная частка Беларусі з гарадамі: Мінскам, Барысавам, Бабруйскам, Слуцкам, Навагрудкам і Пінскам.

Пасля трэцяга падзелу, які адбыўся ў 1795 годзе, Рэч Паспалітая трагічна спыніла сваё самастойнае дзяржаўнае існаванне. У склад Расіі ўвайшлі заходнія беларускія землі з гарадамі: Гроднам, Брэстам, Слонімам, Навагрудкам і Лідай.

Такім чынам, у выніку трох чарговых падзелаў Рэчы Паспалітай усе беларускія землі былі далучаны да Рускай дзяржавы.

Беларускі народ прыхільна сустрэў уз'яднанне з рускім народам, з якім яго злучала блізкасць мовы, звычаяў і веравызнанне.

*Пытанні і заданне:*

1. *Якая падзея выклікала зруйнаванне беларускіх зямель ў пачатку XVIII стагоддзя?*
2. *Як развіваліся сельская гаспадарка і паншчынныя прадпрыемствы на Беларусі ў першай палавіне XVIII стагоддзя?*
3. *Што спрыяла развіццю гандлю?*
4. *Як развівалася будаўніцтва і тэатральнае мастацтва?*

*5. Якую пастанову прыняў польскі сейм у 1697 г., і як яна ўздзейнічала на далейшы лёс беларускай літаратуры?*

*6. Хто такі быў Сымон Полацкі, і што вы ведаеце пра яго творчасць?*

*7. Прадстаўніком якой плыні быў Г. Страйноўскі і чаго ён дамагаўся ў сваіх творах?*

*8. Якія былі прычыны падзелу Рэчы Паспалітай паміж Прусіяй, Аўстрыяй і Расіяй?*

*9. Пакажыце на карце, якія беларускія землі былі далучаны да Расіі ў 1772 годзе; у 1793 годзе; у 1795 годзе.*

*

## ГАСПАДАРЧАЕ І КУЛЬТУРНАЕ РАЗВІЦЦЁ БЕЛАРУСІ Ў СКЛАДЗЕ РУСКАЙ ДЗЯРЖАВЫ

### Гаспадарка Беларусі

На беларускіх землях, уз'яднаных з Расіяй, урад царыцы Кацярыны II і яе спадчыннікі ўсямерна спрыялі магнатам, заможнай шляхце і духавенству. Праўда, спачатку, каб утаймаваць свавольствы польскіх і беларускіх магнатаў і шляхты, яны насылаюць у Беларусь адданых сабе чыноўнікаў і патрабуюць ад усяго насельніцтва бездакорнай паслухмянасці для дзяржаўных загадаў і непахіснай вернасці царскаму ўраду. Тых, хто спрабаваў супраціўіцца волі цароў, яны жорстка каралі, высылалі ў Сібір, а маёнткі канфіскавалі на ўласнасць царскага двара.

Адначасова цары імкнуліся прыхіліць да сябе польскіх і беларускіх магнатаў, заможную шляхту і духавенства. Гэтыя феадалы мелі і пад царскім панаваннем усе тыя правы, якімі яны карысталіся раней. Каб замацаваць сваю ўладу на Беларусі, царыца Кацярына II і яе спадчыннікі шчодра раздавалі на Беларусі былыя каралеўскія і канфіскаваныя ад паноў маёнткі і сялян, што да іх належалі, сваім вяльможам і дваранам.

Да дробнай шляхты, частка якой змагалася ў арміі Тадэуша Касцюшкі, царызм адносіўся з вялікай падазронасцю і імкнуўся зраўняць яе ў правах з сялянамі.

Царскі ўрад не палепшыў таго цяжкага становішча беларускага працоўнага люду, у якім ён знаходзіўся ў часы Рэчы Паспалітай. Першапачаткова царыца Кацярына II зменшыла беларускім сялянам падаткі, але ў хуткім часе яны былі ўтрая павялічаны. Паншчына заставалася асноўнай формай эксплуатацыі панамі і дзяржавай прыгоннага сялянства. Колькасць абавязковай працы селяніна ў маёнтку пана з кожным годам павялічвалася і даходзіла да 6 дзён у тыдні ад адной сялянскай сям'і. Апрача працы на паншчыне сяляне былі вымушаны плаціць пану чынш грашыма, дзяржаве ўносіць высокія падаткі і ўтрымоўваць закватэраванае на Беларусі царскае войска. Да абавязку сялян належала выкананне розных прац пры будовах і рамонтах панскіх маёнткаў і агульнадзяржаўных пабудовах умацаванняў, дарог і каналаў, перавоз сельскагаспадарчых прадуктаў да прыстаняў на рэках або нават да адлеглых марскіх портаў.

Царскі ўрад набіраў з сялянскіх хлапцоў войска, у якім даводзілася служыць на працягу 25 год.

Памешчыкі імкнуліся павялічыць даходы са сваіх маёнткаў коштам змяншэння сялянскіх палеткаў і далучэння забранай зямлі і сенажацяў да сваіх маёмасцей. Гэта даводзіла да абеззямельвання сялянства. Колькасць беззямельных сялян «бабылёў» штогод павялічвалася.

Паны мелі права прадаваць сялян без зямлі або здаваць іх у войска.

Беззямелле, недахоп часу на працу на сваім палетку, зменшаная колькасць дабытку, працяглыя неўраджаі давялі да таго, што беларускі селянін еў хлеб вымешаны з паловай і карою. Шырыліся хваробы і эпідэміі.

Сяляне ненавідзелі сваіх прыгнятальнікаў і змагаліся супраць іх. Частка сялян верыла ў справядлівасць цара, пісала і падавала яму прашэнні і скаргі на паноў. Адказу або не было, або царскі ўрад насылаў на прасіўшых вайсковых карнікаў, і тыя жорстка распраўляліся са скаржнікамі.

Тысячы сялян уцякала са сваіх сёл у іншыя адлеглыя мясцовасці Рускай дзяржавы, падаваліся ў гарады, хаваліся па лясах. Мацнела і шырылася барацьба супроць паноў і царскага ўрада. Сяляне не выходзілі на паншчыну, падпальвалі маёнткі, забівалі ненавісных паноў і арандатараў, узнімалі паўстанні.

Пад уплывам паўстанчаскага руху ў 1846 годзе ў Галіцыі хваляванні сялян ахапілі ўсю Гродзеншчыну. Сяляне не выходзілі на паншчыну, не плацілі падаткаў, дамагаліся свабоды. За іх прыкладам пайшлі сяляне Міншчыны, Полаччыны, Магілёўшчыны і іншых частак Беларусі. Супроць паўстаўшых царскі ўрад накіраваў войскі. Карнікі каралі паўстаўшых пабоямі, турмой, высялялі ў Сібір.

Барацьба беларускіх сялян не магла быць пераможнай, бо разгортвалася яна стыхійна і неарганізавана. Аднак яна ўлівалася ў агульную плынь барацьбы супроць феадалізму і царскага самадзяржаўя і набліжала іх аслабленне, а затым і ўпадак.

Гаспадарчае развіццё беларускіх зямель у першых дзесяцігоддзях пасля далучэння да Расіі было вельмі шпаркім. Узрастала колькасць сельскагаспадарчых прадуктаў, развівалася рамяство, вытворчасць у паншчынных і гарадскіх мануфактурах, бойка развіваўся гандаль, разрасталіся гарады.

Нашэсце французскіх захопнікаў на Рускую дзяржаву ў 1812 годзе, супроць якіх на Беларусі пашыралася партызанская барацьба, разбурыла і знішчыла гаспадарку на беларускіх землях. Пасля разгрому напалеонскіх арміі узмоцніўся на Беларусі феадальны прыгнёт і ён загамаваў хуткую адбудову гарадоў і вёсак і далейшае гаспадарчае развіццё беларускіх зямель.

Аднак, хаця і паволі, але няспынна развівалася прамысловая вытворчасць у гарадах і маёнтках. Паншчынныя прадпрыемствы, якія абапіраліся на бясплатнай працы прыгонных сялян, узмацняліся і пашыраліся. Паўставалі і разбудоўваліся прамысловыя прадпрыемствы ў гарадах і мястэчках, дзе ў большасці працавалі вольнанаёмныя рабочыя. Найхутчэй развіваліся суконная, броварная, шкляная, гарбарная і папяровая прамысловасці. У гарадах шмат было дробных варштатаў, у якіх працавалі гаспадар са сваёй сям'ёй і 1—2 наёмных рабочых. Царскі ўрад не спрыяў развіццю прамысловасці на Беларусі, імкнуўся ён да таго, каб беларускія землі былі адсталай правінцыяй царскай імперыі. У знешнім гандлі з беларускіх зямель вывозіліся пераважна сельскагаспадарчыя прадукты, а прывозіліся прамысловыя вырабы.

*Пытанні і заданне:*

*1) Як аднёсся царскі ўрад да магнатаў і шляхты пасля далучэння беларускіх зямель да Расійскай дзяржавы?*

*2) Раскажыце аб палажэнні сялян і іх барацьбе ў Беларусі ў першай палавіне XIX стагоддзя.*

*3) Як развівалася прамысловасць і рамяство на беларускіх землях у той час?*

*



# АСВЕТА І КУЛЬТУРА

Узровень асветы на Беларусі быў вельмі нізкі. Царскае самадзяржаўе гамавала пашырэнне адукацыі сярод беларускага працоўнага люду. Яно ведала, што цёмны і адсталы народ лягчэй падпарадкуецца царскаму панаванню. Школаў было вельмі мала і знаходзіліся яны ва ўладзе духавенства і манастыроў. У іх зашчаплялі дзецям пагарду да свае роднай беларускай мовы і культуры. Беларуская мова не была дапушчана ні ў школы, ні ў дзяржаўныя ўстановы, а цар Мікалай І забараніў нават ужываць слова «Беларусь». Царскім загадам быў зачынен Віленскі універсітэт, дзе раней вучылася шмат выхадцаў з беларускіх зямель.

Аднак нават ва ўмовах жорсткага прыгнёту беларускі народ развіваў сваю культуру.

Асабліва буйна развівалася вусная народная творчасць: песні, казкі, легенды. У іх гаварылася пра жудасны лёс прыгоннага сялянства і салдатаў-рэкрутаў, выражалася народная нянавісць да прыгнятальнікаў і ўслаўляліся гераічныя ўчынкі народных мсціўцаў-асілкаў.

Царызм забараніў друкаванне твораў на беларускай мове. Аднак гэта не спыніла развіцця беларускай мастацкай літаратуры. Пісьменнікі пісалі гутаркі, вершы і паэмы і распаўсюджвалі іх у рукапісах. Свае прозвішчы яны затойвалі або падпісвалі творы псеўданімамі.

Найбольш выдатнымі былі гутаркі: «Вось цяпер які люд стаў», «Размова пана з хлопам», «Гутарка Данілы са Сцяпанам». У іх апавяданне вядзецца ад імя селяніна, які скардзіцца на свой цяжкі лёс, несправядлівасці ўрада, прыгнёт панамі і чыноўнікамі і спадзяецца паляпшэння сваёй долі.

У вершах «Праўда», «Багач», «Сірацінка» гаворыцца аб прыгонніцкіх парадках, пакутах бедных людзей, гаротнай долі сіраты.

Самымі значнымі творамі беларускай літаратуры таго часу былі сатырычныя паэмы «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе». Невядомыя аўтары расказваюць у іх аб жыцці розных слаёў насельніцтва Беларусі, усхваляюць маральныя якасці простага селяніна і высмейваюць паводзіны паноў-прыгоннікаў.

Вялікі ўклад у развіццё беларускай літаратуры, тэатра і асветы ўнёс Вінцук Дунін-Марцінкевіч. Ён напісаў словы да першай беларускай камічнай оперы «Сялянка». У ёй пісьменнік высмеяў лёгкадумнасць, пагарду да ўсяго род-

нага і захапленне памешчыкаў чужым, але прыхільна аднёсся да прыгоннага беларускага сялянства і спачуваў яму. Музыку да оперы склаў Станіслаў Манюшка — вядомы польскі кампазітар родам з Беларусі. Опера была паказана ў Мінску ў 1852 годзе. У ёй гучэлі беларускія народныя мелодыі, а акцёры выступалі ў беларускіх народных касцюмах.

Апрача оперы «Сялянка» Дунін-Марцінкевіч напісаў некалькі вершаваных аповесцей, як «Гапон», «Шчароўскія дажынкі», «Купала». У іх галоўнае месца адводзіцца жыццю і заняткам беларускага сялянства, яго абрадам і вуснай творчасці.

Вінцук Дунін-Марцінкевіч быў вялікім прыхільнікам пашырэння асветы сярод простага народа. Ён дамагаўся заснoўвання школ, у якіх навука адбывалася б на беларускай мове.

Шмат беларускай інтэлігенцыі таго часу цікавілася мінулым Беларусі і яе вуснай народнай творчасцю. Выдатны вучоны — гісторык Грыгаровіч вышукваў і друкаваў старажытныя дакументы з мінуўшчыны беларускага краю. Фалькларысты Чачот і Шпілеўскі запісвалі і публікавалі творы беларускай вуснай народнай творчасці.

Таленавітыя беларускія мастакі Вінцук Дмахоўскі і Нікадзім Сілівановіч стварылі цудоўныя карціны, у якіх знайшла адбітак прыгажосць беларускага краю і быт яго насельніцтва.

Прагрэсіўныя рускія пісьменнікі, як Аляксандр Герцэн і Мікалай Дабралюбаў, якія выступілі супроць царскага самадзяржаўя, нацыянальнага прыгнёту народаў і прыгоннага права, цікавіліся Беларуссю і спрыялі развіццю яе культуры і літаратуры. Прыхільна адносіліся да беларускага народа і выдатныя польскія пісьменнікі Адам Міцкевіч, Уладзіслаў Сыракомля, Ігнат Крашэўскі. Яны паходзілі з Беларусі і шчыра спачувалі працоўнаму беларускаму люду. Беларуская вусная творчасць натхніла Адама Міцкевіча напісаць такія творы, як «Свіцязь», «Свіцязянка», «Курган Марылі», «Дзяды» і шэраг іншых.

*Пытанні і заданне:*

*1. Як развівалася асвета на Беларусі пасля ўз'яднання з Расіяй?*

*2. Як развівалася літаратура пасля ўз'яднання беларускіх зямель з Расійскай дзяржавай?*



*3. Раскажыце, што вы ведаеце аб творчасці Вінцука Дуніна-Марцінкевіча.*

*4. Чым займаліся і што вывучалі Грыгаровіч, Чачот, Шпілеўскі?*

*5. Якіх вы ведаеце беларускіх мастакоў першай паловы XIX стагоддзя?*

*6. Як адносіліся да беларускага народа і яго культуры выдатныя рускія і польскія пісьменнікі?*

*

## ВЫЗВАЛЕННЕ БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСТВА АД ПРЫГОННАЙ ЗАЛЕЖНАСЦІ

Прыгоннае права, якое панавала ва ўсёй царскай Расіі, было асноўнай перашкодай у далейшым развіцці сельскай гаспадаркі, прамысловасці, гандлю і культуры ва ўсёй краіне. Яно гамавала сфармаванне больш прагрэсіўнага, у параўнанні з феадалізмам, капіталістычнага грамадскага ладу.

Пад націскам не сціхаючых сялянскіх хваляванняў, якія асабліва ўзраслі пасля паражэнняў, нанесеных царскай Расіі Францыяй, Англіяй і Турцыяй у Крымскую вайну (1853—1856 г.г.), царскі ўрад вырашыў правесці ва ўсёй краіне вызваленне сялянства ад прыгоннай залежнасці. Рыхтаваў ён гэтае «вызваленне» ў сціслым паразуменні з памешчыкамі і на іх карысць.

19 лютага 1861 года была аб'яўлена рэформа, якая ліквiдавала прыгонную залежнасць сялян ва ўсёй Расіі.

Паводле гэтай рэформы ў Беларусі было вызвалена ад прыгоннай залежнасці каля 2 мільёнаў памешчыцкіх сялян. Аднак памешчыкі па-ранейшаму заставаліся ўладальнікамі ўсёй зямлі, якая да іх належала перад рэформай. Толькі частку яе — па свайму выбару — яны адводзілі для надзелу сялянам. Пры надзяленні зямлёй памешчыкі захоўвалі пры сабе найбольш ураджайныя землі, сенажаці, лясы, выганы, вадапоі. Сялянам жа выдзялялі вельмі мала зямлі, пры гэтым самай неўраджайнай, запушчанай, невыгоднай. Шмат сялян зямлі не атрымала, не атрымалі яе і тыя з прыгонных сялян, што працавалі і жылі пры панскім двары. За надзелы сяляне мусілі заплаціць вельмі высокую цану і на працягу двух год абавязаны былі па-ранейшаму адрабляць паншчыну і ўносіць чынш.

За памешчыкамі было захавана шмат прывілеяў у дзяржаўных установах і судах.

Але памешчыкі ўжо не мелі права распараджацца асобай селяніна, прадаваць яго або купляць, умешвацца ў сямейныя справы. Сяляне перасталі быць уласнасцю памешчыкаў.

Такім чынам, у выніку рэформы, як пісаў Ул. І. Ленін «сяляне вышлі «на волю» абдзертымі да галечы, вышлі з нявольніцтва ад памешчыкаў у прыгнёт да тых самых памешчыкаў».

Адразу пасля аб'яўлення рэформы сялянам стала ясна, што цар і памешчыкі іх ашукалі. Сяляне адмаўляліся выходзіць на паншчыну. Яны займалі панскія лясы і сенажаці, падпальвалі маёнткі, забівалі памешчыкаў і іх памагатых. У хуткім часе сялянскі рух ахапіў усю Беларусь. Асабліва вялікімі былі хваляванні на Ашмяншчыне, Лідчыне і Навагрудчыне. Там колькасць удзельнікаў паўстання дайшла да 15 тысяч. Сяляне трымаліся моцна, адбілі арыштаваных сваіх сяброў. Супроць паўстаўшых царскі ўрад накіраваў войска, і толькі пад яго націскам паўстанне суцішылася.

Шырокі размах прынялі выступленні на Гродзеншчыне і асабліва на Беласточчыне.

У Беластоцкім павеце паўстаўшыя сяляне царскі маніфест называлі ашуканствам, не выходзілі да працы на панскім полі, адмаўляліся падпарадкавацца загадам духавенства і паліцыі. Так, на вестку аб тым, што царскія чыноўнікі арыштавалі 23 сялян у вёсцы Астраўкі за адмову адрабляць паншчыну, зышлося сюды каля 350 сялян з суседніх вёсак. Абураныя сяляне вызвалілі арыштаваных, а перапалоханыя царскія чыноўнікі ўцяклі ў мястэчка Заблудаў пад ахову войска. На наступны дзень каля тысячы сялян, беларусаў і палякаў, з Беластоцкага, Бельскага і Сакольскага паветаў сабраліся ў Заблудаве. Да паўстаўшых далучыліся мяшчане. За ноч царскім чыноўнікам удалося выклікаць у Заблудаў значную колькасць войска. Паўстаўшыя сяляне былі акружаны, найбольш актыўныя арыштаваны, а каля 150 чалавек па загаду афіцэраў пакарана цяжкімі пабоямі.

Ніколі раней царскі ўрад не расправўляўся так жорстка з сялянамі, як пасля аб'яўлення «волі». Паўстаўшых сялян білі кіямі, арыштоўвалі, высылалі ў Сібір, расстрэльвалі. Аднак сяляне не паддаваліся. Хаця звонку яны як быццам бы і суцішыліся, але ў гушчы сялянскіх мас не патухала нянавісць да памешчыкаў і царскага ўрада. Яна ў кожны момант гатова была выбухнуць з новай сілай.



*Пытанні і заданне:*

*1. Што прымусіла царскі ўрад правесці рэформу ад 19 лютага 1861 года ў Расійскай дзяржаве?*
*2. На чыю карысць была праведзена рэформа?*
*3. Як сустрэлі рэформу беларускія сяляне?*
*4. Раскажыце аб выступленнях сялян на Беласточчыне вясной 1861 года.*

*

## КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ. «МУЖЫЦКАЯ ПРАЎДА»

Вялікім барацьбітом за вызваленне беларускага народа з-пад сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту быў Кастусь Каліноўскі.

Кастусь Каліноўскі нарадзіўся ў 1838 годзе ў сям'і дробнага беларускага шляхціча ў фальварку Мастаўляны на Беласточчыне. Ужо ў маленстве пазнаёміўся ён з горам і нястачамі беларускага сялянства. Сярэднюю адукацыю здабыў Каліноўскі ў прагімназіі ў мястэчку Свіслач. У свіслачскай прагімназіі сярод настаўнікаў і вучняў пашыраліся свабодалюбівыя ідэі і шчырая спагада працоўнаму беларускаму люду. Усё гэта мела ўплыў на фармаванне светапогляду Кастуся Каліноўскага — будучага рэвалюцыянера.

Пасля заканчэння сярэдняй школы К. Каліноўскі вучыўся спачатку ў Маскве, а потым у Пецярбургу ва універсітэце на юрыдычным факультэце. Там ён супрацоўнічаў у патаемных рэвалюцыйных арганізацыях, да якіх належалі выдатныя рускія і польскія рэвалюцыянеры.

Адразу пасля паспяховага заканчэння універсітэта К. Каліноўскі вярнуўся на радзіму. Пераапрануты ў сялянскую адзежу, пад імем Васіля Світкі, хадзіў ён з вёскі ў вёску. Гутарыў з сялянамі аб іх цяжкім жыцці і прыгнёце панамі і царом. Пераконваў іх, што зямлю і свабоду можна здабыць толькі шляхам узброенага паўстання. Сяляне ўважліва слухалі рэвалюцыянера і спрытна ахоўвалі яго ад царскіх шпіёнаў і жандараў.

У гэтым часе па ўсіх беларускіх землях бурлівілі сялянскія хваляванні ў сувязі з ашуканскай царскай рэформай. Яны былі разрозненымі, неарганізаванымі, пазбаўленымі адзінага рэвалюцыйнага кіраўніцтва. Каб у беларускі рух

унесці свядомасць, аб'яднаць яго і падрыхтаваць агульнае сялянскае паўстанне, Кастусь Каліноўскі заснаваў у Гродне нелегальны рэвалюцыйны камітэт, які ён сам узначаліў.

Дзеля спраўнейшай падрыхтоўкі паўстання, пры дапамозе сяброў-рэвалюцыянераў, асабліва польскага рэвалюцыянера Валерыя Врублеўскага, К. Каліноўскі заснаваў у Беластоку ў 1862 годзе патаемную друкарню. У ёй друкавалася нелегальна першая беларуская газета «Мужыцкая праўда». Артыкулы да яе пісаў сам Кастусь Каліноўскі.

«Усе нас крыўдзілі, ды ўсе абдзіралі, і біў нас сільнейшы, крыўдзілі багатыя, — гаварыў К. Каліноўскі ад імя сялян у «Мужыцкай праўдзе», — а на тое нідзе не было справядлівасці».

Ён пісаў, што «Глум, здзерства, несправядлівасць выходзяць ад самага цара», і таму няма чаго добрага чакаць ад царскага самадзяржаўя. Заклікаў да таго, што «мужыкі панскія і казённыя не павінны плаціць ані чыншу панам, ані аброку ў казну за зямлю, бо гэта зямля да нас належыць». Каліноўскі сцвярджаў, што сяляне не павінны ісці служыць у царскай арміі, бо «мы то даемо рэкрута і нашымі грудзьмі цар застаўляецца і нашымі рукамі ўсмірае бунты і запрадае нас усіх у вечную няволю». Ён патрабаваў, каб дзяржаўная ўлада выражала інтарэсы шырокіх колаў грамадства: «як добры слуга глядзіць худобы гаспадарскай і слухае свайго гаспадара, так і добры ўрад глядзець павінен шчасця людзей, слухаць народу і рабіць так, як народу лепш».

У газеце Каліноўскі пісаў, што беларускі селянін ужо прачнуўся з векавога сну і патрапіць сам здабыць сабе волю: «мінула ўжо тое, калі здавалася, што мужыцкая рука здасца толькі да сахі. Цяпер настаў такі час, што мы самі можам пісаць і то пісаць такую праўду справядлівую... О, загрыміць наша праўда і як маланка пераляціць па свеце!»

« Мужыцкая праўда» заклікала сялян да ўзброенага паўстання: «дзяры з нас цар, дзярыце з нас, памешчыкі, хоць да апошняй скуры, але памятайце, што прыдзе і ваш час. Памятайце, што калі мужык разыйдзецца, то, як свет шырокі, кроў ваша пальецца». Пры гэтым яна ставіла за ўзор змаганні польскага народа: «у Польшчы мужыкі раней, як і мы, спадзяваліся на цара, чакалі ад яго волі ды як убачылі, што цар па кавалку душу дастае новымі подацямі, рэкрутамі і чыншамі, апошнюю кашулю хоча з іх садраць, дык усе разам з віламі і косамі і пайшлі дабівацца зямлі і волі».

«Мужыцкую праўду» патаемна распаўсюджвалі рэвалюцыянеры па ўсёй Беларусі. Сяляне збіраліся тайком, чыталі газету, перадавалі яе з хаты ў хату, з вёскі ў вёску. Такім чынам газета трапляла да многіх тысяч людзей, рыхтавала іх да ўзброенай барацьбы.

Паўстанне ў Беларусі ўспыхнула ў канцы студзеня 1863 года.

Паўстанне спачатку ахапіла Гродзенскую губерню, а потым разгарнулася па ўсёй краіне. Усюды ўзнікалі паўстанчаскія атрады. Яны складаліся з моладзі, інтэлігенцыі, чыноўнікаў, леснікоў, рамеснікаў, сялян. Паўстанцы, узброеныя ў дубальтоўкі, сякеры і косы, нападалі на атрады царскіх войск, займалі вёскі і мястэчкі. У вызваленых мясцовасцях яны аб'яўлялі ўсё насельніцтва, незалежна ад паходжання і веравызнання, вольным, перадавалі сялянам «на вечнасць у поўнае ўладанне без чыншу і выкупу тую зямлю, якую яны мелі да гэтага часу» і абяцалі беззямельным сялянам, уступіўшым у паўстанчаскія атрады, надзелы зямлі. Аднак кіраўніцтва паўстання не перадавала ўсёй зямлі сялянам, яно захоўвала памешчыцкае землеўладанне і гэтым знеахвочвала частку сялян да ўдзелу ў паўстанні.

Кастусь Каліноўскі асабіста кіраваў паўстаннем на Гродзеншчыне. Ён выдаваў адозвы да сялян, наведваў паўстанчаскія атрады. Так ён наведаў паўстанчаскі лагер В. Врублеўскага каля Мілавідаў. Правёў агляд атрадаў і праверыў узбраенне. Гутарыў з паўстанцамі аб іх патрэбах і пажаданнях. Потым выступіў з палымянай прамовай, у якой заклікаў да стойкасці ў барацьбе. Прамова Каліноўскага падняла настрой у паўстанцаў, ва ўсім лагеры пачуліся беларускія і польскія песні.

Царскі ўрад слаў у Беларусь штораз больш войска. У заходняй частцы Беларусі было ўведзена ваеннае палажэнне. Царскае войска і чыноўнікі жорстка распраўляліся з паўстанцамі і іх сем'ямі. Значная частка кіраўніцтва паўстаннем была арыштавана, іншыя адмовіліся ад удзелу ў ім. Памешчыкі, перапалоханыя размахам паўстання, таксама адступіліся ад яго. Паўстаннем на Беларусі і Літве стаў кіраваць падпольны «Літоўска-Беларускі Чырвоны жонд», на чале якога стаяў Кастусь Каліноўскі.

«Літоўска-Беларускі Чырвоны жонд» складаўся з выдатных рэвалюцыянераў, якія намагаліся ператварыць паўстанне ў сялянскую рэвалюцыю. Каліноўскі заклікаў сялян

браць у рукі «зямлю і волю» і не плаціць ніякіх падаткаў і не выконваць ніякіх абавязкаў ні ў карысць цара, ні ў карысць памешчыкаў.

Царызм узмоцніў сваю крывавую расправу над паўстаўшымі. Вёскі, мястэчкі і гарады напоўніліся вісельнямі. Тысячы людзей за ўдзел у паўстанні былі сасланы ў Сібір. Найбольш боездольныя паўстанчаскія атрады былі разбіты царскімі войскамі, а іх кіраўнікі загінулі або былі пакараны смерцю. Паўстанне хілілася да ўпадку.

Царскім жандарам удалося высачыць і арыштаваць Кастуся Каліноўскага — кіраўніка і натхніцеля паўстання.

10 сакавіка 1864 года Каліноўскі загінуў на шыбеніцы ў горадзе Вільні.

Пад націскам крывавай расправы царызму паўстанне ў Беларусі неўзабаве спынілася.

*Пытанні і заданне:*

*1. Раскажыце аб дзяцінстве і вучобе Кастуся Каліноўскага.*
*2. Калі, дзе і кім выдавалася «Мужыцкая праўда»? Аб чым гаварылася ў яе артыкулах?*
*3. Раскажыце аб ходзе паўстання ў Беларусі.*
*4. Падумайце, якія былі прычыны ўпадку паўстання на Беларусі .*

*

## РАЗВІЦЦЁ КАПІТАЛІЗМУ І ПАЧАТКІ РАБОЧАГА РУХУ Ў БЕЛАРУСІ

Пасля рэформы ў Беларусі дзве трэціх зямлі засталося ва ўладанні памешчыкаў, і толькі адну трэцюю было дазволена выкупіць сялянам. У выніку на кожнага памешчыка ў сярэднім выпадала 2300 дзесяцін зямельнай плошчы, сяляне ж мелі такія малыя надзелы, што на іх немагчыма было ўтрымаць сям'ю і весці самастойную гаспадарку. Частка сялян арандавала зямлю ў памешчыкаў за вельмі высокі адробак на панскім полі. Частка наймалася да працы ў панскіх маёнтках і станавілася сельскагаспадарчымі рабочымі. Аднак у панскіх маёнтках таксама не хапала працы. Таму сотні тысяч сялян пакідала свае мізэрныя гаспадаркі і падавалася ў пошукі ў гарады, на будовы чыгунак, сплавы дрэва па рэках, выязджала ў шахты Данбасу і іншыя прамысловыя раёны Расіі.

Хутка ішло расслаенне сялян на беднякоў, якія жылі са свае працы ў памешчыкаў і заможных сялян, і багатае сялянства, якое наймала да працы ў сваіх гаспадарках беднякоў, набывала сельскагаспадарчыя машыны, скупоўвала зямлю ад збяднелых сялян і памешчыкаў.

У памешчыцкіх маёнтках і заможных сялянскіх гаспадарках вырошчвалася многа бульбы, ільну, канапель, гадавалася вялікая колькасць малочнага быдла і свіней. Гэтая прадукцыя ішла на далейшую пераробку ў броварах, крухмальнях, алеярнях, маслабойнях, сыраварнях, ятках, гарбарнях і тэкстыльных прадпрыемствах. У развіцці спажывецкай прамысловасці Беларусь выйшла на адно з першых у Расійскай дзяржаве.

Развіццё капіталістычнай гаспадаркі выклікала патрэбу выгодных і хуткіх сродкаў зносін. Разгарнулася буйная пабудова чыгунак. Праз беларускія землі прайшлі чыгункі з Пецярбурга ў Варшаву, з Рыгі ў Арол, з Масквы ў Брэст, з Лібавы ў Ромны, з Брэста ў Гомель, з Баранавіч у Беласток і іншыя. Па колькасці чыгуначных ліній Беларусь заняла другое, пасля Польшчы, месца ў Расійскай дзяржаве. Гэта надта спрыяла развіццю прамысловасці, гандлю, сельскай гаспадаркі і росту гарадоў на беларускіх землях.

Разам з адменай прыгоннага права заняпалі мануфактуры. У новых умовах з вялікім размахам паўставалі капіталістычныя фабрыкі, у якіх працавалі вольнанаёмныя рабочыя. У Беларусі не былі знойдзены такія карысныя выкапні, як жалезная руда, вугаль, нафта. Капіталісты засноўвалі тут прадпрыемствы лёгкай прамысловасці, тэкстыльныя, суконныя, гарбарскія, дрэваапрацоўчыя, табачныя фабрыкі, а таксама бровары, цагельні, тартакі, паперні. Гэтыя прадпрыемствы прыносілі капіталістам вялікія даходы.

У канцы XIX стагоддзя ў Беларусі было звыш 800 прадпрыемстваў. Пераважна былі яны невялікімі, аднак сярод іх знаходзілася шмат і такіх, у якіх працавала па звыш 500 рабочых. Вялікімі і добраабсталяванымі былі таксама чыгуначныя майстэрні ў Гомелі, Пінску і іншых гарадах.

Колькасць гарадскога насельніцтва ў Беларусі падвоілася.

Адначасова з развіццём капіталізму фармаваліся ў Беларусі два варожых сабе грамадскія класы: буржуазія і рабочы клас. Лік рабочага класа з кожным годам хутка павялічваўся. Ён стаў самым рашучым і паслядоўным змага-

ром супроць царскага самадзяржаўя і капіталістычнага прыгнёту.

Рабочы клас Беларусі знаходзіўся ў вельмі цяжкім становішчы. Рабочыя вымушаны былі працаваць па 13—14, а ў некаторых фабрыках нават па 16—18 гадзін у суткі. Іх заробкі былі вельмі нізкімі. Поруч з мужчынамі працавалі жанчыны, падросткі і дзеці, аднак капіталісты плацілі ім значна меней, чым рабочым-мужчынам. Фабрыканты за якія-колечы недагляды абкладалі рабочых вялікімі штрафамі. Працавалі ж рабочыя ў цесных, сырых, змрочных і халодных будынках. Машыны не былі забяспечаны. Часта здараліся няшчасныя выпадкі, калецтвы і смерць. Рабочыя хварэлі, трацілі здароўе і здольнасць да працы. Тых, хто страціў працаздольнасць, капіталісты звальнялі, не давалі ім ніякага забеспячэння. Жылі рабочыя ў сырых, цесных бараках і халупах.

Найбольш свядомыя рабочыя не хацелі пагадзіцца са сваім жудасным становішчам. Яны спрабавалі дамагацца палепшання ўмоў жыцця і працы. Аднак хутка пераканаліся, што яны самі, у паасобку, нічога не здабудуць.

Першае масавае выступленне беларускіх працоўных мела месца ў 1886 годзе ў Гомелі. Забаставала 500 рабочых чыгуначных майстэрань. Яны дамагаліся павелічэння заробкаў. Іх падтрымалі іншыя рабочыя. Забаставаўшыя перамаглі. У наступным годзе баставалі рабочыя слясарна-кавальскіх майстэрань Мінска. Яны дамагаліся ўстанаўлення 12-цігадзіннага дня працы. Забастоўка праходзіла арганізавана. Уласнікі майстэрань вымушаны былі ўступіць.

З цягам часу рабочы рух на беларускіх землях пашырыўся, ахопліваў штораз большы і большы лік рабочых. У рабочым асяроддзі Мінска, Гомеля, Магілёва, Брэста паўсталі марксісцкія гурткі і групы. Іх удзельнікі займаліся самаадукацыяй, чытаннем і распаўсюджваннем рэвалюцыйнай літаратуры. У. І. Ленін у 1895 годзе ў Пецярбургу заснаваў рабочую рэвалюцыйную арганізацыю «Саюз барацьбы за вызваленне рабочага класа». Пад уздзеяннем «Саюзу» ўзнікаюць сацыял-дэмакратычныя рэвалюцыйныя арганізацыі ў многіх гарадах Беларусі. Гэта ўзмоцніла рабочы рух на беларускіх землях.

У 1898 годзе ў Мінску адбыўся Першы з'езд сацыял-дэмакратычных арганізацый, якія дзейнічалі ў Расійскай дзяржаве. На ім была заснавана Руская Сацыял-Дэмакратычная Рабочая Партыя (РСДРП). Яна стала арганізуючай і кіруючай сілай рабочага руху ў Расіі і Беларусі. Пасля яе ўзнікнення рэвалюцыйны рабочы рух ажывіўся.

Пад кіраўніцтвам гродзенскай арганізацыі РСДРП адбылася працяглая забастоўка работніц тытунёвай фабрыкі Шарашэўскага ў Гродне. У ёй прыняло ўдзел 1200 работніц. Яны дамагаліся павелічэння заробкаў. Забастоўка закончылася перамогай работніц.

Пад кіраўніцтвам РСДРП рабочы рух у Беларусі набыў свядомы палітычны характар.

*Пытанні і заданне:*

1. *Як развіваўся капіталізм у сельскай гаспадарцы Беларусі?*
2. *Раскажыце, у якіх умовах жылі і працавалі рабочыя Беларусі.*
3. *Калі і дзе адбылося першае масавае выступленне рабочых у Беларусі?*
4. *У якім годзе і дзе адбыўся Першы з'езд РСДРП?*
5. *Якое значэнне для развіцця рабочага руху на беларускіх землях мела дзейнасць РСДРП?*

*

## СУПОЛЬНАЯ РЭВАЛЮЦЫЙНАЯ БАРАЦЬБА БЕЛАРУСАЎ І ПАЛЯКАЎ

Баявое супрацоўніцтва беларускіх і польскіх рэвалюцыянераў і паўстанцаў умацавалася ў паўстанні 1863 года. Пасля ўпадку паўстання яно мела адданых паслядоўнікаў у рабочым руху Беларусі і Польшчы.

Калі ў Польшчы разгарнула сваю дзейнасць першая польская рабочая партыя «Пралетарыят» на чале з Людвікам Варынскім, у склад яе членаў уваходзіла многа беларускіх маладых рабочых і рэвалюцыянераў. Адным з іх быў Іосіф Бяляўскі. Паходзіў ён з Бельшчыны. Пасля заканчэння сярэдняй школы ў Бельску Падляшскім вучыўся ў Пецярбургу і там уключыўся ў дзейнасць рэвалюцыйных гурткоў рускай і польскай студэнцкай і рабочай моладзі. Затым уступіў у рады «Пралетарыята». Бяляўскі разгортваў сваю рэвалюцыйную дзейнасць пераважна ў Беластоку, яго ваколіцах і ў Варшаве. Займаўся арганіза-

ваннем рэвалюцыйных гурткоў у асяроддзі рабочай і гімназісцкай моладзі, распаўсюджваў нелегальную літаратуру, высняў рабочым неабходнасць змагання супроць капіталістычнага ладу, выконваў шэраг адказных і небяспечных партыйных заданняў. За сваю рэвалюцыйную дзейнасць быў арыштаваны і высланы на катаргу ва Усходнюю Сібір.

Выдатным дзеячом «Пралетарыята» была Марыя Багушэвіч. Яна паходзіла з прагрэсіўнай беларускай шляхецкай сям'і з ваколіц Слуцка. Была настаўніцай. Пасля арышту царскімі жандарамі Л. Варынскага стала на чале партыі «Пралетарыят». Адбудавала партыйныя арганізацыі, працягвала выдаваць нелегальную рэвалюцыйную газету «Пралетарыят», распаўсюджвала сярод рабочых і прагрэсіўнай інтэлігенцыі нелегальную літаратуру, гуртавала вакол партыі найлепшыя рэвалюцыйныя сілы, праводзіла збор грашовых сродкаў для дзейнасці партыі. Царскія ўлады арыштавалі яе і засудзілі на ссылку ў Сібір. Марыя Багушэвіч адданая рэвалюцыянерка — памерла на сухоты па дарозе ў выгнанне.

У пазнейшы час у рабочым руху Беларусі пачыналася рэвалюцыйная дзейнасць Ф. Э. Дзяржынскага. Ф. Дзяржынскі паходзіў са збяднелай шляхецкай сям'і з мястэчка Койданава (цяпер горад Дзяржынск) каля Мінска. Праводзіў ён актыўную рэвалюцыйную працу ў асяроддзі беларускіх рабочых у гарадах Ліда і Мінск.

Ва ўсіх забастоўках, якія адбываліся ў Беларусі і ва ўсходніх раёнах Польшчы, асабліва ў горадзе Беластоку, прымалі ўдзел у аднолькавай ступені беларускія і польскія рабочыя. Гэта спрыяла сіле рабочага руху.

Апрача Іосіфа Бяляўскага, Марыі Багушэвіч, Фелікса Дзяржынскага ў беларускім і польскім рабочым руху дзейнічала многа іншых выдатных рэвалюцыянераў. Усе яны ахвярна служылі справе еднасці польскіх і беларускіх працоўных у барацьбе за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне працоўнага люду Беларусі і Польшчы. Яны садзейнічалі росту і ўмацаванню брацкай дружбы паміж нашымі народамі.

*Пытанні і заданне:*

*1. Што вы ведаеце аб дзейнасці І. Бяляўскага?*

*2. Раскажыце аб рэвалюцыйнай дзейнасці М. Багушэвіч.*



*3. Дзе нарадзіўся і дзе пачыналася рэвалюцыйная дзейнасць Ф. Э. Дзяржынскага?*

*4. Якой справе служылі беларускія і польскія рэвалюцыянеры?*

*

## РЭВАЛЮЦЫЙНЫ РУХ У БЕЛАРУСІ Ў 1905—1907 ГАДАХ

У гаспадарцы Беларусі ў пачатку XX стагоддзя назіраецца перарастанне капіталізму ў яго вышэйшую ступень — імперыялізм. Змяншаецца лік малых і слабых прадпрыемстваў за кошт развіцця вялікіх фабрык, у якіх працавала па 1000 і болей рабочых. Частка іх належала да заходніх капіталістаў і ўсерасійскіх суполак. Штораз большы ўплыў на развіццё гаспадаркі мае банкавы капітал.

У сельскай гаспадарцы шпарка развіваліся тыя памешчыцкія маёнткі і гаспадаркі заможных сялян, у якіх працавалі наёмныя батракі і ўся вытворчасць была падпарадкавана запатрабаванням тагачаснага рынку. Занепадаюць тыя маёнткі, што абапіраліся на адробку і вялі натуральную гаспадарку. Раздрабняюцца і слабеюць малыя і сярэднія сялянскія гаспадаркі. Сялянская бедната пакідала свае родныя вёскі, падавалася ў прамысловыя раёны Расіі, эмігравала ў Канаду, Аргенціну, Бразілію, але і там яе спатыкаў цяжкі лёс.

У 1900—1903 гадах усю Расійскую імперыю ахапіў гаспадарчы крызіс. У яго выніку шэраг прадпрыемстваў было закрыта. Павялічылася колькасць беспрацоўных у гарадах і яшчэ больш пагоршылася палажэнне незаможнага і малазаможнага сялянства ў вёсках. Узрастала і пашыралася нездавальненне працоўных. Яно хутка стала пераходзіць у стыхійны рух, накіраваны супраць капіталістаў і царскага самадзяржаўя. Павялічылася колькасць забастовак, дэманстрацый. Асабліва магутнымі і грознымі сталі першамайскія дэманстрацыі.

Руская Сацыял-Дэмакратычная рабочая партыя ўносіла ў гэты рух арганізаванасць, гуртавала яго і накіроўвала на свядомую рэвалюцыйную барацьбу за знішчэнне самадзяржаўя і ўстанаўленне дэмакратычнага ладу. Гэтыя ідэі пашырала нелегальная рэвалюцыйная газета «Іскра». Яна выходзіла пад кіраўніцтвам У. І. Леніна заграніцай і ад-

туль патаемна прывозілася і распаўсюджвалася сярод рабочых па ўсёй Расійскай дзяржаве.

9 студзеня 1905 года ў Пецярбургу па загаду цара войска расстраляла мірнае шэсце рабочых. Расстрэл ускалыхнуў усю краіну. У адказ на яго ўсюды, таксама і ў Беларусі, пракацілася хваля стачак пратэсту. На чале рэвалюцыйнай барацьбы былі рабочыя заводаў і фабрык, да іх далучыліся батракі, сяляне, рамеснікі, дробная буржуазія, інтэлігенцыя, вучні. Працоўныя дамагаліся 8-гадзіннага дня працы, знішчэння самадзяржаўя, устанаўлення дэмакратычнай рэспублікі.

У кастрычніку па закліку РСДРП пачалася ўсерасійская стачка. Ва ўсёй краіне гаспадарчае жыццё было загамавана.

У Беларусі спачатку забаставалі мінскія чыгуначнікі. Да іх адразу далучыліся рабочыя фабрык, заводаў, друкарань, рамеснікі, служачыя, вучні. Па ініцыятыве РСДРП рабочыя стварылі баявыя дружыны. 18 кастрычніка працоўныя Мінска сабраліся на прывакзальнай плошчы. Яны дамагаліся звальнення з турмы палітычных вязняў. Мінскі губернатар Курлоў загадаў паліцыі і войску расстраляць дэманстрацыю. Ад куль загінула 80 чалавек, каля 300 чалавек было ранена. Такую ж крывавую расправу ўчынілі казакі ў Віцебску. Там загінула 18 чалавек. Гэта выклікала яшчэ большае абурэнне працоўных Беларусі. У наступныя дні пахавальныя працэсіі ператварыліся ў шматтысячныя палітычныя дэманстрацыі. Сярод удзельнікаў дэманстрацый члены РСДРП распаўсюджвалі лістоўкі, якія заклікалі да ўзмацнення і пашырэння барацьбы.

Рабочыя ў многіх гарадах Беларусі выбіралі сярод сябе стачачныя камітэты, якія былі правобразам Савецкай улады. Яны загадвалі фабрыкантам плаціць рабочым за дні забастовак, кіравалі чыгункай, забяспечвалі грамадскі лад, здымалі з пасадаў ненавісных царскіх чыноўнікаў.

Калі ў снежні рабочыя Масквы пад кіраўніцтвам РСДРП прыступілі да ўзброенай барацьбы супроць царскага самадзяржаўя, чыгуначнікі і рабочыя Мінска, Оршы, Гомеля, Пінска, Баранавіч, Гродна, Віцебска падтрымалі сваіх маскоўскіх таварышаў палітычнай стачкай. У Мінску кіраваў стачкай рабочы савет. Царскія ўлады ўвялі ў горадзе і Мінскай губерні надзвычайнае палажэнне. Пачаліся масавыя арышты рабочых, але стачка працягвалася і пагражала перарасці ва ўзброенае паўстанне. Толькі з-за здрады дробнабуржуазных партый барацьба мінскіх працоўных была спынена.



Хоць у снежні рэвалюцыйны рух у Беларусі і не перайшоў ва ўзброенае паўстанне, аднак ён палітычнымі стачкамі, стварэннем баявых дружын, затрымкай цягнікоў з войскам нёс дзейсную дапамогу рабочым Масквы і гэтым даў выраз свае інтэрнацыянальнай еднасці і пралетарскай салідарнасці з рабочым рухам ва ўсёй Расійскай дзяржаве.

Пасля спынення снежаньскай стачкі рэвалюцыйны рабочы рух у Беларусі пайшоў на спад.

Працяглая і рашучая барацьба рабочых пабуджальна ўздзейнічала на ўзмацненне і пашырэнне сялянскага руху. У часе рэвалюцыі беларускія сяляне гramілі панскія маёнткі, захоплівалі землі памешчыкаў, seklі лес, пасвілі жывёлу на панскіх лугах. На Магілёўшчыне і Гродзеншчыне сялянскія выступленні набылі ўзброены характар. Толькі пры дапамозе войска царскім уладам удалося задушыць яго. Прычынай слабасці сялянскага руху была яго неарганізаванасць, стыхійнасць і адсутнасць трывалай еднасці з рабочым рухам.

Нарастанне рэвалюцыйнага руху і рэвалюцыя 1905—1907 гадоў спрыяльна ўздзейнічала на разбуджэнне нацыянальнай свядомасці і культурнага руху ў Беларусі. У асяроддзі маладых беларускіх вучоных і студэнтаў пад кіраўніцтвам прафесара Эпімах-Шыпілы ў Пецярбургу паўстае навуковы гурток, які займаецца вывучэннем роднага краю, яго гісторыі, культуры і гаспадаркі. Узнікаюць выдавецкія суполкі, якія друкуюць і распаўсюджваюць творы беларускіх пісьменнікаў. У многіх гарадах Беларусі засноўваюцца драматычныя гурткі, гурткі беларускай народнай песні і танца.

У 1906 годзе пачынае выходзіць першая легальная беларуская газета «Наша доля». Яна мела рэвалюцыйны характар і таму ў хуткім часе была закрыта царскімі ўладамі. Пасля закрыцця «Нашай долі» пачынае выходзіць газета «Наша ніва». Вакол «Нашай нівы» гуртуецца беларуская творчая інтэлігенцыя. У ёй змяшчаюць свае творы актыўныя ўдзельнікі рэвалюцыі Цішка Гартны (Змітрок Жылуновіч), Цётка (Алаіза Пашкевіч), Якуб Колас (Канстанцін Міцкевіч). На старонках «Нашай нівы» запачаткавалі свой творчы шлях таленавітыя беларускія паэты Янка Купала (Іван Луцэвіч), Максім Багдановіч і шэраг іншых паэтаў і празаікаў.

Цётка і Колас апрацоўваюць першыя беларускія школьныя падручнікі. Тэатральны гурток Ігната Буйніцкага ператвараецца ў прафесіянальны беларускі тэатр. Кампазітары У. Равінскі і М. Чуркін пішуць першыя нацыяналь-

ныя беларускія музычныя творы і апрацоўваюць мноства беларускіх народных песень. Выдатны мастак У. Бялыніцкі-Біруля, які паходзіў з Беларусі, стварае шмат дасканалых палоцен, сваёй творчасцю ўздзейнічае на маладое пакаленне беларускіх мастакоў.

Хоць рэвалюцыя 1905—1907 гадоў і пацярпела паражэнне, аднак яна мела дабратворны ўплыў на згуртаванасць і далейшае развіццё рэвалюцыйнага руху ў Беларусі. Яна спрыяльна садзейнічала далейшаму развіццю беларускай асветы, літаратуры і культуры.

*Пытанні і заданне:*

*1. Якія змены адбыліся ў гаспадарцы Беларусі на пачатку XX стагоддзя?*

*2. Якую ролю адыграла РСДРП і ленінская «Іскра» ў падрыхтоўцы рэвалюцыі?*

*3. Раскажыце аб падзеях рэвалюцыі 1905—1907 гадоў у Беларусі.*

*4. Які ўплыў мела рэвалюцыя на развіццё беларускай навукі, літаратуры і культуры?*

*5. Раскажыце аб ролі, якую адыграла ў развіцці беларускай літаратуры газета «Наша ніва».*

*6. Якое значэнне для Беларусі мела рэвалюцыя 1905—1907 гадоў?*

*

## БЕЛАРУСЬ У ЧАС І СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ

Летам 1914 года выбухла развязаная імперыялістамі першая сусветная вайна. У ёй Расійская імперыя выступіла на баку Англіі, Францыі і Італіі супраць Германіі, Аўстра-Венгрыі, Турцыі і Балгарыі. Царызм, памешчыкі і буржуазія спадзяваліся, што ў гэтай вайне здабудуць новыя тэрыторыі і задушаць рэвалюцыйны рух, які магутнай хваляй разгарнуўся па ўсёй краіне і пагражаў ператварыцца ў новую рэвалюцыю.

РСДРП (бальшавікоў) выясняла працоўным захопніцкі характар вайны і заклікала да змагання супраць яе.

Ужо ў час мабілізацыі рабочыя і сяляне Беларусі гнеўна выражалі сваё нездавальненне вайной. Так на Міншчыне і Магілёўшчыне хваляванні ахапілі значную колькасць паветаў. Мабілізаваныя сяляне і рабочыя грамілі і палілі панскія маёнткі. Царскія ўлады жорстка распраўляліся з удзельнікамі антываенных выступленняў. Партыйныя арганізацыі РСДРП былі разгромлены, многія іх члены арыштаваны, спынена дзейнасць шматлікіх грамадскіх і прафесіянальных арганізацый. Ва ўсёй Беларусі быў аб'яўлен ваенны стан. Ваенна-палявыя суды за найменшае супраціўленне каралі штрафнымі ротамі і расстрэлам.

У ходзе вайны дрэнна ўзброеная царская армія, нягледзячы на гераізм салдатаў, цярпела цяжкія паражэнні і вымушана была адступаць. Пад канец 1915 года фронт устанавіўся на лініі Дзвінск — Паставы — Баранавічы — Пінск.

Вайна прынясла працоўным Беларусі безліч нястач і гора. Гарады і вёскі былі разбураны і спалены, пасевы знішчаны. Насельніцтва з прыфрантовай паласы было выслана ў глыб Расіі. Бежанцы па дарозе галадалі, паміралі ад заразных хвароб. Хутка раслі цэны на харчовыя і прамысловыя прадукты. Падоўжыўся рабочы дзень і зменшыліся заработкі. На фабрыках і заводах працавала вялікая колькасць жанчын і падлеткаў.

У час вайны стрымалася развіццё беларускай навукі, літаратуры і культуры. Многія пісьменнікі і вучоныя былі мабілізаваны і высланы на фронт. Спынілася выдавецтва кніг, часопісаў і газет. Разбураліся і гінулі помнікі архітэктуры, музеі, бібліятэкі.

Вайна ўсім сваім цяжарам лягла на плечы працоўных. У гэты ж час памешчыкі і буржуазія нажываліся на розных даставах для арміі і спекуляцыях.

Нягледзячы на жорсткія праследванні, нездавальненне працоўных штораз мацней і мацней выяўлялася ў стачках. Баставалі рабочыя прадпрыемстваў Міншчыны, Гродзеншчыны і іншых раёнаў Беларусі. Яны дамагаліся павышэння заработкаў, скарачэння рабочага дня, паляпшэння ўмоў працы. Хвалявалася сялянства. Расла нянавісць да вайны і царызму сярод салдат. Яны адмаўляліся выконваць загады царскіх афіцэраў, дэзерціравалі.

РСДРП (бальшавікоў) актывізавала рэвалюцыйны рух у Беларусі. Яна накіравала ў Мінск выдатнага свайго рэвалюцыянера М. В. Фрунзе. Пад яго кіраўніцтвам былі створаны ў Мінску і на фронце падпольныя арганізацыі РСДРП (бальшавікоў). Яны ўсведамлялі рабочых, сялян і салдат аб неабходнасці новай рэвалюцыі, распаўсюджвалі лістоўкі, у якіх заклікалі: «Далоў вайну, далоў царскую манархію, няхай жыве рэвалюцыя!»

27 лютага 1917 года паўстаўшыя рабочыя і салдаты Пет-

раграда (Пецярбурга) скінулі ненавіднае царскае самадзяржаўе.

Бальшавікі Мінска, а пад іх уздзеяннем і значная большасць рабочых і салдат, падтрымалі сваіх петраградскіх таварышаў. Па іх ініцыятыве былі створаны органы народнай улады — Саветы рабочых і салдацкіх дэпутатаў. 4 сакавіка быў створаны Мінскі Савет і Часовы выканаўчы камітэт Савета. Яны сталі кіраўнікамі рэвалюцыі на значнай частцы Беларусі. Царскія ўрадавыя ўстановы былі ліквідаваны, паліцыя раззброена, палітычныя вязні вызвалены з турмаў.

Саветы рабочых і салдацкіх дэпутатаў былі створаны ў Гомелі, Віцебску, Бабруйску і іншых гарадах. У вёсках узнікалі саветы сялянскіх дэпутатаў.

Саветы з'явіліся органамі народнай улады ў краіне.

Адначасова з саветамі арганізаваўся і буржуазны Часовы ўрад і яго ўстановы. Ён выражаў інтарэсы памешчыкаў і буржуазіі.

У краіне ўзнікла двоеўладдзе.

Лютаўская рэвалюцыя ліквідавала царызм. Яна з'явілася вялікай падрыхтоўкай для працоўных да Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі.

*Пытанні і заданне:*

1. *Як успрынялі працоўныя Беларусі імперыялістычную вайну?*
2. *Як адбілася на працоўных Беларусі імперыялістычная вайна?*
3. *Што вы ведаеце аб рэвалюцыйных выступленнях рабочых, сялян і салдат у Беларусі ў час вайны?*
4. *Раскажыце аб падзеях лютаўскай буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі ў Беларусі.*

*

## УТВАРЭННЕ БЕЛАРУСКАЙ САВЕЦКАЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ РЭСПУБЛІКІ

### Працоўныя Беларусі ў барацьбе за перамогу сацыялістычнай рэвалюцыі

Пасля Лютаўскай буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі памешчыкі, капіталісты, буржуазныя, нацыяналістычныя і згодніцкія партыі з усяе сілы намагаліся ўзмоцніць уладу ў краіне буржуазнага Часовага ўрада. Ён пераняў і працягваў унутраную і знешнюю палітыку скінутага царскага самадзяржаўя. Ахоўваў капіталістычную і памешчыцкую ўласнасць, прыгнятаў нярускія народы Расіі, працягваў удзел краіны ў імперыялістычнай вайне, гуртаваў рэакцыйныя сілы да расправы з рэвалюцыйным рухам.

РСДРП (бальшавікоў) на чале з У. І. Леніным актыўна мабілізавала працоўныя масы да барацьбы за пераход ад буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі да рэвалюцыі сацыялістычнай. Толькі ўстанаўленне ў краіне сацыялістычнага ладу магло запэўніць працоўным вызваленне ад сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту, стварыць падставы да будовы светлай будучыні.

У Беларусі, як і ва ўсёй краіне, бальшавікі растлумачвалі грамадству прадажнасць і здрадніцтва згодніцкіх партый і буржуазных нацыяналістаў, антынародную сутнасць Часовага ўрада. Высвялялі неабходнасць спынення кровапралітнай сусветнай вайны, патрэбу ўстанаўлення васьмігадзіннага рабочага дня, увядзення кантролю рабочых над вытворчасцю і падзелам прадуктаў у грамадстве, бясплатнага надзялення сялян зямлёй. Усё гэта магчыма толькі ў выніку ліквідацыі двоеўладдзя і пераходзе ўсяе ўлады ў краіне да Саветаў рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў. Уздзеянне бальшавікоў на грамадства з кожным днём узрастала, бо толькі яны баранілі працоўных і выражалі іх запаветныя мары. Пад кіраўніцтвам бальшавіцкіх арганізацый рабочыя засноўвалі на прадпрыемствах свае камітэты, самі ўводзілі васьмігадзінны дзень працы. Сяляне займалі памешчыцкую зямлю. На фронце салдаты не выконвалі загадаў афіцэраў.

Хочучы загамаваць пашырэнне рэвалюцыйнага руху ў краіне, Часовы ўрад распачаў у чэрвені 1917 года наступленне на фронце. З-за непадрыхтаванасці арміі і няўдольнасці камандвання наступленне правалілася. Ва ўсёй Расійскай дзяржаве ўспыхнулі забастоўкі і дэманстрацыі працоўных і салдат, накіраваныя супроць вайне і Часоваму ўраду. Рэакцыйныя сілы, згуртаваныя вакол Часовага ўрада, разгарнулі наступленне супроць рабочых і бальшавікоў. У ліпені афіцэры і казакі па загаду Часовага ўрада расстралялі ў Петраградзе мірную дэманстрацыю рабочых і салдат. Разгрому падвергліся камітэты РСДРП, рабочых арганізацый і газет, пачаліся масавыя арышты рабочых і сялянскіх дзеячоў. У краіне была ўстаноўлена контррэва-

люцыйная дыктатура, якую ўзначаліў царскі генерал Карнілаў. У саветах перамаглі прадстаўнікі згодніцкіх, буржуазных і памешчыцкіх партый. Саветы перасталі выражаць інтарэсы працоўных, яны ператварыліся ў прыдатак Часовага ўрада.

У часе націску рэакцыі бальшавікі яшчэ больш узмоцнілі сувязь з працоўнымі масамі, кіравалі барацьбой супроць карнілаўскай рэакцыі і рыхтавалі ўзброенае паўстанне. У Мінску, Віцебску, Оршы, Гомелі былі арганізаваны атрады Чырвонай гвардыі. Яны разам з рабочымі Магілёва абясшкодзілі галоўны штаб Карнілава, які знаходзіўся ў гэтым горадзе, і такім чынам зліквідавалі контррэвалюцыйны мяцеж. У далейшым рабочыя і бяднейшае сялянства Беларусі пад кіраўніцтвам бальшавікоў на чале з Паўночна-Заходнім абласным камітэтам РСДРП(б) рыхтаваліся да здзяйснення пралетарскай рэвалюцыі.

25 кастрычніка 1917 года рабочыя і салдаты Петраграда пад кіраўніцтвам бальшавіцкай партыі на чале з У. І. Леніным скінулі буржуазны Часовы ўрад. На вестку аб гэтым бальшавікі Мінска адразу арганізавалі барацьбу за ўстанаўленне ў Беларусі Савецкай улады. Быў сфарміраван Першы рэвалюцыйны полк. Чырвонагвардзейцы і салдаты гэтага палка занялі чыгуначны вузел, дзяржаўныя і ваенныя ўстановы, пошту, тэлеграф, радыёстанцыі. У горадзе быў уведзены рэвалюцыйны парадак. Для кіраўніцтва сацыялістычнай рэвалюцыі ў Беларусі 26 кастрычніка быў пакліканы Ваенна-рэвалюцыйны камітэт Заходняй вобласці і фронту. Ён стаў штабам барацьбы працоўных Беларусі і салдат Заходняга фронту за ўстанаўленне і ўмацаванне народнай улады. У склад Ваенна-рэвалюцыйнага камітэта ўвайшлі прадстаўнікі бальшавіцкіх арганізацый, Саветаў і прафесіянальных саюзаў. Старшынёй яго быў паклікан А. Ф. Мяснікоў.

Пад кіраўніцтвам Ваенна-рэвалюцыйнага камітэта чырвонагвардзейцы і рабочыя перамаглі контррэвалюцыйныя сілы, згуртаваныя ў «Камітэце выратавання радзімы і рэвалюцыі», які складаўся з буржуазіі, памешчыкаў, афіцэраў, верхаводаў здрадніцкіх і нацыяналістычных партый. Праз некалькі тыдняў чырвонагвардзейцы і рабочыя Беларусі сумесна з балтыйскімі маракамі і піцерскімі рабочымі разграмілі Стаўку галоўнага камандуючага, якая знаходзілася ў Магілёве. У Стаўцы гуртаваліся былыя міністры, генералы, ваенныя місіі капіталістычных краін. Яны рыхтавалі змову супраць Савецкай улады.



У выніку ахвярнай барацьбы працоўных пад канец лістапада ў той частцы Беларусі, якая не была занята нямецкімі войскамі, поўнасцю перамагла Савецкая ўлада. Пачалося будаўніцтва новага жыцця. Быў уведзены васьмігадзінны рабочы дзень, устаноўлен рабочы кантроль над вытворчасцю і падзелам прадуктаў, вялася падрыхтоўка да нацыяналізацыі буйнейшых прамысловых прадпрыемстваў. Паводле ленінскага дэкрэту аб зямлі памешчыцкія маёнткі былі канфіскаваны. Беларускія сяляне бясплатна атрымалі каля 4,6 мільёнаў гектараў зямлі, вялікую колькасць хатняга дабрабыту, сельскагаспадарчых машын і будынкаў.

Была ўведзена бясплатная медыцынская дапамога, адкрываліся школы і культурна-асветныя ўстановы.

Умацаваліся і развівалі сваю дзейнасць вышэйшыя органы народнай улады — Абласны выканаўчы камітэт Саветаў рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў і Савет народных камісараў Паўночна-Заходняй вобласці і фронту.

*Пытанні і заданне:*

*1. Якую палітыку праводзіў Часовы ўрад?*

*2. Што выяснялі бальшавікі працоўным масам?*

*3. Якую ролю адыгралі бальшавікі Беларусі ў разгроме карнілаўшчыны?*

*4. Раскажыце, як праходзіла барацьба за ўстанаўленне ў Беларусі Савецкай улады.*

*5. Якія змены адбыліся ў жыцці працоўных Беларусі пасля ўстанаўлення Савецкай улады?*

*

## БЕЛАРУСЬ У БАРАЦЬБЕ СУПРОЦЬ НЯМЕЦКІХ ЗАХОПНІКАЎ УТВАРЭННЕ БССР

Сацыялістычнае будаўніцтва ў Беларусі, як і ва ўсёй Краіне Саветаў, было загамавана нашэсцем нямецкіх войск. У лютым 1918 года яны захапілі Прыбалтыку, частку Украіны і Беларусі.

Камуністычная партыя і Савецкі ўрад заклікалі працоўных да ахвярнай барацьбы са смяротным ворагам маладой Краіны Саветаў. У адказ на заклік рабочыя і сяляне Беларусі ўступалі ў рады Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі, якая фармавалася ў ходзе барацьбы з захопнікам, або ішлі ў партызанскія атрады, каб змагацца на тылах ворага. У выніку гераічнай барацьбы Чырвонай Арміі і партызан наступленне нямецкіх войск было спынена. Паміж Германіяй і Савецкай Расіяй было падпісана ў Брэсце мірнае пагадненне. Яно было цяжкім для Краіны Саветаў, але давала магчымасць ёй сабраць сілы для далейшай барацьбы з захопнікам.

На акупаванай частцы беларускіх зямель нямецкія захопнікі аднавілі ўладу памешчыкаў і капіталістаў, грабілі гарады і вёскі, вывозілі ў Нямеччыну тысячы беларусаў на прымусовыя работы, учынялі крывавыя расправы над мірным насельніцтвам. Але ніякім тэрорам не змаглі яны пакарыць беларускі народ.

Ад пачатку акупацыі на занятай немцамі тэрыторыі Беларусі разгарнулі сваю дзейнасць шматлікія падпольныя бальшавіцкія арганізацыі. Яны сталі арганізатарамі і кіраўнікамі партызанскага руху. Ён ахапіў усе запалоненыя немцамі беларускія землі. У адным толькі Полацкім павеце дзейнічала ў партызанскіх атрадах каля 13 тысяч чалавек. На Палессі змагалася каля 15 тысяч партызан. Яны ўзрывалі чыгункі і масты, знішчалі нямецкіх афіцэраў і салдат, адбівалі палоннікаў і арыштаваных. У гарадах баставалі рабочыя, па вёсках сяляне грамілі карныя нямецкія атрады. Барацьба супраць захопнікаў стала ўсенароднай.

У лістападзе 1918 года ў Германіі адбылася рэвалюцыя.

У гэтым жа часе Чырвоная Армія распачала контрнаступленне супроць нямецкіх захопнікаў. Пад ударамі савецкіх армій і партызанскіх атрадаў адступленне ворага хутка ператварылася ў панічны ўцёк.

10 снежня 1918 года быў вызвалены Мінск, а да канца снежня ачышчана была ад захопнікаў амаль уся Беларусь. На вызваленай беларускай зямлі адбудоўвалася Савецкая ўлада.

30—31 снежня 1918 года ў Смаленску адбыўся Першы з'езд Камуністычнай партыі Беларусі. Ён выбраў Цэнтральнае бюро КПБ пад старшынствам А. Ф. Мяснікова. З'езд зацвердзіў склад Часовага рэвалюцыйнага рабоча-сялянскага ўрада Беларусі на чале з Д. Жылуновічам.

1 студзеня 1919 года ўрад Беларусі ў сваім Маніфесце абвясціў усяму свету аб утварэнні беларускай дзяржавы — Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі са сталіцай у горадзе Мінску. Здзейснілася адвечная мара беларускага працоўнага люду аб пабудове вольнага ад сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту грамадства.

У атмасферы вялікай радасці і ўсенароднага ўздыму пачалася ва ўсёй Беларусі падрыхтоўка да Першага Усебеларускага з'езда Саветаў. З'езд адбыўся 2—4 лютага 1919 года ў Мінску. Ён прыняў першую Канстытуцыю БССР. Яна заканадаўча зацвердзіла прынцыпы сацыялістычнага дзяржаўнага і гаспадарчага ладу Беларусі, акрэсліла структуру ўсіх органаў улады ў рэспубліцы, аб'явіла ўсебеларускі з'езд Саветаў найвышэйшай уладай у БССР, а паміж з'ездамі — Цэнтральны Выканаўчы Камітэт. На з'ездзе з прывітальнай прамовай выступіў старшыня Усерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта Я. М. Свярдлоў. Ён паведаміў аб пастанове Савецкага ўрада аб прызнанні незалежнасці БССР і гатоўнасці аказаць братнюю дапамогу гераічнаму і мужнаму беларускаму народу. З'езд у сваёй дэкларацыі прыняў рашэнне: «Пачаць перагаворы з Расійскай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікай па ўстанаўленню федэратыўнай сувязі паміж ёю і Савецкай Беларуссю».

Беларускі народ уступіў на шлях сацыялістычнага развіцця свайго жыцця, гаспадаркі і культуры ў брацкай еднасці з іншымі вольнымі народамі Краіны Саветаў.

*Пытанні і заданне:*

1. *Што загамавала сацыялістычнае будаўніцтва ў Беларусі?*
2. *Як беларускі народ аднёсся да нямецкіх акупантаў?*
3. *Калі была вызвалена Беларусь ад нямецкіх захопнікаў?*
4. *Калі адбыўся Першы з'езд Камуністычнай партыі Беларусі, што ён выбраў і зацвердзіў?*
5. *Калі было абвешчана ўтварэнне БССР?*
6. *Калі адбыўся Першы Усебеларускі з'езд Саветаў? Якія пастановы і рашэнні ён прыняў?*

*

## УКЛЮЧЭННЕ ЗЯМЕЛЬ ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ Ў СКЛАД ПОЛЬШЧЫ Ў ВЫНІКУ РЫЖСКАГА ПАГАДНЕННЯ

Пасля разгрому Чырвонай Арміяй і партызанамі нямецкіх захопнікаў і вызвалення з-пад іх акупацыі беларускіх зямель не мінула пагроза новых нападаў на маладую Краіну Саветаў — першую ў свеце дзяржаву рабочых і сялян. Супраць савецкай улады выступілі ўнутры краіны буржуазія, памешчыкі, багацеі, былыя царскія афіцэры. Імперыялістычныя дзяржавы: Злучаныя Штаты Амерыкі, Англія, Францыя, Японія і іншыя супольна распачалі захопніцкія ваенныя дзеянні супроць Савецкай Расіі.

Польскія памешчыкі і буржуазія, пры аграмаднай дапамозе ўзбраеннем і грашмі з боку імперыялістычных дзяржаваў, накіравалі вясной 1919 года свае войскі супраць Беларускай, Украінскай і Літоўскай савецкіх рэспублік. Яны хацелі захапіць беларускія, украінскія і літоўскія землі, каб збудаваць сваю буржуазна-памешчыцкую дзяржаву ў межах колісьняй шляхецкай Рэчы Паспалітай. Камуністычная рабочая партыя Польшчы звярнулася да польскіх працоўных з раз'ясненнем захопніцкіх імкненняў буржуазнага ўрада Польшчы і заклікала рабочых, сялян і салдат выступаць супраць вайны Польшчы з Савецкай Краінай. Чырвоная Армія ахвярна бараніла беларускія землі. Аднак да месяца жніўня польскім войскам удалося захапіць значную частку Беларусі. Чырвоная Армія спыніла іх наступленне на рацэ Бярэзіне.

На занятай тэрыторыі польскі буржуазны ўрад знішчаў здабыткі савецкай улады, уваскрашаў панаванне памешчыкаў і капіталістаў, праследваў савецкіх патрыётаў.

Пад кіраўніцтвам падпольных бальшавіцкіх арганізацый на тылах польскіх войск ствараліся шматлікія партызанскія атрады. Яны ўзрывалі чыгункі, масты, знішчалі склады з боепрыпасамі наносілі значныя шкоды ў людской і матэрыяльнай сіле. Гэта вельмі аслабляла баявую здольнасць войск. Яны чуліся няўпэўнена. Польскія камуністы выясналі салдатам шкоднасць вайны Польшчы з Савецкай краінай для польскіх працоўных мас. Даказвалі неабходнасць рэвалюцыйнага саюзу працоўных Польшчы і Савецкай Расіі. Польскім радавым салдатам станавілася ясным, што іх афіцэры, якія паходзілі з памешчыкаў і буржуазіі, вядуць вайну не ў інтарэсах польскіх рабочых і сялян, а дзеля здабыцця сабе маёнткаў на чужых землях. У чырвонаармейцах, беларускіх рабочых і сялянах яны бачылі сваіх пабрацімаў, і таму неахвотна выконвалі загады камандавання.



Пад уздзеяннем шырокай выясняльнай працы Камуністычнай рабочай партыі Польшчы польскія рабочыя і сяляне ўсё мацней сталі дамагацца спынення вайны з Савецкай Расіяй, заключэння міру, патрабавалі стварэння ў краіне народнага дэмакратычнага ладу. На барацьбу падняліся рабочыя Варшавы, Лодзі і Кракава. Першага мая па ўсёй краіне прайшлі масавыя дэманстрацыі і мітынгі. У часе іх працоўныя выказвалі сваю гарачую падтрымку Савецкай Краіне, дамагаліся міру, выступалі супраць буржуазна-памешчыцкага ўрада. У войску пачаліся хваляванні і непадпарадкаванне салдат афіцэрам.

Такім чынам польскія працоўныя масы пад уздзеяннем КРПП ішлі з дапамогай беларускаму і іншым народам Савецкай краіны.

У ліпені 1920 года Чырвоная Армія пачала паспяховае наступленне, у выніку якога ў жніўні часці савецкіх войск наблізіліся да Варшавы. У Беластоку паўстаў Часовы рэвалюцыйны камітэт Польшчы — першы польскі рабоча-сялянскі ўрад. На чале яго былі выдатныя сыны польскага народа, палымяныя рэвалюцыянеры: Юльян Мархлеўскі. Фелікс Дзяржынскі, Фелікс Кон і іншыя. У Маніфесце да польскага народа Рэвалюцыйны Камітэт пісаў: *«Не дзеля таго ўступаюць у Польшчу нашы рускія браты, каб яе заваяваць. Гэтую вайну ім накінуў польскі ўрад. Яны змагаюцца перад усім за мір для сябе, бо толькі мір дасць ім магчымасць вярнуцца дамоў, магчымасць будаваць новы лад»*.

Часовы рэвалюцыйны камітэт Польшчы карыстаўся вялікай падтрымкай у польскіх працоўных.

Перад буржуазна-памешчыцкім урадам устала пагроза поўнага палітычнага і вайсковага краху яго палітыкі і планаў. З аграмаднай вайсковай і грашовай дапамогай для яго прыйшлі заходнія імперыялістычныя дзяржавы. Па гэтай прычыне аслабленыя працяглым наступленнем часці Чырвонай Арміі вымушаны былі адступіць.

У сакавіку 1921 года ў Рызе паміж Польшчай і Савецкім Саюзам было падпісана мірнае пагадненне. Паводле яго польскім памешчыкам і буржуазіі ўдалося ўключыць у склад Польскай дзяржавы заходнія вобласці Беларусі і Украіны. Гэта зрабіў тагачасны буржуазна-памешчыцкі ўрад наперакор жаданню польскіх працоўных мас, якім зусім не былі патрэбны чужыя землі.

У Савецкай Беларусі пачалася актыўная мірная стваральная праца.

*Пытанні:*

1. *Хто выступіў супраць маладой краіне Саветаў — першай у свеце дзяржавы рабочых і сялян?*
2. *Як аднесліся польскія працоўныя і Камуністычная рабочая партыя Польшчы да польска-савецкай вайны?*
3. *З якім намерам уступала Чырвоная Армія на польскія землі ў 1920 годзе?*
4. *Калі і дзе было падпісана мірнае пагадненне паміж Польшчай і Савецкім Саюзам?*

*

## РАЗВІЦЦЁ НАРОДНАЙ ГАСПАДАРКІ І КУЛЬТУРЫ Ў БССР

У Савецкай Беларусі пасля канчатковай перамогі над унутранымі і знешнімі ворагамі рабочыя і сяляне пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі прыступілі да будаўніцтва новага сацыялістычнага грамадства. Дзякуючы правільнай палітыцы савецкай улады, ахвярнасці працоўных хутка была адноўлена з ваенных знішчэнняў народная гаспадарка і былі закладзены падставы да далейшага сацыялістычнага будаўніцтва. Ужо ў 1926 годзе прамысловасць і сельская гаспадарка дасягнулі даваеннага ўзроўню. Не стала беспрацоўя.

Жыццё патрабавала далейшага няспыннага развіцця народнай гаспадаркі і культуры і перш за ўсё сацыялістычнай прамысловасці. Таму неабходным стала апрацаваць на навуковых падставах заданні кожнай дзялянцы гаспадарчага і культурнага будаўніцтва на будучыню. Так паўстаў першы пяцігадовы план (1928—1932 г.г.). У выніку яго выканання ў Савецкай Беларусі было пабудавана звыш 500 новых прадпрыемстваў, сярод іх і такія, як панчошнатрыкатажная фабрыка ў Віцебску, у якой працавала каля 10 тысяч рабочых. Паўсталі новыя галіны прамысловасці: машынабудаўнічая, хімічная, трыкатажная, швейная і іншыя. Беларусь стала рэспублікай перадавой сацыялістычнай прамысловасці. Сельская гаспадарка Савецкай Беларусі перайшла на рэйкі новага калектыўнага гаспадаравання. Беларусь стала рэспублікай буйнага сацыялістычнага земляробства.

У выніку выканання другога пяцігадовага плана (1933—1937 г.г.) у Савецкай Беларусі было пабудавана каля 1200 прамысловых прадпрыемстваў, у тым ліку шмат электрастанцый. Выпрацоўка электраэнергіі ў параўнанні з 1913 годам павялічылася ў 100 разоў. Найхутчэй развіваліся металаапрацоўчая, тарфяная, шкляная, тэкстыльная прамысловасць. У сельскай гаспадарцы канчаткова перамог калгасны лад. Сяляне сталі жыць заможна і культурна.

Дзякуючы магутнаму развіццю народнай гаспадаркі небывалага росквіту дасягнула беларуская асвета і культура.

Сярод дарослага насельніцтва была ліквідавана непісьменнасць. Усе дзеці школьнага ўзросту вучыліся. Калі за панавання царызму ў Беларусі не было ніводнай вышэйшай навучальнай установы, у гады савецкай улады ў Беларускай рэспубліцы паўстала 25 вышэйшых школ, у якіх вучылася звыш 20 тысяч студэнтаў. Яны рыхтавалі дзесяткі тысяч спецыялістаў — настаўнікаў, лекараў, эканамістаў, аграномаў, юрыстаў для народнай гаспадаркі, культуры і навукі.

Вялікія дасягненні ў навуковых даследваннях здабывалі вучоныя. Цэнтрам беларускай навукі стала Акадэмія навук БССР.

Буйна развівалася беларуская літаратура. Побач з выдатнымі пісьменнікамі старэйшага пакалення Якубам Коласам, Янкам Купалам, Змітраком Бядулем, Цішкам Гартным разгарнулі сваю багатую творчасць маладыя таленавітыя паэты, празаікі, драматургі, літаратурныя крытыкі як Міхась Чарот, Кандрат Крапіва, Кузьма Чорны, Міхась Лынькоў, Паўлюк Трус, Пятрусь Броўка, Аркадзь Куляшоў і дзесяткі іншых творцаў. Развіццю і пашырэнню твораў мастацкай літаратуры спрыяла значная колькасць выдавецтваў, дзесяткі газет і часопісаў, якія сталі выходзіць у Савецкай Беларусі.

Усебакова развівалася беларуская музыка, тэатр, жывапіс, скульптура, архітэктура.

Прававым актам, які замацоўваў перамогу сацыялізма ў БССР, была новая канстытуцыя Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, зацверджаная Усебеларускім з'ездам Саветаў 19 лютага 1937 года.

*Пытанні:*

1. *Якія вынікі прынясло выкананне заданняў першага і другога пяцігадовых планаў развіцця народнай гаспадаркі і культуры ў БССР?*
2. *Як развівалася ў БССР асвета, літаратура і культура?*
3. *Калі была прынята новая канстытуцыя БССР?*

## ТЛУМАЧЭННІ СКАРАЧЭННЯЎ

ААН (ОНЗ) — Арганізацыя Аб'яднаных Нацый.
БГКТ — Беларускае грамадска-культурнае таварыства.
БСРГ — Беларуская сялянска-работніцкая грамада.
БССР — Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка.
ВіН — Вольнасць і незалежнасць (рэакцыйныя банды, якія дзейнічалі супроць народнай улады на Беласточчыне).
ВОВ — Войскі ўнутранай абароны.
ВРН — Ваяводская рада нарадовая.
ВСР — Вышэйшыя сельскагаспадарчыя школы.
ГДР — Германская Дэмакратычная Рэспубліка.
ГЗПД — Гайнаўскае прадпрыемства драўнінный прамысловасці.
ГС — Гмінная спулдзельня «Самапомачы хлопскай».
ГП БГКТ — Галоўнае праўленне Беларускага грамадска-культурнага таварыства.
ЗГП — Саюз польскага гарцэрства.
ЗМВ — Саюз сялянскай моладзі.
ЗМП — Саюз польскай моладзі.
ЗСДД — Прадпрыемства сухой дэстыляцыі драўніны.
ЗСХ — Саюз «Самапомачы хлопскай».
КВ ПАРП — Ваяводскі Камітэт Польскай аб'яднанай рабочай партыі.
КП ПАРП — Павятовы Камітэт Польскай аб'яднанай рабочай партыі.
КГ ППР — Гмінны Камітэт Польскай рабочай партыі.
КС МЗБ — Камуністычны саюз моладзі Заходняй Беларусі.
КЗ МЗБ — Камуністычны саюз моладзі Заходняй Беларусі.
КПЗБ — Камуністычная партыя Заходняй Беларусі.
КПП — Камуністычная партыя Польшчы.
КПСС — Камуністычная партыя Савецкага Саюза.
КПРП — Камуністычная рабочая партыя Польшчы.
КРН — Краёвая Рада Нарадовая.
ЛГКТ — Літоўскае грамадска-культурнае таварыства
МО — Грамадзянская міліцыя.
НСЗ — Нацыянальныя ўзброеныя сілы (рэакцыйныя банды, якія дзейнічалі супраць народнай улады на Беласточчыне).
ОРМО — Дабраахвотны рэзерв грамадзянскай міліцыі.
ОМТУР — Маладзёжная арганізацыя рабочых універсітэтаў.
ПАРП — Польская аб'яднаная рабочая партыя.
ПАН (РАИ) — Польская акадэмія навук.
ПГР — Дзяржаўная сельская гаспадарка.
ПЗДЛ — Павятовае Праўленне мясцовых дарог.
ПЗГС — Павятовы Саюз «Сялянскай самапомачы».
ПКВН — Польскі Камітэт нацыянальнага вызвалення.
ПКП — Польскія дзяржаўныя чыгункі.
ПНР — Польская Народная Рэспубліка.
ПОМ — Дзяржаўны цэнтр механізацыі.
ППР — Польская рабочая партыя.
ППС — Польская сацыялістычная партыя.
ПРН — Павятовая рада нарадовая.
ПСС — Павятовы спажывецкі кааператыў.
ПУБП — Павятовае Упраўленне грамадскай бяспекі.
РКП(б) — Расійская камуністычная партыя (бальшавікоў).
РСДРП(б) — Расійская сацыял-дэмакратычная рабочая партыя (бальшавікоў).
РСФСР — Расійская Савецкая Федэратыўная Сацыялістычная Рэспубліка.
СГГБ — Галоўная школа сельскай гаспадаркі.
СДКПіЛь — Сацыял-дэмакратыя Каралеўства Польскага і Літвы.
СЛ — Народная партыя.
СН — Настаўніцкая студыя.
СССР — Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік.
ТПБ — Таварыства прыяцеляў Белавежы.
ТППР — Таварыства польска-савецкай дружбы.
УПА — Украінская паўстанцкая армія.
ФРГ — Германская Федэратыўная Рэспубліка.
ЦК КП (б) — Цэнтральны Камітэт Камуністычнай партыі (бальшавікоў).
ЦК ППР — Цэнтральны Камітэт Польскай рабочай партыі.
ЦК РКП (б) — Цэнтральны Камітэт Расійскай камуністычнай партыі (бальшавікоў).

*(А. К.)*

## ЗМЕСТ

## ФАТАГРАФІІ

Аляксандр Амільяновіч, Сцяпан Бушко, Вітэк, Здзіслаў Зарэмба, Пётр Зінкевіч, Казберук, Аляксей Казёл, Аляксей Карпюк, Мікалай Лобач, Ян Мазурэк, Віргільюш Млынчык, Яўгень Мышкевіч, Уладзімір Паўлючук, Юзэф Рыбінскі, Віктар Рудчык, П. Семянюк, Мікалай Тарасевіч, Міхась Хмялеўскі, Ян Цялушэцкі, Ян Шалкоўскі і Уладзімір Юзвюк.

## АРХІЎ

Ян Аляксеюк, Анатоль Бахарэвіч, Васіль Літвінчук, Ян Трахімчук, ліцэй у Бельску, Агульнаадукацыйліцэй у Бельску, Агульнаадукацыйны ліцэй у Гайнаўцы, ГП БГКТ у Беластоку, ГП ЛГКТ у Сейнах, Медычны ліцэй у Бельску, ПА БГКТ у Гайнаўцы, Рэдакцыя «НІВА», Рэдакцыя «Газета Беластоцкая» — ЦАФ.